# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

№ 5

1928

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

МЕНСК

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

(СЁМЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ)








## № 5
## 1928

Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва
МЕНСК — 1928

# АДЗІНАЯ СПРАВЯДЛІВАЯ ВАЙНА [1])

$(CHCZ{=}CH)_3 As$ (Люізыт)

*Роман*

**Іоганэс Бэхэр**

## Сёмы разьдзел

Аб адзінай справядлівай вайне.

„Новае жыцьцё.“—Што адбываецца на небе? што на зямлі?!—Зданьнёвы краявід.—Аб адзінай справядлівай вайне.—У пачатку была праца.—Мяса, кроў, косьці.—Тым, хто ў ланцугох марыць.—Чырвоны марш.—Песьня заваёўнікаў сьвету.

Ніжэй апавяшчаем запіскі, якія пакінуў нам таварыш Пётра Фрыд'юнг.

### I

У пачатку была праца.

„Прайшло ўжо некалькі гадоў з таго часу, як я пакінуў буржуазнае жыцьцё, якім жыў я да гэтага часу, сапраўды, асобна і фантастычна. З таго часу, як я спаліў за сабой адзін мост за другім, пакуль, урэшце, канчаткова не расплыліся абрысы гэтага старога жыцьця, пакуль я сам дзень ада дня не станавіўся ўсё мацней на новай зямлі, пазнаёміўся з новымі людзьмі, знайшоў новых таварышоў і думаў наступнае аб сваім мінулым, якое займала толькі сьціслае месца ў агульнай буржуазнай пустэчы: у мазгох ясны, як лёд, рэволюцыйны плян руйнаваньня, конкрэтная воля працуе дакладна і мэтазгодна, як найноўшая машына; нязломная сіла нянавісьці проці кожнага спосабу эксплёатацыі людзей у сэрцы; зброя ў руках.

Рачаіснасьць гэтага мінулага жыцьця павінна здавацца зданьнёвай.

Найлепш, як мне вядома, перадана гэтае разьвітаньне з мінулым, гэтае адсуваньне берагу, хоць і ў тыпова дробна-буржуазнай ды ідылічнай форме, у Стрындбэрскім „Падваеньні“, дзе ў канцы паданы наступныя словы:

„Урэшце зноў пайшоў ён у сьвет. У той час, калі параход у гэты прыгожы восенны вечар паднімаўся па рацэ, убачыў ён хатку, вокны

---

[1]) Глядзі „Полымя“ № 4.

якой былі цяпер асьветлены. Усё то ліхое, брыдкое, што ён там бачыў, зьнікла, ён ледзь адчуваў мімалётную радасьць ад таго, што яму ўдалося ўцячы з таго вастрогу, дзе ён так пакутваў. Толькі пачуцьцё падзякі і журбы апанавала яго. Быў момант, калі ланцугі, якія зьвязвалі яго з жонкай і дзіцём, так нацягнуліся, што ён хацеў кінуцца ў ваду. Але пасьля некалькіх магутных паваротаў колаў парахода, ланцугі расьцягнуліся, працягнуліся і—разарваліся".

І разарваліся!—

*

І вось цяпер нарысую я крывую гэтага вызваленчага шляху, крывую, якая часта падобна да крывой павышэньня тэмпэратуры.

Сьцены вастрогаў, кары сьмерцю, перасьледваньні, кучы трупаў, добра аплачаныя забойствы,—вось той краявід, па якому пойдзе твой шлях у сваім новым кірунку. Твой крок ня будзе больш крокам самотнага, цяпер ты ідзеш у нагу з другімі, як у баявой колёне.

За табой, далёка за табой другая частка чалавецтва на сваім пасту; зачумлёная сваім уласным дыханьнем, як атрутнымі газамі; прагна жадаючая помсты, пырскаючая сьлінай, брахнёй, заўсёды гатовая на ўсялякую подласьць і брыду: зьнізіўся процант прыбыткаў—жудаснае замяшаньне, і з каморак кашараў, горш чымся орды гунаў, яны, гэтыя дасьціпныя аматары культуры і цывілізацыі, выпушчаюць нанятыя імі ад імя радзімы войскі ды арміі штрэйкбрэхэраў, на чале якіх стаяць зраднікі рабочых і дурныя прадстаўнікі профэсыянальных саюзаў. Студэнцкія самахвотныя батальёны, вымуштраваныя дэклясаванымі афіцэрамі і прагнымі да прыгод профэсарамі.

Паліцэйскі мундзір, фрэнч, шматкі вайсковай формы—кідаюцца на рабочую кашулю.

„Дай яму добра!"

Ці

„Пойдзем з намі! Ціха! А ня то—"...

І пачынаецца апошняя стадыя пакуты набраклай ад крыві рабочай курткі, і канчаецца гэтая стадыя доўгалетнім зьняволеньнем у вастрозе, ці „да сьценкі", а пачалася яна выбітымі зубамі, вырванымі вачыма, паламанымі рэбрамі яшчэ ў часе перавозкі і ў каравульным памяшканьні.

*

Распад сусьветнай гаспадаркі, няздольнасьць капіталізму разьвязаць якую-небудзь вялікую інтэрнацыянальную проблему. Валютны хаос. Невырашальнасьць пытаньня аб рэпарацыях. Пэрыод абвостраных крызісаў. Звужаньне сусьветных рынкаў збыту. Няўзгодненасьць кон'юнктуры. Нясьцерпная неадпаведнасьць паміж умовамі вырабаў і вытворчымі сіламі.— І ўсё новыя тэрорыстычныя акты проці працоўнага насельніцтва. Пад

заслонай пацыфіцкай эры ўсюды награмаджаліся выбуховыя матэрыялы. Застарэлы сусьветны мэханізм, трашчэўшы па ўсіх швах, прышоўшы ў поўную няпрыгоднасьць, яшчэ так-сяк дзеяў, дзякуючы нячуваным пакутам і афярам тых, хто штучна быў пазбаўлены сродкаў вытворчасьці, хто жывым кітам сваёй крыві, свайго поту, сваіх сьлёз зьвязваў падставы грамадзянскага ладу, якія ледзь-ледзь трымаліся.

Увесь апарат больш няпрыгодны, больш ня дзее, ня рухаецца.

Таксама і колёніяльныя народы паразумнелі, пачалі бунтаваць.

Кожны нават у самых далёкіх кутках сьвету глынуў здавальняючую дозу практыкі...

Заблытаныя вузлы дзяржаўна-палітычных проблем нельга больш распутаць.—

А сусьветная буржуазія, ня гледзячы на Лігу нацый і фальшывыя запэўненьні, рыхтавала на сваіх самалётных фабрыках ды хэмічных лябораторыях атрутныя газы, якія будуць ужываць у часе новых імпэрыялістычных сусьветных войн.

Тымчасам зноў усё больш выбухаюць непераможныя супярэчнасьці іх уласных інтарэсаў...

Перадавыя часткі пролетарыяту зразумелі ўрэшце, якой пякельнай была сапраўды такая імпэрыялістычная згода.

Даволі энэргічна бурчэлі ўжо яго шэрагі:

„Ня верце, не давайце веры гэтым людаедзкім паскуднікам!“

І:

„Дурны той, хто тыграм раіць расьлінную яду“.

„Ці ня ёсьць ваша пышная згода працягам вашай славутай вайны, толькі з другімі сродкамі!?“

„І калі існуе „сухі бунт“, чаму ня можа існаваць таксама і „сухая вайна“?“

*

На гэтым грунце, зусім прамяклым мікробамі гніцьця, вырасьлі сапраўдныя забойцы народаў і каты мас.

Профэсыянальныя садыстыя на службе ў палітычнай паліцыі, злачынцы-рэцыдывістыя, здраднікі, даказчыкі, злосьнікі, жывыя прылады пакуты, зьвярыныя тыраны, спрактыкаваныя вымагальнікі, провокатары,— усе яны, як войска, маршыравалі па краіне, пакрывалі ўсё цела краіны балячкамі-паразытамі, дарага аплачваныя дзяржавай: бо гэта цішком набраная часткай з чалавечага бруду, часткай з няпрытомных людзей армія хацела жыць пабуржуазнаму і патрабавала вялізных пэнсій.

„Вырваць з коранем, зьнішчыць!..“

Гэтая ідэя ў стасунку да сьвядомага пролетарыяту ўсіх краін усё больш выкрышталёўвалася ў лягеры сусьветнай буржуазіі, якая зьлілася ў жалезны рухавы абаронны блёк, забясьпечаны дасканалымі баявымі

сродкамі. За дапамогай фашызму ці соцыял-дэмократыі, за дапамогай так званага „рабочага ўраду“ адкрыта, груба, ці пацыфіцкі, дэмократычна,—гэта было пытаньне толькі тактыкі; усе ў гэтым лягеры былі згодны—ужываць усе магчымыя сродкі ў залежнасьці ад акалічнасьцяй і суадносін сіл.

Сусьветная мобілізацыя.

Фронт проці фронту.

Прарвалася—

Прарвалася да супольнасьці мовы, да магчымасьці супольна ўсё перажываць.

Фронт проці фронту значыць: мова проці мовы, спосаб выразу пачуцьця проці спосабу выразу пачуцьця, манера мысьліць проці манеры мысьліць, погляд проці погляду, сьветапогляд проці сьветапогляду.

Надышоў ужо час вялікага і рашучага клясавага бою, які ахапіў усе часьціны сьвету, канец якога павінен зрабіць station ўплыў на будучыню ўсяго сьвету. Клясавыя сілы групуюцца, клясавыя сілы манэўруюць адна перад аднэй.—

Націск і адпор.—

І магутна ўступіла ў бой чырвоная Расія, стопяцідзесяцімільённы народ. Сто пяцьдзесят мільёнаў рабочых і сялян цяпер рынуліся ў бой і прыціснулі, як вялікі цяжар, чашку вагі. Чырвоная зямля, адна шостая часьціна зямлі... А за ёю народы ўсходу, якія абуджаюцца ад тысячалетняй няволі і зрабіліся як моры растопленага мэталю...

Стрэлка на цыфэрбляце мономэтру чалавецтва набліжаецца да апошняй чвэрці. Трывожна гудуць гудкі на забесьпячальных кляпанах. Сталёвыя покрыўкі пакрыты вільгацьцю. Момант выбуху ўжо блізкі!

Сталёвы насьціл трэскаецца, карбаціцца, расьцягваецца, рвецца, гнецца...

Хоць фэтышыстыя, вуснамі якіх гаворыць адвечнасьць, паднімаюць модлы да сваіх выображальных, прыбраных у розную форму багоў, каб выратаваць сёнешніх уладароў ад справядлівага, нават занадта справядлівага прысуду, усё-ж такі абыдзеннасьць усё больш прасякаецца грознай атмосфэрай апошняе фазы.—

*

Я, як і ўсе, аднасіўся з глыбокай пашанай да вялікіх твораў вашай поэзіі, вашага малярства, вашай музыкі, вашай плястыкі. Я сам быў адным з тлумачоў, з запальнікаў апотэозу „Бяздоньня“ і прабіўся праз усе нетры пачуцьця, парываючыся да мудрасьці. Я прайшоў усе лябірынты вашага мысьленьня, так багатага на ўсялякія комбінацыі і хітрыя складанасьцямі...

Я прабіўся цераз усе, здавалася-б, непамыльныя філёзофскія сыстэмы, якія зьяўляюцца лютымі сьведкамі вашых невырашальных супярэчнасьцяй.

З дзіцячым зьдзіўленьнем глядзеў я на шмат дзіваў вашай машыновай тэхнікі, на ваша геніяльнае мастацтва організацыі, на вайну,—вам прыемна чуць гэта,—мэтафізычна адзіны малюнак вашага быцьця,—але я на ўласныя вочы бачыў таксама тое крывавае балота, на якім пабудавана ваша культура,—з усяго гэтага я набыў адвагу адкінуць вас і ўсё тое, што прымушала мяне быць залежным ад вас.

II

Нельга ўпікаць чалавека тым, што ён жыў у буржуазным грамадзтве.—

Адзін, разарваны з целам, пакрытым ранамі, змагаецца і перамагае. А ці ўдасца яму перайсьці?! А яшчэ: ці застанецца яму, пасьля гэткай, зьвязанай з узрухам мазгоў і стратай здароўя, перамогі, хаця крыху жывой сілы, каб зноў змагацца на баявым фронце мільёнаў рабочых мас. Уперад у адкрытай лініі агня, у ручной, побач з будзённай дробнай працай!? Бо „новае жыцьцё“, рэволюцыя патрабуе цябе цалком. Яна патрабуе няўхільна ад цябе бясконцае раскошы дакладнага матэрыялу ведаў, вялікае адвагі і мэтазгоднае здольнасьці.

... Быць героем у героічных момантах гісторыі лёгка. Але з гэтага часу тут значыцца: натужся!—і калі пакуль мэтай тваёй будзе мізэрны соцыял-дэмократычны профэсыянальны бюрократ, дык і за ім стаіць вялікая ўзьнёслая мэта: і тут ты павінен добра страляць!

Ці ёсьць яшчэ магчымасьць спросьціць думкі? Магчымасьць паставіць сябе ў зносіны з органам выразу эксплёатаваных, які гаворыць на іншай мове, чым твая, але яна стане і тваёй з гэтага часу. Ці здолен ты здаволіцца гэтым—вучыцца, толькі вучыцца, прайсьці праз гэтую аскэтычна-строгую партыйную школу, быць яе вучнем, ня менш і ня больш, як толькі вучнем... Бязьлітасна вытруіць усе твае мяшчанскія індывідуалістычныя недахваты... Каб заваяваць сабе сваёй працай новае права грамадзянства: быць пасыноўленым пролетарыятам, як да яго падобны...

Мысьленьне ў тым „новым жыцьці“ робіцца адцягненым, як пухір, і адыходзіць, шалёна і фосфорысцуючы, у „бясчаснае і беспрасторнае“. Ты жывеш у якойсь магутнай напышлівасьці, але гэта ёсьць тая вядомая романтычная напышлівасьць дыстанцыі, патос прызнаньня невыканальнасьці, патос безнадзейнай разлучанасьці між тым, што ёсьць, і тым, што павінна быць.

Другія з цынізмам плююць на гэта.

Гэта адно і тое.—

Ці магчыма спусьціць сябе самога ўніз!?

Уніз да гэтай найбліжэйшай з усіх земных блізкасьцяй, да гэтага моцнага, гранітнага, грунтоўнага падмурка: клясавай барацьбы, клясавай солідарнасьці, партыйнай дысцыпліны, партыйнага гонару!? Калі ўсё існаваньне вылужана буржуазным атрутным пеклам або разьбіта ў міль-

ёны чарапкоў! І калі прыходзіцца зноў спачатку зьбіраць свае чарапкі!.. Тры чвэрці свайго існаваньня чалавек аддае на барацьбу са сьмерцю, і толькі з чвэрцю, з такой беднай чвэрцю, зноў пачынае спачатку!?

Я ведаў шмат людзей, якія паваліліся на гэтым шляху, людзей, якія былі народжаны для чагось лепшага, чымсь для бязрадаснага вырачэньня і ганебных афяр: фанатычных прыхільнікаў волі, якія лёгка запаляюцца ўсім праўдзівым і прыгожым ды запаляюць разам з сабой і ўсіх людзей, людзей, прыхільных да грамадзтва.

Людзей, якія ў маладосьці былі, як жарало, поўнае выбуховай лявы, і гарэлі навокал бязупынна якімсь экстатычным агнём. Але год за годам яны стылі і ўрэшце рабіліся кучай попелу, пацямнеўшыя ад нявыгойнай мэлянхоліі. Другія з іх трэсьліся часта ў прыродным адзеньні з гарачых ланцугоў, як шалёныя і вар'яты. Усе яны былі знаўцы, меншасьць здагадвалася, і ў гутарках выпадкова або мільгаючым узрокам выдавалі сваю таямніцу.

А якая гэта была таямніца?

Проста:

Нам ня старчыць больш жыцьцёвай сілы, каб перабрацца цераз край. Мы засталіся віснуць акінутыя, адзінокія, як у вялізным коміне ў сусьветным бяздоньні... Нас адпушчаюць: мы сьнілі сон, можа фіялетавы, калі жадаеце, сьнім блаславеннае, захопленае забыцьцем бяздоньне. Усё гэта карыкатурна, грымасамі... Кожны ўзрок зоркі — электрычны ўкол. Усё жыцьцё—шклянае пашыраньне... над мэталёва зьвінячымі зданьнёвымі стэпамі, бяскрайны павеў гукаў... Атмосфэра—гэта яна і ёсьць...

... Яна прымушае... жудасна нябачны, згубны фэтыш... Няўхільна захоплены містычнымі кляшчамі пачуцьця і мысьленьня: містычны тэрор: больш нельга".

Гэткім, сапраўды, нельга закрычаць:

„Толькі адважней!"

Гэта поўнае адмаўленьне ад барацьбы, адрыўчасты ток з сымфоніі паміраючай буржуазнай клясы, заміраючы фінал псыхолёгічнай зломнасьці ў дзіўнай комбінацыі гукаў.

Вы—сусьветныя загадкі!? Вы—бязгрунтоўнасьць вашых сусьветных загадак!?

Яны не маглі больш далучыцца да адзінай ратуючай, да адзінай выхоўваючай рэальнасьці гэтай зямлі, да адзінай магутнасьці гэтай зямлі, што ратуе ўсё чалавецтва, да пролетарыяту, да баявой сілы будучыні— і задушыліся самі пад мэтафізычнымі сьмяшлівымі, часта дурнымі мігамі сьмерці ў паражночы.

З якою пышнасьцю сантыманталізму, руплівасьці, пабожнасьці аздаблялі яны сабе ўласныя покоі для кожнага настрою, кожнай абасобненасьці ў вежы з сланёвай касьці іх асабістасьці, якая была пабудавана на грунце „Нішто", пакоі для цяплічна-душнага жыцьця.

Пакуль аднойчы гэты штучна пабудаваны будынак не пачаў хістацца, заваліўся і ўрэшце: кучка гнільля існаваньня, агіды жыцьця і заблытанай, пазбаўленай бліскучай покрыўкі сусьветнай хлусьні.

Усе яны канчалі самагубствам, ці тым, ці іншым спосабам.

Нават іх вар'яцтва было самагубствам.

Іх нельга ні судзіць, ні ганіць.

Тут толькі адно:

„Шкода, да болю шкода".

Да ўсіх гэтых, хто скакнуў занадта блізка, пішу, як дасказ:

Я ведаю, як нязьмерна цяжка вы пакутвалі. Я здольны і хачу вам спачуваць. Іншы з вас адважна бараніўся цэлыя гады, цэлыя дзесяцілецьці, пакуль не працягнуў і ня склаў рук... О, колькі адышло з вамі, колькі невыражальна многа адышло з вамі нятрывалага сяброўства, сардэчнай зычлівасьці, людзкой цяплыні, жыцьцёвага размаху! Шмат здольнасьцяй былі задушаны бязьлітасна! Галодныя бадзяліся вы часта месяцамі і гадамі, згаладаўшыся да касьцей... У гэтакім чалавеказгубным, благім стане ўсяго чалавецтва чаго не берэце вы, як об'ект спэкуляцыі!? Ваш смутак, ваша гора, вашы сьлёзы, вашы сумненьні, ваш пот страху, ваш шаг перасьледваньня, кожную кроплю гаркаты, якую вы глынулі, кожны спосаб вашых тыранаў да апошняга прадсьмяротнага хрыпеньня... Гэта ўсё... А што яшчэ?

... Пакутвалі, мысьлілі, адчувалі гнаныя ад аднэй пакуты да другой — для каго?! за што?! дзеля чаго?! За „нішто" і зноў „нішто". Высока над недарэчнасьцю кожнага паасобнага існаваньня пануе, усё больш пашыраючыся і павялічаючыся, сусьветная недарэчнасьць.

... Ніводнага моманту вам не спачуваў ніхто з тых, хто так горача ўпэўніваў вас у спачуваньні!.. Вы служылі ненажэры толькі таму, каб ён яшчэ больш абжыраўся, юрліўцу, каб той яшчэ больш распыляўся юрам. Ніводнай з масавых афяр вы не адбілі ад масавых забойцаў. Ваша зброя ступілася з часам, самі вы гэтага, можа, і не заўважалі, ваш меч толькі драпаў паверсе чалавечай скуры, якая зрабілася, як броня... І вось ляжыцё вы са сваімі патрапанымі зданьнёвымі крыльлямі на кучы сьмяцьця гісторыі... Нам ня трэба клясьціся: бо мы самі зрабіліся адухоўленымі клятвамі помсты... А пакаленьні ўсіх сёньня пануючых, разам узятыя— нішто іншае, як мізэрная кучка чалавечай гразі...

А ў нас няма часу выкапваць вашы магілы, няма часу рабіць з вас мумій, няма часу ні на пераўтварэньне, ні на выслаўленьне. У нас ёсьць толькі час, каб узброіцца, каб быць гатовымі, калі на тое пойдзе, пазондаваць штыхом гэта барбарскае чалавечае грамадзтва.—

## III

Імпэрыялістычная згода была вайной проці пролетарыяту. І ня толькі проці пролетарыяту, але і проці сярэдніх слаёў і кожнага паасобнага дробнага буржуа. (Адно з палажэньняў жыцьцёвай мудрасьці га-

ворыць: вучыся дакладна адрозьніваць фразэолёгію рэчы ад зьместу рэчы; або: зьвяртай увагу не на тое, што хто гаворыць, а на тое, што хто робіць. Разважай па кулаках! А словы—ногі хлусьні!).

А вось як праходзіць жыцьцё: перадсьвяточны вечар—зноў залязае чалавек у свае два аклееныя шпалерамі ў кветачкі пакоі-дзіры пасьля чатырнаццацігадзіннай працы, якая асьвяжае душу і цела роўнамерна і дадае яму моцы і сілы...

А для каго, уласна кажучы?!—

Існуе-ж гэта праклятая герась: тэорыя дадатковае вартасьці!..

Котачка курняўкае так ідылічна-цёпла на падваконьніцы, побач з кошыкам для вязаньня, а далей, можа, сухарлявая канарка ў пазалочанай клетцы, з столі вісіць мухалоўка-папера сярод пакою: яна густа аблеплена, як кропкамі, сударажна дрыжэўшымі мухамі. Унізу на дзядзінцы жаласьліва скуголіць шарманка, на дахох грубая бялізна беднякоў вісіць на вячэрняй зары.—

Пачынаеш сам бурчэць, робішся сярдзітым, як сабака. Ня ладзіш і з таварышамі... Трэ' было-б зноў наесьціся досыта і добра выспацца... Гэтае сабачае жыцьцё зусім нічога нявартае... Кісьнеш, як малако... Але, можа, удасца як-небудзь выбіцца, купіць альтанку ці асобны дамок для сваёй сям'і... Нямеччына прогрэсуе, паляпшаецца з тыдню ў тыдзень, ня гледзячы на тое, што даўжыня рабочага часу расьце, а фактычная заработная плата падае... Але курс папяровай маркі застаецца стабільным... Усюль пра гэта чытаеш.

Граеш у футбол, слухаеш радыё... Бачыш: што праўда, то праўда. І народ мае свае забавы. Рана жэнішся: галадаеш, мерзьнеш удваіх з жонкай... і правільны прырост сям'і забясьпечаны... Апрача таго, ёсьць яшчэ тысячы прыгожых рэчаў, якія адцягваюць нас ад вырашэньня асноўнага пытаньня нашага існаваньня. Самая пастаноўка пытаньня таксама надзвычайна проблематычная.—

А ў нядзелю едзеш з сям'ёй кудысь за горад, сям'я праветрываецца,—а гэта, сапраўды, зусім рачаіснае смакаваньне райскага дабрабыту.

А „Вялікі Незнаёмы“ часта даведваецца пад рознастайнымі выглядамі. Яго вельмі паважны бясформены чэрап зьяўляецца якраз там, дзе ў мізэрным існаваньні зрабілася дзірка, якую пры ўсім жаданьні ніяк нельга залатаць; як толькі пачынае што валіцца, ён тут як тут. Ён вісіць на крыжу, бесьпярэчна і адразу сходзіць уніз, калі, напрыклад, імпэратар заклікае свой народ да зброі. Тады ён абслужвае кулямёт, прыймае парад, як „яго вялікасьць“, або, як насьледнік, вясёла гуляе па Бэрліну, пакуль нямецкая нацыянальная прэса не пачынае шумець.—Ён, акружаны выбраным афіцэрскім корпусам, ласкава ціскае руку аднаму з вэтэранаў, міласьліва зьвяртаецца да пакалечанага на вайне салдата, дзякуючы яму за службу ад імя радзімы. Ён арашае дажджом бязьвейна

белых доляраў з амэрыканскага неба Нямеччыну, якую ўласныя фінансавыя магнаты давялі сваімі опэрацыямі да анэміі. Ён не зьяўляецца квотнікам, не спэкулюе па надзвычайным прыбытку пры вывозе каштоўнасьцяй. Ён—уладар фабрыкі, сумленны, надзейны, спрыяючы. Лейтэнант запасу, ён добры хлопец, ведае сэнс у справах, і калі-б ня было яго, дзе магчыма было-б дастаць работу!?—

„Як вядома, толькі дзяньгубы і гультаі нічога ня могуць дабіцца. Таму, калі ты нявольнік, дык будзь сапраўдным, бездакорным, адданым нявольнікам...

Кожная душа хай будзе падлеглай пастаўленай уладзе: няма бо ўлады апрача як ад бога; а маючыя ўладу пастаўлены ад бога...“

А далей цягнецца агульнавядомая мэлёдыя:

Трашчаць косьці, мускулы робяцца друзлымі, твары пакрываюцца глыбокімі змаршчкамі. Песьняры хоць і пяюць: „Як ваклер пакрывае змораную ноч“,—але ў рачаіснасьці гэта ня так; шкода, але нічога не зрабіць...

З цела ўсё выціснута, як з плада, а скурку адкінулі.

З патрыётычнымі песьнямі мільёны ідуць па балотах крыві ў бой, глыток „героічнай гарэлкі“—і, калі ў цябе ўдача, жалезны крыж першай ступені забясьпечаны.

...Сёньня зноў буяніць фэльдфэбаль: імпэратарскія портрэты зноў пагрызьлі пацукі... І, апрача ўсяго гэтага... душна... набліжаецца навальніца... Да д'ябла з гэтымі нябеснымі ваякамі... Але прынамсі смажышся ў гэтым агнёвым казане, як кажуць, з прыемнасьцю... А папрацуеш гадоў з пяць на фосфарнай фабрыцы—і ты ўжо труп... Неўявіма, каб так павінна было быць... Ня варта мне аднаму паўставаць проці гэтага.—

У грамадзе і памерці ня страшна.

Яму хоць-бы што!

Усё роўна.—

Цела згінаецца над целам.

Усе працоўныя ёсьць нішто іншае як адзін дрыжачы ад пакуты труп, гара мяса, густа парослая адарванымі членамі, як хмызьняком... Гара больш ня крычыць, мільёны злосных вачэй чорна блішчаць па ёй, чарней ды праразьлівей, чымся сама цемра. Пад зямлёй якоесь незразумелае мармытаньне. Часам урыўкі слоў. Там-сям сударажнае, агнёвае мігаценьне, воддальны трывожны рык...

Часам трывожны рух за сталамі багоў, напаўбагоў, рант'е, чужаедаў і другіх сьвятых.

„Гара... гара.. гора нам... хіба не насунецца яна калісь на нас...“

Але ўвесь сьвет поўны фаталізму. У сьвядомасьці большасьці ўсё існуючае разумна і павінна існаваць, як поп, судзьдзя, ваўкалак дадатковае вартасьці, журналісты, яны ўсе, сапраўды, зьвязаны нябачнымі

ніткамі і, сударжна пашморгваючыся, карпаюцца ў сусьветнай прасторы па волі таго, вялікага, грандыёзнага, надчалавечага...

Га! і папяровы патоп насоўваецца паводле яго загаду!

Тысячы лябораторый фабрыкуюць улюбёны народны опіум: прыхамаць, культурную цемру, закаранеласьць... Усё зноў ды зноў вырашаюцца задачы, як найлепш утрымаць у паслушэнстве і глупстве эксплёатаваныя масы?.. Кніжныя фабрыкі шалохаюцца, газэты, як маленькія папяровыя вужакі, лётаюць з рук у рукі па ветру... Кнігі ў пышных аправах з прывабнымі загалоўкамі, пышна выданыя прынады, якія продаюцца танна, каб больш іх збыць... Эстэты, пісьменьнікі, вучаныя, усе гэтыя грамадзянска-карысныя хатнія работнікі, хціва падсьцерагаюць кожны заказ. З часам яны зрабіліся вельмі гібкімі, іх духоўныя члены гнуткія, як гума, яны хутка навучыліся трымаць нос па ветру... Трымай тахт! Справа патрабуе гэтага... У такіх самабытных характарах ніколі, як вядома, ня бывала недахвату.

А для народу трэба захаваць культуру, чаго-б гэта ні каштавала. А героічная сьмерць толькі на паперы варта чагось, а ў сапраўды— пусты гук.

Трашчаць кіномашыны.

Сюды, дружок, каб насыціць і твае вочы. А вось і для тваіх вушэй: заігралі ваяўнічы вайсковы марш.

І праходзяць прадстаўнікі ўраду, мілыя і лагодныя, напэўна, людзі. Як прыгожа і асьляпляюча накрухмалена фрачная кашуля пана,—як панцыр. Ён кідае на вас пагляд, пагляд, кажу я вам, з глыбіні сваёй душы ў глыбіню вашай, як пранізвае ён вас наскрозь... Дэмонструецца і дабрачынная гарбата, на якой некалькі выбраных прымерных пралетарскіх дзяцей тонкімі худымі пальчыкамі мацаюць навокал пані прэзыдэнтшы: на ёй усё аксаміт і шоўк, перлямутравы ланцужок, пярсьцёнак з брыльлянтам.

...Міласьліва шамаціць па пышнаму паркету горнастаевая мантыя... Чыё сэрца не расквітае ад вялікага захапленьня, гледзячы на гэта... І вось гэткае „прэвасхадзіцельства“ цалуе другое прэвасхадзіцельства ў руку... І вось стаяць тут, весела абняўшыся з прадпрыемцамі, генэраламі ды банкаўскімі піратамі дапушчаныя да імпэратарскага двара работнікі профэсыянальных саюзаў, нібы як толькі вылупіліся з яйца, у парадных фраках, бездакорнага пакрою колеру чорнага дрэва, быццам лякаваныя. Гэтыя хітруны ўрэшце ашукваюць саміх сябе!.. Іх мова: на ўсё—толькі нічога няважна „але“ ці „аман“... Напасьледак, калі патрэбна будзе абаснаваць гэтыя „але“ і „аман“, дык яны лёгка знойдуць надзвычай пераканаўчыя довады. Часта яны дапамагаюць сваім зьневаліцелям (хай дзівяцца на гэта незнаёмыя з гэтым) і ў тых выпадках, калі апошнія трапляюць у дрэнны стан, яны прапануюць ім цалком саміх сябе з лёкайскай усьмешкай.

Паскуднікі—

Deutschland über alles—

Ура!..

Напэўна—гэтыя паны жадаюць усеагульнага дабра і ў першую чаргу дабра нямецкаму народу.

Вось адзін з гэткіх вялікіх спэкулянтаў-дзеячоў сусьветнай гісторыі з портфэлем, набітым геніяльнымі спэкуляцыйнымі проектамі, пад пахай, зьнікнуў у самаходзе. Чатырнаццаць гадзін штодзенна праводзіць ён у самаходзе, едучы на розныя конфэрэнцыі, і зараз, пасьля поўначы, позна, едзе ён да аднаго замежнага прадстаўніка.

А вось і рэйхстаг: бурнае пасяджэньне. Толькі зусім благі чалавек можа, гледзячы на гэтых паважаных, міласьцю народу памазаных, падумаць: статак бараноў... тут вырашаецца лёс народу. А таму, калі ты богабойны, перахрысьціся!..

Трубы, барабаны літаўры, гучная трарара—штык нашрубаваны. Увага! Віват!—дзяржаўная абарона! Добрыя хлопцы—з добрым шабельным і штыхавым ударам... Але прыгодныя толькі (і гэта няшчасьце для нацыі) у грамадзянскай вайне. Няма чаго дзівіцца, што сымпатыі шырокіх колаў народу на іх баку, а не комуністых, якія таксама паказваюцца на экране: адзеньне дрэннае—нагавіцы ў лахманах, кашулі няма, шарсьцяны пінжак у крыві. Пры сьвятле сьвечкі ў сутарэньні фабрыкуюць яны з старых консэрвных бляшанак ручныя гранаты. Відаць яшчэ на экране, як другі таварыш з важнай мінай уваходзіць, бязумоўна, праз патайныя дзьверы і з зьзяючым тварам перадае яму жменю колерных бацыль... Пасьля гэткай страшнай фільмы і грознага настрою нават славуты масавы забойца, зьняты сярод сваіх афяр, здаецца паважанай публіцы мілым і прыемным, як яркі летні дзень.

А нарэшце:

Сьцены купаньня на Лідо: аздоблены сьцягамі бераг мора, найноўшыя купальныя гарнітуры, бліскучыя хвалі.

Усё рыкае, рохкае, гудзе.

Оркестра справаджае гэту фільму ласкавымі байкаючымі мэлёдыямі.

Слава богу!

Вялікае сусьветная храпеньне навыперадкі.

Зноў робіцца прытульна.

IV

Панорама тамтэйшага жыцьця.

Гэта ўжо ўпарадкавана на сьвеце.

Вось там сядзяць яны ў пальмавым садзе нябеснага небаскробу, абвяваныя ўласнымі пахнучымі параваньнямі і імпэратары і каралі, прарокі і патрыярхі з залатымі і з сланёвай касьці скіпэтрамі ды іншымі дэмагогічнымі чараўнічымі кіямі. Навокал іх, складзеныя ў штабэлі, па-

каленьні чалавечых гіен, богадагодлівых чалавечых бізуноў і розаг: фінансавыя олігархі ў чарзе па заработку, адміралы, міністры, генэралы ў зьзяючых, зьвінячых ад ордэнаў, формах, султанах, цыліндрах, сталёвых шаломах. А папы ў лілёвых колеру адвечнасьці вопратках трашчаць свае пацеры, то старанна вылупляючы вочы, то пускаючы сьліну. А ён, бог усіх іх, сьмяецца і ўсьміхаецца, удыхаючы наркотычныя параваньні ладуну, захлынаючыся ад хэнці і пацягваючыся сваім прадвечным целам на нябеснай канапе так, што яна трашчыць... Самыя славутыя ўрачы Эўропы ходзяць ля яго. Калі з бегам часу творцу сьвета паграджае самленьне, дык нябачныя нябесныя звоны гучна і з стогнам б'юць трывогу, а боскае сэрца пампуюць цэлымі струменямі цудоўнага дігіталіса... Такім чынам, ён ужо колькі разоў папраўляўся. Пасьля паздараўленьня віталі яго нябесныя войскі на нябесным парадзе. Антэны на нябесным санаторыуме шапталіся. Павіншаваньні па радыё цяклі ў пышны опэрацыйны гмах з усіх кутоў гэтага і таго сьвету.

Ніколі не пялі так шчыра „алілюя" хоры сьвятых, сабраўшыся ў прасторы на плывучай плошчы. І баграна-чырванеючае вячэрняе вобалака плакала ад жаласьлівасьці. Усьміхаліся шчасьліва калышачыся пальмы спакою і прастадушна-дзяціна лісьлівымі псальмамі крапідла з сьвятой вадой. Дэлегаты зьявіліся на прыймо з усіх нябесных прадпрыемстваў. Дыплёматы прыкацілі сюды на пышна-мяккіх клюбных крэслах. Обэр-анёлы граюць цяпер у скат. Надта вядомы на гэтым сьвеце пакуты працавіты кат рыхтуе штовячэрняе абмываньне ног.

Зноў процэсія: эполетныя героі, кіраўнікі оркестры вялізнай эскадры самалётных бомбакідальнікаў, генэрал-фэльдмаршалы і ўвешаны ордэнамі ўсіх краін сьвету найвялікшы гені—паразыт нашага часу. Папы концэрнаў. Кардыналы картэляў. Камадзіры сындыкатаў...

Крыху з боку—абраныя прадстаўнікі рабочых арыстократаў і дробнабуржуазных улюбёнцаў у лёгка падпяразаных адзеньнях, у стракатых шарсьцяных пантоплях на вялізных пляскатых нагах, яны абкурваюць сінім дымам пакручаста выгнутых люлек вечнасьць.

Тут глеба сьлізкая ад лёкайскай сьліны.

Яны здрыгаюцца яшчэ і зараз, гістэрычна радуючыся, пры ўспамінах аб ганебных учынках тых гэрэтыкаў-комуністых і, поўныя патэтычнай паважнасьці, запэўняюць усё адны адных хорам:

„Мы ўсё-ж ткі свойскія хатнія жывёлы..."

Громападобны рык агалашае тут нябесны рай і аддаецца сем разоў сямітысячным водгульлем у кулістым небе.

Судзьдзя ў страката-тканай з розных сьмяротных прысудаў мантыі; студэнты-корпоранты, найвыдатнейшыя з студэнцкіх вайсковых організацый, кожны з лічбінай забітых ім рабочых на задніцы; славутыя фашыцкія правадыры, паліцэйскія шпегі і забойцы. Тут таксама натур-апосталы

і тыя дзіўныя сьвятыя, якія прапаведвалі надыход суднага дня і маглі праракаць ды вяшчаць з сваіх экскрэмэнтаў.

А вось.

Як хмары шаранчы... Цёмныя крылы б'юць і нешта вырываецца з залатой атуліны вечнасьці...

Гэта каханкі багатых і сытых праплываюць міма, апранутыя па апошняй модзе пасьля пэдыкюра, манікюра. Кожны час, кожная краіна маюць свой асобны пах, выслаўляючы бога... Усе шыкозныя: нафарбаваныя, напамаджаныя, напудраваныя, з пышнымі зачоскамі...

Мастакі ўсіх часоў нарысавалі ім сьветлавыя куханы славы, на задах напісалі выслоўі. Сьцёгны з парчы, косьці гладкія. Тоўстыя, як пудовыя мяхі мяса, вельмі тонкія, як фігуркі з дроту, чырвоныя крыжыкі замест сыскоў... Тады змоўклі сьвятыя прамовы, гутаркі і пяяньне—усё парываецца з трыбун і сьпяшаецца да мармуровых паравых лазьняў, масажовых пакояў і будынкаў да забаў. А ўвесь надземны хор пстрыкае ад прыемнасьці языком. Усе порскаюць насамі...

Алілюя!

Другія хоры таксама пачынаюць пяяць; джазбанд і нэграўскія барабаны б'юць з асаблівым цынізмам і бяссорамнасьцю...

## Погляд зьнізу

А глыбока ўнізе народы сялян і народы рабочых у поце выконваюць сваю штодзенную работу: каб дагадзіць богу, чалавецтву, радзіме...

Хлеб, мяса, уся пажыва, усё адзеньне: усё гэта паднімаецца быццам на паднімальных машынах угару, там распаўсюджваецца па пакоях магнатаў, па кухнях багатых—ах, а што скінецца са сталоў паноў—гэта ёсьць толькі невялічкая крошка хлеба... А паглядзі—хіба няма сярод хрысьціян дабрадзеяў чалавецтва: яны засноўваюць дзіцячыя прытулкі, ашчадныя ашчэднасьці з біблейнымі таварыствамі, організуюць душакарысныя сьвяты — успаміны забітых на вайне і герояў, баі быкоў, бокс, футбольныя мітынгі, бэсбольныя выпярэдніцтвы, тэнісныя турніры, аўтобусныя выпярэдніцтвы, інтэрнацыянальныя конскія бягі і заказваюць царкоўныя маленьні для выратаваньня яшчэ бедных жывых і збаваеньня душ ужо шчасьліва памёршых. А таксама і царква—збаўца ўсіх ад граха, яна прымае ўдзел у гэтым: даруе грахі—агульны водпуск грахоў, дае сьвятое прычасьце, якое збаўляе тваю змардаваную душу ад пакуты—давай толькі часам малісьціню і рабі добрыя справы. Будуюцца музэі, там многа пышных карцін, уваход для ўсіх вольны; рыхтуюцца бібліотэкі: кнігі ў скураных, з скуры сьвіней, аправах, шмат біблій—і ўсё танна, таней паранай рэпы... Ёсьць там і вастрогі для бязбожнікаў і злачынцаў і для тых, зразумела, каму проста не падабаецца сучасны нябесны парадак сьвету, а таксама ёсьць і найноўшая электрычная машыны для кары сьмерцю: пры ёй падземны,

якога ня відаць, провад, стулька, пакрытая скурай, і мякка набітыя сьпінка і парэнчы, зусім як добрае дзедаўскае крэсла. Але гэта толькі для ўпартых і непрацоўных: для іншых пры выкананьні пакараньня існуюць яшчэ кары, каяньне, застрашэньне. Спакой і парадак—вось чаго жадае ўсемагутны, усесправядлівы, як то напісана ў кнізе—старонка а, старонка б, старонка в.

І салдат выконвае ў гэтым дзіўным сьвеце свае абавязкі: яму дано ў рукі халоднае жалеза, ён павінен карыстацца ім бязбоязна—садзіць штых у рэбры ворага, біць зброяй чарапы ворагаў—гэта ёсьць яго сьвятое прызначэньне, гэта яго служэньне богу.

І ўсё гэта нямінуча:

Нябёсы ўзьвялічваюць славу спрадвечнага, масавыя магілкі выслаўляюць яго сваім смуродам з глыбіні зямлі, усюды, усюды нятрывалае шчасьце і спакой, і радасьць, і жаданьне, і зямля, поўная радасьці, радуецца.

Гэта стварэньне ўсемагутнага.

І вось:

як мы бачылі, як мы ўсё гэта перажылі на сабе, дзень за днём:

усё было добра, толькі занадта добра.

## V

Дзе-ж выйсьце з гэтага чалавечага лябірынту?

Шырока і дзіўна адбудаваная, аблітая гладкімі, як асфальт, фразамі аб людзкасьці, выбрукованая ўсімі буржуазнымі дабрачыннасьцямі, быццам вісячая на віядуках над найглыбейшымі бяздоньнямі, часам казачна асьветленая фантастычнымі бэнгальскімі агнямі дарога—вось яна, якая ўсё глыбей гвалтоўна заводзіць нас у лябірынт, з якога ніяк нельга выбрацца.

Афіцыяльна выстаўлены паказальныя дошкі, як:

„Тут ратункі ад гора!“

„Правільны шлях!“

„Дарога надзеі!“

„Тут палец боскі паказвае выйсьце з дому праклёну!“

Па абодвух баках гэтага вясёлага жыцьцёвага шляху стаяць старажытныя захінутыя ў тогі фігуры багоў, бронзавыя статуі коньнікаў, колёны перамогі, мармуровыя памінальныя помнікі. Урачыста ідуць на высокіх камашах фігуры герояў мінулай гісторыі, кажучы слынныя выслоўі. Адны з іх узброены трызубцамі, другія—у рыцарскім узброеньні. Фрыдрых Вялікі, вялікі курфюрст.

„Памятай, што ты немец!“

Ці:

„Калі на нашых спусьцелых вучэбных пляцах зноў раздадуцца крокі прускіх грэнадэраў, тады мы зноў адродзімся!“

Шмат што зроблена ў гэтым лябірынце і для музыкі, скокаў, пясьнярства, адукацыі. У кароткія гадзіны адпачынку чалавека добра і дарма напіхаюць рознымі, самымі ўзьнёслымі ідэямі. Мысьлёвыя апараты-самарухі гудуць: за цябе думаюць, каб ты ня быў прымушаны думаць сам, бо гэта было-б для цябе вялікае няшчасьце. І калі-б гэткае няшчасьце здарылася раптоўна з масамі, ніякая эпідэмія не раўнавалася-б з гэтай па ступені грамадзкай небясьпекі. Наступіў-бы хаос, і сучаснае грамадзтва не магло-б вытрымаць падобнага становішча. З катэдры дзяржаўнага унівэрсытэту раздаецца голас славутага профэсара грамадазнаўства: „клясавае замірэньне! саюз народаў! зварот да веры!“

А другі—грудзі яго, як тайфун, паднімаюцца пад націскам гэткага патрыётычнага адухаўленьня:—„найсьвяцейшае прызначэньне нямецкай рабочай клясы—адплаціць за ўсе страты, якія мела нямецкая народная гаспадарка за часы сусьветнай вайны...“ І раптам чалавечыя жыцьці і страчаныя краіны пераводзяцца на рабочыя гадзіны, якія нямецкія „кулі“ павінны адпрацаваць звыш нормы... І ўсё паветра поўна ідэй, ідалаў, фантомаў, быццам на сярэднявяковым шабашы ведзьмаў.

Такім чынам усе сьпяшаюцца з заткнутымі вушамі, заплюшчанымі вачыма і вуснамі, піхаючы адзін аднаго, бяз сумленьня працуюць лакцямі, узброенымі жалезнымі калючкамі, і ўсе радасна ўзрушаныя імчацца па шляху да распаду. Усе ў маскарадных убраньнях, як у часе карнавалу. Усё гэта зьмешваецца ў кашу, траціць форму, абрысы расплываюцца, і людзі ляцяць у тумане, быццам здані, з вялізнымі рукамі, штучнымі хобатамі, з нязвычайна вялікімі зубамі, з дрыжэньнем перад стаячымі налева і направа пірамідамі чэрапоў. Паважны дзеяч паказвае новыя штукі, усе ўхвалявана пляскаюць у ладкі ў гіпнотычным захапленьні. З дапамогай ашуканскага фокусу, вымаўляючы таемныя заклёны, паказваюць новыя поліпападобныя ўтварэньні—Лігу нацый. Раптам усе паднімаюць келіхі з шампанскім, крычаць: „з новым годам!“, абнімаюць адзін аднаго ад захапленьня, а потым зараз перакусваюць адзін аднаму горла. А званы ўрачыста зьвіняць „на зямлі спакой!“ Потым набліжаюцца сэктанты розных гатункаў, бязладныя дзівакі, прапаведнікі, з якіх кожны ўпарта жадае памерці і перайсьці ў другі сьвет сваім уласным, патэнтаваным, вельмі самабытным спосабам.

Пацыфістыя круцяць сваімі пальмавымі хвастамі, скачучы на чатырох нагах перад выабражальным спакоем усяго сьвету, якога ажыцьцявіць ім ніколі ня ўдасца. Спраўна перапродаюць яны адзін аднаму забясьпечныя накідкі ад усякай крывавай лазьні... О, працэсія сьмерці!.. І глыбока рэлігійныя, добра дастасаваныя да ўмоў сучаснага часу, праносяцца з вялікай хуткасьцю ста кілёмэтраў у гадзіну на крэслах, якія рухаюцца электрычнасьцю... Выбухі сьмеху... Шалёныя ўсьмешкі... І ўсё гэта з крыкамі „гопсаса! гэйсаса!“ усё глыбей кідаецца ў бяздоньне ва ўбёрах, якія прамяклі ад крыві і бруду.

*

А шлях, які вядзе з гэтай пячоры катаваньня і пакуты, заграмаджаны бэлькамі, барыкадамі ды ўсялякімі перашкодамі.

Адгароджаны драцянай загарожай ад магнатаў зямлі, мінаваны, скапаны воўчымі ямамі, акопамі, пакрыты сіламі і пасткамі, шлях гэты забясьпечаны перасьцерагаючым надпісам:

„Хто пойдзе далей, будзе расстраляны“.

Атрады паліцэйскіх, abліваючыся потам, нясуцца ўзад і ўперад на цяжаравых самаходах, сотні „асобнага прызначэньня“ скачуць паўзгалёп, гумовыя кіі сьвішчуць, сыплюцца ўдары шаблямі, прыкладамі, штыхамі, чуваць стрэлы... Бранявікі, амаль бясшумна кідаючы агонь з усіх сваіх адтулін, прыпаўзаюць, як вялікія, пакрытыя сталёвым панцырам, жукі, паўзуць яны з урадовых раёнаў, перарobленых у цытадэлі. Газавыя гранаты, бомбы, кулямёты самалётаў. Груды забітых.

Натаўпы засуджаных да зьняволеньня на ўсё жыцьцё ў астрогах прыкуты да сьцен.

Мільёны такіх, у каго нечалавечныя пакуты высмакталі ўсё да мазгоў касьцей.

Натаўпы засуджаных да сьмерці: як вялічна і бясконца спакойна стаяць яны ля сьцяны.

Мільёны невядомых пакутнікаў.

І ніхто з тых, хто застаўся жывым, ня можа на іх забыцца: яны барацьбітом у барацьбе паказваюць шлях.

І, ня гледзячы ні навошта, наўпрэкі ўсяму, рухаецца па гэтаму шляху процэсія: пакрытыя копацьцю постаці, амаль голыя, з пяяньнем ідуць пад вялікім чырвоным воблакам—як пад сьцягам...

І крокі, адбіваючы тахт, гучаць, як молат.

Тут няма красамоўцаў, якія забіваюць мазгі гэтых людзей балбатнёй і драбніцамі.

Усё гэта ідзе цьвёрда, рытмічна, нібы маршыруе сама вуліца Жыцьцё, жыцьцёвасьць, зямля, увесь сусьвет у руху. Земная куля кружыцца, сонца рушыць, неба ўздымаецца, уся прырода, усё жывое—усё рушыць, пяе ўрачыста:

„Уперад!“

Раздаецца каманда.

Што гэта? ці не гураган, які выучыў людзкую мову, ня мора, якое разбушавалася, раве, высока ўздымаецца на кругавідзе і распадаецца на мільёны агнёвых пырскаў?!

Каманда—

Дамавіны паднімаюцца, сусьветная прастора награмаджаецца, як шкляны звон, і кідае каменьні бруку, як гранітныя чарапы— — —

Як гліна, скура чалавека, уся кроў адліваецца да самага сэрца— — —

І рукі высока адкідаюцца наперад, а кулакі расьціскаюцца, як жалезныя кулі, што круцяцца на мускульных сучляненьнях.

... Каманда—

І раздаюцца галасы карэньняў з глыбіні...

— — —

І гэта каманда, якую падае гісторыя працоўным масам ўсіх краін, агалашае:

Клясавая вайна!—

VI

Няма такога сьляпога, які ўрэшце ня мог-бы яшчэ бачыць. Нават і найбольш сьляпыя яшчэ ня зусім безнадзейныя.

Пакрыты панцырам кулак гісторыі б'е і абчосвае самыя ўпартыя галовы.

І тут яшчэ цякуць, засыпаныя да краёў крыніцы жудаснай помсты, крыніцы жыцьцёдаючай сілы.

Як магнітная паласа, грукочучы імчыцца туды чырвоны струмень.

Калі ён нясецца праз гарады, гарады паднімаюцца, фабрыкі далучаюцца да яго, верфі забіваюцца ў сярэдзіну, карабельныя сырэны заклікаюць да паўстаньня, паднімальныя краты згінаюцца, берагі крышацца: струмень, струмень... усё больш бяскрайны робіцца ён...

А што іншае ёсьць гэты струмень, як не вызваленчая кроў чалавечага сэрца, якая грукочучы льецца з усіх краін сьвету, зрывае ўсе грэблі, напакутаваўшыся на працягу тысячы гадоў!?

— — —

Удар за ўдарам па яе твары.

Нават і дробна-буржуазныя масы некалі будуць прымушаны паглядзець свайму ворагу ў вочы.

Далоў забясьпечныя навочнікі, канец нерашучасьці, канец тым, хто ўхіляецца ад барацьбы. Цяпер трэба вызначыць сваю афарбоўку, цесна сплесьціся, грудзі з грудзямі, бо і тут пачынаецца барацьба за пэўны канец...

Павольна, няўпэўнена, недаверна далучаюцца дробныя буржуа да пролетарскага фронту. Некаторыя гатовы яшчэ ў апошнюю хвіліну зрадзіць сваім таварышом, саюзьнікам і нават самым сабе.

Але зямля трашчыць, шчыліны робяцца ўсё глыбейшыя, і немагчыма забіць гэтыя шчыліны якой-небудзь хітраразумнай фразай.

Дробны буржуа аніяк ня можа ўявіць сабе сваю радзіму інакш, як чорна-бела-чырвонай.

Яна ня будзе чорна-бела-чырвонай.

Яна ня будзе чорна-бела-залатой.

Яна будзе чырвонай.

Было-б ня так дрэнна з боку дробных буржуа загадзя памірыцца з гэтым...

— — —

Сьвет будзе наш—

## VII

Клясавая вайна...

Ня год, ня два, ня тры—дзесяць год трэба было мне пражыць, каб вымавіць гэта слова.

Я грунтоўна вывучваў сэнс гэтых слоў; я быў адзін з імі, так адзін, як можа быць чалавек сам з сабой, яны сталі часткай майго „я“...

Абломкі чалавых касьцей, касьцякі, абломкі касьцякоў, адарваныя крывавыя кавалкі мяса чалавечых шчок, затаптаныя грудныя дзеці, мазгі, цякучыя з дзірак у чэрапе, разьбітым прыкладам, маткі, прыціснутыя каля мураў паветраным ціскам ад выбухнуўшай бомбы з самалёта, малочнага колеру кавалкі вочных бялкоў,—усё гэта зьмешана ў густую кашу, або разбаўлена падобна да мыльнага лугу ці вапнавае рашчыны; скруткі скуры, клубкі мяса, чалавечыя трупы, якія сьмярдзяць, як экскрэмэнты; страшэнныя тулавы, агідныя астачы касьцяка... Транспорт за транспортам высылаюць іх на кару сьмерцю... О, я дасьледваў гэтыя становішчы, і ня толькі дасьледваў!.. пашморгваньне куткоў роту, бясконцы цяжар у членах, увесь чалавек да астатняе нэрвовае валакніны напружаны, і праз яго прапушчаюць электрычны ток; я ведаю становішча тых, хто засуджаны да кары сьмерцю і на каленах чакаюць апошняга залпу. Мне вядома, як зацягваецца пятля на шыі, і той момант, калі застаецца ўсяго дзесяць хвілін да таго, як з-пад тваіх ног выб‘юць зэдлік, хвілін неабсяжных, бясконцых, бязьмежных, і першы момант, як ты вісіш на шыбельніцы...

Я ведаю сапраўды дасканала абэцэду вайны, пачатковае вывучэньне вайны, бо няпамятлівасьць ніколі ня была маёй дабрачыннасьцю. Мне дагэтуль яшчэ дорага кожная кропля крыві сэрца, дзеля таго што я не манюся жаліцца: о, чалавеча, ты няшчасны, гаротны, акінуты, убогі чарвяк, які выгінаецца ў лютай барацьбе за існаваньне.

Клясавая вайна.—

Гэтыя словы затрымаў я ў глыбіні свайго сэрца, ня гледзячы ні навошта, даволі доўга стараўся я ўздобіць выкрыўленую грымасу гэтага сьвету прыгожымі аблудамі. Мне трэ‘ было натужыцца, каб выказаць тое, што ёсьць, рабіць тое, што трэба...

Клясавая вайна...

Сёньня я сьцісну зубы і, калі воніты падступяць да горла, вырыгаю ўсё з вялікім праклёнам.—

Клясавая вайна.—

Другога выйсьця няма.

Толькі ашуканцы гавораць другое...

Я прабаваў усе магчымасьці ня толькі ў сваіх мазгох, але ўсёй сваёй крывёю. Перажываньне контроляваў я перажываньнем, практыку—практыкай. Словы гэтыя пратачваліся праз шмат гадоў, як праз фільтар.

Хоць строгая і горкая, але найчасьцейшая і не запраўленая ніякім сурогатам праўда—вось гэта канчатковы вынік, выцяжка.

„Калі ласка, панове“, скажам мы, вось вам выцяжка!? Бо мы ня музэй рэдкасьцяй і не альбом, куды зьбіраюць адцягненыя жыцьцёвыя мудрасьці...

Я грунтоўна пазнаў сьвет. Ніколі і нідзе я не каштаваў толькі крыху. Я пазнаў усе пароды людзей гэтага сьвету...

І я варочаюся з маёй падарожы ціхі, вельмі ціхі, без вялікіх слоў. Маё ўласнае найтаямнейшае „я“ прымае мяне ў свае абнімы, як родная матка, пасьля майго звароту. Потым: рабіў вынаходкі, заваёўвай. І неадкладна далучыўся я да шэрагаў барацьбітоў-пролетараў. Усё, што ёсьць, усё, што калісь было, усе мае прыпушчэньні а тым, што калі будзе, усё мінулае, будучае, цяперашняе падбівае мяне проста да гэтага разьвязаньня.

Яно расклала мяне на органічныя часткі, потым раптам абарвалася, пайшло скачкамі, і задоўга, пакуль я гэта заўважыў, лёс выпаў.

Клясавая вайна....

У мяне ня чэшуцца рукі для помсты.

Я ўмею быць об'ектыўным, халодным, як камень, цьвярдзей цьвярозага спасьцерагаць поступ сусьвету, я пазбаўлены палону падманных аблуд.

Такім чынам, бачу я няўхільнасьць выступленьня аднаго проці аднаго, сутычку дзьвюх сусьветных груп, падобную да выбуху, а ў катліне сьвету—адкрыта лежачы найнебясьпечнейшы дынаміт нашага часу:

Клясавыя супярэчнасьці.—

А вы?

Вы стараецеся зьнішчыць клясавую барацьбу сваімі дэкрэтамі. „Яднаньне народаў“ вы ўзялі з програмы гэтых зраднікаў народу, гэткім шляхам вы хочаце выратаваць адзінства вашага сьветапогляду. Вы—выслаўленае адзінства, што, як гэта ўсё больш ды больш высьвятляецца, ёсьць адзінства невырашальных супярэчнасьцяй! О, вынікі вузкалобых, недабачлівых крэтынаў! Вы, якія нашэптваеце салодкія словы аб агульнай згодзе, вы—уладныя злачынцы і дурні!

Усялякія ўціскі з вашага боку, вы павінны самі быць згодны з гэтым, хоць-бы з скрыгатам зубоў, толькі вострыць нашу зброю. Мы адшліфаваліся а вашы думкі ды ўчынкі, як аб шліфавальны камень. А рухам, якім вы хапаеце нас за глотку, вы аўтоматычна накіроўваеце сьмяртэльны ўдар у самае сваё сэрца.

Найгоршыя памылкі, на якія мы наогул здольны, бясконца справядлівейшыя з пункту погляду чалавечага прогрэсу, чым ваша найчысьцейшая праўда!—

У барацьбе двох сьветаў пяю я акрылёную сталлю баявую песьню, якая робіць вялізныя петлі ў рэволюцыйным паветры.

Крычэце, буржуа, ва ўсё горла: „ратуйце!“ Выкрыкайце „Езус-Марыя“! і „гвалт“!

Галасеце! фальшыўце! выйце!

Накладзеце з-за нас хоць поўныя майткі!

Складайце байкі аб жахах грамадзянскай вайны, гвалтах, тэроры, расстрэлах, аб дзікіх лютасьцях. Магчыма, што вы і самі шчыра даеце веры гэтаму, вы, цывілізаваныя канібалы!

Фантазьюйце ўночы ў снах аб забойствах, аб барыкадах, аб агнёвых снапах, якія вас апякаюць, аб штыхавых ударах.

О, якія мізэрныя грымасы мерцьвякоў! О, якая кароста ў вашых мазгох!.. кукарэку!.. Так певень ужо крычыць!.. О, вы, здані ўсіх дурняў!

Чужаеды, культурныя філістэры! Пры спушчаных фіранках, пры бляклым зданьнёвым сьвеце сядзіцё вы ў сваіх пышных пакоях, якія адначасна зьяўляюцца памыйніцамі і гнёздамі паразітаў нашага часу.

Эстэтычна вы гніяцё, ня гледзячы на лячэньне хараства і здароўя ваннамі з цёплага малака і штучным чорным сонцам!

О, вы, цяплічныя расьліны, з роду ў род ашчадна абараняныя, затуленыя, як ватай, найлепшымі ўмовамі існаваньня!..

Напоўніце свае ранцы трактатамі і катэхізісамі да адвалу, набеце свае брухі да ванітаваньня біблейскімі выслоўямі! Боская свалата! Вы аматары закочваць вочы. Вы—цынічныя мастакі-ашуканцы царквы. Паранейшаму адкармлівайцеся сьвятымі рэлiквіямі і да сьмерці марнейце ў вашых ціхіх кельнях пад вашымі тлумнымі софізмамі. Але раз назаўсёды рукі прэч ад усяго жывога, ад усяго таго, што стане па жыцьці па жывым жыцьці, што хоча заваяваць сабе жыцьцё!!!—

Пад сьвіст коўзкіх прыводных пасоў і грукат выбухаў у глыбін рудняў, скрыгат жалезных піл і грэбляў, сярод пылу ад сталёвых і жалезных апілкаў

Народжаны

Сярод парахавога дыму—

На негігіенічных, адбіраючых здароўе, вырабляючых гранаты і фосфар фабрыках—

Пры крадзежы бульбы і на селядцовых балях—

Калі жонкі і дзеці пролетараў вырабляюць гранаты—калі жонкі рабочых дзень і ноч стаяць у чарзе крам спажыўных—

Калі рыдаюць у роспачы мільёны ўдоў рабочых, якія былі забіты ў імпэрыялістычнай вайне—

Там

У бедным памяшканьні пролетара—

Там

У ямах ад гранат, у акопах—

Там
Пад грукат штучных ног інвалідаў вайны, якія дэмонструюць на галоўных вуліцах, аздобленых пышнымі магазынамі—
У процэсіі беспрацоўных,
У пастанове „агульная забастоўка“,
У першым стрэле ўзброенага паўстаньня—
У першым залпе карнага аддзелу па першых чырвоных салдатах—
З крупамі і кашай—
Са сьлязьмі галодных,
З сухотамі,
З залатухай,
З потам страху перад сьмерцю—
Так
Паўстае Новы Сьвет—
Так
Стаіць новая гісторыя,
Будучына
Паўстае—
Не канчатковая,
Бясформеная,
Як і павінна быць:
Пад курчамі,
З пенай нядужнай помсты на губах, як эпілептыка—
Але
Гэта будзе,
Ужо аформляецца,
Цьвёрдыя, як сталь, абрысы,—
Сэрца пачынае біцца,
Біцца, як молат:
Жалезны тахт—
О, якое дзіўнае гэта сэрца, праменючае, падобна да сонца, чалавечую цяплыню—
Падважнік—напружаныя мускулы—сучляненьні—
І
Шматмільённая хваля, паднімаючыся, паўзе, згінаючыся, як для скоку, і вось яна ўжо ідзе.
І рэволюцыя ўжо паўстала
Перад вамі
Неўлітаваная,
Спакойная, гледзячы на вас мільёнамі вачэй, якія блішчаць электрычнасьцю—
Ахапляючы вас мільёнамі зубчастых абцугоў—
Проста,—

Чалавек процi чалавека— — —
„Як лявіна—“
„Як гураган—“
„Як маса лявы, якая коцiцца ў ваш сьвет— — —“
Жывая постаць!!!
— — —

Мужнейце, вы—комэдыянты гісторыі, з усімі вашымі багамі, героямі, волатамі, з усім вашым малакаштоўным рызьзём і духоўным барахлом мінулых часоў!..

Угледзьцеся ў сябе, у гэтае бяздоньне паражнечы...
Перакідайцеся, вы—блазны мэтафізыкі!
Хутчэй! Сальтомортале (скок) у тамтэйшае!
Пачынайце!
Перасяленьне дум!
Паказвайце вашы здольнасьці ў нябескім цырку!
Вітаю вас, эмігранты!
Хутка пакінуўшыя шэрагі земнага сьвету!
Тамтэйшыя духі нецярпліва чакаюць на вас.—

## VIII

Вы—ажыцьцёўленыя прылады катаваньня чалавецтва ў абліччы людзей! Вы—вялікія магутныя помпы! Вы—дэмократычныя багі-забойцы, боскія млыны для касьцей! Вы—актоеры сусьветнай гісторыі, якія здаюцца сабе ўсемагутнымі.—

— —

(да пары толькі).

Зямлю, усю зямлю абхапілі вы сваімі лапамі, як таемны вялізны павук: вашы члены цела перарастаюць, вашы органы падаўжаюцца: вашы пясьці, рукі, вашы ногі, вашы мускулы маюць свой працяг у жалезных злучэньнях, вялізных параходах, паравых молатах, падважніках, кранах, колах, машынах, прыладах. Вашы мазгі—магутны рахунковы апарат. Цьвёрда стаіцё вы сваімі нагамі, не—мільёнамі сваіх ног, на зямлі, злучаеце блiскучымі сталёвымі рэйкамі найдалейшыя часткі сьвету, запіхаеце ўсе куткі сьвету сваім нікому непатрэбным рызьзём і называеце гэта культурнай місіяй. „Мы—пачатак“, гэтак хвалецеся вы, „цэнтр і канец сьвету“. „Сапраўдныя цэзары“—

„Ці не зьяўляемся мы духоўнымі патомкамі будаўнікоў пірамід—!?“

Вось набліжаюцца, з лёкайскай усьмешкай, натоўпы вашых служак і хорам выплёўваюць: „паважаньне капіталу! паважаньне страшыдле! паважаньне!“—і мільёны служачых, тэхнікаў, хэмікаў, папоў, урачоў, настаўнікаў, профэсароў, мастакоў; тонка, чыста, як эмалёвыя; генэралы—іх варта. Рух вашай рукі, націск на сыгнальную кнопку—і аўтоматычна вароты фабрык адчыняюцца, і цэмэнтавае жарала выплёўвае на вуліцу

сотні тысяч беспрацоўных, вы абвяшчаеце а рабоце, і зграі людзей завальваюць адзін аднаго, кульгаюць, паўзуць, сьпяшаюцца, шалёныя, каб атрымаць ад вас, абраныя, літасьцівы дазвол на працу. Бурчачы, вы дазваляеце, калі гэта адпавядае вашым разбойніцкім вытворным плянам, калі-ж зноў сыгнал, і вы хутка ўмаўляецеся: войска выходзіць—ручныя гранаты, бомбы з самалётаў, кулямётныя залпы—як акомпанімэнт, і вы выкідаеце мільёны людзей з вуліцы жыцьця ў джунглі галадэчы...

„Чарвякі, сьмяцьцё, гной гісторыі—"

Вы констатуеце: гэта гісторыя—ваша гісторыя. Бо там, дзе канчаюцца самыя высокія фабрычныя коміны, там узвышаюцца вашы вілы з пышнымі садамі, найноўшыя памяшканьні багоў, царскія палацы нашага часу, нябачна забарыкадаваныя ад нападу бунтаўнікоў, і ўсё, утворанае рукамі працоўнага народу, знаходзіць тут канчатковае разумнае выяўленьне...

„О, вы, якія даруеце літасьціва нам сьвятое жыцьцё, шчыра ўдзячны мы вам! Якім каштоўным падарункам зьяўляецца для нас ваша нагарода!.. Хай мы апрануты ў рызьзё, хай мы жывем у закутках, хай нам не хапае есьці і піць, хай з намі пакутуюць нашы жонкі ды дзеці, хай баляць нашы косьці— — —о, вашаў сьмешка—бальзам на нашы раны, а наш чатырнаццацігадзінны рабочы дзень ні больш ні менш, як набажэнства—"

Але рачаіснасьць гаворыць другое.

Камякі тае сажы, што выдыхаюць шахты, зьбіраюцца па небе ў вялікую хмару. Подыхі гарачага ветру барозьняць краіну.

Цэлымі вагонамі рассыпаеце вы сярод наракаючых і афяраваных на сьмерць грошы, якія забіваюць клясавую сьвядомасьць. Нанятыя вамі правадыры рабочай клясы, згодна вашым загадам, крышаць кожную пролетарскую баявую організацыю. Зрада, подкуп, подласьць, якой роўнай няма на сьвеце. Рабочыя ўжо ваююць адзін з адным. Пад шыльдай „Дабро рабочых" і „аднаўленьне народу" організуюцца саюзы, якія заняволіваюць рабочых. Недавер'е да спрактыкаваных рэволюцыйных правадыроў вырасла з вашага атрутнага насеньня ў кожным сэрцы. Вось зноў радасна выпушчаеце вы яшчэ аднаго ў пышным гарнітуры з анархіцкіх фраз. Другія вяшчуюць з трыбун—і вы надта здаволены імі—: „павольна наперад, але часта адхіляючыся ад простага кірунку!" І рабочыя мазгі, якія інстынктыўна знайшлі правільны шлях, пачынаюць хістацца, сілы да барацьбы пакідаюць рабочых, барацьба вядзецца бяз мэты, пляну ды адзінства, і, урэшце: чалавечы крывавы камяк.

А там, дзе няма сыстэмы подкупу, вы карыстаецеся процi паўстаўшых вашай самай вострай зброяй—узброенымі сіламі дзяржавы.

*

А ўсё ідзе, маршыруе, ідзе.

Быццам сама вуліца ідзе да вашых вышыняй,—вы няпрыступныя.

Ідзе, быццам галодная сьмерць, ідзе беспрацоўе, ідуць сухоты, пранцы, п'янства, агідныя негігіенічныя памяшканьні рабочага насельніцтва: усё

ідзе, цяжка ступаючы, павольна і цяжка. Маршыруюць і масавыя могілкі сусьветнай вайны і самагубства, роспач у жыцьці, а за імі зноў—залатуха, пачварства, а побач колёніяльная ганьба, амэрыканскае лінчовае правасудзьдзе, кара сьмерцю, прысуд за прысудам, мільёны гадоў вастрогу, дзіцячая праца, сардэчная лянà, расстройства думак... вялікая брудна-жоўтая дрыгвяністая маса мільёнаў людзей з разьбітым жыцьцёвым шчасьцем.

Ідзе ўціск людзей, высіленьне, скажэньне прыроды, лютая барацьба за існаваньне:

Гэта патоп недарэчнасьці існаваньня, патоп „Нішто“.

Ці ня Вальгалу, ці Олімп хочаце вы штурмаваць!?

Напышліва пяючы псальмы, узносяць папы модлы да хрысьціянскага неба, але дарма, бо ўжо градам сыплюцца па ўсяму сьвету, абернутыя ў сталёвыя кулі, людзкія сьлёзы...

І —

Песьня ідзе.

Маршыруе „інтэрнацыянал“...

*

Як пакойна, бясконца пакойна стаяць перад сваімі судзьдзямі сямёра рэволюцыянэраў, абвінавачаных у „падрыхтоўцы ўзброенага паўстаньня“.

Чатыры, пяць, дзесяць, дванаццаць, пятнаццаць гадоў катаргі.

Вось чаго патрабуе прокурор.

Абвінавачаным даюць апошняе слова.

„Мы стала, няўхільна ішлі да сваёй мэты. Я не пярэчу проці кары, на якую вы мяне засудзілі, калі яна зьяўляецца карай за комуністычны настрой, за комунізм я гатоў на ўсё“.

„Для мяне ўсё роўна, што прысудзіць суд. Дагэтуль я і мае таварышы пакутвалі, я гатоў, калі так трэба, і далей быць у астрожным зьняволеньні за свае пераконаньні“.

„За свае пераконаньні я сядзеў дагэтуль у вастрозе. З-за іх я быў прымушаны адмовіцца ад свайго прызначэньня. Я патраплю, калі вам падабаецца, пакутваць і далей“.

„Грамадзкі лад, які кінуў мільёны людзей у найглыбейшыя няшчасьці, не павінен існаваць далей. У вастрозе зазірнуў я ў найглыбейшае бяздоньне. Мы мяркуем усё гэта зьмяніць. Ваш прысуд дасьць мне, як нагароду, лаўровы вянок на галаву, якога я зусім не заслужыў, бо я толькі звычайны рабочы рэволюцыі. Ня гледзячы на гэта, я горда падніму галаву“.

„Мне зусім зразумела: пакутны шлях пролетарыяту патрабуе вялікіх афяр. Я прывык змагацца і пакутваць за комунізм. Я і далей патраплю прыносіць афяры. Але я разумею—і гэта надае мне сілы—што ўрэшце мы пераможам і перавысім гразь сучаснага абанкручанага грамадзкага ладу“.

І моладзь рэволюцыйнага пролетарыяту героічна далучае свой голас:

„Я горды тым, што з-за сваіх пераконаньняў стаю цяпер перад вамі, высокі суд. Вялікі рабочы правадыр сказаў нам калісь: калі вашы сучасьнікі будуць гуляць у рэсторанах і шантанах, вы з усьмешкай пойдзеце ў вастрог. І вось, калі вы хочаце пасадзіць мяне ў вастрог, я гатоў аддаць усё сваё жыцьцё за барацьбу моладзі і з пагардай займу сваё месца ў вастрожнай камары“.

„Калі вы мяне засудзіце, добра: я спраўджу гэта. Я думаю, што гэта каштуе таго“.

Што гэта за спакой!?

Гэта спакой тых, хто ўпэўнены ў сваёй поўнай перамозе. Толькі адзін крок, адзін малы крок—і справа зроблена. Заўтра, пасьлязаўтра яна ідзе, прыдзе, яна павінна прысьці. Выйсьце барацьбы ўжо вырашана, а калі для замацаваньня перамогі патрэбна яшчэ і пячатка твайго жыцьця, ты дасі яе адразу-ж бадзёра і радасна.

Што гэта за мова?

Гэта мова, на якой гавораць то голасна, то ціха, але ясна і зразумела ва ўсіх часьцінах сьвету. Гэта асноўны тон новай сусьветнай мовы, мовы будучыні. І кожны сапраўдны пясьняр павінен быў-бы на ёй гаварыць.

Ага—вышыня кары; гэта ёсьць цепламер рэволюцыйнай здольнасьці, цепламер тваёй адказнасьці перад чалавецтвам. „Да сьценкі“—ёсьць для рэволюцыянэра, калі гэта патрэбна, крывавая пячатка, якую ён кладзе з крыві свайго сэрца пад весткай: Надыйдзе калісь дзень...

Бо—

„Хто пачынае барацьбу проці бальшавізму, той гіне ўсё глыбей і глыбей. Ён робіцца саюзьнікам монархістых, прыладай імпэрыялістых, потым шпегам і бандытам. На гэтым шляху вярнуцца больш няма куды“. Гэтым шчырым прызнаньнем перад чырвоным рэволюцыйным трыбуналам скончыў адзін самы няўмольны вораг савецкай сыстэмы сваю нясумленную барацьбу проці рабочай і сялянскай рэспублікі—Савінков. Так яно і ёсьць.

## IX

Выбавіцца з гэтых клешчаў, з гэтых нябачных клешчаў, плыўкіх, якія, падобна да мільёнаў мацалаў, пранікаюць праз твае думкі ды пачуцьці якраз у той момант, калі ты лічыш сябе вольным ад іх жалезнай сілы, скінуць усе ланцугі і путы, бо сучасныя вымаганьні, як агнёвы загародны пояс, паклалі граніцы твайму абмежаванаму існаваньню, вырвацца з нажом у зубах з тысячы спакус, сетак, засад. І якія-б ні былі падчалавечыя і вялікія сілы чалавека, але аднаго жыцьця чалавечага мала для гэтага. А ты жывеш далей, жывеш жыцьцём барацьбітоў,

якія стаяць каля цябе і з табой, жыцьцём цэлых пакаленьняў барацьбітоў, якія прыдуць пасьля тваёй сьмерці. Яны будуць змагацца лепш за цябе, з большай верай у канчатковую мэту, больш суцэльна, лепей узброеныя. Яны давядуць барацьбу да канца, і аб ёй вось што будзе сказана:

Яна была найвялікшая, самая прыгожая, самая багатая на перамогі, ня было яшчэ падобнай да яе.

Змагаліся вы ў лятунках, змагаліся запаляльнымі словамі, мэлёдыямі, плякатамі, спрэчкамі, аднастайнымі рытмамі вашага дыханьня, кожным штурхам вашага сэрца, цьвёрдым, адрыўчастым у парных, закураных памяшканьнях вашых фабрык: вы—жывыя машыны.

Цэлыя сьнегазвалы чалавечых мас выкідае з сябе зямля. Лява чалавечай крыві, як пара, паднімаецца з зямлі.

Горы чалавечых трупаў паднімаюцца з глыбіні. Масавыя магілы глынаюць, як тваннае жарало, найлепшых людзей.

Пятля, расстрэл, электрычнае крэсла:

Да дна выпіты келіх горкачы!

Ніводнай кроплі нязьведанай чалавечай пакуты не даруе вам чалавечая зямля, якая прагне чалавечых афяр!

На гэтым, што выгінаецца як параненая вужака, шляху крок за крокам паднімаюцца ў блакітны мэталь неба пірамiды чарапоў. Струмені крыві рассыпаліся пэрлямі. Скідаліся крывавыя хвалі, каціліся. Вялікія гураганы, б'ючы градам, баразьнілі мора крыві.

Хто вы!?
Колёны закапцелых мужчын—
Колёны рабочых кашуль—
Колёны таварышоў, ленінскіх комуністых—
Колёны таварышоў жанчын—
Колёны маладых комуністых—
Колёны беспартыйных-спачуваючых—
Пролетарыят.
Граніт чалавецтва.
Чалавечыя масы, як горы вады—змора гісторыі.
Заваёўнікі сьвету.—

З гор навісалі лясы, як жалобны звон. Скалы грымелі высока ў беспаветранай прасторы.

Ні на воднай дошцы не зьмясьціць імён герояў, якія загінулі ў вялікай клясавай барацьбе.

Будучыя пакаленьні знойдуць струмант, які дасьць магчымасьць адначасова назваць прозьвішча герояў і барацьбітоў усяго сусьвету, палі баёў, вялікія гэроічныя ўчынкі; гэта будзе гучаць як мільённагалосны арган, а ўсё жывое будзе падпяваць хорам.

Кожны зрок тваіх вачэй—барацьба, кожнае валакно твайго сэрца—барацьба, кожны рух тваіх рук—барацьба.

Адзін наперад!

Адзін у сяродак.

Адзін пачынае.

Небасьляпеньне зноў агалашаецца прыпеўкай першай тысячы.

Другая тысяча—

Трэцяя—

Чацьвертая...

Першая сотня тысяч—

Шагам! заварот! стой!

Масавыя протэсты—агульная забастоўка—масавы рух—узброенае паўстаньне— — —

Разьвінаюцца, як вахляр—

Трыумфальны рух гісторыі кідае вялікія штурмовыя хвалі.

Усё—барацьба і рух.

Сама прырода адбівае такт барацьбы.

— — — —

„Хто гэта!?

„Што гэта!?

„Проста—вар'ят!?

„Альбо—?!

„Кінутая гісторыяй бомба нязвычайнай сілы!?“

— — —

Ленін

— — —

„З гэтага цеста замешаны Робэсп'еры, Мараты і яшчэ больш вялікія...“

— — — —

Вы, адзетыя ў сталёвыя панцыры, вялікія баявыя машыны пад чырвонымі сьцягамі, вітаю вас!

Туды!

Ужо бліскае штось, мільгаючы над равамі, поўнымі трупамі загінуўшых ад газаў.

Сталь, руда, вугаль, медзь, мэтал, вада, цэмант, атрута, карэньчыкі глыбіні, самая ценкая кветка на зямлі: пакажы мне рэч, пакажы куток на зямлі, пакажы элемэнт, якія сёньня не змагаюцца.

Таксама птушкі, сонца, зоркі, мора ад чорнага да пурпуравага, горныя сьцежкі і спады:

Усё радуецца і кліча ў бой.—

*

Тысяча год прайшло—я ня лічыў—: але я адчуваю выразна, як песьня перамогі, якую пяе вызвалены народ сусьвету, урываецца ў вір сучаснай

клясавай барацьбы. Нясецца яна з горда і ўрачыста ўзвышаючайся над усімі эпохамі чалавецтва будучыны.

„Таварышы! Баявыя аддзелы!

„Глядзеце, вось жыцьцё, якое вы нам заваявалі! На сонечных гарах: акрылёныя ляцім мы з вяршыні на вяршыню, як па плошчы коўзаемся мы па ветру...

Кранеце нашы целы! Не па гадох жывём мы цяпер: мы—блукаючыя ліхтары жыцьця, мы жывімася вечным, нягасным усёажыўляючым агнём жыцьця...

„Без панаваньня势 пануем мы!

„Яскрава ад адухаўленьня праходзіць кожны чалавек, як зорка па шляху зямлі.

„Што гэта за цяплыня, якая перакачваецца з сьветлавай хваляй праз краіны, да краін, праз моры, да мор,праз поўночнае і паўднёвае канцавасьсі!? Гэта не гольфшторм, не самум, гэта наша новае лета, гэта цяплыня чалавечага сэрца.

„Што гэта за навальніца, што бязмоўна насоўваецца, паднімаецца ўгару, як крышталёвае небаскляпеньне, прылівае гукавымі хвалямі і зноў распадаецца ў праменьні шматкалёрнымі віханьнямі!? Гэта няўтомнае тыханьне чалавечага сэрца.

Як віно шумуе цераз край, так пеніць ад урадлівасьці зямля на кругавідзе. Гэта чалавечая няўмірушчасьць. Гэта чалавечая моц.

„Таварышы! Баявыя аддзелы!

У глыбокай цемры ляжаць нявыказанымі вашы словы. Вы—масты, спляцёныя з чалавечых цел, перакінутыя ў краіны невычарпальнага жыцьцёвага сьвятла!..

Таварышы! Хавайце памяць аб героях мінулага, аб ранах, якія нанесьлі калісь людзі чалавецтву!

„Хавайце радасную памяць!“

*(Канец будзе)*

Перакл. з ням. мовы **Ю. Зэмель.**

# НАД АБРЫВАМ

*Аповесьць*

**Я. Ліманоўскі**

Вясна ў тым годзе наступіла неяк рана. Подыхам некалькіх цёплых сонечных дзён зьмяніўся зімовы малюнак так, што яго аднавіць ужо было нельга. Сьнег пачаў хутка сходзіць, дзе-ні-дзе толькі ляжалі гурбы яго, але і яны страцілі свой задорна белы зімовы колер. Цьмяна-зялёная рунь чаргавалася з шэра-аднастайнымі палосамі старога іржышча і цёмнай, прасякнутай вільгацьцю ральлёй. Абмывае вясна зямельку, поіць яе сокамі, асьвяжае да пладавітае чыннасьці. Даліны заблішчэлі сьветлымі люстэркамі вясновага разводзьдзя, засьвяціліся дыямэнтавымі іскрамі раскалыханых лёгкім ветрыкам хваль. Бурныя каламутныя струмені тысячамі маленькіх вадаспадаў, нібы сьпяшаючыся кудысьці, нібы ўцякаючы ад вясны, пераганяючы адзін аднаго, пераліваюцца з горкі ў далінку, запаўняюць яе, шукаюць выйсьця, разьліваюцца па хмызьняках каля канаў і рэчак. Так чыста і сьвежа ў паветры, кудзеркамі дзіцячых галовак выглядаюць адзінотныя белаватыя хмаркі на небе, гучна разносіцца кожны гук жыцьця над абуджанымі прасторамі. Маўкліва-сумны лес ажывіўся і яскравей віднеюцца праз шызы дымок далі, цяпер больш празрыстыя, быццам прачышчанае цьмянае шкло. Блізкія гаі скінулі з сябе вэлюм, выразна калышуцца ў паветры бязьлістыя верхавінкі дрэў.

Яшчэ з астуджаных нетраў зямлі вее рэшткамі сьцюжы. Ня хоча яшчэ яна ўступіць, чакае прытоена, калі сонца схаваецца за хмарку, дыхне ад залітых балот прасяклым дакучным холадам. Але прабяжыць нясупынная вандроўніца-хмарка, прыгрэе сонейка, і ўжо адчуваецца раніца вясны, а за ёй і цёплае лецейка. Нельга зімовай сьцюжай спыніць прыход вясны, нельга рэшткамі мінулага перамагчы магутны поступ будучыні.

Прыгожая бывае бязрупатлівая раніца ў жыцьці ды імкліва-бурная раніца прыроды.

На дарозе яшчэ ня зышоў лёд, і толькі на горках, дзе больш прыгравае сонца, яго амаль ужо няма. Яшчэ некалькі дзён—і саннай дарогі ня будзе. Ужо і цяпер мала хто едзе. Дроў навязьлі зімой, везьці прадаваць у горад няма чаго, ды і коні нядужыя, каб езьдзіць па гэткай дарозе: трэба даць адпачнуць крыху перад цяжкай працай, перад ворывам. Пуста ў полі на дарозе.

Некалькі фурманак мусіць дзеля пільнай патрэбы павольна цягнуліся адна за другой. У развальнях былі наладаваны скрынкі, сталы, лавы, крэслы ды іншыя рэчы. За фурманкамі ішлі мужчыны, некалькі кабет сядзела на вазох. Там, дзе дарога была заліта вадой, або дзе было больш лёду на дарозе, сядалі на вазы і мужчыны. Ажыўленая гутарка далёка была чутна ў пустым полі.

— Люба глядзець на гэтыя прасторы былых панскіх уладаньняў, па якіх гаспадарчым крокам пройдзе сялянскі лапаць. Толькі як ты там, Батурскі, пасьпееш разьмеркаваць зямлю да пачатку сяўбы,—зьвярнуўся да свайго суседа па фурманцы сярэдніх гадоў невялічкага росту мужчына, белабрысы, з шчуплым, нявголеным шурпатым тварам, з сьветлымі і так падстрыжанымі вусамі, што прыдавалі твару не па веку маладаваты выгляд.

Той, да каго гаварыў, відаць, быў старэйшы, аб чым можна было меркаваць па пустых навіслых брывох і вялікіх, нядбайна апушчаных вусох. З першага погляду можна было пазнаць, што ён негаваркі, замкнуты, сконцэнтраваны ў сваіх думках. Не сьпяшаючыся, пацягнуў разы са два з люлькі і потым, гледзячы неяк убок, адказаў.

— Было-б такой бяды, як дзяліць панскія абшары, як больш. Калі мы, тав. Глебаў, патрапілі ўсю гэту зямельку апрацоўваць калісьці для паноў, апрацоўваць пад бізуном іхнім, то пэўна патрапім яе падзяліць і выкарыстаць,—адказаў Батурскі, нібы нездаволены, што яго трывожаць пытаньнем, якое ён даўно вырашыў.

— Я ведаю, што заўладалі мы гэтай зямлёй, але разьмеркаваць яе правільна і хутка, абсеяць—гэта іншая рэч. Вось мяне і цікавіць: якія ў цябе, як загадчыка зямельнага аддзелу, ёсьць пляны ў гэтым сэнсе.— Апошнія словы Глебаў выказаў, нібы просячы ў Батурскага прабачэньня за сваю цікавасьць, у больш лагодным тоне.

— Разьмеркаваць, ведама, можна будзе толькі часова, а абсяваць прыдзецца больш сродкамі саміх сялян. Якія ў нас сродкі, ты-ж ведаеш сам. Ня ўсё пойдзе гладка, як нам пажадана, але-ж хіба аддамо назад зямлю і яшчэ шмат чаго. Справімся сваімі агульнымі сіламі. А ты мне ляпей скажы, ці хутка нам удасца адбіцца ад зграі, што абкружае нас?— спытаў Батурскі, каб толькі зьмяніць гутарку і не закранаць справу, якая яму даручана і з якою ён справіцца.

Пры апошніх словах Батурскага да іх падышоў малады хлапец, з крыху рэзкімі рысамі бледнаватага твару, якому цёмныя валасы і неяк шырока адкрытыя карыя вочы надавалі ўдумлівую выразнасьць.

— Праўду ты кажаш, Батурскі, што зграя абкружыла нас. На ўсходзе дыміцца барацьба, на захадзе віднеюцца таксама цёмныя хмары. А калі будзе ў нас сапраўдны супакой, магчымасьць мірнае працы—невядома. Мусіць, ня хутка,—дадаў ён свае заўвагі, папярэдзіўшы адказ Глебава.

— Трэба яшчэ тут у нас жорсткай мятлой правесьці. Усюды яшчэ поўзаюць і сыкаюць гады, шмат яшчэ бруду. Трэба шчысьціць усё гэта, абмыць, крывава абмыць, асьвяжыць паветра. Тады толькі ніякія там хмары, пра якія кажа Карпіцкі, не засьцелюць кругавіду,—разважаў Батурскі, і ў голасе яго чулася пагроза і злосьць.

— Ты занадта вялікае значэньне прыдаеш барацьбе з адзінкамі, тады як нам трэба весьці барацьбу з масавым, організаваным ворагам,—супярэчыў яму Глебаў.—Калі з гэтым галоўным ворагам ня справімся дык усякае іншае змаганьне будзе дарэмным.

— Не, трэба душыць і адзінкі, душыць зараз гэтых вінавайцаў нашага прыгону, крыўды і нэндзы. Яны спрабуюць павярнуць усё назад, а мы будзем іх шкадаваць. Мы іх павінны біць, дзе-б яны ні былі і што-б яны ні рабілі, калі толькі вінаваты за мінулае. Перш за ўсё...

— У цябе, Батурскі, шмат упэўненага задору маладога байца,—перабіў яго Глебаў,—толькі тое, што ты кажаш, ня зусім правільнае і зусім не галоўнае, куды трэба было-б зьвяртаць увагу. Вось у цябе шмат ёсьць упартасьці і настойлівасьці, толькі ўсё гэта нейкае асабістае, накіраванае на нешта спрэчнае, нявырашанае.

Батурскі нічога не адказаў. Навіслыя, як кусты лазьняку над рэчкай, густыя бровы згусьціліся яшчэ больш, хаваючы глыбока запалыя вочы. Погляд іх быццам шкадаваў за выказаную ў гутарцы шчырасьць, быццам гаварыў „гэта так сабе, выпадкова сказана“.

Карпіцкі таксама спыніў пачатак гутаркі, бо лічыў за дарэмнае спрачацца з Батурскім. З Батурскім ён ня мог ніяк зблізіцца, дзякуючы замкнутай неабыходлівай натуры апошняга, тады як Карпіцкі, самы бадай малодшы з сваіх таварышоў па працы, быў больш уражлівы да захапленьня падзеямі і сваёй рольлю актыўнага ўдзельніка іх. Вось і цяпер вясновае надвор‘е ўзьнімала ў ім настрой бадзёрай сьвежасьці, а пераезд на новае месца абуджаў цікаўнасьць да новага, неадчутага. Наогул, апошнія гады жыцьцё кідала яго ў розныя месцы і паказвала шмат незабыўных малюнкаў. Вайна, фронт, рэволюцыя, нямецкая окупацыя, ізноў прыход савецкае ўлады, праца ў выканкоме, пашырэньне тэрыторыі павету і цяпер пераезд выканкому ў сваю, на нова абраную, павятовую сталіцу. Колькі за гэты час давялося перажыць, адчуць, колькі зьяў прайшло перад вачыма, зьнікла, зьмянілася новымі, пакінуўшы часам незацёрты сьлед. Мала часу—шмат жыцьця. Бурліва хутка бяжыць, не дае пазнаць, глыбей адчуць. Мяняюцца малюнкі так вось, як сёньня малюнкі раньняе вясны на ціхіх прасторах.

З узвышша, па якому ехаў цяпер абоз, ужо відаць былі кляштарная вежа, верхавінкі старых ліп каля кляштару і побач верхавінкі дрэў нейкага гаю ці гарадзкога саду. Была відаць дальняя частка гораду, а бліжэйшая хавалася ў зломе паміж горкамі. Спушчаючыся па ўзвышшы бліжэй да гораду, раскрываліся больш шырока малюнкі ўсіх іншых частак

гораду, ад магілак-жа можна было акінуць вокам ужо і ўвесь горад,— невялічкі, з шэрымі амшэлымі стрэхамі. Праз некалькі завілых вузкіх завулкаў з маленькімі драўлянымі домікамі, невялічкімі гародамі каля іх. часам з садкамі і гародчыкамі, фурманкі выехалі на галоўную вуліцу. Тут таксама мала было падабенства да сапраўднага гораду. Купкі гною па бакох вуліцы і нязгрэбены пласт гною па ўсёй вуліцы, залітай вадой, якая ня мела стоку, рабіла ўражаньне нейкага выгану. Каля крамак, з нявысокімі драўлянымі сходкамі і з паіржавелымі шыльдамі, было нацярушана багата сена, саломы ды іншага сьмецьця. Па вуліцы бадзяліся каровы, козы, падбіраючы нацярушанае сена. Аднапаверхныя мураваныя дамы чаргаваліся з драўлянымі. Старыя іржавыя шыльды над крамамі і былымі ўстановамі, некаторыя з іх на нямецкай мове, сьведчылі, разам з іншымі рэшткамі мінуўшчыны, што тут зьмены жыцьця пасьля рэволюцыі адбываюцца няпрыкметна, павольна.

Каля партыйнага клюбу, які месьціўся ў доме былога фабрыканта, невялікім, драўляным, памаляваным у зялёны колёр, з разьбой каля вокан і страхі, сабралася каля паўтары сотні людзей для спатканьня падарожных. Частка, відаць, прышла організавана, бо мела чырвоныя сьцягі; рэшта пазьбіраліся, мусіць, дзеля цікавасьці. Пачаўся мітынг. З балькону дома пачалі рабіць прамовы. Першым выступіў сакратар партыйнага камітэту Штэйнман. Ад размаху рук шырока растапырваліся полы стараватага паліта. Скамканая кепка вандравала ў паветры разам з рукой, валасы, ускудлачаныя ветрам. Усё гэта, разам з простымі выказанымі са шчырасьцю думкамі, прыцягвала да Штэйнмана ўвагу, прымушала слухаць адных уважліва, іншых з усьмешкай на твары. Штэйнман вітаў прыежджых і выказваў упэўненасьць, што, пасьля такога пашырэньня тэрыторыі, можна будзе наладзіць ляпей працу на карысьць працоўных.

Пасьля Штэйнмана выступала яшчэ некалькі таварышоў. Нарэшце, прышла чарга выступаць Карпіцкаму. Як заўсёды, з пачуцьцём і са ўздымам пачаў ён гаварыць пра падзеі, пра задачы ў працы. „Ворагі плывуць цёмнай хмарай... незакончаная барацьба, цяжкасьці голаду і зруйнаваньне патрабуюць упартай, напружанай працы... барацьба павінна быць упартай, бязьлітаснай...“—адно за другім пералічаў Карпіцкі. „Мы пераможам, калі асабістае, прыватнае прынясем у ахвяру агульнаму, грамадзкаму. Мы дасягнем шчасьця, калі сваё ўласнае шчасьце будзем гатовы зьнішчыць, адракчыся ад яго дзеля шчасьця ўсіх...“—гаварыў Карпіцкі са шчырым пачуцьцём у заканчэньне сваёй прамовы. У гэтую хвіліну, акідваючы поглядам грамаду, Карпіцкі з усяе грамады больш выразна прыкмеціў адну дзяўчыну. Стаяла яна збоку ад натоўпу на бярвеньнях, каля парка. Яна, відаць, увесь час глядзела на Карпіцкага, а цяпер яе пранікліва-пытлівы погляд спаткаўся з яго поглядам пры заключных словах і выклікаў нечаканае замяшаньне ў думках. Скончыў Карпіцкі прамову, адышоў у кут балькону і, схаваны вецьцем хвоек, якімі аздобілі балькон,

пакуль гаварылі іншыя прамоўцы, пачаў няпрыкметна аглядаць дзяўчыну. Стаяла недалёка і разглядзець яе можна было досыць добра. Зграбная, хілкая постаць, абрысы якой адзначаліся з-пад лёгкай, адпаведнай часу вопраткі, прыдавала ёй выгляд вясеньняй жывасьці. З-пад капялюша часам выбівала ветрыкам пасмы цёмных валос; праворным рухам рукі яна лавіла іх і хавала зноў пад капялюш. Але большае ўражаньне выклікаў яе пранікλівы погляд. Было ў ім нешта нязвычайнае, асаблівае, моцнае, што не праходзіць бяз сьледу. Дакор, а мо' адабрэньне? Запытаньне, згода ці пярэчаньне? Усё аднолькава глыбока пранікала ў душу і пакідала там свой адбітак. І ўсё ў ёй гэтак проста, натуральна, так загадкава, незразумела толькі таму, што Карпіцкаму цяжка было разабрацца ад нечаканасьці і моцы ўражаньня.

Кончыўся мітынг, пачалі разыходзіцца прысутныя, даўно ўжо ад'ехалі фурманкі ў вызначанае месца. Карпіцкі таксама накіраваўся паглядзець, дзе разьмяшчаюцца аддзелы, а ў думцы і перад вачыма стаіць вобраз нейкай незнаёмай дзяўчыны.

Побач з кляштарам, пасярод старога цяністага парку, стаяў нявеτлівы, пануры, як мінуўшчына, стары драўляны палац (кажуць, што ўладар яго і пабудаваў калісьці гэты кляштар). Вя̓лізны будынак палацу толькі ў адным канцы быў двухпаверхны, а пад ім цёмныя з маленькімі, каля самай зямлі, вакенцамі памяшканьні для службы. Памяшканьні яшчэ больш зацямняліся старымі, напалову высахлымі кустамі бэзу і язьміну, што расьлі каля сьцяны палацу. Гонтавая страха пачарнела, месцамі струхлела, прадзіравілася і абліпла высахлым мохам. Нявысокая драўляная вежа, адзіная на ўвесь палац, абгніла, вецер пазрываў кавалкі яе страхі, і тырчэла яна аголенай асновай, у цёмных кутох якой вераб'і зьвілі гнёзды. Сходкі высокага, з драўлянымі слупамі, ганку прагнілі і рыпалі пад нагамі; на гэтых-жа слупох трымалася шырокая вэранда-балькон з узорнымі дошкавымі поручнямі, калісьці памаляванымі ў жоўты колер.

У сярэдзіне будынак прарэзан удоўж цёмным калідорам. Шырокія пакошаныя дзьверы, сьцёртая брудная падлога рабілі ўражаньне, што гэта не палац, а кашары.

І запушчаны, без пасыпаных пясочкам дарожак, стары парк навокал, і няпрытульна-стары будынак палацу сьведчылі аб тым, што ён ужо даўно страціў сваю веліч і прыгожасьць і стаіць, асуджаны на руіны і забыцьцё.

Цяпер у пануры́х, прытульных пакоях будынку аддавалася гучнае рэха. Пасьля пэўнага часу заняпаду стары палац ажыў нязвыклым для яго жыцьцём. Сталы, шафы, лаўкі, крэслы разьмяшчаліся па пакоях і кутках. Рэзка, няпрыемна рыпалі цьвікі пры распакоўцы скрынак. Спрачаліся паміж сабой супрацоўнікі за лепшыя больш сьветлыя месцы ў пакоі. У гэту мешаніну гукаў уразаўся часам званочкам ценкі галасок

і сьмех супрацоўніц. Пакоі напаўняліся ня зусім зграбнай мэбляй. Карысталі кожны куток. У палацы разьмясьціўся выканком, некаторыя з яго аддзелаў і павятовы ваенны камісарыят. Два пакоі займалі аддзелы камісарыяту, а трэці—габінэт Карпіцкага. Зайсьці ў гэты пакой можна было не з калідору, а з канцэлярыі праз маленькія дзьверы, так шчыльна дагнаныя да сьценкі, што выглядалі, нібы тая шафа з палічкамі да начыньня. Пад вакном пакоіку разложысты куст язьміну, роўны, зялёны газон, а за ім парк.

Паміж палацам і кляштарам парк быў стары, цяністы, ён спушчаўся нястромкімі спадамі да ракі, там радзеў і каля самай вады канчаўся кромкай вербалозаў. А ў тыле, за палацам, выламаны ветрам і недагледжаны, меў выгляд недасечанай дзялянкі, дзе паміж рэдкімі старымі дрэвамі не ўзьняліся яшчэ маладыя парасткі. З гэтага боку парку, за часовай, з калючага дроту, агарожай расьцілалася роўнае поле. У парку здаўна разьвялося нязвычайна многа гракоў. З крыкам, лопатам скрыдлаў уюць цяпер яны гнёзды, б'юцца за старыя, гатовыя, зграямі кружаць над паркам. Штодзень далёка ў ваколіцы чуваць іх карканьне.

Пакуль супрацоўнікі выканкому разьмяшчаюць свае канцэлярскія варштаты, супрацоўніцам рупіць агледзець парк. Асабліва рупіць гэта тэхнічнаму сакратару выканкому Зосі Некруш, досыць маладой, каб захапляцца прыродай і... цікавейшым хлопцам. Ніна Лапко, журналістка Сабезу, менш захапляецца прыродай і менш вымагальна да якасьці об'ектаў свае ўвагі. Маленькая, худзенькая, з востранькім сьмешна-кірпатым носам, шырокім ротам і густа пасеянымі цёмна-рыжымі, колеру ільнянага насеньня, плямкамі на твары і з нейкім асаблівым закаханьнем да шырокай, сфалдаванай, як гармонік, спадніцы з фальбонамі. Не прэтэндуючы быць прыгожай, яна лічыць, што лепш ня траціць часу на адшуканьне надта добрага хлопца і браць таго, які пападзецца.

— Ты глянь толькі, Ніна, які прыгожы парк. Ну проста нейкі рай. Вось добра будзе летам у месячную ночку памарыць з кім-небудзь. Шкада толькі,—дадае Зося з пэўным расчараваньнем,—няма лавак, спалілі, пэўне, мяшчане.

— Было-б толькі з кім, а месца для спацыру можна знайсьці і бяз парку. За горад можна пайсьці,—адказвае тонам практычнага чалавека Ніна.

— Чаму ня будзе з кім, горад не маленькі, жывуць-жа, пэўне, у ім людзі, жывуць ня толькі старыя, але і маладыя. Пазнаёмімся з тутэйшымі.

— А ня будзе тутэйшых—і сваіх ёсьць шмат.

— Мне свае неяк не падабаюцца,—адказвае Зося, зморшчыўшы лобік:—Шатур—нейкая няздара, Батурскі—стары ўдавец, Шпідэльскі—нішто сабе, а Карпіцкі быў-бы зусім цікавы, толькі нейкі паважны, не даступіцца. Забалотны хіба больш-менш нішто, але раней ён мне больш падабаўся.

— Памойму, дык Рагульскі куды цікавей за Забалотнага.

— Дык гэтаму-ж Баханская галаву закруціла, мусіць, хоча выйсьці за яго замуж. З Прытульскім, напрыклад, няможна зьлюбіцца, ён толькі жарты строіць і нічога сур'ёзнага не прызнае. Так, вясёлы хлапец.

— Навошта трэба табе яшчэ зьлюбіцца. І так добра.

— Няцікава так. Ах, як шкода, што няма лавак! А можа выканком зробіць у парку парадак і паставіць лаўкі. Пойдзем на бераг ракі, паглядзімо, дзе там можна будзе купацца. Толькі тут каля парку, пэўне, будуць перашкаджаць.

— А ты не зьвяртай увагі, купайся дый годзе.

* *
*

У пакой Карпіцкага ўвайшла Зося Некруш. У белай кофтачцы, з шырокім адкладным пад дэкольтэ каўнерыкам, вузенькай і кароткай чорнай спаднічцы яна была вельмі падобна да гімназісткі, і толькі рост (вышэй сярэдняга) і зачасаныя высокім чубам над лобам валасы прыдавалі ёй выгляд дарослай і досыць прыгожай дзяўчыны. У меру востры ценькі носік, белы худаваты твар, жывыя рухлівыя вочы дадавалі ёй лёгкай прывабнасьці.

— Таварыш Карпіцкі, зараз у пакоі тав. Рыбакова будзе пасяджэньне прэзыдыуму выканкому, дык вось я зайшла паведаміць вас,— прамовіла яна з задорнай усьмешкай і павярнулася для большай, мусіць, элегантнасьці бокам да стала, прыстаўшы больш на адну нагу.

— Пасяджэньне? А чаму вы ідзеце паведаміць самі, раней гэта рабіў пасыльны.

— Я толькі да вас зайшла,—і праз хвілінку дадала, як-бы інтрыгуючы,—хацелася пабачыць вас і зайшла.

— А, вось яно што, дзякую за ўвагу,—засьмяяўся Карпіцкі і зусім паважна адказаў,—добра, я зараз прыду.

Зося пастаяла хвілінку, як-бы шукаючы, што яшчэ сказаць, але, убачыўшы, што Карпіцкі ўзяўся за ручку, каб нешта пісаць, павярнулася і лёгкімі, частымі крокамі пайшла да дзьвярэй.

Скончыўшы разглядаць паперы, Карпіцкі падняўся на другі паверх, дзе месьціўся прэзыдыум выканкому. У першым пакоі, занятым канцэлярыяй, дзьве сьцяны былі застаўлены да самай столі палічкамі з кнігамі ў старых скураных аправах. Густы пласт пылу і павуціньня сьведчылі аб тым, што гэтымі кнігамі ўжо даўно ніхто не карыстаўся. Побач са старымі канцэлярскімі сталамі выканкому і старой канцэлярскай шафай, гэтыя кнігі і ўся мэбля пакою напаміналі сабой памяшканьне архіву.

— Сядзіцё вы тут, як профэсары,—пажартаваў Карпіцкі, кіўнуўшы галавой Зосі, і, адчыняючы дзьверы ў пакой старшыні, дадаў,—а тут нібы танцкляс.—І сапраўды, гэты пакой быў здатны толькі для танцклясу. Вялікі, з гладкай, немалёванай падлогай, бяз усякай мэблі; раней за

ўладаром палацу тут, мусіць, спраўлялі балі. Вокны—толькі ў аднэй канцавой сьцяне, паўкруглай па форме. Адсюль адкрываўся прыгожы малюнак на парк і раку ў доле.

Бліжэй да вокан, навакол невялікага століку старшыні выканкому, сядзела ўжо некалькі чалавек, гутарачы паміж сабой да адкрыцьця пасяджэньня.

— Я думаю, што пара нам адкрыць пасяджэньне, — прамовіў старшыня выканкому Рыбакоў, з поўным круглым тварам, крыху цьмянага колеру ад няголенай тыдні два барады. Нерасчэсаныя валасы, вузкія, прыжмураныя, хітраватыя вочы, незашпілены каўнер „касавароткі“ рабілі ўражаньне, быццам ён не даспаў. Пры гутарцы ня мог утрымацца, каб не махаць рукамі, асабліва там, дзе яму быццам не хапала слоў выказаць думку.

— Няма яшчэ загадчыка грашовага аддзелу,—азваўся Батурскі.

— Паставім раней тваё пытаньне, тымчасам надыйдзе і ён. Даклад ты сам будзеш рабіць?

— Не, рабіць даклад я даручыў лесаводу Рэксу.

— Няма пярэчаньняў, каб пачаць пасяджэньне? Слова мае т. Рэкс.

Рэкс высокі, гадоў пад 40, блёндын, з закручанымі ўгару вусамі, азірнуўся на прысутных, нібы жадаючы запэўніць аб сваёй гатоўнасьці ня толькі рабіць даклад, але і выканаць даручэньне, пачаў дакладваць, чытаючы праз кожныя дзьве-тры хвіліны паперкі, якімі багата была запоўнена яго папка. Даклад датычыўся самавольных парубак лесу. З лічбамі і табліцамі ў руках, Рэкс падлічаў, колькі было лесу да вайны, колькі яго высечана за вайну, колькі высякаецца цяпер, па плошчы і па ліку драўніны,—і нават падлічаў, на які час хопіць лесу, калі ён у далейшым будзе высякацца гэткім парадкам.

Рыбакоў слухаў вяла дакладчыка, маляваў сабе нешта на каробцы ад папярос, рэшта курылі адну папяросу за другой, расьсеўшыся выгадней на старых, абдзёртых ужо, мяккіх крэслах. Над сталом плылі хмаркі шызага дыму, радзелі, расьсяваліся па вялізным пакоі.

— А ты ведаеш, Карпіцкі, што Рэкс хоча запісацца ў комуністыя,— прамовіў седзячы побач з ім сакратар партыйнага камітэту, Штэйнман.— На гэтых днях зайшлі яны з Батурскім у партком пагутарыць наконт водпуску дрэва на пабудову пагарэльцам Забалоцкай воласьці. Пагутарылі аб справе, потым, калі Батурскі пайшоў, Рэкс астаўся чамусьці, і мы пачалі гутарыць з ім аб розных прыватных рэчах. Перайшлі да пытаньня аб комуністых, ён мне і кажа: „вы ня лічыце мяне буржуйскім спэцам, я калісьці ў Інстытуце, як быў студэнтам, вельмі блізкі быў да соцыялістычнага гуртка,—я і цяпер спачуваю комуністым і нават часам думаю, ці не запісацца мне ў комуністыя. Вось толькі паеду дадому і з жонкай параюся“. Дык, бачыш, у нас адным комуністым і болей будзе,—яшчэ цішэй прамовіў Штэйнман і засьмяяўся разам з Карпіцкім.

— Ну, што-ж ты яму адказаў?

— Згадзіўся з ім, што гэткія справы трэба вырашаць у сям'і, колектыўна,—адказаў Штэйнман і замахаў рукой каля носу, адганяючы дым. Адшпіліў гузікі сваёй аксамітнай стараватай сьвіткі і слухаў далей даклад. На твары барада і вусы чамусьці не расьлі, а толькі паасобныя валаскі кусточкамі дзе-ні-дзе тырчэлі, як расьліннасьць на неўрадлівай глебе, ды яшчэ зморшчкі на шчоках і каля шыі клалі на твары адбітак прастаты і дабрадушнасьці.

Рэкса папрасілі, каб не зацягваў даклад, і ён цяпер сьпяшаўся, відавочна шкадуючы, што не патрапіць прачытаць усіх паперак і асабліва шкадуючы, што ня прыдзецца расказаць падрабязна пра парадкі, якія існавалі ў казённых і, асобна, у панскіх лясох.

— Вы бачыце, канчаў ён, што я ўсё раблю, каб захаваць лес, каб ён не вынішчаўся, і нічога не магу зрабіць. Дайце загад, якія меры ўжыць у далейшым. А я ўжо буду як мага бараніць і ахоўваць лес, бо калі ён загіне, дык уся наша гаспадарка прападзе без яго,—гаварыў Рэкс і ў тоне яго гучэлі ноткі, нібы сапраўды ён здольны ратаваць ад загубы нешта каштоўнае, вялікае.

— Трэба ўжыць жорсткія меры, каб завесьці парадак у лесе,—пачаў першы гаварыць Рыбакоў.—Там, дзе ў гаспадара нарублены лес і няма дазволу на гэта, трэба конфіскаваць, аштрафаваць, для злоўленых на месцы пасечкі павысіць кару, павялічыць штат лясьнікоў, падцягнуць увесь лясны і міліцэйскі апарат.

— Далёка з гэткімі сродкамі не паедзеш,—перабіў яго Глебаў.— Чаму высякаюць лес? Палова павету вынішчана старым фронтам, паласа ў вёрст сорак ня мае нават маленькай лазьні, ня то што хаты,—усё спалена і зьнішчана. Насельніцтва жыве ў зямлянках.

— Трэба адпушчаць лес па пляну, організаваным парадкам, а не згаджацца з вынішчэньнем яго самавольнымі пасечкамі,—перабіў яго Рыбакоў.

— Паспрабуй скласьці хутка такі плян, калі яшчэ ва ўстановах няма сталоў, няма на чым сядзець,—адказаў Батурскі і змоўк, як-бы ўпэўнены, што яго не зразумеюць і палічаць вінавайцам зьнішчэньня лесу.

— Дайце толькі загад—усе сталы і мэблю ў горадзе пазабіраю і зьвязу ў аддзелы,—уставіў сваё загадчык комунальнага аддзелу Прыпечка, карыстаючыся тым, што ўсе змоўклі.

Абмяняўшыся думкамі, прышлі да вываду—не напіраць асабліва на карныя мерапрыемствы і адначасна з барацьбой проці самавольных пасечак павялічыць водпуск лесу.

Пасяджэньне зацягнулася дзякуючы гарачым спрэчкам, якія разгарнуліся па пытаньні барацьбы з зялёнымі. Батурскі не згаджаўся з тым, што адабраную ад удзельнікаў у зялёных бандах маемасьць павінен быў разьмяркоўваць паміж бяднейшых сялян земаддзел абавязкова з удзелам

міліцыі. Паміж ім і начальнікам міліцыі Арцюхіным узьнікла сапраўдная лаянка.

— Прычым тут міліцыя, абыйдзецца і без яе, самі ведаем, каму аддаць,—супярэчыў Батурскі.

— Батурскі з кожным не згаджаецца, абы толькі сваё я паказаць. А я кажу, што бяз міліцыі нельга. Калі міліцыя будзе адбіраць, дык павінна ведаць, каму маемасьць будзе аддавацца, павінна праконтроляваць,—гарачыўся Арцюхін, малады яшчэ хлапец, у цёмна-бурдовым фрэнчы, падпяразаным шырокім паясом з наганам так, нібы гэты пояс проста падтрымліваў жывот, а не павешаны на ім наган.

— Бачыце, які контроль знайшоўся, без яго дык ніякай справядлівасьці ня будзе. Ты сапраўдных злодзеяў праконтролюй і вылаві,—ня ўнімаўся Батурскі.

— А вось-жа я цябе праконтролюю, такі загад выдадуць, і ты яго будзеш выконваць. Час ужо табе пазбыцца сваіх анархічных прывычак і стаць комуністым ня толькі па білету.

— Ад цябе буду вучыцца? Справа міліцыі—ня тыкаць носу куды ня трэба, не валэндацца з каровамі, якія і бяз міліцыі знойдуць сваё месца. Нарутовіч вунь ходзіць па горадзе і адкрыта бунтуе, адкрыта выступае процi савецкай улады, дык міліцыя не дагадаецца яго арыштаваць, ніхто не дагадаецца выдаць міліцыі такі загад.

— А ўсё гэтыя кудлатыя і стрыжаныя, што гавораць са сваіх сьвятых амбонаў і прапаведваюць анафему савецкай уладзе,—падтрымаў загадчык аддзелу асьветы Шатурскі, які лічыў сваёй задачай больш энэргіі аддаваць барацьбе з рэлігіяй і духоўнікамі. На сялянскіх сходах ён так захапляўся сваёй антырэлігійнай пропагандай і часам так неасьцярожна выступаў, што выклікаў якраз адваротныя настроі.

— І годзе табе, Батурскі, спрачацца,—знайшоў каго арыштоўваць—Нарутовіча: той ужо зьдзяцінеў ад старасьці, ніхто з ім ня лічыцца і ня слухае яго брэдняў,—перапыніў спрэчку Глебаў.—А Шатуру таксама варта не забываць, як я яго бараніў на кірмашы ад сялян. Пэўна забілі-б, каб ня я,—так пераканаў іх у адсутнасьці бога. Робіцца ўсё тое, што мэтазгодна, і няма чаго тут шукаць нейкіх вінавайцаў. Пытаньне досыць яснае, я прапаную паставіць на галасаваньне.

Глебаў мала выступаў, але яго прапановы былі добра абдуманыя і практычныя. У часе гарачых спрэчках яго выступленьні былі, нібы халоднай вадой на галаву. Даставалася абодвым бакам ад яго трапных заўваг. Вось і цяпер Арцюхін ускочыў, хацеў яшчэ чымсьці ўкалоць Батурскага, але спыніўся і сеў на сваё месца.

Пасьля вырашэньня яшчэ некалькіх дробных пытаньняў, пасяджэньне закрылася, і Карпіцкі пайшоў у свой пакой скончыць разгляд папер. Праз поўгадзіны і ён накіраваўся дамоў. На верхавінах старых ліп,

апранутых густой зелянінай лістоў, ня сьціхаў гоман гракоў. Пасьля душнага накуранага пакою, пасьля шумных спрэчак і напружаных думак агарнула прыемным цяплом засені і пахам маладой зеляніны. Глыбокім подыхам грудзі набіралі разам з вясновым цяплом нейкіх неадчутых новых настрояў, жаданьняў жыцьця,—новыя далі адкрываліся думкам. Так лёгка на душы, такое гарэзьліва-радае адчуваньне чакае цябе, шчасьлівае, несправабаванае.

Карпіцкі ішоў павольным крокам праз цяністыя прысады парку, вымашчаныя ў часе вайны драўлянымі плашкамі ад ганку да брамы парку.

На вуліцы ня было высокіх дрэў і нізенькія драўляныя домікі не перашкаджалі сонечным праменям дасягаць няроўнага бруднага бруку. Вуліца пачыналася ад брамы парку. З аднаго боку яе быў кляштар, атулены такімі-ж, як у парку, старымі ліпамі цьвінтару, адгароджанага старой мураванай сьцяной, а з другога—на пэўнай адлегласьці паміж сабой стаялі драўляныя домікі з гародчыкамі, лавачкамі ў іх, пад кустамі бэзу ці язьміну, з ганкамі, часам аплеценымі дзікім вінаградам ці хмелем.

Карпіцкі заўважыў, як у гародчыку перад кляштарнай брамай пара дзявочых вачэй пільна прыглядаюцца да яго, мусіць, з таго часу, як ён вышаў з парку ды ішоў па пустой вуліцы. На каленях у дзяўчыны ляжала разгорнутая кніжка, і яна, як здалося Карпіцкаму, нейк бязудзельна, дзеля звычайнай цікавасьці, разглядала яго. Карпіцкі не павярнуў нават галавы, толькі няўцямкі скіраваў погляд у яе бок, каб разгледзець лепей. Прыемна зьдзівіла яго тое, што дзяўчына з кніжкай на каленях аказалася тэй самай, якую ён бачыў калісьці з балькону на мітынгу.

Карпіцк', хоць не выпадала яе пільна разглядаць, пераканаўся яшчэ раз у нязвычайнай прывабнасьці гэтай незнаёмай дзяўчыны. У летняй сукенцы, з непакрытай галавой, сярод кустоў зеляніны яна здалася Карпіцкаму нейкім сымболем вясны, яе ажыцьцяўленьнем. Можа агульны настрой Карпіцкага, усхваляваныя думкі былі прычынай, што на гэты раз вобраз дзяўчыны пакінуў яшчэ больш выразны і глыбокі сьлед у яго выябражэньні.

Цяпер Карпіцкі ўжо ведаў, дзе яна жыве. Ідучы дадому, амаль штодня ён бачыў яе ў гэтым самым гародчыку. Здавалася Карпіцкаму, што яна быццам знарок чакала, калі ён пойдзе дадому, выходзіла ў гародчык, сядала на лаўцы і або чытала што-небудзь, або проста сядзела і прыглядалася да высокіх ліп на цьвінтары. І ня было ўжо цяпер у яе абыякасьці, а погляд быў такі пранікліва-востры, як калісьці там, каля балькону. Амаль штодзенныя сустрэчы не давалі, аднак, магчымасьці Карпіцкаму пазнаёміцца з ёю. Цікавасьць да дзяўчыны ўсё больш і больш нарастала, прыцягвала павабнасьцю і разам з тым здавалася, што яны так і астануцца далёкімі, незнаёмымі.

## II

Пасьля полудня Карпіцкі зайшоў да Глебава, каб разам з ім пайсьці на мітынг, організаваны партыйным камітэтам у народным доме. Пераступіўшы парог, Карпіцкі спыніўся неяк ад зьдзіўленьня і нечаканасьці. Каля століку, на крэсьле, проці Глебавай жонкі, Тацяны Мікалаеўны—кабеты нявысокага росту, поўнай, з адзнакамі патлусьценьня, досыць значным покатам грудзей і амаль з заўсёднай усьмешкай на круглым твары,—сядзела тая самая незнаёмая дзяўчына, якая так часта займала думкі Карпіцкага ў апошнія дні. Калі ўвайшоў Карпіцкі, яна разам з Тацянай Мікалаеўнай устала, глянула ў бок Карпіцкага, потым перавяла погляд на Тацяну Мікалаеўну ды зноў села на крэсла, нібы ня ведала, што ёй рабіць. Карпіцкі падышоў да гаспадыні, прывітаўся і нерашуча чакаў, пакуль яго пазнаёмяць. Тацяна Мікалаеўна спачатку не здагадалася гэтага зрабіць і, калі ўжо пастаялі хвілінку, схапілася.

— Выбачайце, што я запомніла вас пазнаёміць, гэта,—Тацяна Мікалаеўна зьвярнулася да дзяўчыны,—наш павятовы вайсковы камісар, таварыш Карпіцкі, пазнаёмцеся, калі ласка, а гэта,—сказала Карпіцкаму,—мая суседка па месцы нараджэньня.—Дзяўчына ўстала з крэсла, падала Карпіцкаму руку і назвалася „Мірская“. — І які, — дадала Тацяна Мікалаеўна, — камісар, што, узяўшыся за свае камісарскія справы, не заўважае нават ні вясны, ні такога цудоўнага паветра, ні ўсіх пякнот навокал.

— А чаму вы думаеце, што не заўважае,—спыталася з усьмешкай тая.

— Я, Таіса, ведаю добра т. Карпіцкага. Ён вельмі падобны вось на майго мужа. Для таго таксама нічога ня існуе на сьвеце. Нават папалуднаваць часам запамінае. Пачнеш аб чым гаварыць, дык кажа, што ўсё глупства, бабскія развагі. Ну, дык ён ужо старэйшы, яму можна дараваць, а вам, тав. Карпіцкі, ніяк нельга гэтага.

— Ды я зусім, Тацяна Мікалаеўна, ня супроць ні вясны, ні яе лагоднага паветра, ні зеляніны, — адказаў, сьмяючыся, Карпіцкі, — малавата толькі вольнага часу, і я ня хочу занадта захапляцца ўсім гэтым. Спакайней жыць так.

— А можа прыдзецца захапляцца паміма вашага жаданьня,—прамовіла, першы раз зьвярнуўшыся да яго, Таіса.—Вы, пэўне, ведаеце прыслоўе: „гані прыроду ў дзьверы, яна ўляціць праз вакно“.

— Калі шчыльна зачыніць вакно і дзьверы, тады не ўляціць.

— Хіба-ж прыдзецца сядзець у цемры, бо сьвет пранікае толькі праз адчыненыя вокны.

— Можна запаліць сьветач у пакоі і будзе сьветла нават пры зачыненых вокнах. Пры тым вакно душы нешта іншае, чымся вакно ў пакоі.

— Але-ж для сьветачу патрабуецца гаручы матэрыял. Трэба мець пэўны запас гэтага матэрыялу, бо без яго ўсё роўна сьветач згасьне.

Вось і прыдзецца не сядзець з зачыненымі вокнамі, а пайсьці кудысьці, шукаць гэтага гаручага матэрыялу,—спрачалася Таіса.

— Ну, цяпер гаручага матэрыялу ў такую прыгожую вясну, мне здаецца, аж занадта ёсьць,—напірала Тацяна Мікалаеўна, абапершыся на сьпінку крэсла сваёй тлустай, адкрытай амаль да пляча, рукой.

— Не, Тацяна Мікалаеўна, і...

— Таіса Андрэеўна,—падсказала яму Тацяна Мікалаеўна.

— І Таіса Андрэеўна,—паўтарыў Карпіцкі,—гаручы матэрыял трэба мець у сабе, а ня шукаць дзесьці. Трэба мець такі гаручы матэрыял заўсёды з сабой...

Карпіцкі хацеў яшчэ больш вытлумачыць, як ён разумее гаручы матэрыял для асьвятленьня закуткаў чалавечых пачуцьцяў, але прыслухаўся да свайго шчырага па тону голасу і спыніўся, не жадаючы выказваць адкрыта свае сардэчныя думкі.

— Дык нават і для сьветачу ў такім разуменьні таксама патрэбны элемэнты асьвятленьня, якія можна браць толькі ў жыцьці,—зазначыла Таіса.

— Бязумоўна, усё можна браць толькі ад жыцьця. Нічога вялікага і карыснага нельга прыдумаць і зрабіць, адрываючыся ад людзей і ад жыцьця,—гаварыла Тацяна Мікалаеўна з перакана괌ньнем, відаць, што выказвае сапраўды мудрую думку.

— Я згаджаюся, што іх трэба браць ад жыцьця. Але-ж, акрамя ўсяго таго, што нам прынесла вясна: сьвет, цяпло, зяляніну, кветкі, пах і ўсе іншыя надворныя зьявы, якія мы бачым і якія ў нас выклікаюць адпаведныя настроі, як жаданьне жыць, кахаць, быць каханым і г. д., ёсьць яшчэ і іншае жыцьцё, іншыя зьявішчы, што закранаюць, хвалююць наш розум і пачуцьцё.

— Не апраўдвайцеся, не апраўдвайцеся, т. Карпіцкі. Старым яшчэ пасьпееце быць, а вось маладым хоць і захочацца потым быць, ня будзеце,—дакарала Тацяна Мікалаеўна, бо Таіса, ня маючы што адказаць Карпіцкаму на апошнія яго словы, маўчала.—Калі хочаце з намі спрачацца, прыходзьце часьцей і мы з Таісай вас пераканаем.

— Па большасьці хіба галасоў?

— Не, і па праўдзівасьці нашых думак,—адказала Таіса.

— Аб гэтым яшчэ трэба спрачацца.

Жвавая спрэчка, узаемна дружная, адбывалася аж да прыходу Глебава, якога ня было ў доме. У часе гутаркі Карпіцкі меў магчымасьць бліжэй прыглядзецца да Таісы, прыглядзецца бліжэй да некаторых дэталяй. Цёмна-шатэнавыя валасы капрызна не хацелі ўкладацца пад грабні. Карым вочам з цёмнымі густымі вейкамі надавала прывабнасьць нейкая вільготнасьць куткоў вачэй, быццам пасьля сьлёз, радых сьлёз. Маленькія, амаль прыкметныя ямачкі на ў меру ружовых шчочках пры-

давалі ўсьмешцы асабліва бязрупатную прыгожасьць. Правільна акругленыя лініі постаці рабілі прыгожа-натуральным кожны яе рух.

Шчырасьць і захапленьне, а разам з тым простасьць, з якой яна спрачалася ў гутарцы, нешта асаблівае, неспатканае часта ў жыцьці, ва ўсёй яе постаці і рухах уздымала захапленьне Карпіцкага. Няпрыкметна хутка бег час, і, калі зайшоў Глебаў і напомніў, што ўжо трэба ісьці на мітынг, Карпіцкаму яшчэ хацелася пасядзець тут, пагутарыць, паспрачацца, бліжэй азнаёміцца з думкамі і настроямі Таісы. Не жадаючы выдаць сваё захапленьне, Карпіцкі згадзіўся пайсьці, і, калі яны вышлі на вуліцу, запытаўся ў Глебава.

— Хто гэта твая госьця, што сядзела з жонкай?

— Яна, бачыш, даўняя прыяцельніца мае жонкі, хоць значна маладзейшая. Калі я жаніўся, дык яна была яшчэ маленькай дзяўчынкай, падросткам. Жонка мая, дачка садоўніка ў маёнтку грапа Браніцкага. Жыла яна там увесь час да замужу. А бацька Таісы Мірскай працаваў у гэтым самым маёнтку бухгальтарам. Вось яна з маёй жонкай даўно знаёма. А прыгожы маёнтак быў, ты, мусіць, памятаеш: узімку, калі мы ехалі на адчыненьне нардому ў Падбярэзьзе, дык праяжджалі праз яго. Памятаеш, вялікі прыгожы парк, возера з трох бакоў, прыгожая такая мясьцінка і на ёй руіны ад пажарышча.

— Цяпер прыпомніў. Багаты маёнтак, відаць. Як гэта яго спалілі?

— У часе, калі вышлі немцы і яшчэ не надышлі чырвоныя, узлаваныя сяляне напалі на маёнтак і спалілі яго дашчэнту. Вельмі дрэнны быў грап Браніцкі да сялян, і вось яны спагналі сваю злосьць, зьнішчылі маёнтак, каб ня было куды вярнуцца грапу. Спалілі палац, бровар, усе службовыя будынкі, стайні, гараж, у якім было некалькі аўтомобіляў, гумно, дзе было на некалькі тысяч пудоў неабмалочанага збожжа. Спалілі таксама і разрабавалі дамы, службы і ў тым ліку дом, дзе жыў Мірскі. Вось пасьля гэтага ён і прыехаў у горад жыць. Цяпер служыць у выканкоме, загадвае там грашовым пададдзелам. Эх! прыгожы маёнтак быў—я туды пару раз заяжджаў—проста казачнае месца. Колькі там усякіх дрэў, квітнеючых кустоў, кветак. А спалілі вось дашчэнту,— несьвядомасьць людзкая.

— Шкада, што зьнішчылі,—азваўся Карпіцкі,—можна было-б гэта багацьце скарыстаць для патрэб тых-жа сялян. Так ужо гэта, відаць, няўхільна. Набалела за дзесяткі год, задушыла нэндза, ахутала цемра, вось цяпер і выліваецца ў нясупынную помсту. Але гэтая дзяўчына зусім, здаецца, не падобна да тых, якія жывуць і выхоўваюцца ў такіх вось, хоць-бы і не сваіх, маёнтках,—скіраваў Карпіцкі гутарку на тэму, якая больш яго цікавіла.

— Добрая дзяўчына, іншага ня скажаш пра яе. Вучылася, напрыклад, у Вільні ў гімназіі. Толькі гарадзкое жыцьцё ёй не падабалася, не захапіла яе так, як іншых. Відаць, таму, што дзяцінства правяла сярод

прыроды, дык і з гораду яе цягнула на провінцыю. Ведаю гэта па сабе. Паехаў калісьці ў горад. Здаецца, і весела, і жыць нішто можна, а вось цягне цябе ў вёску, цягне на палі, на сенажаці, ну, проста шчыміць сэрца. Потым ужо прывык.

— Бацька яе, здаецца, жыве якраз проці кляштару? Што, сям'я ў яго вялікая?—пацікавіўся Карпіцкі.

— Так, праўда, ён там і жыве. А сям'і—усяго трое чалавек: сам, жонка і вось гэтая дачка. Жонка нешта ўсё недамагае. А сумленны, ведаеш, чалавек, хоць і служыў у грапа. Па праўдзе кажучы, ён ніякіх там адміністрацыйных абавязкаў ня выконваў. Сядзеў у канторы і падлічаў панскія прыбыткі і выдаткі. Але цябе нешта зацікавіла, як я бачу, відаць, спадабалася дзяўчынка,—спытаўся Глебаў, падміргваючы.

— Ды не, я так сабе. Зайшоў, твая жонка пазнаёміла, новы чалавек, вось і цікавіць,—адказаў неяк няўдала Карпіцкі.

— Дык ты ўжо ня хітруй, я крыху старэйшы за цябе і можа больш ведаю жыцьцё. Але-ж калісьці і я быў малады. Ну, вось мы прышлі, толькі, відаць, спазьніліся ўжо,—скончыў гутарку Глебаў.

Пад нардом быў абсталяваны доўгі мураваны будынак з малымі рэдкімі вокнамі і забруджанымі шыбамі,—раней тут быў склад гарбарнага заводу. Насупроць дому, які стаяў крыху воддаль ад вуліцы, двор парос пустазельлем, ня было яе толькі на выдратаванай сьцежцы. Некалькі чалавек стаялі групкамі, курылі, гутарылі паміж сабой. Унутры нардом быў яшчэ больш няўтульным: нетынкаваныя цагляныя сьцены, белая немаляваная столь, брудная падлога, пабудованая з паступовым спадам у бок сцэны, як гэта бывае ў кіно. Доўгія з тоўстых дошак лаўкі былі цяпер усе заняты людзьмі; рэшта, каму не хапала месца на лаўках, стаялі каля сьцен на праходах. На тыльных лаўках амаль ня слухалі прамоўцы, а больш гутарылі паміж сабой. Калі ўвайшлі Карпіцкі і Глебаў, гаварыў кіраўнік мясцовай організацыі „Бунд“ Лібман.

Рыжаваты блёндын з вузенькай стрыжанай клінком бародкай, у паношаным ужо, з кароткімі рукавамі, гарнітуры і лілёвай, з шэрым гальштукам, кашулі,—Лібман, відаць, спрачаўся з папярэднім прамоўцам. Крытыкаваў працу выканкому, дакараў яго ў тым, што закрылі прыватны гандаль, гаварыў пра яўрэйскае пытаньне, што яўрэі павінны організавацца паасобна ад іншых, успамінаў часам пра Палястыну і г. д.

Некалькі чалавек, відаць, бундаўцаў, час-ад-часу пляскалі ў далоні, а рэшта крычалі, стукалі нагамі, не згаджаліся з прамоўцам. І калі скончыў Лібман, дык у зале падняўся такі шум і гоман, што нейкі час нельга было з трыбуны гаварыць. Прысутныя горача спрачаліся наконт выказаных Лібманам думак. Змоўклі толькі тады, калі ў залі раздаліся гучныя воплескі. Усе глянулі на трыбуну. Там ужо стаяў Кац—комуністы з рабочых—і чакаў, пакуль сьціхне заля. Кучаравыя, цёмныя скудлачаныя валасы, худы твар, сьветла-зялёнага колеру, вышмальцаваная гім-

насьцёрка выклікалі ўражаньне нейкай узварушанай жывасьці. Кац ня ведаў добра расійскай мовы і расійскія словы мяшаў з яўрэйскімі. Гэтая мешаніна і шчырае простае захапленьне асабліва падабаліся прысутным, і хутка ад выступленьня Лібмана не асталося амаль ніякага ўражаньня. Прамова Каца часта перапынялася гучнымі воплескамі.

— Лібман кажа, што трэба адзіны фронт арганізаваць,—разважаў Кац,—а чаму Лібман ня ідзе на гэты адзіны фронт, туды, на польскі фронт. Комуністыя пайшлі, паслалі свае атрады. Бундаўцы тут, а там іх няма. Адзіны фронт патрэбны там, на фронце, і няма чаго мяньціць языком тут аб адзіным фронце. Трэба ісьці на буржуазію і яўрэйскую, і расійскую, тады будзе адзіны фронт. А Лібман тут на мітынгу кажа пра адзіны фронт, а ў рабоце, у барацьбе ня робіць адзінага фронту. Выканком дрэнна працуе,—а што робіць там, у выканкоме, Лібман, чаму ён не дапамагае наладзіць працу. Яго абралі ў выканком, а ён нічога ня робіць, толькі крытыкуе. Ходзіць і крычыць на кожным кроку, што дрэнна працуюць. Не, ты сам вазьміся за працу і працуй добра. Вось тады ў Лібмана будзе праўда. А яшчэ пра Палястыну. Хай сам Лібман едзе ў Палястыну. Там яўрэйскі рабочы будзе яўрэйскаму буржую будаваць гэткія вялікія помнікі, як іх зваць ня памятаю.

— Піраміды,—падказаў нехта ў залі.

— Буржуй адзін ня хоча ехаць у Палястыну,—ня будзе каму працаваць на яго. Дык ён і кажа—яўрэям трэба ўсім арганізавацца, рабочым і буржуям. Арганізаваўшыся, частка тут будзе дружна жыць, а частка паедзе ў Палястыну. Не, трэба рабочаму з рабочым, буржую з буржуем, тады будзе хаўрус. А які хаўрус з буржуазіяй можа быць у яўрэйскага рабочага? Ці яны абодвы добра жывуць? На шабас яўрэйскі буржуй мае цымэс і халу, фаршыраваную рыбу і курыцу. А рабочы мае селядца і бульбу. Дык які тут хаўрус? Я вось і кажу, хай буржуй едзе ў Палястыну. Ізноў наконт крам. Не патрэбны нам крамы, замест крамы арганізуем коопэратыў, дзе рабочы купіць усё, што яму патрэбна. Крама патрэбна гультаю буржую, вось ён і плача, што закрылі гандаль, не даюць магчымасьці працаваць, крыўдзяць яўрэяў. Не, гандляр павінен узяць мятлу і рыдлёўку і пайсьці на працу. Досыць яму гультайнічаць.

Па сканчэньні прамовы заля доўга пляскала ў далоні. Пасьля Каца выступіў з прамовай поалей-сіоністы Шапіра. Малады хлапец, з выглядам вучня сярэдняй клясы гімназіі, ён нічога прынцыпова не сказаў. У частцы прамовы ён паўтарыў тое, што сказаў Лібман, а ў іншым месцы нібы-та згаджаўся з Кацам.

Выступіла яшчэ некалькі таварышоў, якія гаварылі пра харчовае становішча, пра становішча на фронце. Батурскі панура і злосна лаяў памешчыкаў і пагражаў усіх іх перадушыць. Абураўся, чаму дагэтуль не арыштаваны стары пан Нарутовіч.

А Шатур асабліва напіраў на неабходнасьць самай рашучай барацьбы з духавенствам, патрабаваў у першую чаргу арыштаваць усіх ксяндзоў, пазамыкаць касьцёлы, потым, каб нікому крыўдна ня было, зрабіць тое самае з цэрквамі і сынагогамі.

Глебаў таксама меркаваў выступіць. Пакінуў Карпіцкага і прабіраўся бліжэй да сцэны. Але мітынг зацягнуўся доўга, прысутныя, відаць, ужо стаміліся слухаць, некаторыя пакідалі залю, і таму сакратар партыйнага камітэту Штэйман выступіў сам з заключнай прамовай.

Карпіцкі ўвесь час стаяў каля сьцяны, недалёка ад выходных дзьвярэй, слухаў прамоўцаў і бязудзельна аглядаў прысутных, нікога не заўважаючы асабіста. Часам яго думкі адрываліся і пераносіліся да Таісы, да балькону, гародчыку, першай сустрэчы. Ізноў гучныя воплескі варочаюць яго да сапраўднасьці, ізноў ён слухае прамоўцаў, прыглядаецца да прысутных.

Пад канец мітынгу да яго падышоў Рагульскі, адзін з больш блізкіх прыяцеляў, з якім Карпіцкі часта дзяліўся сваімі думкамі, нават тымі, якія ўтоіваў перад іншымі.

У той-жа час, калі падышоў Рагульскі, хлопчык падаў Карпіцкаму складзеную акуратна ў пакецік паперку.

— Што гэта за ліст ты атрымаў?

— Ня ведаю. Зараз прачытаем,—разьвярнуў паперку і абодва пачалі чытаць: „Аб чым вы так задумаліся і дзе лётаюць вашы думкі? Можа сумуеце? Хацела-б даведацца аб прычынах вашага суму і разьвеяць яго. У выпадку згоды можна спаткацца каля дзьвярэй нардому. Л. Н.“

— Ну вось бачыш цяпер, што за ліст. Хто-б мог пра такое глупства пісаць?—усьміхнуўся Карпіцкі.

— Почарк нешта знаёмы,—сказаў Рагульскі, прыглядаючыся бліжэй да пісулькі,—яно, мусіць, так і будзе,—піша гэта Ніна Лапко, супрацоўніца Сабезу. Ведаеш, такая маленькая, рабенькая, парасонам спадніца.

— Не, нешта ня памятаю такой.

— Як-жа ты ня памятаеш, яе нават прывязьлі сюды з сабой.

— Гэта можа тая, што часта ходзіць з нашай тэхнічнай сакратаршай у выканкоме—Зосяй Некруш?

— Ну, ну, вось тая самая. Цяпер яна круціцца з Шатурам. Напрыкрыўся, мусіць, вось і хоча зьмены,—растлумачыў Рагульскі.

— Тады мая кандыдатура не падыходзіць, — адказаў Карпіцкі, рвучы паперку.—Калі ты ёй крыху спачуваеш, дык парай каго-небудзь іншага. А што, Зося Некруш таксама часта мяняе сваіх прыхільнікаў?

— Не, мне здаецца, тая крыху іншага складу. Цяпер ёй хапае аднаго Забалотнага, намесьніка Батурскага.

— Ты, як бачу я, добра паінформаваны ва ўсіх справах. Але ў залі так душна, што няма чым дыхаць. Пойдзем хіба крыху пагуляем на мост. Мітынг усё роўна скончыцца бяз нас.

— Пойдзем,—згадзіўся Рагульскі.

Шырокі драўляны мост праз раку Дзьвіну быў амаль адзіным месцам, дзе пад вечар зьбіралася гарадзкая публіка паспацыраваць. Пыльныя брудныя вуліцы, вузкія паламаныя тротуары і адсутнасьць хоць-бы маленькага гарадзкога саду рабілі мост лепшым месцам для адпачынку ўлетку. Тут заўсёды было людна, усіх і кожнага можна спаткаць, пабачыцца. І вельмі шкадавалі гаражане, калі а гадзіне 11 ставілі варту на мосьце і праганялі ўсіх спацыруючых. Вось і сёньня на мосьце было шумна і гучна. Сонца ўжо нявысока, агністым колерам афарбаваўся захад, паружавелі ўскрайкі рэдкіх дзе-ні-дзе хмарак, далёка ўдоўж ракі лягла цень ад мосту, у гладка бліскучай рачной проціьме больш яскрава адлюстроўваліся стромкія берагі ракі, шэрыя домікі і адзінотныя дрэўкі каля іх. Кружыліся высока ластаўкі, паміж рыштаваньняў маста раі камароў „таўклі мак“.

Прайшлі па масьце раз, другі, гутарылі аб нядаўным мітынгу, аб тым, што кідалася ў вочы адсюль, з мосту. Нечакана ў натоўпе спаткалі Таісу з незнаёмым маладым чалавекам. Карпіцкі раскланяўся з Таісай і быў зьдзіўлены, што яе кавалер раскланяўся, як здавалася Карпіцкаму, з ім. Акінуў яго поглядам: франтавата адзеты, з ядвабнай хустачкай у кішэньку, у лякаваных, але ўжо старых з паношанымі абсацамі, камашах, у шэрай кепцы, з тросьцю ў руках; паваротлівы і, мусіць, надзвычайна вясёлы.

— Я зусім незнаёмы з гэтым панічом і вітаўся ня з ім,—прамовіў, не разумеючы у чым тут справа, Карпіцкі. Ты ня ведаеш, што гэта за фрукт?

— Я яго ведаю. Ён, мусіць, са мной і вітаўся, а не з табой. Гэта нехта Шпідэльскі. Працуе ён якраз у нас і зьяўляецца нібыта спэцыялістым у друкарскай і літаграфскай справах.

— А як чалавек?—пацікавіўся Карпіцкі.

— Чалавек, як мне здаецца, надта ненадзейны і шулераваты. Памойму, яго даўно трэба было прагнаць у тры шыі. Але што зробіш, калі няма каму даручыць справу. Ён у нас загадвае, пакуль што, друкарняй. Толькі загадвае так, што бываюць непаразуменьні заўсёды то з ім, то з рабочымі. Пэнсію атрымлівае, а сам нічога ня робіць, толькі „загадвае“. Рабочыя часта протэстуюць—нездаволены ім. З часам прыдзецца ўбраць.

— Дзіўная пара,—прамовіў, нібы пра сябе, Карпіцкі.—Дзяўчыну гэтую я ведаю. Мне яе рэкомэндавалі якраз з лепшага боку, дый у мяне стварылася добрае ўражаньне. Няўжо яна так не разьбіраецца ў людзях?

— Ды тут не разьбярэш ніяк. Шпідэльскі—гэта такі тып, што каля кожнай спадніцы ўвіхаецца. Гэта яго нейкае прызваньне. Асабліва, як

толькі зьявіцца якая-небудзь новая дзяўчына ў горадзе, дык зараз каля яе ўжо круціцца Шпідэльскі.

Карпіцкі нічога не адказаў. Апошняе спатканьне няпрыкметна балюча дацяло яго і выклікала няпрыемнае ўражаньне. Было неяк крыўдна за Таісу, а разам з тым крыўдна за сябе. Побач з усім тым, што расказваў пра Таісу Глебаў, побач з сваім захапленьнем Таісай, як асобай нейкай надзвычайнай дасканаласьці, цёмнай сьцюжай падступіла да сэрца першае сумненьне, расчараваньне. Няўжо яе характар, яе пачуцьцё, уся яе істота такая-ж, як у Шпідэльскага,—унутраная пустата, лёгкасьць. Як можна пагадзіць гэтыя супярэчнасьці. Двое людзей прайшлі, як відаць, дружныя паміж сабою. І такое супярэчнае адваротнае ўражаньне ад кожнага з іх. Як пагадзіць, што адзін з іх надта мілы і прыемны, а другі—агідны, і разам абодва яны нібы-та ствараюць нешта супольнае.

Бывае часам, спаткаеш чалавека першы раз і створыць ён такое адмоўнае ўражаньне, такая агіда адчуваецца да яго, што ня хочацца блізка быць. А тут разам з ім блізкая асоба. І гэтая блізкая, каханая асоба робіцца няпрыкметна нейкай далёкай у такой меры, у якой яна блізка да чалавека, што выклікае пачуцьцё агіды. Гэтае пачуцьцё няпрыкметна пераносіцца і на ўсіх, хто бліжэй стаіць да агіднага чалавека. І няма нібы прычыны для агіды,—мімавольнае ўражаньне, і няма ў чым дакараць каханую асобу і разам з тым цяжка пагадзіцца з гэтым, лічыш сябе чамусьці пакрыўджаным, абражаным. Хочаш падыйсьці, выказаць набалеўшае, выказаць сваё сумненьне, а тут стаіць пасярodку нешта агіднае, перашкаджае, прымушае заглушыць хутчэй сваё пачуцьцё, а не падыйсьці. Нешта падобнае сталася сёньня з Карпіцкім. Было захапленьне Таісай,—раптам стаў нейкі чужы чалавек, і сэрца прыціснула ледзяной камлыгай. Ці-ж можна кахаць Таісу, калі нейкі чужы, лёгкадумны чалавек, што ўвіхаецца каля кожнай дзяўчыны, блізкі ёй. Дзе-ж тут месца для пачуцьця. Хвілёвая зацікаўленасьць, аднолькавая ў кожны раз, да кожнай іншай асобы.

Карпіцкі спыніўся каля мосту, абапёрся аб поручні і глядзеў на раку. Рагульскі стараўся падтрымаць спыненую гутарку, але заўважыў што Карпіцкі неахвотна адказвае і таксама змоўк.

Стромкія берагі паклалі цень на рачную паласу, чырванаватым бляскам абсыпаўся зялёны гушчар вострава на рацэ. Лагодна-ціха беглі туды, да вострава, хвалі, віравалі, як-бы спыняючы свой бег перад адпачынкам, разлучаліся востравам на дзьве часткі, каб ізноў спаткацца ніжэй, дзе вербалозы парку атуляюць бераг. Думкі Карпіцкага беглі за імі, шукалі ў іх адказу на супярэчнасьці жыцьця.

„Так,—думаў Карпіцкі,—і струмень жыцьця нясупынна бяжыць у будучыну. То ціха супакойна, то бурліва гучна. Спатыкаюцца людзі, разам ідуць, блізка зыходзяцца, робяцца нібы-та аднэй хваляй у струмені. І ёсьць нейкая перашкода, што разлучае і людзей, як гэтыя хвалі. Разлучае іх там дзесьці, і за месцам расстаньня яны не спаткаюцца ўжо, да

розных паплывуць берагоў. І толькі ўспамін—добры ці дрэнны—уваскрашае ў памяці мінулую супольнасьць, імкненьне, узаемнасьць каханьня і г. д. Але процілеглыя берагі ня зыдуцца, не спаткаюцца, не наблізяцца адзін да аднаго".

Пастаяў некалькі хвілін, быццам не заўважаючы Рагульскага, потым ізноў павольна пайшоў праз натоўп на мосьце і, як дайшлі да канца мосту, прамовіў:

— Я пайду дадому, мне ўжо досыць, а ты, калі хочаш, яшчэ паспацыруй.

— Не, і мне ўжо досыць,—адказаў Рагульскі,—заўтра раніцой прыдзецца паехаць аглядаць мылаварны завод у Баршчоўцы, вёрст 40 будзе. Прыдзецца раненька ўстаць.

Разьвітаўшыся з Рагульскім, Карпіцкі пайшоў дадому.

У пакоі павольна запаноўваў змрок. Карпіцкі знайшоў шклянку малака і лусту сьвежага хлеба, пастаўленыя на стале гаспадыняй. Павячэраўшы, лёг на канапе і глядзеў праз вакно. Хмаркі яшчэ мелі адбітак чырвонаватых праменьняў, неба рабілася больш яскрава блакітным. Высока над дамамі мітусіліся зграі варон: кракалі, кружыліся, ляцелі туды, у бок парку, варочаліся ізноў, кружыліся чорнай мяцеліцай. Карпіцкі пільна прыглядаўся да іх бязладнага віраваньня, жадаючы прагнаць, заглушыць сумна-прыкрыя настроі і думкі.

*(Працяг будзе)*

# ПСЭЎДА-ТЭРЭНТЭ

## Гергарт Поль

### (Мімавольны авантурысты)

*Апавяданьне*

Ці вы цяпер ужо ня ведаеце, хто такі быў Тэрэнтэ? Цяпер цэлы сьвет жыве нейк хутчэй,—сьцьвярджаюць мудрыя людзі. У кожным выпадку, нашая памяць, занадта ўжо нагружаная, зрабілася менш элястычнаю. Прыпамятайце ўсё-ткі, калі ласка, шмат вельмі сэнсацыйных паведамленьняў аб поўным шалёнае адвагі разбойніцкім правадыру ў дунайскай дэльце, аб „багнавым каралі“, што ваяваў з румынскаю дзяржавай, як з роўным сабе супраціўнікам.

Так, ён, мусіць, быў моцны, казачна магутны, калі, зразумела, паведамленьні аб штодзенных рабунках паштовых і падатковых кас, аб нападах на дунайскія параходы і на паязды цалкам адпавядалі сапраўднасьці. Цэлыя тры гады вёў ён неадчэпную, упартую партызанскую вайну з румынскай міліцыяй.

Потым ён уцёк, яго злавілі ў Гамбурзе, адаслалі на бацькаўшчыну, ён там зрабіў пралом у турме—і з таго часу зьнік.

Бледы мужчына з моцнаю будоваю цела, але худы, з тварам, зморшчаным ад сухот,—гаворыць мне: „Parlez vous francais?“[1]).

Гэта было ў Трыесьце ў адзін дзіўна прыгожы вечар, калі оранжавыя сонечныя прамені прабіваліся ў самыя вузкія партовыя завулкі і бруд ды гнільлё на зямлі зьмянялі ў бліскучы мосенз.

Ля брамы палестынскага бюро, сярод натаўпу яўрэяў з усяго Ўсходу, якія прасілі пропуску, я бачу гэтага чалавека і яго шэрыя вочы.—„Чаму гэта яны шэрыя?“—думаю я, бо яны гавораць аб дабраце. Потым мой погляд паволі адхіляецца ўніз, прайшоўшы па крывым носе, і спыняецца на парванай заячай губе, якая пакідае адкрытым залаты зуб. Зьмяты, але чысты каўнерык і старая манішка былі аднолькавае якасьці; далей можна было ўбачыць камізэльку моднага колеру і добрага крою ды зношаную сьветла-шэрую службовую тужурку. „Нагавіцы па веку і якасьці набліжаліся да камізэлькі, а з тужуркаю знаходзіліся ў гармоніі чаравікі, якія палопаліся і былі ў латках. Ці ня быў гэта нейкі валацуга? Шэрыя

[1]) „Ці вы гаворыце пафранцуску?“

добрыя вочы абвяргалі гэтае дапушчэньне. Мо' бедны польскі яўрэй-рабочы? Залаты зуб, манішка, камізэлька і нагавіцы протэставалі супроць гэтага. Я запрашаю гэтага чалавека да нейкага „Americano“ [1]).

Так, гэты чалавек, значыцца, і ёсьць той самы Тэрэнтэ, чые прыгоды мы ўсе—хто з вераю, а хто і бяз веры, — праглыналі, бы романы Карла Мая і Конан-Дойля! Дрэнная шахрайская штучка—і больш нічога. Аднак тут-жа знаходзіўся ангельскі транспортны ордар: Michael Terente, taken in Liverpool. 12 september 1923 (Міхал Тэрэнтэ, узят у Лівэрпулі 12-га верасьня 1923 году). Разбойніцкі правадыр—гэты лёгачна-хворы, зусім высілены яўрэй? Я ўсьміхнуўся:

„Вось выдатныя псыхолёгі!“ Аднак я прачытаў і другую паперу: „Michael Terente, pris à Marseille le 23 octobre 1923 (Міхал Тэрэнтэ, узят у Марсэлі 23-га кастрычніка 1923 г.). Пячаткі і самыя дакументы былі бясспрэчна сапраўдныя, непадробленыя. І ўсё-ткі толькі выпадак або лёс мог у жартлівай гульні перадаць іх у гэтыя рукі.

Тады гэты чалавек моўчкі, з рухам, поўным павагі і годнасьці (у якім заўсёды бывае дамешка чагосьці комічнага), падаў мне свой пашпарт, выдадзены румынскім консульствам у Константынопалі.—„Ляйбовіч Маркел“,—прачытаў я. А ў рэшце ён ужо апавядаў мне сваю гісторыю, сьпярша—часта спыняючыся, а потым — усё хутчэй ды хутчэй, пакуль напала на яго нейкая ліхаманкавая сьпешнасьць, як на плывака, што баіцца не даплыць да другога берагу. Фіналам быў моцны прыпадак кашлю і поўная замкнутасьць у сваіх унутраных перажываньнях.

Пакуль пачалася паміж народамі сусьветная разаніна, а разам з ёю. Эўропэйскі хаос,—да таго часу і жыцьцё Маркела Ляйбовіча было вельмі супакойным. Яго бацька—дробны яўрэйскі гандляр мануфактурнымі таварамі ў горадзе Тульчы—надзяляў яго хлебам штодзенным і богабойлівасьцю. Малады Маркел, аднак, ня быў ужо добрым яўрэем. Яго апанавала палкае імкненьне пабачыць сьвет. Маленькі Парыж [2]), сталіца краіны, вабіў яго здалёку, як трамплін для разьбегу, як выходны пункт для далейшага вялікага жыцьцёвага шляху.

Маркел працуе над сваёй адукацыяй. Ён вывучае францускую мову і зубную тэхніку.

Аднойчы атрымлівае ён прадмет сваіх некалькі гадавых лятуценьняў—ліст, дзе было напісана:

„Вы запрашаецеся ў Букарэст“. Каму не шанцуе, у таго налічваецца ў годзе, мо', з тысячу дзён. Але ў шчасьлівага—цэлы год усё роўна, што адзін дзень. Маркелу з ласкі лёсу дасталіся на долю аж два такія дні. Потым прышла, нібы нешта фатальнае для мільёнаў людзей, — сусьветная вайна. Яна зьявілася згубным бяздоньнем і для гэтае паасобнае адзінкі. Ляйбовіч атрымаў загад зьявіцца на прызыўны пункт. Ён

---

1) Амэрыканскі бар—рэсторанчык са сьпірытусавымі вінамі.

2) Букарэст.

радасна бяжыць туды. Як і ўсе падобныя людзі, чыя ўпартасьць прымусова выклікала ў іх нейкі штучны ўздым настрою, — быў і Ляйбовіч дробна-буржуазным патрыётам і, дзеля інтарэсаў усемагутнае дзяржавы, горда пазіраў зьверху ўніз на гэтае маленькае, дробненькае чалавечае жыцьцё. Але ў лёгкіх была кавэрна, была ямінка, магчыма, ня большая за ранку ад уколу голкаю, аднак занадта вялікая на погляд штабнога лекара. Ляйбовіч Маркел ня мае ніякага права памерці за свайго караля. Яму прызначана лёсам іншая пакутная, штодзенная, сталая і бясконцая сьмяротная барацьба, жыцьцё вечнага вандроўцы — Агасфэра. Шостага сьнежня 1916-га году немцы занялі Букарэст.

У этапнай комэндатуры ніхто ня ведае ані румынскае, ані яўрэйскае мовы. Ім патрэбен перакладчык-тлумач. Маркела, чалавека з амбітнымі імкненьнямі, які ў доўгія зімовыя вечары выўчыў яшчэ і нямецкую мову,—заахвоцілі і прызначылі на пасаду такога перакладчыка-тлумача. Зразумела, ён атрымліваў вельмі добрую плату і вёў жыцьцё нейкага фэўдала. Ён думаў, што ў грамадзкай гіерархіі пераскочыў адразу аж тры ступені. Нямецкія афіцэры былі энэргічныя малайцы і вялікія паны,— такія людзі, да якіх маленькі Маркел з гораду Тульчы ніколі не адважваўся дасягнуць нават у сваіх лятуценьнях. Ён мог-бы зрабіцца немцам. Аднак служба была няпрыемная, асабліва тады, калі яго камандыравалі ў Плоешты для загадваньня матэрыяльнаю часьцю і рахункаводзтвам. Штодзенныя, бясконцыя рэквізыцыі. Узлаваныя, поўныя нуды мужчыны. Жаночае выцьцё ды прычыты. Дзіцячыя крыкі. Рэвольвэр з узьведзеным курком у руцэ вартавога. Ляйбовіч павінен быў перакладаць усе патрабаваньні начальства. Свае заданьні Ляйбовіч выконваў абы толькі збыць з рук, адчуваючы нават нейкую млявасьць і дрыжыкі ад гэтае агіды.— „C'est la guerre“ [1]) — гаварыў ён, бо ведаў таксама і францускую мову. Але ў сусьветнай вайне шчасьце бывае зьменным, як у рызыкоўнай гульні. Другога сьнежня 1918-га году немцы пакінулі Букарэст, а шостага сьнежня 1918-га году,—якраз праз два гады пасьля свайго адступленьня,—румыны зноў увайшлі ў горад. Маркел ня выехаў разам з немцамі. Ён заставаўся ў Букарэсьце і чакаў замірэньня. Бо ён любіў гэты вялікі горад, сваю сапраўдную радзіму. Аднак сьвет ніяк ня мог знайсьці жаданага пакою, хоць і вяліся солідныя і вельмі глыбокадумныя перагаворы. Ну дык што-ж было з Маркелам Ляйбовічам? Румыны прызвалі яго ў войска. Ніводзін штабны лекар не заўважыў цяпер маленькае ямінкі ў лёгкіх, хоць яна, магчыма, была ўжо ня меншаю ад ядра ляшчыннага арэху. Ляйбовіча прымаюць у 46-ты пяхотны полк і пасылаюць на вартавую службу ў форт Донэстэ. Зіма яшчэ панавала над усёй краінай, і Румынія была пакрыта глыбокімі сьнягамі. Але Маркел стаіць на варце гэтак-жа старанна, як і чырвонашчокі сялянскі хлопец,

1) Гэта-ж вайна.

не адчуваючы ані дрыжыкаў, ані зморанасьці. Ужо тры месяцы пражыў ён у форце, амаль што пагадзіўшыся са сваім лёсам і маючы зноў сьветлыя надзеі на будучыню. Але прыходзіць паручнік і зноў пасылае яго ў полк: „Ляйбовіч, ты зьменен з варты і павінен адразу-ж, сёньня ўначы, накіравацца ў Букарэст, бо пан палкоўнік патрабуе, каб ты зьявіўся да яго з рапартам заўтра раніцой а восьмай гадзіне“.

Маркел вандруе ў працягу цэлае ночы. Яму здаецца, што рэзкі сівер—гэта пяшчотны веснавы вецер, а дваццацікілёмэтравая вандроўка—прыемнае пагуляньне. Ужо а шостай гадзіне прышоў ён у Букарэст і накіраваўся да свае нявесты.—„Я атрымаў загад зьявіцца з рапартам. Напэўна, мяне звольняць, дадуць адстаўку“,—гаварыў ён з удзячнаю ўсьмешкаю. Тады правёў ён гадзіну, поўную гарачага, пяшчотнага пачуцьця, такую гадзіну, якая не магла ўжо паўтарыцца ў працягу многіх гадоў, а мо‘ і цэлага жыцьця. Калі ён у бліскучым вайсковым убраньні, у параднай форме зьявіўся з рапартам, то дзяжурны вартавы паручнік, не сказаўшы аніводнага слова, рэвальвэрным дзяржальнам ударыў яго проста ў твар. Кроў пацякла па новым мундзіры, губа разарвалася і трэснула насавая косьць, секачы былі выбіты, сківіца і шыя—зьвіхнуты.

Ляйбовіч больш ужо ня мог гаварыць, толькі падумаў: „Гэты Томаску заўсёды сьпісваў у мяне школьныя заданьні, тады, яшчэ ў Тульчы? Чаму гэта ён цяпер мяне б‘е?“ Потым ён ужо хістаўся на нагах, быў падхоплены двума салдатамі, і толькі мог яшчэ пачуць: „Сьвіньня! замардаваў дзьвесьце пяцьдзесят людзей! Тэрэнтэ!“ Потым яго павалаклі да палкоўніка. Той хацеў выслухаць яго паказаньні. Але пакалечаны ня мог гаварыць. Толькі сьлёзы, што сьветлымі баразнамі цягнуліся па крывяных згустках, ды рухі яго рук і нейкае мармытаньне імкнуліся ўпэўніць палкоўніка ў адсутнасьці віны. Палкоўнік адаслаў Ляйбовіча ў шпіталь. Калі ён зноў мог ужо гаварыць, то спытаўся, за што, уласна кажучы, яго білі. Штабны лекар даў яму газэту, якая зьмесьціла яго фотографію і артыкул аб ім. Чытаньне гэтага артыкулу давяло Ляйбовіча да моцнага прыпадку кашлю. Потым ён адчуваў калоцьце ў грудзях,—„Хто такі Бэла Кун? Калі? Дзе? Дык гэта-ж ня я!“—закрычаў ён. Але, зьдзекуючыся, глядзела на яго гэтая фотографія. Зараз-жа хацеў ён ісьці і растлумачыць памылку. Ён хацеў дамагацца аднаўленьня парушаных сваіх правоў і атрымаць гэтую рэабілітацыю.

Штабны лекар адвёў яго ў бок і сказаў: „Вы былі перакладчыкам-тлумачом пры нямецкай этапнай комэндатуры? Гэты артыкул, відавочна, зьяўляецца актам помсты. Подлы доказ! А, магчыма, адначасна з гэтым яшчэ і дывэрсійны манэўр. Бо Тэрэнтэ ніяк ня могуць схапіць. Таму і хочуць паслаць вас на шыбельніцу“. Штабны лекар быў чалавекам у большай меры чым румынам. Ён хацеў даць Ляйбовічу магчымасьць уцячы. Але Маркел, якому здавалася, нібы ён эўропэец, вытрыманы ў барацьбе з жыцьцёвымі навальніцамі, жыў яшчэ глыбока замкнуты ў мудрасьці

свае радзімае Тульчы. Ён верыў яшчэ ў перамогу справядлівасьці. „Кіраўнік Румынскае Чырвонае арміі“ (гэтак празвалі яго газэты)—ён ніколі яшчэ ня ўмеў зручна кіраваць сваім уласным маленькім жыцьцём.

Вылечыўшыся, пайшоў ён у ільвінае логава—у рэдакцыю газэты. Тут у вітрыне яшчэ вісеў яго портрэт. Перад портрэтам ён і застанавіўся. Вулічныя разявякі пазналі яго і закрычалі: „Тэрэнтэ!“ Праз дзьве гадзіны ляжаў ён, абліты крывёю, у такім-жа самым ложку такога-ж шпіталю. Перад домам выў і гарлапаніў дзікі натоўп, трасучы кулакамі.

Калі Маркела ў шпіталі зноў крыху залаталі і зацыравалі, тады ён прамяняў біблійную мудрасьць на эўропэйскія хітрыкі. Дзякуючы спрыяньню з боку штабнага лекара, паехаў Ляйбовіч на самаходзе ў кірунку да баўгарскае граніцы насустрэчу „волі“,—гэта была пакутная вандроўка. Калі ў адным гарадку шукаў ён яўрэйскага кантара, то быў схоплен. Ён апавядаў сваю гісторыю, апэляваў да гуманных людзкіх пачуцьцяў паліцыі. Ен яшчэ не зразумеў, што гэта парадокс. Бо ён быў бяз ніякіх папераў, а баўгарская паліцыя ня менш прававерна ў сваёй адданасьці артыкулам закона, чым ангельская або гішпанская, нямецкая або арабская. Дык вось яго і адвезьлі ў Софію, дзе тады панавалі французы. Гэта магутная нацыя, яшчэ п'яная ад захапленьня сваёй перамогаю і пры гэтым—прыязная Румыніі. Якую цану мелі тады міжнародныя трактаты? Ляйбовіч апэляваў да дагавораў; як „політычны эмігрант“, ён не падлягае выдачы. Бедны Маркел, ты гаворыш сярод цэлага гурагану магутных сіл! Цябе закавалі ў ланцугі і павалаклі праз усю Баўгарыю ў Рушчук. Ужо бачыш ты, як на проціleглым беразе мігцяць аганькі гораду Джурджы—гэта Румынія,—для цябе яна адразу і радзіма, і магіла. Бо ты—дэзэртыр. Аднак пры гэтым ты яшчэ і яўрэй, і даная акалічнасьць павінна цябе выратаваць. Паволі апускаюцца вёслы ў ваду. Кожны іх удар як быццам трапляе табе ў грудзі, пад сэрца. Тады нехта з ліку тваіх зычліўцаў размыкае твае ланцугі. Ты ўжо ляжыш у вадзе. Ты яшчэ чуеш словы: „Плыві назад!“ Ты, адштурхнуўшыся з гэркулесаваю моцаю, накіроўваешся да берагу.

Дзесяць тысяч леваў [1]) на хабары ўрадоўцам прышлося сабраць беднай яўрэйскай грамадзе гораду Рушчука, каб выратаваць аднаго з сваіх аднапляменцаў, дэзэртыра, чужога для краю. Цяпер сядзіць Ляйбовіч у цёмным склепе. Толькі ў поўнач зьяўляецца сьвятло. Яўрэй прыносіць гарачую ежу, а аднойчы падаў і газэту. Яшчэ ніколі не адчуваў Маркел такое радасьці, як у тую гадзіну, калі ён, сагрэты і сыты, чытаў артыкул з апісаньнем свае сьмерці. Цяпер ён ужо памёр, гэты прасьледаваны дэзэртыр. Барадаты Аляксандар Фога, з добрым запасам папераў аб ранейшай службе на транспортных караблёх, выходзіць са склепу і накіроўваецца на параход, які займаецца перавозкаю вугля. Ляйбовіч накла-

[1]) Франкаў.

дае вугаль. Гэтаю працай ён займаўся да таго моманту, пакуль узьняліся над паверхняю мора бліскучыя Константынопальскія мінарэты. Параход выладаваў тут свой тавар і накіраваўся на раку Дунай. Аляксандар Фога пастанавіў шукаць сабе іншы транспортны карабель. Бо балканскія краіны ўжо больш не зьяўляюцца прадметам яго лятуценьняў. Ужо ангельцы хочуць высылаць беспрацоўных з Константынопалю назад у Румынію, яго „радзіму“. Тут узяў яго францускі карабель. Ляйбовіч прыехаў у Марсэль і, дзякуючы просьбам капітана, шчасьліва высьлізнуў—ня быў угледжаны напоўзакрытымі вачыма пашпартнага контролю. У Сарбурзе ён знаходзіць сабе занятак у аднаго яўрэйскага дантыстага і дазвол жыць у гэтым горадзе на працягу цэлага году.

Цяпер сьвет зноў ужо адкрыт для яго, але для шчасьлівага чалавека год ня бывае даўжэйшым, чым адзін дзень.

Паліцыя зноў стукае ў яго дзьверы. Маркел цяпер ужо адначасна і эўропэец і бадзяга. Ён „выпараецца“ [1]) за граніцу, едзе ў Бэрлін, у Міністэрства Вайсковых Спраў. Ён зьяўляецца да свайго даўнейшага працадаўцы, які няўмысна штурхнуў яго ў бяздоньне няшчасьця. Мусіць, пан радца ўраду быў чалавек з годнаю ўвагі адсутнасьцю бюрократызму і амаль людзкімі пачуцьцямі. Ляйбовіч атрымаў дазвол жыць у Нямеччыне на працягу шасьці месяцаў і быў прызначан на пасаду ў адным гановэрскім прадпрыемстве. Усё ідзе, як належыць.

Маркел ужо ўмелы мэханік для тонкіх работ, улюбёнец кіраўніка аддзелу. Яму ўжо гатовы даць дазвол на сталае жыцьцё. Але д'ябал ужо саўсім апанаваў яго [2]). Сьледам за аднэй дзяўчынай ён накіраваўся ў Фленсбург, будучы цьвёрда перакананы ў тым, што яму і там удасца знайсьці добрую пасаду. Бо ён думаў, што Нямеччына—гэта адна непадзельная, без адпачынку занятая працаю фабрыка. Але Фленсбург—гэта маленькі гарадок сярод прыморскіх урадлівых нізін, цяпер ужо вельмі блізкі да дацкае граніцы і саўсім мёртвы.

Мала работы там знойдзе сабе тэхнік і з многімі чуйнымі выведнікамі сустрэнецца чужаземец. Нямеччыне прыходзіцца ў даны момант утрымліваць міліёны беспрацоўных. Калі прайшлі шэсьць месяцаў, дык некарысны для краю чужаземец павінен быць выдален, паколькі ён згубіў свой кавалак хлеба „з свае ўласнае віны“. Ляйбовіч зноў „выпараецца“ [1]), на гэты раз—у Бэльгію. Ён блукае па цэлым Антвэрпэне, цэнтры гандлёвых прадпрыемстваў і яўрэйскага насельніцтва. Яго аднаплямёнцы прапануюць яму служыць у якасьці рабочага, а румынскія суграмадзяне—паступіць на карабель у якасьці матроса. Хоць Ляйбовіч быў дэзэртырам і цярпеў у Румыніі барбарынскае абыходжаньне ды бяссорамныя паклёпы,—ён выбірае службу матроса на транспортным караблі

[1]) Verduftet—жартлівы выраз замест больш паважнага verschwindet—зьнікае.

[2]) Нямецкая прыказка: Der Teufel reitet ihn—літаральна: Д'ябал езьдзіць на ім, як на кані.

„Карнаты", які робіць рэйсы для сувязі паміж Англіяй і Амэрыкай з аднаго боку і румынскім портам Канстанцаю—в другога. У Прэстоне ён пакідае карабель, накіроўваецца ў Лівэрпуль і там арыштоўваецца ў якасьці Міхала Тэрэнтэ. Капітан вышэйпамянёнага карабля зрабіў доказ на ўцекача, быццам ён разбойніцкі правадыр. Хоць яўрэйская грамада і прапанавала сто фунтаў стэрлінгаў у якасьці гарантыі, што ён не ўцячэ,—яго закавалі ў ланцугі і ўпакавалі ў трум карабля „Карнаты". Паколькі ангельская паліцыя ў перасылачным дакуманце запісала яго, як Міхала Тэрэнтэ, то цяпер і матросы, даўнейшыя Ляйбовічавы таварышы, пераканаліся ў тым, што ў насавой частцы труму знаходзіцца ў іх каштоўная покладзь. „Адна толькі галава яго забясьпечвае вам пяцьсот фунтаў стэрлінгаў грашовае ўзнагароды",—сказаў капітан, якому толькі яго ўласная зласьлівасьць прадыктавала гэты доказ, а цяпер удалося знайсьці ў ангельскім загадзе аб арышце салідныя пераканаўчыя довады: „Ляйбовіч—гэта Тэрэнтэ!" Яшчэ аднойчы зазьзялі прыгожаю кветкаю для вязьня чатырнаццаць гадзін, праведзеных на волі, у сьпякоце залітага сонечнымі прамянямі Марсэля. Тады ён знайшоў яшчэ адно пацьвярджэньне тае акалічнасьці, што ён зьяўляецца Міхалам Тэрэнтэ. У ясных, прыгожых сказах францускае мовы, якую ён любіў, быццам гордую жанчыну,—гэта было дакумантальна зафіксавана. Маркел амаль што і сам гэтаму паверыў. Потым пачынаецца бясконцы, пакутны, нялюбы падарож. Як пасажыр пятае клясы, ехаў ён, маючы якарны ланцуг сваім адзіным таварышом у гэтай вандроўцы ў далёкае Чорнае Мора. Але ў Канстантынопалі пацякла ў яго кроў з лёгкіх—і яго высадзілі з карабля на бераг. Поўныя літасьцівага спачуваньня дагляд і апека і гуманны, людзкі, консул выратавалі яшчэ раз ад аканчальнае згубы гэты разьбіты човен які імчалі з сабою хвалі жыцьцёвага мора. Яўрэі далі яму дваццаць даляраў, а консул—румынскі выязны эміграцкі паспарт, які Маркел з любасьцю лашчыў рукою, быццам роднае дзіцятка.—„Нумар 385047!"—мог ён адказаць нават спрасонку, як іншыя людзі называюць дакладна дзень свайго нараджэньня. Цяпер, урэшце, мог ён дасягнуць „абяцанае зямлі" пасьля гэтага поўнага памылак бадзяньня, што цягнулася цэлыя тысячы год (як яму здавалася). Але ямінка ў лёгкіх, гэтая кавэрна—зрабілася занадта ўжо вялікаю. Салёніцкія, Загрэбскія і Трыестаўскія дактары накіроўвалі яго назад, дамоў. Палестына хоча быць краінаю вялікага будаўніцтва,—ёй могуць быць патрэбны толькі здаровыя людзі.

Цяпер Ляйбовіч бадзяецца па завулках Трыестаўскага порту. Шчотка для зубоў, мыла, хустачка-насоўка, каўнерык і пяць лір (франкаў)—вось і ўся яго маемасьць. Усе яго надзеі пахаваны, а ўсе сілы выкарыстаны і вычарпаны дашчэнту. Калі італьянскія яўрэі не дапамогуць свайму брату, як дапамаглі рушчуцкія, сарбурскія, лівэрпульскія і канстантынопальскія,—дык у хуткім часе карабінэры, што наглядаюць за парадкам, выцягнуць мерцьвяка з „Народнае Хаткі", з карчмы або з якога-колечы месца воль-

нага порту. Маркел лічыць сябе самога за найбольш убогі і варты літасьці экзэмпляр чалавечае пароды. Мы ня будзем пазбаўляць яго гэтае пацехі, гэтага маленькага задавальненьня для яго гордасьці, а лепш падумаем аб мілёнах гэткіх Ляйбовічаў, якіх сусьветная вайна або зжэрла зусім, або, адарваўшы ад кораня, выкінула на сухую, неўрадлівую берагавую глебу. Сьмяротна змораны,—можа яшчэ Ляйбовіч адчуваць вялікую радасьць, чуючы пужлівыя крыкі перапалоханых румынскіх газэт: „Тэрэнтэ знаходзіцца на волі!“ А якраз у Тульчы—радзімым горадзе гэтага беднага яўрэя, з добраю і лагоднаю душою—выплыў зноў з глыбіні на паверхню ненавідны прадмет агульнага жаху, жудасны бандыт, на чале свае банды, як было і пяць год таму,—тады, калі Ляйбовіч Маркел быў яшчэ незагнаным грамадзянінам свае дзяржавы.

З нямецкае мовы пераклаў **Л. Цьвяткоў.**

# КАМРАД

## М. Грамыка

Воўчыя вочы гарацць у начы.
Конь падкаваны, скачы і ня бойся,
Раніца хутка, пачуеш ты: „стройся“,
Бі у вільготны пясок, грукачы!

Шляхам імчыцца з прымежаньня коньнік.
Конь, а на ім, як падвоены цень.
Га! Што было за гадзіну там сёньня,
Заўтра раскажам, хай возьмецца дзень!

Ну, калі хочаш, дык вось што было там:
Гэта я, браце, іду ля мяжы,
Бачу, аж нейкі мужчына ляжыць,
Рукі раскінуў над самым балотам.

Я за вінтоўку, як чую адтуль
Дзіўныя словы ды наша: „таварыш“.
Нас, брат, ня лёгка ты гэтым ашпарыш,
Чулі яго мы з-пад вораскіх куль!

Толькі не, стогне, жальботна, балюча,
Я падышоў, чыркануў свой ліхтар,
Слоў ён падкінуў мне ў вушы жывучых:
„Уна“ [1]) комуна, савет, пролетар!“

Я дапытацца: з астрогу? рабочы?
Ранены? Дзе там! Лапоча сваё!
Мне-ж ці марудзіць? Ўраз іхні наскоча.
Узяў, ды на плечы, ды так і панёс.

Несьці нядоўга, мой конь каля елкі.
Толькі пачуў, што іду,—заіржаў.
Я—на яго, каб хутчэй з перастрэлкі,
Ну, а таго да сябе прывязаў...

---

[1]) Уна—ад увус, уна (unus, una)—адзін, адна.

У полі іграюць васеньнія скрыпкі,
Лісьць на гасьцінцы набрак і пажоўк.
Дражніць каня перавыямі воўк,
Вочы гараць, як ангельскія піпкі.

Стой! Даскакаў. Аганькі па мястэчку.
Коннай чырвонай дывізіі двор.
Гучнай каманды чуваць перабор.
Іскрамі вабіць паходная печка.

У момант пазьбегліся з розных кутоў,
У момант натоўпам абкружаны конны,
Кожны з сваёй дапамогай гатоў.
Сыплюць гарошкам сухім тэлефоны.

Вось ён у залі, павіты бінтом,—
Не зразумець чужаземнага брата!
Звоняць у хату-чытальню, дзет-дом,
Але-ж знайшлі тлумача камараду.

— Хто і адкуль ты?—Вядома, з краін,
Дзе распанелі „цяльцы-залатыя“.
Што мог рабіць там прадымлены сын?
Ясна, змагацца за лёзунгі тыя.

— Сэрца ад'елі цкаваньні газэт,
Лжа і хлусьня шовініст-дэмократаў,
Сквапна цягнула ў савецкі ваш сьвет,
Ды затрымалі астрожныя краты...

— Досыць, ня трэба! Змарыўся камрад!
Ведаем, што у вас робіцца, ўсё мы.
Заўтра вялікае сьвята, парад:
Быў год семнаццаты, стаў дваццаць сёмы!

Увесь у камрада завогніўся твар,
З вуснаў істужкай набегла усьмешка,
Што не спазьніўся сюды пролетар,
Што-ткі патрапіў у лесе на сьцежку.

— Досыць, ня трэба, змарыўся камрад!
Выпі, вось, выпі, засьнеш да сьвітаньня.
Заўтра-ж, ты ведаеш, сьвята, парад,—
Ну, дык бывай-жа, бывай да спатканьня!

Коньнік, як вышаў, да доктара ўраз:
— Ну, як? Ці выжыве госьць наш да раньня?
— Дрэнна. Шкада і яго мне і вас.
Коньнік схіліў галаву на убраньне...

У голаў падклаўшы будзёнаўскі шлем,
Так і праспаў ля камрада у залі.
Зоры зьнікалі з сваіх дыядэм,
Недзе далёка пабудку ігралі.

---

Так наступіў лістапада дзень сёмы.
Лісьце сустрэлася з першым сьняжком.
Сьніў праз гарачку свой край так знаёмы,
Жонку, двох дзетак, задымлены дом...

Там—панядзелак штодзеннае працы,
Тут—нават вёскі у чырвані хат.
Там—гультаёў, працаедаў палацы,
Тут—у палацы патрапіў камрад...

— О, што было там, было там сягоньня!
Музыка, сьпевы ды залап гармат.
Эх, каб таварыш той выжыў заходні,—
Але-ж што зробіш, ды хто вінават!

Ён, як убачыў чырвоныя сьцягі,
Ён, як пачуў тыя гімны, ура,
Дык не адчуў і сьмяротнае смагі,
Зваў толькі голасна правадыра.

Ды загучэў незнаёмаю мовай,
Мусіць, быў некалі моцны бунтар.
Мы зразумелі апошнія словы:
„Віват комуна, савет, пролетар!“

---

Час перабег, папраходзілі сьвяты,
Зноў за вінтоўку, газэту, каня.
Кажуць: рыхтуйся, рыхтуйся заўзята,
Каб ня пусьціць у наш край груганьня.

Зноў неяк йшоў ад прымежаньня коньнік.
Конь, а на ім ня будзёнаўскі цень:
Везла жанчына дзяцей на улоньні,
Коньнік каня кіраваў за рамень...

У полі іграюць жалобныя скрыпкі.
Твар на кабеціне лісьцем зжаўцеў.
Воўчыя вочы—ангельскія піпкі.
Шлях незнаёмаю песьняй шумеў...

Раптам азваўся сынок-малайчына:
— Мама, ня трэба нам тут сумаваць,
Мама, тут лепшая, наша айчына,
Тата сюды перабег паміраць!

Коньнік пачуцьцем даведаўся мовы,
Як малады гаварыў камарад.
Ясна гучэлі апошнія словы:
Віват Саветы, Комуна—віват!

## ДВА ДРУГІ

**Ал. Салагуб**

Ў мурох на цэманце сухім
Кусток разросься малачаю,
І ён, як я, сарваны з краю
Віхуры посьвістам глухім;
Дзянькі юнацтва каратаю
На грунце чахлым і скупым.
Мы сябры два—адна ў нас доля:
І ён бяз сонца, як і я,
Абодвум нам сьмяецца воля,
Абодвум сьніцца нам вясна.
Ад родных ніў, жыцьця, красы,
Ад сьветла-зьзяючага маю
Сарваны з роднага мы краю
Лязвом зьнішчаючай касы.
Ды верым ў хуткае збаўленьне.
Міне народны, цяжкі сон.
Сустрэнем краю адраджэньне—
Прыход вялікіх, сьветлых дзён.

Лукішкі.
10-VI—1927 г.

# НОВАМУ БОГУ

*(Прысьвячаецца Янку Купале)*

**П. Росіч**

Вуха маё ужо болей ня муліць
Рыпам капуставым сьнег,
Восьпенны твар паказала свой вуліца,
Брукам сьмяецца вясьне.

---

Раніца новаму моліцца богу,
Скрогат жалеза і грук...
Ламавікоў барадатыя ногі
Цокам грызуць ужо брук.

Тут у ваколіцы цягнецца вуліца
Пусткай цаглянай сьцяны,
К небу вужакаю дым чорны туліцца,
Пэцкае просінь вясны.

---

Новаму горад моліцца богу,
Цягнецца к небу лесам антэн,
Грае на струнах гімн перамогі,
Ловіць з паветра гукаў струмень.

---

Ўвечары вочы шкляныя крамаў
Глянуць хвастамі электра-комэт,
Моўчкі танцуюць сьвета-рэклямы,
Цемру трывожаць ўзьлётам ракет.

---

Ноччу бяззорнаю новаму богу
Моліцца моладзь у новых царквах:
„Зможам пражыць мы бяз бога старога,
Шчасьце сусьвету у нашых руках!“

# БЫВАЙ...

*(З блёк-ноту таварыша)*

**Аркадзь Куляшоў**

Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая,
Бывай, пялёсткамі разьвеяная квецъ,—
Тваё, чарнявая, юнацтва дагарае
І слоў заранкавая сонечная медзь...

Ці помніш вечару хвіліны агнявыя,
Хто мог юнацкія імкненьні затрымаць?..
І песьні новыя, і песьні маладыя—
На сэрцы ў цьвецені зьвінеў і плакаў май...

Зялёным вечарам ліхое разьвітаньне,
Апошнім вечарам чаромхі мілай пах...
Назаўтра ў шэрані праплакала сьвітаньне,
Туман на ростанях скаціўся, ў травы паў...

А ты, каханая, пад скрыпы жоўтых сосен
Пашла, трывожачы сьцюдзёную расу, —
Пашла, дзе гойдала зялёнае калосьсе
На сьцежках ростані пяшчотна-ціхі сум.

Пашла, чарнявая, каб сэрца больлю крануць,
Палыньню горкаю заросьці мне ў душы,
Хвілінай зробленыя золкавыя раны
Каб змог у сэрцы я гадамі патушыць...

Пашла за ціхія і дальнія прасторы,
Як казка сьветлая, ты зьнікла ў сіняве...
...І сэрца новыя, гарачыя дакоры
Са звонам срэбраным застылі на траве...

Пашла... Забылася... Ня вернешся, Алеся...
Бывай, чарнявая, каханая, бывай!..
А дні напорныя ізноў цьвітуць і весьняць,
І сэрца ў цьвецені, і сэрца п'яніць май...

Бывай, абуджаная ў сэрцы, дарагая,
А мне так хочацца юнацтва сыпаць квець, —
На сэрцы палкае імкненьне расьцьвітае,
А ў словах звонкая, заранкавая медзь!..

5/V—28 г. Расна—Самацэвічы.

## МНЕ ЗДЭЦЦА—КАЛЁСЫ НА МЕСЦЫ СТАЯЦЬ...

**Уладзімер Хадыка**

Мне здэцца—калёсы на месцы стаяць,
А далі бягуць і бягуць...
Драбней успаміны ня сьняцца краям,
Краі краявід сьцерагуць.

Як небаскляпеньня аплатак—ўгары
Тчэ воблачак белы туман.
Паставілі вокала поля бары
Густы і вялікі паркан.

Глядзі, маё сэрца, глядзі і згарай—
Каханьне ня шкодзіць жывым...
А хто абняславіць захоча мой край—
Няхай не зьнясе галавы.

Я ведаю,—гэтакіх водзіцца шмат,
Я ведаю добра іх сам...
У нас загатованасьць шэранькіх хат—
Шацер беларускім аўсам.

Ёсьць моцнае, моцнае войска у нас—
Рабоча-сялянская рацъ.
Мы выступім сьмела ў прызначаны час,
Каб клопат чужы пакарацъ.

Дарэмна рабіцьмуць капланы заклён,
Ратунку крыжы не дадуць...
Пад ціхае тыханьне родных хвальбон
Мне хочацца сёньня заснуць.

Мне хочацца любку аблашчыць сваю
І так без канца гаварыць,
Што разам з усімі і я пастаю
За радасьць і сьпевы зары.

Я еду насустрач мяцежным краям...
Краі краявід сьцерагуць.
Здаецца, калёсы на месцы стаяць,
А далі бягуць і бягуць...

# ІДЭАЛІЗМ І МАТЭРЫЯЛІЗМ *)

*(З цыклю „Ўводзіны ў філёзофію дыялектычнага матэрыялізму“)*

**Б. Быхоўскі**

IV

Пяройдзем да азнаямленьня з матэрыялістычным тыпам філёзофскага пабудаваньня. Якія асноўныя адметныя адзнакі матэрыялістычнай філёзофіі? Першая адзнака, якая абавязкова для ўсякага матэрыялізму і супроцьпалагае матэрыялізм суб'ектыўнаму ідэалізму, зьяўляецца прызнаньне існаваньня знадворнага сьвету, прызнаньне існаваньня об'ектыўнай рэальнасьці па-за нашай сьвядомасьцю.

Гэта сьцьвярджэньне, якое здаецца для здаровага сэнсу вельмі натуральным і вельмі простым, выклікае, аднак, палкія напады з боку супраціўнікаў матэрыялізму. Матэрыялістычнае прызнаньне існаваньня сьвету па-за нашай сьвядомасьцю нашы супраціўнікі лічаць самым вялікім догматызмам. Яны лічаць, што гэта сьцьвярджэньне матэрыялістыя ня могуць давесьці, што яны прымаюць яго некрытычна, догматычна, што яны вераць у існаваньне гэтага знадворнага сьвету.

Ці сапраўды матэрыялістычнае прызнаньне об'ектыўнай рэальнасьці зьяўляецца догматычным? Адносна гэтага пытаньня магчымы дзьве думкі: альбо знадворны сьвет існуе, альбо знадворны сьвет ня існуе. Трэцяга разьвязаньня, вачавідна, быць ня можа. Калі мы пры дасьледваньні суб'ектыўна-ідэалістычных конструкцый пераканаліся ў тым, што прыняцьце першае з гэтых магчымасьцяй, г. зн. адмаўленьне незалежнага знадворнага сьвету, прыводзіць да абсурду, то адсюль можна зрабіць заключэньне аб тым, што трэба прыняць другую з гэтых магчымасьцяй для таго, каб ня прыйсьці да недарэчнасьці. Дзеля таго што адмаўленьне об'ектыўнага сьвету прыводзіць да недарэчнасьці, то, як відаць, трэба выходзіць з прызнаньня гэтага сьвету.

Такім чынам, перамога суб'ектыўна-ідэалістычнага пабудаваньня сама па сабе ўжо зьяўляецца важкім аргумантам на карысьць матэрыялізму, бо вучэньні гэтыя супроцьлеглы, і адмаўленьне ад аднаго з іх служыць сьцьвярджэньнем другога: альбо—альбо. Наша дапушчэньне знадворнага сьвету зьяўляецца цалком навукова-законным, цалком навукова-правамерным, і ні ў якім разе не адвольным.

*) Гл. „Полымя“ № 4.

Дапусьцім, што мы ня можам даць простых доказаў існаваньня знадворнага сьвету. Што ў такіх выпадках вучоны павінен рабіць? Ён карыстаецца гіпотэзамі. На кожным кроку навукі дапушчаюцца гіпотэзы. Калі гіпотэза лічыцца апраўданай, калі яна з меркаваньня становіцца цьвёрда ўстаноўленай? Калі ўсе зробленыя на яе аснове пабудовы пацьвярджаюцца, апраўдваюцца. Калі-б так пытаньне паставілі, то і тады было-б вачавідна, што зусім ня трэба быць закаранелым догматыкам, каб стаць матэрыялістым, што дапушчэньне існаваньня об'ектыўнага сьвету зусім адпавядае прынцыпам навуковай мэтодолёгіі, калі гэта дапушчэньне вызваляе нас ад усякае недарэчнасьці, ад усякае бязглуздзіцы, калі ўсе веды, усе меркаваньні, пабудаваныя на аснове гэтага дапушчэньня, апраўдваюцца досьледам, калі нельга прывесьці ніводнага факту, які-б супярэчыў ёй, калі гэта гіпотэза дае нам магчымасьць шматстаронна і глыбока прасякнуць у таямніцы розных сфэр сьвету. Ва ўсякім выпадку, нават і суб'ектыўныя ідэалістыя ў сваёй дзейнасьці вымушаны вельмі часта адмаўляцца ад сваіх прынцыпаў і дапушчаць знадворны сьвет *як-бы* існуючым, таму што бяз гэтага дапушчэньня немагчыма ніякая навуковая практыка ў спэцыяльных галінах. Такім чынам, калі-б і нельга было непасрэдна давесьці існаваньне суб'ектыўнага сьвету, то яно абавязкова даводзіцца ўскосна, бо дапушчэньне яго патрэбна для ўясьненьня фізычных фактаў.

Мы, аднак, зусім не адносімся да знадворнага сьвету як да гіпотэзы; наадварот, мы лічым існаваньне яго пэўным. Калі шляхам чыста лёгічнага адцягненага разважаньня гэтага давесьці нельга, то адсюль магчыма зрабіць вывад ня толькі аб недаводзімасьці існаваньня знадворнага сьвету, але і другі—аб невыстарчальнасьці адцягненага лёгічнага крытэрыя, аб яго недасканаласьці, аб патрэбе больш надзейнага крытэрыя. Такім крытэрыем зьяўляецца досьледны крытэры. Тое, чаго нельга зрабіць чыста наглядальным, чыста лёгічным шляхам, тое дасягаецца дзякуючы дастасаваньню практычнага крытэрыя. Чалавечая практыка, чалавечая дзейнасьць, вельмі ўдала і неабвяргальна даводзіць існаваньне знадворнага сьвету. Сапраўды, тое, што дадзена нам у нашых адчуваньнях, дадзена нам прымусова. Тое, што чалавек павінен штодзенна і штогадзінна дапасоўвацца да таго, што прадастаўляецца цераз пасярэдніцтва адчуваньняў, тое, што чалавек ня толькі *павінен* дастасоўвацца, але і *ўмее* дастасоўвацца,—хіба гэта не зьяўляецца лепшым аргумантам на карысьць існаваньня знадворнага сьвету па той бок нашае сьвядомасьці? Той факт, што мы можам перамагаць гэтыя зьявы і ўзьдзейнічаць на іх, ці не даводзіць, што мы ня толькі ведаем аб яго існаваньні, але ведаем і прынцыпы яго існаваньня? Гэты крытэры, ня чыста наглядальны, а практычны, зьяўляецца нашым вырашальным аргумантам, абапіраючыся на які, мы прытрымліваемся прынцыпу існаваньня об'ектыўнай рэальнасьці. У гэтым адзначальная рыса нашай мэтодолёгіі. Яна

складаецца з таго, што мы лічым вырашальным крытэрыем ісьціны— чалавечую практыку. Апошняе слова ў пытаньні аб тым, што зьяўляецца ісьцінным, і што ім не зьяўляецца, павінна быць прадастаўлена нашай практычнай дзейнасьці. Пры гэтым зьмяняецца самае разуменьне ісьціны. Калі з пункту гледжаньня суб'ектыўнага ідэалізму ісьціна складаецца каб узгадніць адчуваньні адно з другім, то для нас ісьцінным зьяўляецца тое, што адпавядае практычным пытаньням.

Другою характэрнаю рысай матэрыялізму зьяўляецца пераконаньне ў пазнавальнасьці знадворнага сьвету. Гэта пытаньне, вачавідна, ня існуе для тых, хто адмаўляецца ад прызнаньня знадворнага сьвету, як і для тых, хто лічыць проблему об'ектыўнай рэальнасьці невырашальнай. Можна прызнаць існаваньне знадворнага сьвету ў мэтах пазбавіцца ад тупіка суб'ектыўнага ідэалізму, але сьцьвярджаць, што пазнаць яго мы ня можам, які гэты знадворны сьвет,—нам знаць ня дадзена. Матэрыялістыя прытрымліваюцца супроцьлеглага погляду, матэрыялістыя лічаць, што пазнаваць сьвет такім, якім ён ёсьць об'ектыўна ў рэчаіснасьці, мы можам, што выхад за межы суб'ектыўнасьці ёсьць.

Па пытаньні аб пазнавальнасьці знадворнага сьвету маюцца два радыкальна супроцьлеглыя адзін другому погляды. Першы з іх носіць назву наіўнага рэалізму. Ен месьціцца ў пераконаньні, што знадворны сьвет такі, як ён дадзены ў нашых адчуваньнях, што такім, як мы яго ўяўляем, ён ёсьць і ў рэчаіснасьці. Такі пункт гледжаньня падзяляецца ўсякім некультываваным, нявыпрабаваным здаровым сэнсам. Наіўны рэалізм утоесамлівае зьмест нашага адчуваньня з тым, што адбіваецца ў нашых адчуваньнях, ён характарызуецца сваёю някрытычнасьцю ў адносінах да адчуваньняў, ён не разумее, ня ўлічвае тых процэсаў, тых пераламленьняў, якія адбываюцца з прадметамі, калі яны адбіваюцца ў нашых органах пачуцьцяў. Ен не разумее таго, што калі рэч успрымаецца намі, адбіваецца ў нашай сьвядомасьці, адбіваецца не такою, якою яна існуе ў рэчаіснасьці, а скажаецца, праходзячы цераз прызму нашых органаў пачуцьцяў. Нашы адчуваньні не дакладна адбіваюць прадметы, яны суб'ектывізуюць іх. Нашы адчуваньні абумоўлены ня толькі знадворнымі прадметамі, але і ўласьцівасьцямі ўспрымальнага апарату. Калі-б нашы органы пачуцьцяў былі пабудаваны паіншаму, то і знадворны сьвет імі ўспрымаўся-б іначай. Вось чаму мы, у адменнасьць ад наіўнага рэалізму, ня лічым дапушчальным зьмешваньне—рэчы і ўяўленьня рэчы. Об'ект успрыманьня адменны ад успрыманьня об'екту, яны ня тожсамыя.

Другі, супроцьлеглы, пункт гледжаньня на гэта пытаньне сьцьвярджае, што паміж об'ектам успрыманьня і ўспрыманьнем об'екту *ніякага* падабенства няма, што зьмест нашага ўспрыманьня цалкам суб'ектыўны, што ён не дае ніякага ўяўленьня аб рэчы, якая яна ёсьць у рэчаіснасьці, што адчуваньне ствараецца рэччу, але не адбівае яго. Такі погляд, які

прыдае абсолютную суб'ектыўнасьць успрыманьняў, які лічыць, што мы ня можам выйсьці за межы гэтай суб'ектыўнасьці, няўхільна прыходзіць да скэптыцызму, альбо вучэньню аб непазнавальнасьці об'ектыўнага сьвету, да агностыцызму. Староньнікі гэтага погляду адрываюць сьвет рэчаў ад сьвету зьяў. Яны лічаць, што паміж тым, якою нам рэч здаецца, паміж зьяваю і рэччу, якою яна існуе сама па сабе, існуе непраходная прорва. Што колькі-б мы ні пазнавалі, мы ня выйдзем па той бок зьяў, а будзем кружыцца ў межах гэтых зьяў, што рэчы па-за намі застаюцца схаванамі ад нас, рэчамі ў сабе, не становяцца рэчамі для нас, што яны застаюцца недаступнымі і непасягальнымі. У лепшым выпадку, мы можам пазнаць некаторыя ўласьцівасьці гэтых рэчаў, але існасьць гэтых рэчаў для нас назаўсёды застанецца таямніцай.

Мы, марксыстыя, не зьяўляемся староньнікамі ні наіўнага рэалізму, ні агностычнага скэптыцызму. Мы прытрымліваемся трэцяга пункту гледжаньня, які не супадае ні з адным з іх, а ўбірае ў сябе элемэнты ісьціны, якая маецца і ў тым і ў другім. Мы ня лічым, што зьявы адарваны ад рэчы ў сабе, і ў той-жа час мы ня лічым, што зьявы тожсамыя рэчам у сабе. Наш пункт гледжаньня, які можа быць названы ў супроцьлегласьць агностыцызму—гностыцызмам, вучэньнем аб пазнавальнасьці сьвету, і ў супроцьлегласьць наіўнаму рэалізму—крытычным рэалізмам, месьціцца ў тым, што хоць зьявы і ня тожсамыя рэчам, але яны суадпаведны ім, што мы можам перамагчы суб'ектыўнасьць адчуваньняў, прасякнуць цераз іх пасярэдніцтва ў пазнаньні об'ектыўнай рэальнасьці. Зразумела, колеры, гукі і г. д. ня існуюць па-за намі, гэта формы нашага ўспрыманьня пэўных фізычных процэсаў, але калі я ўспрымаю дзьве рэчы—адну чырвоную, другую—зялёную, то хоць „чырвоная“ і „зялёная“ толькі формы нашага ўспрыманьня, але гэта розьніца ў адчуваньнях, якая зроблена рэчамі, дае веды таго, што за гэтымі суб'ектыўнымі розьніцамі хаваецца об'ектыўная розьніца паміж рэчамі, што рэчы выклікаюць розныя адчуваньні, об'ектыўна розныя адзін ад другога, хоць гэта розьніца і не такая, якою яна намі ўспрымаецца, якою яна дадзена ў нашым успрыманьні. Мы цяпер, дзякуючы фізыцы, ведаем, з чаго складаецца гэта розьніца. Для нас важна ў даным выпадку, што суб'ектыўныя адчуваньні зьмяшчаюць у сабе даныя аб суб'ектыўным сьвеце, што хоць нашы ўяўленьні і ня тожсамыя сваім об'ектам, гэта ня значыць, што мы цераз іх пасярэдніцтва нічога ня ўспрымаем аб сьвеце самым па сабе, што яны ня злучаюць, а адрываюць нас ад знадворнага сьвету. Мы ў суб'ектыўнай форме ўспрымаем рэальную, об'ектыўную розьніцу паміж рэчамі. Калі ў рэчы адбыліся зьмены, то хоць тыя зьмены, якія адбыліся ў гэтай рэчы, і ня тожсамыя з тым, як мы ўспрынялі гэтыя зьмены, але аб факце зьмены рэчы на падставе зьмен, што выклікаюцца яго адчуваньнем, мы можам заключаць. Такім чынам, цераз суб'ектыўныя формы нашага ўспрыманьня, пры дапамозе параўнаньня розных

рэчаў, пры дапамозе параўнаньня зьмен у аднэй і тэй самай рэчы, мы выходзім па той бок зьяў, бо хоць нашы ўспрыманьні і не адбіваюць рэчаў з абсолютнай дакладнасьцю, яны ўсё-ж пераводзяць рэальныя рэчы і іх сапраўдныя адносіны на мову нашых успрыманьняў.

Задача навукі месьціцца ў тым, каб перамагчы суб'ектыўнасьць нашага ўспрыманьня. Рэч мы ўяўляем так ці іначай у залежнасьці ад тагоператварэньня, якому яна падпала ў нашым успрыманьні. Каб прасякнуць у ісьціну, трэба перамагчы адваротны працэс—вылічыць з успрыманьня тыя скажэньні, якія адбыліся з рэччу, якая папала ў органы пачуцьцяў. Для гэтага трэба ведаць, вачавідна, законы фізыкі і фізыолёгіі, трэба ведаць мэханізм органаў пачуцьцяў. Калі мы зразумеем сутнасьць тае дзейнасьці, якая адбываецца ў воку, у вуху, калі мы зразумеем той працэсператварэньня, які там адбываецца, і гэты працэс вылічым са зьяў, што атрымліваюцца, мы атрымаем непараўнана больш дакладнае ўяўленьне аб об'екце, аб рэчах, якія выклікалі даную зьяву. Ці пазнаем мы органы пачуцьця такім чынам? Так, пазнаем. Мы ведаем мэханізм і хэмізм гэтых органаў, умеем самі ствараць падобныя ім мэханізмы.

Напомнім яшчэ аб тых сродках, пры дапамозе якіх мы перамагаем абмежаванасьць нашых органаў пачуцьцяў, вузкасьць нашага кругагляду і зьмяншаем суб'ектыўнасьць іх паказаньняў. Такім сродкам зьяўляецца ўся навуковая тэхніка. Каб перамагчы суб'ектыўнасьць, умоўнасьць паказаньняў нашых натуральных органаў пачуцьцяў, навука замяняе іх больш дасканалымі і бесстароньнімі судзьдзямі, яна вынаходзіць тэрмомэтр, вагу, гадзіньнік,—гэтыя прасьцейшыя прылады, зьяўляюцца сродкам перамогі недасканаласьці суб'ектыўнага паказаньня. Ці можам мы выйсьці за межы абмежаванасьці нашых органаў пачуцьцяў? Зразумела, можам. Што такое тэлескоп ці мікроскоп, як не пашырэньне нашых органаў зроку, павялічэньне нашай здольнасьці бачыць у сотні і тысячы разоў? Пры дапамозе навуковай тэхнікі мы ствараем сабе штучныя органы, у параўнаньні з якімі нашы натуральныя вельмі скромныя. Пры дапамозе гэтых штучных органаў мы прасякаем у новыя сфэры быцьця. У нас няма натуральнага органа пачуцьця, здольнага ўспрымаць ультрафіолетавыя ці інфрачырвоныя праменьні, а спэктроскоп зьяўляецца такім органам пачуцьця, створаным намі самымі. У нас няма органаў пачуцьцяў, якія могуць успрымаць рухі земнае кары на адлегласьці многіх тысяч кілёмэтраў, але сэсмограф выконвае гэту функцыю. У нас няма органу, каб бачыць праз цьвёрдыя целы, а рэнтгэнаўскія праменьні робяць гэта дасягальным для нас. Нашы пяць недасканалых органаў пачуцьцяў мы разьвілі, пашырылі, удасканалілі ў вышэйшай ступені і розных кірунках. Зразумела, і тут мы дасяглі далёка не апошніх межаў. Тут няма межаў, тут няма пэўнай апошняй ступені. Мы маем безьліч усё новых дасягненьняў, якія паказваюць, што мы ўсё больш і больш будзем прасякаць у таямніцы сапраўднага сьвету, у пазнаньне таго, што яшчэ не пазнана.

Ідэалістыя, патрабуючы ад нас, каб фактычнай пазнавальнай дзейнасьці папярэднічала разьвязаньне пытаньня аб магчымасьці пазнаньня, патрабуюць немагчымага. Усякае вырашэньне пытаньня аб магчымасьці пазнаньня будзе няўхільна догматычным, бо для вырашэньня яго мы ўжо павінны ўжыць тую самую пазнавальную дзейнасьць, якая зьяўляецца прадметам гутаркі.

Як-жа выйсьці з гэтай труднасьці? Як разьвязаць пытаньне аб магчымасьці пазнаньня? Пытаньне аб магчымасьці пазнаньня можа вырашыцца толькі ў самым процэсе пазнаньне. Калі чалавек пазнае, ён выясьняе магчымыя граніцы і межы пэўнасьці свайго пазнаньня. Навука практычна вырашае пытаньне аб магчымасьці і межах пэўнасьці навукі. Ніякага іншага шляху няма і быць ня можа. Толькі ў процэсе самага пазнаньня мы выясьняем пытаньне аб магчымасьці об'ектыўнага пазнаньня. Калі гэта фактычнае пазнаньне дасьць станоўчыя вынікі, калі навуковая практыка давядзе, што мы рэчы пазнаем правільна,—гэта і будзе разьвязаньне пытаньня. Вось чаму з нашага пункту гледжаньня проблема магчымасьці пазнаньня рашчыняецца ў мэтодолёгіі—у навуцы аб шляхох пазнаньня.

Мы бачылі некаторыя шляхі да об'ектыўнага пазнаньня, некаторыя мосьцікі, якія вядуць цераз зьявы да рэчаў. Практычнае ўжываньне, праверка на справе—зьяўляецца спэцыфічным крытэрыем, якога прытрымліваюцца марксыстыя ў пытаньні аб існаваньні і пазнавальнасьці знадворнага сьвету. „Каб выпрабаваць пудзінг, трэба яго паспытаць". Для таго, каб пераканацца ў рэальнасьці сьвету, стыкніся з ім. Для таго, каб пераканацца ў пазнавальнасьці сьвету,—пазнавай яго. Хіба той факт, што мы існуем, не даводзіць, што мы мір пазнаем? Калі-б мы не пазнавалі ні ў якай меры законаў сьвету, мы не маглі-б існаваць, мы і кроку не маглі-б зрабіць. Мы прыстасоўваемся да знадворнага асяродзьдзя, а калі-б наша пазнаньне, кіруючыся якім мы прыстасоўваемся, было суб'ектыўным, не давала-б нам вестак аб знадворным сьвеце, мы не маглі-б прыстасоўвацца.

Хіба-ж гісторыя чалавецтва, гісторыя навукі не зьяўляецца найлепшым доказам існаваньня знадворнага сьвету? Той факт, што мы ўмеем праракаць, умеем прадбачыць зьявы, даводзіць лепей усякіх разважаньняў, што мы пазнаем прыроду рэчаў, якімі яны ёсьць. Астрономічныя прараканьні або біолёгічныя прараканьні даводзяць, што мы некаторыя законы жыцьця альбо плянэтных рухаў пазнаем об'ектыўна. Але мы ня толькі пазнаем тыя ці іншыя рэчы, мы ўмеем імі аўладаць. Мы можам прымусіць іх весьці сябе так, а ня інакш, падпарадкаваць іх сваім мэтам, ставіць іх сабе на службу. Навукі, у большай ці меншай ступені, даюць нам магчымасьць ня толькі прарокаць процэсы прыроды, але і накіроўваць іх, а аўладаньне зьявамі, зразумела, прадпалагае об'ектыўнае пазнаньне рэчаў. Хіба чалавечая тэхніка не перамагае прасторы—земнае,

воднае, падземнае, падводнае і надземнае? Хіба нашы сродкі руху і сродкі сувязі ня сьціскаюць час? Хіба наша тэхніка ня ёсьць аўладаньне рознымі відамі энэргіі, аўладаньне сіламі прыроды? Хіба чалавек тунэлямі, каналамі, усялякімі пабудовамі, асушкамі і г. д. не зьмяняе самую карту сьвету?—Рэчы ў сабе на кожным кроку ператвараюцца ў рэчы для нас, паміж тымі і другімі няма кітайскай сьцяны. Быў час, калі Амэрыка была невядомай нам „рэччу ў сабе". Колюмб і Амэрыго Вэспучы ператварылі яе ў рэч для нас. Ультрафіолетавыя праменьні— рэч для нас, а быў час, калі яны ёю ня былі.

Пазнаем мы толькі ўласьцівасьці рэчаў, ці мы можам пазнаваць і істоту іх? Гэта пытаньне прадпалагае існаваньне, апрача ўсіх уласьцівасьцяй прадметаў, яшчэ якуюсьці істоту яго, душу рэчаў. Чым больш мы даную рэч пазнаем, чым больш яе ўласьцівасьцяй нам вядома, тым глыбей мы прасякаем у яе істоту. Ніякай анімістычнай існасьці па той бок якасьцяй рэчы ня існуе. Сутнасьць рэчы ёсьць адзінства, цэльнасьць яе ўласьцівасьці.

Ці сьледуе з сказанага, што мы, марксыстыя, пераконаны ў тым, што пазналі сьвет, які ён ёсьць у рэчаіснасьці? Ні ў якім разе, не Трэба адрозьніваць два разуменьні: пазнавальнасьць рэчаў і іх пазнанасьць. Мы, марксыстыя, пераконаны ў тым, што сьвет пазнавальны, што, аднак, ня значыць, што сьвет ужо пазнаны. Мы далёка не пазналі яго і не спадзяемся ў скорым часе вычарпаць яго пазнаньне. Наадварот, мы думаем, што ніколі ён абсолютна да канца ня будзе пазнаны. Мы, оптымістычна, бадзёра і ўпэўнена глядзім на разьвіцьцё навукі, мы бачым, што навука з кожным крокам усё больш і больш пазнае сьвет, што пазнаньне гэта ёсьць пазнаньне рэчаіснай рэальнасьці, што пазнаньні нашы бязьмежныя, што ім няма граніц, што перад намі яшчэ многа і многа работы, каб пасягнуць гэты сьвет.

Трэба разрозьніваць об'ектыўныя ісьціны і абсолютную ісьціну. Об'ектыўнае пазнаньне—пазнаньне рэчаў такімі, якімі яны ёсьць у рэчаіснасьці. Такім зьяўляецца наша пазнаньне. А абсолютнае пазнаньне— гэта пазнаньне вычарпальнае, закончанае. Ці можам мы аўладаць абсолютным пазнаньнем? Не, мы ня ўсё ў гэтым сьвеце пазналі. Мы ведалі раней менш, цяпер ведаем больш. Граніца паміж пазнаным і непазнаным заўсёды перасоўваецца. Прогрэс навукі азначае большы захоп тэрыторыі ў сфэры непазнанага. Пазнаньне адносна. Яго адноснасьць абумоўлена прычынамі гістарычнага парадку, узроўнем, дасягнутым культурай.

Таксама трэба адзначыць, што пазнанасьць сьвету кожным паасобным індывідуумам, зразумела, вузей, чым пазнанасьць сьвету чалавецтвам. Пазнаньне ўсякага паасобнага індывідуума мае індывідуальныя граніцы, біолёгічныя і псыхолёгічныя. Веды кожнага паасобнага чалавека ня вычэрпваюць таго, што дасягнута грамадзтвам. Калі мы гаворым аб пазна-

насьці, то мы гаворым аб ступені, якая дасягнута на даным гістарычным этапе грамадзтвам у цэлым.

У нашым пазнаньні надзвычайна шмат прабелаў. Ёсьць безьліч пытаньняў, на якія мы адказу даць ня маем магчымасьці. Толькі той, хто ніколі не займаўся навуковаю работай, можа думаць, што ўсё паддаецца тлумачэньню. Але гэта ні ў якім разе ня хістае правільнасьці нашых філёзофскіх поглядаў. Мы, марксыстыя, на шмат якія пытаньні ня можам вычарпальна і дакладна адказаць. Але гэта зусім не даводзіць няпрыгоднасьці матэрыялістычнага мэтоду, бо ўсё, што мы ведаем, аб усім мы даведаліся дзякуючы матэрыялістычнаму мэтоду. Практыка навукі даводзіць правільнасьць мэтоду. Зробленыя дасягненьні гарантуюць вернасьць мэтоду, вучаць, што іменна яго трэба прытрымлівацца, каб пазнаць тое, што яшчэ не пазнана. Навука ёсьць бясконцы процэс, бясконцы і бязьмежны пераход ад няведаньня да пазнаньня. Навука ёсьць бясконцае і неабмежаванае набліжэньне да мяжы. Гэтаю мяжой зьяўляюцца абсолютныя веды. Прогрэс навукі азначае, што мы ўсё больш набліжаемся да гэтае мяжы, шлях да якога бясконцы.

Трэцяе сьцьвярджэньне матэрыялістых складаецца з таго, што сьвет матэрыяльны. Што такое матэрыя? Разуменьне матэрыі мае два сэнсы, пытаньне гэта мае два бакі: філёзофскае разуменьне матэрыі і яе фізычнае разуменьне. Гэта ня два супярэчныя разуменьні, а азначэньне двух розных пунктаў гледжаньня. Філёзофскае разуменьне матэрыі—гэта тое разуменьне, якое характарызуе яе адносіны да пазнаньня. Філёзофскае разуменьне матэрыі кажа: „матэрыя ёсьць тое, што існуе па-за нашай сьвядомасьцю і выклікае нашы адчуваньні“. Усё, што існуе па-за нашай сьвядомасьцю і здольна выклікаць нашы адчуваньні, ёсьць матэрыя. Адсюль вывад, што тое, што ня існуе па-за нашай сьвядомасьцю, ня ёсьць матэрыя. Гэта азначэньне выражае сабою дзьве азначаныя рысы матэрыялізму: прызнаньне об'ектыўнай рэальнасьці і адчувальныя паходзіны пазнаньня аб ёй. Фізычнае разуменьне матэрыі мае на ўвазе не тэорэтыка-пазнавальны, а онтолёгічны бок справы, пытаньне аб тым, *які* гэты об'ектыўны сьвет.

Прыпамятаем, як наогул даюцца азначэньні. Што такое чалавек? Жывёла, двуногая, сысун. Чалавек—жывёла, але і сабака і птушка таксама жывёлы. Вы падводзіце разуменьне чалавек пад больш шырокае радавое разуменьне, адным з відаў катарага ён зьяўляецца. Апрача паказаньня на радавое разуменьне, вы азначаеце адметныя адзнакі гэтага віду, які адрозьнівае яго ад усіх іншых відаў таго-ж роду,—двуногая, сысун. Такім чынам, азначэньне даецца цераз агульны род і відавую адменнасьць.

Ці можна даць вычарпальнае азначэньне матэрыі гэтымі адзнакамі паводле ўсіх правіл лёгікі? Не, нельга. Ці можна матэрыю азначыць цераз род і відавую адзнаку? Нельга. Матэрыя ёсьць усё існуючае. Усё,

што ёсьць, зьяўляецца рознымі відамі матэрыі, сама-ж матэрыя ня можа азначацца як прыватны выпадак якогасьці роду. З гэтае прычыны нельга даць і відавую адзнаку матэрыі. Калі матэрыя ёсьць *усё* існуючае, то немысьліма шукаць яе адметныя адзнакі ад чаго-небудзь другога,— гэтым другім можа быць толькі няіснуючае, г. зн. яго ня можа быць. Азначыць матэрыю, такім чынам, можна, пералічыўшы ўсе яе ўласьцівасьці, гэта значыць ўсё, што ўласьціва існуючаму. Вось чаму можа быць заўсёды толькі адноснае фізычнае азначэньне матэрыі, бо абсолютнае азначэньне было-б абсолютным пазнаньнем існуючага.

Электрычная тэорыя матэрыі зьяўляецца пануючай на цяперашняй ступені разьвіцьця навукі, яна дае адноснае фізычнае азначэньне матэрыі, якое пераважае над папярэднімі, але яно ня ёсьць канчатковае. Фізычнае азначэньне матэрыі, якое давалі матэрыялістыя 300 год таму назад, мы цяпер прыняць ня можам. Ці значыць гэта, што мы перасталі быць матэрыялістымі? Ні якім чынам. Абсолютнага, пастаяннага *фізычнага* азначэньня матэрыі быць ня можа. У залежнасьці ад прогрэсу фізычных навук матэрыя будзе азначацца іначай, больш дасканала. Папярэдняе азначэньне аказваецца не абсолютна няпраўдзівым, а павярхоўным, недакладным.

Сьвет адзіны, адзінства яго грунтуецца на тым, што сьвет матэрыяльны. Усё, што існуе, матэрыяльна. Пазнаньне матэрыі — адзіная задача навукі. Гісторыя сьвету зьяўляецца ні чым іншым, як гісторыяй разьвіцьця матэрыі, процэсам трансформацыі матэрыі, можна сказаць у процівагу азначэньня Гегеля, што гісторыя сьвету ёсьць самаразьвіцьцё матэрыі. Што такое пазнаньне сьвету? Ні што іншае, як самапазнаньне матэрыі. Калі мы пазнаем сьвет, гэта значыць, што адна з матэрыяльных рэчаў—чалавек—пазнае законы матэрыяльнага сьвету, часткаю якога ён зьяўляецца. У Гегеля пазнаньне—гэта самапазнаньне абсолютнай ідэі. Абсолютную ідэю—гэту абалонку над матэрыяльным сьветам—мы адкідаем. Усё існуючае зьяўляецца выяўленьнем матэрыі. Матэрыя ёсьць першае і адзінае існуючае.

Сьцьвярджаючы матэрыяльнае адзінства сьвету, мы адмяжоўваемся ад усякага дуалістычнага разрыву сьвету. Дух, сьвядомасьць—павінны быць зразумелыя, як зьвеньні матэрыяльнага адзінства, як формы існаваньня матэрыі, як сваеасаблівыя выяўленьні фізычнага сьвету.

Адкідаючы об'ектыўна-ідэалістычныя абалонкі, мы парываем з адухаўленьнем сусьвету, з прыпісваньнем яму разумнага мэтанакіраванага быцьця з фізычным антропоморфізмам. Не навукі аб прыродзе рашчыняюцца ў лёгіцы, а лёгіка зьяўляецца аднэй з навук аб прыродзе, якая вывучае асаблівы, вельмі складаны продукт эволюцыі матэрыі. Эволюцыя сьвету пазбаўляецца рысаў разумнасьці і тэлеолёгіі, яна адбываецца згодна прычыннай канечнасьці. Ня ў лёгіцы сусьветнага розуму, а ў законамернасьцях разьвіцьця матэрыі ключ да разуменьня сусьвету.

Так адмяжоўваецца матэрыялізм ад суб'ектыўнага ідэалізму (аб'ектыўны сьвет), ад дуалізму „онтолёгічнага" (адзінства сьвету) і „гносэолёгічнага" (пазнавальнасьць сьвету) і ад аб'ектыўнага ідэалізму (матэрыяльнасьць і прычынная канечнасьць).

Часта задаюць пытаньне аб тым, што першая прычына ўсяго існуючага? У чым пачатак усіх пачаткаў, першая прычына сьвету, адкуль паходзіць матэрыя? Гэта ўнутрана-супярэчнае, недарэчнае пытаньне. Калі той, хто пытае, лічыць, што *ўсё* існуючае мае сваю прычыну, калі ён, як і мы, староньнік прычыннага тлумачэньня, то ніякае *першае* прычыны ён шукаць ня можа, бо ўсякая прычына заўсёды будзе другою, а ня першаю. Шуканьне першай прычыны азначае шуканьне чагосьці беспрычыннага, што недапушчальна з прынятага пункту гледжаньня. Пытаньне будзе бясконца адсоўвацца, бо на што-б мы ні згадзіліся, апошняе будзе вымагаць далейшага тлумачэньня. Бог справе не дапаможа, бо і ў адносінах да бога захоўваецца пытаньне аб прычыне. Калі-ж хто дапусьціць беспрычынную істоту, то якое права ён можа патрабаваць ад нас адмовіцца ад таго, што ён дазваляе сабе?

Зачапіўшы рэлігійныя пярэчаньні супроць матэрыялізму, спынімся ў некалькіх словах на пытаньні аб нашых адносінах да існаваньня тамстароньняга сьвету. Мы староньнікі тамстароньняга сьвету, бо матэрыялістыя лічаць, што па той бок сьвядомасьці існуе сьвет. Мы лічым, што існуе многа непазнанага, стала быць, мы дапушчаем, што існуе „тамстароньні сьвет", аб якім мы ня маем уяўленьняў. Але сьвету па-за прыродаю, не-матэрыяльнага, звышпачуцьцёвага, на які не пашыраюцца фізычныя законы,—такога тамстароньняга сьвету мы, зразумела, не прызнаем.

Якім чынам могуць людзі сьцьвярджаць аб існаваньні надпачуцьцёвага сьвету? Калі ён не пазнавальны, то і гаварыць аб ім нельга. Калі людзі сьцьвярджаюць аб існаваньні чагосьці, стала быць яны аб ім штосьці ведаюць. Але ён недаступны звычайным сродкам пазнаньня па сваёй прыродзе. Але, магчыма, гэты сьвет не пазнавальны проста, але ён пазнавальны ўскосна, сваімі выяўленьнямі? Так, мы эфір, напрыклад, проста не сустракаем, а прадпалагаем яго існаваньне па яго дзеяньні на грунце ўскосных даных.

Пытаньне зводзіцца да таго, ці патрабуе наша навуковая практыка такое гіпотэзы. Але мы ня ведаем такіх выпадкаў, калі-б нам такая гіпотэза была патрэбна. Існуе пераконаньне, што практыкаю, разумным шляхам мы даведацца аб тамстароньнім сьвеце ня можам, мы пасягаем яго асаблівым шляхам, шляхам зьвышнаданьня (адкравеньня), інтуіцыі.

Мы, людзі навуковай працы, маем рацыю патрабаваць ад староньнікаў гэтага звышнаданьня, каб яны давялі, чаму іх звышнаданьне павінна прэтэндаваць на аб'ектыўнае значэньне. Мы патрабуем дастасаваньня да яго аб'ектыўнага крытэрыя ісьціны. Калі вы гэта зробіце, мы з ахво-

таю прызнаем існаваньне бога. Мы не павінны даводзіць, што тамстароньняга сьвету ня існуе, ярмо такога роду доказаў павінна ляжаць на тых, якія даводзяць яго існаваньне. Навука ў сваёй практычнай дзейнасьці ў гэтай гіпотэзе ніколі ня мела патрэбы, усё, што дасягнута, што зроблена навукай, усе нашы посьпехі дасягнуты намі не з дапамогаю гіпотэзы надпачуцьцёвага сьвету, а наперакор ёй. Пакажэце мне хоць на адно навуковае дасягненьне, адно тэхнічнае дасягненьне, якое было-б зроблена пры дапамозе гіпотэзы боскага і надпачуцьцёвага сьвету? Такіх няма. Калі гэта давесьці нельга, як факт, то, як гіпотэза, яна нам і дарам не патрэбна.

Мы, староньнікі прычыннага, матэрыялістычнага тлумачэньня зьяў, людзей з „звышнаданьнем“, з гэтага роду суб'ектыўнымі ілюзіямі вывучаем, стараемся карані гэтых ілюзій зразумець. Мы ведаем тую соцыяльную і псыхолёгічную глебу, на якой выростаюць такога роду погляды і ўспрымальнасьць да ўсякага роду звышнаданьняў. Мы ведаем сродкі перамагаць гэтыя ілюзіі. Гэта—калі ня лічыць псыхо-патолёгічных скажэньняў—уяўляе з сябе ідэолёгію пэўных кляс на пэўных ступенях разьвіцьця, яна мае пэўную соцыяльную абумоўленасьць і прызначэньне. Для навукі-ж усё гэта ня толькі не патрэбна, але ў адносінах да яе іграе ў вышэйшай ступені шкодную і рэакцыйную ролю. Спасылкаю на бога прытупляюць шуканьне непазнанага, гэта—лапікла на дзірках навукі, лапікла, прышытае іглою бяз ніткі. Кожны крок у прогрэсе навукі прымушае староньнікаў рэлігіі выбраць новую рэзыдэнцыю надпачуцьцёвага сьвету. Гэта—бясшкодная бацыла, якая можа жыць толькі там, дзе тканка навукі маладая і слабая. Гэта тормаз, палкі ў калёсы жывой навуковай творчасьці.

Пяройдзем да разгляду таго разьвязаньня, якое дае матэрыялізм у процілегласьць дуалізму, проблеме суадносін мысьленьня і быцьця, у фізычнай пастаноўцы пытаньня, гэта значыць, у якім стасунку знаходзіцца сьвядомасьць, як нешта існуючае, да матэрыяльнага, фізычнага быцьця.

Адказ на гэта пытаньне павінен быць дадзены не лёгічнымі развbooжаньнямі, а фактычнымі назіраньнямі і экспэрымэнтамі. Мы ў цяперашні час маем з практыкі вялізарны матэрыял, які неабвяргальна даводзіць, што нідзе, ніколі сьвядомасьць, мысьленьне, ня існуюць без некаторых матэрыяльных процэсаў, што для наяўнасьці тых актаў, якія носяць назву псыхічных і сьвядомых, абавязковаю ўмоваю зьяўляецца наяўнасьць пэўных матэрыяльных процэсаў. Сьвядомасьць мае месца толькі ў аднэй групе рэчаў, сярод той часткі органічнага сьвету, якая надзелена пэўнага роду організацыяй—нэрвовай сыстэмай.

Нэрвовая сыстэма, хоць-бы ў самай прымітыўнай форме, зьяўляецца абавязковаю ўмоваю таго, што носіць назву псыхічнай дзейнасьці. Гэтыя два роды зьяў—псыхічная і фізычная, знаходзяцца ў непарыўнай сувязі адна

з другою. Больш уважлівае вывучэньне пераконвае ў тым, што залежнасьць гэта цясьней яшчэ больш непарыўна, як гэта нам здаецца пры павярхоўным поглядзе на рэчы. Калі карыстацца мэтодам экстырацыі, г. зн. выключаць то тыя, то іншыя часткі нэрвовай сыстэмы, мы можам пазбавіць організм тых ці іншых сфэр, тых ці іншых выяўленьняў псыхічнай дзейнасьці. Пры такога роду экспэрымэнтальнай рабоце становіцца зусім вачавідным, што псыхічная дзейнасьць ёсьць дзейнасьць, самым цесным чынам залежная ад функцый і конструкцыі мазгоў. Такіх даных з практыкі маецца вельмі многа. Калі мы будзем карыстацца мэтодам хэмічнага ўзьдзеяньня на організм, мэтодам атручваньня, напрыклад, наркотыкамі, мы будзем выклікаць іншы кірунак псыхічнай дзейнасьці, іншы кірунак сьвядомасьці. У цяперашні час устаноўлена, што псыхічная дзейнасьць праводзіцца з затратай фізычнай энэргіі організму, як і ўсякага роду іншая дзейнасьць, і можна з большаю ці меншаю дакладнасьцю вылічыць тыя затраты організму, якія вынікаюць пры нэрвовай мазгавой дзейнасьці, якая праводзіцца дзейнасьцю сьвядомасьці.

Тая галіна ведаў, якая носіць назву рэфлексолёгіі, умее вывучаць дзейнасьць жывёл, зусім адцягваючыся ад так званых зьяў сьвядомасьці, вывучаючы выключна матэрыяльны фізычны бок справы, вывучаючы выключна процэсы, якія маюць месца ў нэрвовай сыстэме, зусім бяз увагі да суб'ектыўнага боку, вывучаючы выключна матэрыяльныя ўзьдзеяньні на організм, тыя матэрыяльныя процэсы ператварэньня, якія робяць яны ўнутры організму, абумоўліваючы яго рэакцыю. Мы можам у некаторых выпадках і штучна выклікаць тыя ці іншыя зьмены ў сьвядомасьці пры дапамозе ўзьдзеньня выключна на фізычныя элемэнты організму. Прыняты намі крытэры для таго, каб азначыць, што зьяўляецца ісьцінным і што несапраўдным,—гэты крытэры пры яго ўжываньні паказвае, што паміж псыхічнымі і матэрыяльнымі процэсамі існуе самая цесная непарыўная сувязь, што носьбітам псыхічнай дзейнасьці зьяўляецца не якаясьці духоўная істота, а істота фізычная. Чалавек ва ўсёй сваёй матэрыяльнасьці, ва ўсёй конкрэтнасьці зьяўляецца носьбітам таго, што носіць назву сьвядомасьці. Сьвядомасьць зьяўляецца ні чым іншым, як аднэй з дзейнасьцяй, адным з выяўленьняў, аднэй з функцый матэрыяльнае істоты ва ўсёй яго фізычнай цэльнасьці. Абстрагуйцеся ад гэтага матэрыяльнага носьбіта сьвядомасьці—і сьвядомасьць перастае існаваць, бо псыхіка зьяўляецца толькі аднэй з уласьцівасьцяй гэтае матэрыяльнае істоты. Іншымі словамі, мы прыходзім да вываду, што сьвядомасьці, суб'ектыўнасьці няма і быць ня можа; там, дзе няма матэрыі, там няма об'екта. Без матэрыяльнага об'екта ня можа быць сьвядомасьці, якая зьяўляецца толькі формаю выяўленьня, толькі ўласьцівасьцю гэтага матэрыяльнага об'екта.

Няма сьвядомасьці без матэрыі. Але ёсьць матэрыя без сьвядомасьці. Існуюць матэрыяльныя об'екты (яны носяць назву няжывых), якія належаць да неорганічнай прыроды, якія пазбаўлены сьвядомасьці

якія пазбаўлены псыхікі, але няма псыхікі, якая-б ня была ўласьцівасьцю матэрыяльнае істоты, бо псыхічная сьвядомасьць ёсьць ні што іншае, як уласьцівасьць пэўнага роду матэрыі, матэрыі, пэўным чынам організаванай. Ня ўсякая матэрыяльная організацыя мае ўласьцівасьць сьвядомасьці; апошняя зьяўляецца продуктам пэўным чынам організованай, вельмі складанай па сваёй будове матэрыі, якая вынікла на вельмі высокім узроўні эволюцыі прыроды. Няма такое псыхічнае дзейнасьці чалавека, якая-б не справодзілася фізычнымі процэсамі ў яго організьме, але, наадварот, можна адшукаць цэлы рад фізычных процэсаў у організьме, якія зусім ня зьвязаны з сьвядомасьцю, ці будзе гэта ў той час, калі сьвядомасьць перастае існаваць, ці ў цэлым радзе бесьсьвядомых паводзін—непадконтрольных сьвядомасьці, недаступных для яе актаў.

Асаблівасьць матэрыялістычнай пастаноўкі гэтай проблемы месьціцца ў тым, што мы не разрываем суб'ек і об'ект, мы не супроцьставім іх адзін аднаму, як два супроцьлежныя полюсы: *я* і быцьцё, суб'ект і об'ект. Наадварот, матэрыялістычная пастаноўка пытаньня месьціцца ў тым, што само *я*, суб'ект, разглядаецца як об'ект. Мы ставім проблему сьвядомасьці, бяручы замест асабовага займеньніка *я* асабовае займеньне *ён*, мы разглядаем чалавека, які зьяўляецца для сябе суб'ектам, як об'ект у радзе другіх об'ектаў. Калі гэтага не забываць, калі глядзець на кожную мысьлячую істоту, як на адзін з об'ектаў, уласьцівасьцю якога зьяўляецца здольнасьць быць для сябе суб'ектам, мы засыпаем прорву паміж суб'ектам і об'ектам. Няма такога суб'екта, які ня быў-бы об'ектам.

Кожны *я*, які супроцьставіць сябе ўсім другім об'ектам, сам зьяўляецца ня толькі *я*, але і *ты* і *ён*, г. зн. об'ектам. Калі мы так глянем на ўсякую мысьлячую істоту, на суб'екта, як уласьцівасьць об'екта, тады мы дасягнем разуменьня матэрыялістычнай пастаноўкі гэтай проблемы.

Мы кажам, што сьвядомасьць ёсьць ні што іншае, як выяўленьне, як уласьцівасьць асаблівым чынам організаваных матэрыяльных істот. З чаго гэта ўласьцівасьць складаецца? Матэрыяльным бо рэчам уласьцівы розныя выяўленьні. Тое, што носіць назву сьвядомасьці, зьяўляецца толькі адным з іх. З чаго складаецца гэта ўласьцівасьць у адзнаку ад другіх уласьцівасьцяй матэрыі? Яна складаецца з здольнасьці матэрыі да ўнутранага адбіцьця, з таго, што матэрыя ня толькі функцыянуе, падлягаючы матэрыяльным узьдзеяньням, але і мае ўласьцівасьць унутранага адбіцьця тых процэсаў, якія з ім адбываюцца. Камень—ён і рухаецца і мяняе сваё становішча, але гэтаму каменю не ўласьціва здольнасьць усрымаць процэсы, якія з ім адбываюцца, ён пазбаўлен сьвядомасьці, ён ня існуе, як я. Толькі пэўным чынам організаваная матэрыя мае здольнасьць успрымаць, унутрана адбіваць, усьведамляць некаторыя процэсы, якія адбываюцца ў ёй.

Сама гэта ўласьцівасьць сьвядомасьці таксама мае доўгую гісторыю разьвіцьця, і мы можам зазначыць цэлы рад ступеняў, цэлы рад зьвеньняў рознае вышыні сьвядомасьці—ад прасьцейшай чуласьці да філёзофскага мысьленьня: ад первястковых рэфлексаў да больш складаных цэнных рэфлексаў—інстынктаў, да яшчэ больш складаных рэакцый—умоўных, рухальных рэфлексаў і заснаванага на іх, зьвязанага з моваю, мысьленьня—ляжыць доўгі шлях эволюцыі.

Які-ж тут тып сувязі паміж сьвядомасьцю і матэрыяй? Ці можна сказаць, што сьвядомасьць знаходзіцца ў прычыннай залежнасьці ад матэрыяльных процэсаў, што матэрыя ўзьдзейнічае на сьвядомасьць, у выніку чаго адбываецца зьмена сьвядомасьці? Не, сказаць нельга. Застаецца ў моцы палажэньне, што матэрыяльная зьмена можа выклікаць толькі матэрыяльную-ж зьмену.

Якім-жа чынам процэсы сьвядомасьці абумоўлены матэрыяльнымі процэсамі? Справа ў тым, што сьвядомасьць і матэрыя не зьяўляюцца рознастайнымі рэчамі. Гэта адна і тая самая рэч, адзін і той самы процэс, але толькі з двух бакоў разгляданы. Гэта ні дзьве рэчы, а два бакі аднэй і тэй самай рэчы, суб'ектыўны і об'ектыўны бакі аднаго і таго самага адзінства. Матэрыяльны процэс і духоўны ёсьць ня што іншае, як ліцавы бок рэчы і яе выварат. Тое, што звонку, з ліцавога об'ектыўнага боку, зьяўляецца матэрыяльным процэсам, тое з сярэдзіны для самой гэтай матэрыяльнай істоты ўспрымаецца як зьява волі, як зьява адчуваньня, як нешта духоўнае. Тут ня два розныя процэсы, а два бакі аднаго і таго самага процэсу.

Сьцьвярджэньне аб тым, што мы, матэрыялістыя, лічым, што быццам мысьль ці жаданьне ёсьць штосьці матэрыяльнае, выдзяляецца мазгамі падобна таму, як жоўць выдзяляецца печаньню, зусім скажае нашы ўяўленьні па гэтым пытаньні. Мысьль, валявы акт—гэта ня штосьці, што можна памераць, вылічыць, а ўласьцівасьць таго, што можна памераць падобна таму, як кулявіднасьці неўласьціва вага, а абодва яны ёсьць розныя ўласьцівасьці аднаго і таго самага цела.

Разьвязваючы такім чынам проблему быцьця і сьвядомасьці, мы пазбаўляемся дуалістычнага тупіка, няўвязкі таго і другога, з другога боку, мы ўхіляемся і ідэалістычнай пастаноўкі пытаньня. Наадварот, мы лічым сьвядомасьць уласьцівасьцю фізычнага процэсу (уласьцівасьцю, але не выдзяленьнем). Гэта разьвязаньне моністычнае, тут няма разрыву паміж фізычным сьветам і чалавекам, чалавек не зьяўляецца грамадзянінам двух сьветаў—напоўзьверам і напоўанёлам, які належыць у значнай меры не да матэрыяльнага, а да сьвету духоўнага, тамстароньняга.

З другога боку, монізм месьціцца і ў тым, што быцьцё і сьвядомасьць зьяўляюцца ня дзьвума разарванымі, аддзеленымі адзна ад другой існасьцямі, а адзінствам матэрыі і яе ўласьцівасьці. Яны не супроцьстаяць адна аднэй, а адна зьяўляецца аднэй з выяўленьнем другой.

Матэрыялізм зьяўляецца такім чынам вучэньнем моністычным, якое даводзіць матэрыяльнае адзінства сьвету. Але яго монізм ня вычэрпваецца гэтым, а пашыраецца і на гносэолёгічныя проблемы. Мы ўжо бачылі, што матэрыялізм перамагае дуалізм рэчаў і зьяў, ён перамагае таксама дуалізм тэорыі і практыкі.

Матэрыялізм моністычны і ў тых адносінах, што ўстанаўляе адзінства тэорыі і практыкі. Гэта надзвычайна важная адзначальная рыса нашай марксыцкай мэтодолёгіі. Мы прызнаем ня толькі адзінства быцьця і сьвядомасьці фізычнага сьвету і чалавека, пазнаючага і пазнавальнага, але і адзінства тэорыі і практыкі. Мы разглядаем тэорыю як частку практычнай дзейнасьці чалавека, як адну з прылад нашай практычнай дзейнасьці. Мы лічым, што навука ёсьць ні што іншае, як служанка практычнай дзейнасьці людзей. Мы зьяўляемся рашучымі супраціўнікамі разрыву паміж тэорэтычнай мысьлю і практычнай дзейнасьцю. Мы лічым, што ад гэтага цярпіць і тое і другое. Наіўная, непрадуманая практычная дзейнасьць зьяўляецца самым сьляпым, самым непрактычным спосабам дзейнасьці; з другога боку, тэорыя, не праверaная практыкай, далёкая ад практычнай дзейнасьці, зьяўляецца самай сумніцельнай, што прыводзіць да самых няправільных вывадаў, тэорыяй.

Мы зьяўляемся староньнікамі сувязі паміж гэтымі двума момантамі, бо сама тэорыя ўзьнікае з практычнай дзейнасьці людзей, служыць гэтай практычнай дзейнасьці і завяршае яе. Але наш погляд ня проста моністычны, ён адрозьніваецца ад ідэалістычнага монізму, як монізм матэрыялістычны.

У чым месьціцца матэрыялізм гэтага монізму? Папершае, пры разьвязаньні гносэолёгічнай проблемы мы бярэм за першастковае—об'ект. Мы ня лічым, што зьмест нашага пазнаньня, об'ект нашага пазнаньня параджаецца суб'ектам. Мы лічым, што першастковым зьяўляецца об'ектыўны сьвет, які ўзьдзейнічае на сьвядомасьць, азначае яе, параджае яе зьмест.

Такім чынам, у разьвязаньні тэорэтыка-пазнавальнай проблемы мы лічым першастковым об'ект, прыроду і толькі другарадным—мысьленьне, сьвядомасьць. Суб'ект сам зьяўляецца адным з об'ектаў, суб'ект сам зьяўляецца продуктам об'ектыўнага сьвету.

Мы, зразумела, зусім не адмаўляем, што адчуваньне павінна падлягаць разумнай, рацыянальнай перапрацоўцы. Сам характар разумнай перапрацоўкі адчуваньня не зьяўляецца чымсьці незалежным ад об'ектыўнага сьвету. Розум зьяўляецца вынікам шматгадовага ўзьдзеяньня об'ектыўнага сьвету, продуктам шматвяковага дапасаваньня чалавека да яго. Так-жа сама, як мы не адмаўляем пазнаньня, як мы не адмаўляем розуму, мы зусім не адмаўляем і сьвядомасьці, псыхікі. Матэрыялізм месьціцца ў тым, што сама псыхіка разумеецца як здольнасьць матэрыі. Такія рысы, што характарызуюць наш монізм і наш матэрыялізм. У чым

будзе розьніца ў адносінах да суб'ектыўнага і об'ектыўнага ідэалізму? У адносінах да суб'ектыўнага ідэалізму розьніца месьціцца ў тым, што мы прызнаем існаваньне знадворнага сьвету, лічым об'ектыўны сьвет не продукцыяй суб'екта, а наадварот.

Матэрыялізм—вучэньне такое-ж даўняе, як і ідэалізм. Уся гісторыя філёзофіі поўна барацьбы паміж гэтымі двума асноўнымі кірункамі. Тое, што пануючай ідэолёгіяй быў ідэалізм, тлумачыцца тым, што пануючая ідэолёгія ёсьць ідэолёгія пануючай клясы. Пануючымі-ж клясамі да гэтага часу былі заўсёды клясы эксплёататарскія, стала быць, рэакцыйныя. Але, будучы матэрыялістычнай па тыпу, матэрыялістычная філёзофія ўвесь час зьменьвае свае формы. Ад атомістычнага матэрыялізму Дэмокрыта (Грэцыя, V в. да нашага летазьлічэньня) вельмі далёка да францускага матэрыялізму XVI в., а ангельскі матэрыялізм здаецца нам матэрыялізмам прымітыўным і наіўным. Але, будучы прымітыўным з пункту гледжаньня сучаснай *нам* навукі, ён быў высока прогрэсыўным у свой час. Матэрыялізм быў заўсёды ідэолёгіяй, якая стаіць на ўзроўні прогрэсыўных навуковых тэндэнцый сучаснасьці. Гэта адносіцца ў роўнай меры да кожнага з названых відаў матэрыялізму. У змаганьні з імі ідэалізм выступаў як выказьнік рэакцыйнай ідэолёгіі. Сучасны матэрыялізм, якім ён аформіўся ў працах Маркса і Энгельса, Плеханова і Леніна, зусім не прэтэндуе на тое, каб быць завяршэньнем разьвіцьця матэрыялізму, ён зьяўляецца толькі агулам, вывадам усёй папярэдняй эволюцыі навукі. Сучасны матэрыялізм ёсьць толькі самая высокая вяршыня сучаснай нам навуковай мысьлі. Навуковы прогрэс магчымы толькі на яго аснове. Марксызм ёсьць тая вышэйшая ступень, якое дасягло зараз чалавецтва на шляху да магчымай мяжы об'ектыўных ведаў.

# ПОЛЬСКА-САВЕЦКІЯ АДНОСІНЫ І РЫСКІ МІР [1])

Проф. У. Пічэта

Разьдзел III

## Польшча і ўсходняя палітыка

Пасьля заключэньня Берасьцейскага міру окупацыя Беларусі нямецкім войскам ня скончылася. Заключэньне міру паміж Антантай і Нямеччынай і выбухнуўшая нямецкая рэволюцыя выклікалі адыход нямецкіх войск з тэрыторыі Беларусі. Вызваленая рабоча-сялянская маса абвясьціла БССР. Таксама зрабілі і рабоча-сялянскія масы Літвы, абвясьціўшы Літоўскую ССР. Калі Літоўская ССР і БССР па ўзаемнай згодзе заснавалі Літоўска-Беларускую Соцыялістычную Савецкую Рэспубліку, дык старшыня Часовага Рэволюцыйнага Савету рабоча-сялянскага ўраду Літвы В. Міцкевіч-Капсукас і старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саветаў Рабочых, Салдацкіх і Сялянскіх Дэпутатаў Беларусі А. Мясьнікоў нотай ад 2 лютага 1919 году зьвярнуліся да Польшчы з заявай, што „працоўныя клясы, рабочыя і сяляне Літвы і Беларусі, якія сталі на шлях самастойнага дзяржаўнага існаваньня, выказалі сваю волю аб'яднаць Літоўскую і Беларускую рэспублікі ў адзін дзяржаўны організм, утварыць адзіную Літоўска-Беларускую ССР. Працоўныя клясы, якія насяляюць тэрыторыю гэтых рэспублік і якія горача адчуваюць сваю непарыўную сувязь з працоўнымі клясамі ўсяго сьвету, ня маюць ніякіх ваяўнічых імкненьняў. Рабочыя і бяднейшыя сяляне, аб'яднаныя вялікімі ідэаламі міжнароднай пролетарскай солідарнасьці, не жадаюць вырашаць спрэчных пытаньняў зброяй". Нота польскаму ўраду казала „аб няўхільным імкненьні рабоча-сялянскіх мас Беларусі і Літвы вырашыць мірным спосабам усе тэрыторыяльныя пытаньні праз утварэньне Літоўска-Беларускай ССР". З другога боку, адзначалася, што „Літоўска-Беларуская ССР імкнецца быць у як мага больш блізкай і непарыўнай сувязі з сваімі суседзямі і імкнецца ўтварыць са ўсіх гэтых рэспублік адзіную Фэдэрацыйную ССР". Адхіляючы якія-б то ні было ваяўнічыя пляны і імпэрыялістычныя імкненьні, рабоча-сялянскі ўрад Літоўска-Беларускай ССР „з асаблівым жалем павінен быў сьцьвердзіць гвалтоўны ўваход у Горадзенскую губэрню, паасобку, у Беластоцкі павет, польскага

1) Гл. „Полымя" № 4.

войска“. „Ня маючы замаху на межы Польшчы, рабочыя і сяляне Літвы і Беларусі змушаны протэставаць проці такога замаху з боку Польшчы. Заяўляючы свой протэст проці спроб польскай рэспублікі прымусовым спосабам вырашыць тэрыторыяльныя спрэчкі, Часовы Рабоча-Сялянскі Ўрад Літвы і Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларусі яшчэ раз падкрэсьліваюць, што яны гатовы вырашыць ціхамірна ўсе спрэчныя тэрыторыяльныя пытаньні і таму прапануюць ураду польскай рэспублікі паслаць сваіх прадстаўнікоў у аб'яднаную камісію, якая павінна будзе ўстанавіць дзяржаўную мяжу паміж Савецкай Рэспублікай Літвы і Беларусі, з аднаго боку, і Польскай Рэспублікай, з другога“ [1]).

Так мірная нота рабоча-сялянскага ўраду Літбел прапанавала польскаму ўраду мірна вырашыць усе спрэчныя тэрыторыяльныя пытаньні. Аднак, з боку Польшчы гэта прапанова не спаткала спрыяльных адносін да сябе. Мірнае вырашэньне пытаньня не адпавядала сапраўдным плянам польскай буржуазіі. Існаваньне Літоўска-Беларускай Рэспублікі, разумеецца, было непажадана для польскага буржуазнага ўраду. Апрача таго, у Літоўска-Беларускай Рэспубліцы буйнае польскае зямляўладаньне, як і зямляўладаньне іншых нацыянальнасьцяй, было зьнішчана. Абшарнікам прышлося пакінуць свае гнёзды. Большасьць маёнткаў у Беларусі і Літве належала Польскім абшарнікам, і таму зусім зразумела, што польскія паны былі абураны фактам заснаваньня Савецкіх Рэспублік і ніяк не маглі згадзіцца з тым, што іхныя багацьці загінулі. Лічачы патрэбным далучыць да Польшчы беларускія абшары, польскі буржуазны ўрад ня толькі хацеў аднавіць прыватную ўласнасьць наогул і асабліва зямельную, але таксама па магчымасьці адсунуць мяжу Савецкай Рэспублікі, каб гэтым самым адмежаваць польскую дзяржаву ад уплыву РСФСР. Польскі буржуазны друк пачынае разглядаць Польшчу, як авангард заходня-эўропэйскай культуры, якая павінна рашуча і няўхільна змагацца з някультурнай РСФСР, бо палітыка Савецкай Рэспублікі знаходзіцца ў поўнай процілегласьці ў адносінах да палітыкі заходня-эўропэйскіх культурных дзяржаў. Польская прамысловая буржуазія, бязумоўна, вельмі многа страціла ад разрыву тых экономічных адносін, якія былі ў царскія часы паміж былым Царствам Польскім і Расіяй. Польская прамысловасьць працавала на расійскі рынак, які фактычна быў у монопольным карыстаньні польскай буржуазіі. Польская буржуазія, адмяжованая ад конкурэнцыі з боку заходня-эўропэйскай прамысловасьці, нароўні з расійскай прамысловасьцю мела ўсе падставы як для далейшага свайго разьвіцьця, так і для атрыманьня высокіх дывідэндаў. Заснаваньне РСФСР і ўвядзеньне ў ёй монополіі замежнага гандлю было фактарам, багатым вынікамі для польскай прамысловасьці. Польская прамысловасьць страціла свой рынак, а рынак нанова заснаванай Польшчы быў не настолькі

---

[1]) „Красная книга“ № 29.

вялікі, каб замяніць сабой рынак старой царскай Расіі. З гэтага зусім зразумела, што польская буржуазія імкнецца да захвату зямель на Ўсходзе і да вайны з РСФСР. Пашырыўшы сваю тэрыторыю на Ўсход, польская буржуазія спадзявалася гэтым самым павялічыць свой унутраны рынак і паставіць польскую прамысловасьць у больш-менш спрыяльныя ўмовы для свайго разьвіцьця. Польская буржуазія спадзявалася, што барацьба з РСФСР скончыцца на карысьць Польшчы і тады Польшча змусіць РСФСР адмовіцца ад монополіі замежнага гандлю. У гэтым сэнсе польская буржуазія адбівала агульныя настроі заходня-эўропэйскай буржуазіі. І таму зусім зразумела, што заклік Часовага Рабоча-Сялянскага Ўраду Літвы і Беларусі аб вырашэньні мірным спосабам усіх непаразуменьняў тэрыторыяльнага характару паміж Польшчай і Літоўска-Беларускай ССР ня даў ніякіх вынікаў.

Польшча, заняўшы Вільню, ня толькі ня думала тут спыняцца, а, наадварот, памалу пасувалася наперад, пакуль Беларусь ня была окупавана польскім войскам аж да ракі Бярэзіны. Польскае войска далей за раку Бярэзіну ня ішло таму, што Бярэзіна зьяўляецца прыродным рубяжом, які ня варта пераходзіць. Бязумоўна, окупацыяй Беларусі імпэрыялістычныя пляны польскага буржуазнага ўраду яшчэ не канчаліся. Польшчы патрэбна была Украіна, правы бераг Дняпра, дзе таксама былі вялізныя маёнткі польскіх паноў, асяродак сельска-гаспадарчага разьвіцьця, які можа мець вялізнае значэньне для экономічнага развою польскай рэспублікі. Польскі буржуазны друк не таіў сваіх плянаў, якія можна было ажыцьцёвіць толькі паступова.

Пасьля захвату Вільні перад польскім урадам паўстала пытаньне аб тым, на якіх падставах організаваць кіраўніцтва на захопленай тэрыторыі: на падставах інкорпорацыі ці вуніі. Пасьля заняцьця Вільні 22 чэрвеня 1919 г., начальнік польскай дзяржавы Пілсудзкі апублікаваў маніфэст да жыхарства былога Вялікага Княства Літоўскага, адзначаючы ў ім, што польскі ўрад жадае вырашыць унутраныя нацыянальныя і рэлігійныя пытаньні так, каб яны былі вырашаны самім народам, бяз жаднага ціску і гвалту з боку Польшчы [1]). Маніфэст Пілсудзкага, такім чынам, адзначаў магчымасьць організацыі самакіраўніцтва для Літвы, дзякуючы чаму захопленая тэрыторыя павінна была ўвайсьці ў склад польскай рэспублікі на падставах вуніі. Аднак, гэтыя унітарныя тэндэнцыі выклікалі рэзкае нездаволеньне з боку тых, хто быў прыхільнікам аднаўленьня Польшчы да межаў 1772 году. Гэтыя асобы былі прыхільнікамі і адзінай Польшчы, і ніякія спасыланьні на гісторыю літоўска-польскіх адносін, якія грунтаваліся на прынцыпах фэдэрацыі, для іх ня мелі ніякага значэньня [2]). Само сабой разумеецца, што, каб адносіны Польшчы і былога Вялікага Княства Літоўскага будаваліся на прынцыпе фэдэрацыі,

[1]) St. Kutrzeba. Polska odrodzona. 1914—1922 r. Kraków, стар. 163.

[2]) „Западная Белоруссия“, Менск, 1928 г., стар. 27—28.

дык беларускія землі пасьля ўваходу ў склад Літвы мелі-б усе правы, як частка былой Літвы. Паводле думкі польскіх палітычных дзеячоў, Беларусь ня мае тых падстаў, якія давалі-б грунт разглядаць пытаньне аб уваходзе Беларусі ў склад польскай рэспублікі на правох фэдэрацыі[1]). Фэдэрацыйная програма не сустракала шырокага спачуваньня сярод польскіх буржуазных дзеячоў. Польскія нацыяналістыя баяліся рознастайнага нацыянальнага складу польскай рэспублікі, які сам па сабе будзе затрымліваць консолідацыю дзяржавы. Калі даваць шырокія фэдэрацыйныя правы краінам, дык гэта консолідацыя дзяржавы будзе ісьці яшчэ больш марудна. У польскай дзяржаве павінен панаваць польскі народ, і польская культура павінна стаць тым фактарам, які зьяднае няпольскае жыхарства з польскім. Каталіцкі друк спадзяваўся, што каталікі-беларусы, якіх, да-рэчы, частка польскіх статыстыкаў прылічала да палякаў, зьявяцца тэй сілай, якая будзе дапамагаць консолідацыі польскай дзяржавы на падставах цэнтралізму.

Пілсудзкі ў пачатку свайго паходу на Вільню і Менск выказваўся за фэдэрацыйную ідэю. Гэта ідэя была яшчэ мацней выказана ў маніфэстах у часе паходу на Украіну, але фактычна ўрад Пілсудзкага ніводнай хвіліны ня думаў, каб даць Беларусі такія самыя правы, якія мае і Польшча, і каб гэта аб'яднаньне ня толькі на словах, але і на справе было, „як роўнага з роўным і вольнага з вольным“[2]). Сапраўды-ж гэтыя словы ня мелі ніякай вартасьці, і рэальная палітыка польскіх окупантаў зусім разыходзілася з абяцанкамі шырока абвешчаных маніфэстаў Пілсудзкага.

Паход Пілсудзкага спачатку на Беларусь, а потым на Украіну разглядалі як „аднаўленьне гістарычнага паходу Стэфана Баторага, які ўмацаваў сваю ўладу пад сьценамі Масквы, як свайго роду крыжовы паход проці барбарскага ўсходу. Беларусь разглядалася ў гэтым паходзе як паднявольны Маскве братэрскі край, які трэба вызваліць з ланцугоў бальшавіцкай няволі“[3]). Бязумоўна, у сваёй адозьве Пілсудзкі меў на ўвазе беларускіх інтэлігентаў і менш за ўсё рабоча-сялянскія масы. Калі частка беларускай інтэлігенцыі паверыла абяцанкам Пілсудзкага і орыентавалася на яго, дык здаровае клясавае пачуцьцё рабоча-сялянскіх мас казала працоўным, што такая польская ўлада нясе народу прыгон і нядолю. Рэальная палітыка польскага ўраду ня раз даказвала правільнасьць такіх адносін рабоча-сялянскіх мас да палітыкі Пілсудзкага. Рабоча-сялянскія масы ня былі ўлагоджаны маніфэстам Пілсудзкага. Яны занялі ў адносінах да польскіх окупантаў вельмі варожыя адносіны і сваёй партызанскай чыннасьцю нарабілі окупантам ня мала прыкрасьці.

Калі Пілсудзкі ў сваіх маніфэстах прызнаваў існаваньне беларусаў, дык значная частка польскай буржуазнай інтэлігенцыі не дапушчала

[1]) „Западная Белоруссия“, стар. 31.

[2]) „Красная книга“ № 88.

[3]) „Западная Белоруссия“, стар. 26.

нават думкі аб існаваньні якога-б то ні было беларускага народу. Для такога прыхільніка незалежнай Польшчы ў межах 1772 году, якім зьяўляецца В. Студніцкі, беларускі народ не зьяўляецца рэальна існуючым фактарам, бо, паводле думкі Студніцкага, беларускі народ—гэта разуменьне палітычнае, а беларусы ніякіх традыцый ня маюць. Ня можа быць і гутаркі пра беларускую культуру, бо ў беларусаў няма культурнага адзінства. Беларусы былі то пад польскім, то пад расійскім уплывам. З пункту погляду этнічнага беларусы неадналітны. Мова беларусаў складаецца з розных дыялектаў, у залежнасьці ад польскіх і расійскіх уплываў [1]). Такія разважаньні пашыраў польскі друк, і гэта спрыяла ўзьнікненьню польскай буржуазнай думкі аб тым, што на окупаваных тэрыторыях трэба праводзіць палітыку цэнтралізму, а ўсякія пляны аб фэдэрацыі пакінуць [2]).

Ня гледзячы на тое, што захоп Вільні і далейшы паход палякаў былі надзвычайна важным фактарам, які сьведчыў аб ваяўнічых замерах польскага ўраду, урад РСФСР стараўся трымацца зусім спакойна і сваёй ціхамірнай палітыкай імкнуўся ўхіліць магчымасьць вайны паміж Польшчай і РСФСР. У ноце ад 3 чэрвеня 1919 г., пасланай на імя польскага міністэрства замежных спраў і ў копіі ўрадам дзяржаў згоды, выказваўся протэст проці захопу Вільні палякамі і адначасна пералічваліся ахвяры крывавых здарэньняў у Вільні. Таксама было паведамлена і ўсім цэнтральным камітэтам Таварыства Чырвонага Крыжу, а таксама і Міжнароднаму Камітэту Чырвонага Крыжу пра тыя шматлікія пагромы, якімі справоджвалася прасоўваньне польскіх войск па беларускай тэрыторыі [3]). Урад РСФСР, адданы сваёй мірнай палітыцы, у ноце ад 22 сьнежня 1919 году жадаў давесьці няпраўдзівасьць заявы памоцніка статс-сакратара Сржынскага ў польскім сойме аб тым, што „нібыта Расійская Рэспубліка не прапанавала Польшчы міру і што яна нібыта пагражала Польшчы вайной і ня мела нахілу да згоды, адпаведнай жаданьням польскага народу". Савецкі ўрад, жадаючы ўхіліць усякія непаразуменьні, якія маглі-б адцягнуць наладжаньне мірных прыязных адносін паміж абодвума народамі, зьвярнуўся да польскага ўраду з фармальнай прапановай „зараз-жа распачаць перамовы, якія мелі-б сваёй мэтай заключэньне трывалага міру паміж абодвума бакамі на доўгі час". У ноце ўраду была выказана надзея, што „мірныя імкненьні пераважнай большасьці польскага народу і разуменьні яго жыцьцёвых патрэбаў перамогуць і зробяць магчымым спыніць вайну, якая служыць толькі чужаземным інтарэсам. Савецкі ўрад прапануе польскаму ўраду вызначыць месца і час для пачатку перамоў, якія мелі-б сваёй мэтай заключыць мірны дагавор паміж

[1]) „Западная Белоруссия", стар. 31.

[2]) Kutrzela. Polska odrodzona, стар. 167—169.

[3]) „Красная книга" № 48, 49, 50 і 51.

абедзьвюма рэспублікамі“ [1]). Прапанова савецкага ўраду формальна была прынята, але месцам перамоў быў выбран Барысаў, які ляжаў у паласе ваеннай чыннасьці і таму не падыходзіў для расійскага ўраду. Народны Камісар па замежных справах нотай ад 8 красавіка 1920 году, на другі дзень пасьля атрыманьня польскай ноты, прызнаў, што Барысаў не падыходзіць для вядзеньня перамоў і ад імя савецкага ўраду „прапанаваў выбраць любы горад нэўтральнай дзяржавы, або нават адну з дзяржаў Антанты, нават Лёндон або Парыж, і адхіляў толькі выбар гораду, які ляжыць у ваеннай зоне, або недалёка ад яе“ [2]).

Польскі ўрад адмовіўся ад заключэньня агульнага замірэньня. І таму савецкі ўрад бачыў перад сабой адзіны выхад з утворанага становішча: зьвярнуцца да дзяржаў Антанты. Пасьля гэтага савецкі ўрад і паслаў сваю ноту [3]). Адсылаючы сваю ноту, савецкі ўрад яшчэ раз сьведчыў аб сваёй ціхамірнасьці, аб сваім жаданьні пайсьці на ўступкі і на вырашэньне ўсіх спрэчных пытаньняў і тым самым зьняць з сябе абвінавачаньне польскіх імпэрыялістых у ваяўнічай чыннасьці проці Польшчы. Разумеецца, нота гэта ня мела ніякага посьпеху. Заходнія дзяржавы фактычна віталі наступленьне Польшчы, спадзяючыся, што яна скіне савецкі ўрад і ўтворыць у Расіі ўладу, якая па сваёй форме будзе больш адпавядаць інтарэсам імпэрыялістычнай буржуазіі. Адмаўленьне Польшчы ад мірных перамоў азначала заклік да вайны. Усе спробы савецкага ўраду вырашыць мірным спосабам тэрыторыяльныя ды іншыя спрэчныя пытаньні скончыліся няўдачай, і пачалася савецка-польская вайна.

## Разьдзел IV

## Польска-савецкая вайна і мірныя перамовы ў Менску

Адмаўленьне палякаў ад вызначэньня новага месца для перамоў азначала разрыў дыплёматычных зносін з савецкім урадам. Вынікі гэтага разрыву далі сябе адчуваць досыць хутка. 26 красавіка 1920 году Пілсудзкі аддаў загад па польскай арміі аб наступе на Украіну дзеля зьнішчэньня там бальшавіцкай улады. Польскі наступ разьвіваўся вельмі хутка, не сустракаючы пакуль што сур‘ёзнага адпору з боку савецкага войска. 11 мая 1920 г. палякі забралі Кіеў. У дзень абвяшчэньня загаду па польскай арміі аб наступе на Украіну начальнік дзяржавы Пілсудзкі зьвярнуўся з маніфэстам да ўсяго жыхарства Украіны, у якім абвяшчаў, што „польская армія, ідучы ў вобласьці, належачыя украінскім грамадзянам, застанецца на Украіне столькі часу, колькі патрэбна будзе для таго, каб гэтыя вобласьці былі прыняты пад кіраўніцтва рэгулярным

1) „Красная книга“ № 64.

2) „Красная книга“ № 85.

3) „Красная книга“ 100—101.

украінскім урадам. Калі нацыянальны ўрад украінскай рэспублікі ўстановіць другую ўладу, тады на граніцах нашай краіны войска украінскага народу зможа бараніць сваю краіну ад новых нападкаў; калі вольны народ будзе мець магчымасьць вызначыць свой лёс, тады польскія салдаты вернуцца на фронт вольнай польскай рэспублікі, закончыўшы слаўную барацьбу за волю народаў". Пілсудзкі выказваў пэўнасьць у тым, што украінскі народ ужыве ўсе патугі да таго, каб „дамагчыся зброяй пры дапамозе польскай рэспублікі свае ўласнае волі і забясьпечыць урадлівым абшарам свае бацькаўшчыны шчасьце і дабрабыт, якія дадуць ёй спакой пасьля аднаўленьня міру". Маніфэст Пілсудзкага абяцаў усяму жыхарству Украіны, бяз розьніцы кляс, паходжаньня і веравызнаньня, абарону і апеку [1]). Частка буржуазнай украінскай інтэлігенцыі аднеслася прыхільна да польскага выступленьня і дапамагала палякам. Сялянская і рабочая маса сустрэлі польскае наступленьне таксама варожа, як і на Беларусі. Бязумоўна, другіх адносін з боку сялян і рабочых і не магло быць, бо тая воля, пра якую гаварыў маніфэст Пілсудзкага, азначала для рабочых і сялян прыгон. Аднаўленьне праў уласнасьці на зямлю было адным з вынікаў наступленьня Пілсудзкага, які выступіў на ахову украінскіх польскіх абшарнікаў проці савецкай улады, якая конфіскавала маёнткі абшарнікаў і перадала іх працоўнаму сялянству.

У адказ на польскае наступленьне, Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт 7 мая 1920 г. зьвярнуўся з маніфэстам да польскіх рабочых, сялян і салдат. Маніфэст абвяшчаў, што Рабоча-Сялянскі Ўрад „з першых дзён рэволюцыі прызнаў права польскага народу, як і ўсіх іншых народаў, на поўную свабоду і незалежнасьць". У маніфэсьце адзначалася, што савецкі ўрад некалькі разоў прапанаваў Пілсудзкаму распачаць перамовы для вырашэньня ўсіх тэрыторыяльных непаразуменьняў. Прапанова палякаў весьці перамовы ў Барысаве, які знаходзіўся ў ваеннай паласе, бязумоўна, не падыходзіла для савецкага ўраду, а прапанова апошняга распачаць перамовы ў якім-небудзь іншым месцы спаткала з боку Польшчы адмоўныя адносіны. „Не жадаючы міру,—гаварылася ў маніфэсьце,—польскі ўрад нечакана пачаў наступленьне на тэрыторыю братэрскай нам Украінскай Савецкай Рэспублікі. Разгарэлася вайна, ізноў льлецца расійская кроў, льлецца польская кроў". Маніфэст абвяшчаў аб імкненьні савецкага ўраду да міру, каб спакойна заняцца сумленнай працай на карысьць рабочай клясы. Маніфэст падкрэсьліваў, што гэта вайна патрэбна „ня польскаму народу, а польскім паном, капіталістым, абшарнікам, патрэбна буржуям Антанты, якія падбухторылі Польшчу на гэту бязглуздую авантуру". Маніфэст прапанаваў палякам ня верыць ураду, калі ён будзе казаць, што вы бароніцеся ад захопніцкіх плянаў савецкага ўраду. Савецкі ўрад ня толькі не пасягае на польскія абшары, але, наадварот, у інтарэсах міру быў гатоў уступіць Поль-

[1]) „Красная книга" № 88.

шчы значныя тэрыторыі, нават не заселеныя ў большасьці палякамі. Маніфэст адзначаў, што польскія салдаты, рабочыя і сяляне ідуць адваёўваць для польскіх паноў чужыя землі і падпарадкаваць пад прыгон польскіх паноў мільёны украінскіх, беларускіх і расійскіх сялян і рабочых. „Вам, рабочыя, сяляне і салдаты Польшчы, гэта вайна ня толькі ня дасьць ніякай карысьці, але зробіць аграмадную шкоду ў выглядзе пралітай крыві, страты вялікай колькасьці людзей, новай масы калек, новых зруйнаваньняў, экономічнага разбурэньня, росту падаткаў. Мы ня кажам аб безнадзейнасьці распачатай вашым урадам вайны, якая кончыцца паражэньнем, бо ўвесь працоўны народ цьвёрда рашыў да канца змагацца проці злачыннага нападу польскай буржуазіі. Але калі-б нават вайна часова і ўдалася польскаму ўраду, дык рабочыя і сяляне Польшчы ад гэтага нічога ня выйграюць і яшчэ рызыкуюць шмат страціць". Маніфэст падкрэсьліваў, што украінскія сяляне ненавідзяць польскіх паноў, як сваіх спрадвечных прыгонцаў. „За Пятлюру, які прадаўся вашаму ўраду, не стаіць ніхто. Заваяваўшы праваўзьбярэжную Украіну, Польшчы прыдзецца трымаць там вялікую армію, траціць на падтрыманьне свае ўлады сотні мільёнаў. Хто заплаціць вам за ўсё гэта? Абяздолены польскі рабочы, зруйнаваны польскі селянін. Вы заваюеце сваім паном новых паднявольных, а сабе набудзеце новых катаў у дадатак да ўласных жандараў. Таварышы, ваюючы з Савецкай Расіяй і Украінай па загаду сваіх паноў і па падбухторваньню чужаземных капіталістых, вы заклёпваеце кайданы ў сябе на нагах і ўвекавечваеце сваю няволю. Вось чаму вы ані не зацікаўлены ў вайне з намі, а ў перамозе над сваім урадам". Маніфэст закончваўся абвяшчэньнем, што „Чырвоная армія ня зьбіраецца прымусова навязваць вам комунізм. Савецкая ўлада, перамогшы польскіх паноў, дасьць права польскаму народу ўпарадкаваць сваё жыцьцё паводле ўласнага пагляду. Ці вы захочаце захаваць у сябе сучасны лад, ці возьмеце зямлю і фабрыкі ў свае рукі—гэта вырашыце вы самі, польскія рабочыя і сяляне. Не вайну і гвалт, а мір, братэрства і саюз прапануем мы. На нашых сьцягох намалёван агнявымі літарамі той покліч, пад якім змагаліся калісьці польскія барацьбіты за волю: за нашу і вашу вольнасьць. Прэч ганебную вайну, няхай жыве мір паміж працоўнымі масамі Польшчы і Расіі. Няхай жыве вольная Рабоча-Сялянская Польшча" [1]). Маніфэст Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту яскрава выявіў настрой працоўных мас РСФСР, якія ня мелі настрою весьці якую-б то ні было вайну і якія ўсю сваю энэргію накіравалі на тое, каб адбудаваць разбуранае вайной і грамадзянскай барацьбой гаспадарчае жыцьцё.

Посьпех палякаў на Украіне быў ня вельмі доўгі. Праз месяц палякам прышлося адступіць ад Кіева, пакінуць усю Украіну, і савецкае войска стаяла пад Львовам. Адначасна з гэтым савецкае войска насту-

[1]) „Красная книга" № 89.

пала з поўначы, з боку Полацку. Гэтае наступленьне таксама ішло з посьпехам. 11 ліпня 1920 г. быў заняты Менск, 14 ліпня—Вільня, 20 ліпня—Горадня. Гэтыя ваенныя посьпехі адкрывалі шлях на Варшаву, і Чырвоная армія шпарка накіравалася на яе. Заключыўшы 12 ліпня 1920 г. мір з Літвой, які 6 жніўня быў ратыфікаваны літоўскай кансітуантай, Рэвваенсавет 4-ай арміі аддаў загад пакінуць Вільню і перадаць яе літоўскаму ўраду, бо, паводле мірнага дагавору з Літвой, Вільня павінна была перайсьці да Літвы.

Заходня-эўропэйская буржуазія была вельмі ўстрывожана ўдалым наступленьнем Чырвонай арміі і не жадала дапусьціць канчатковага паражэньня палякаў. І таму, пад націскам заходня-эўропэйскіх дзяржаў, польскі ўрад 8 жніўня абвясьціў аб сваёй згодзе паслаць сваіх прадстаўнікоў у Менск для перамоў. Савецкі ўрад даў на гэта згоду з тым, каб 9 жніўня прадстаўнікі польскага ўраду перайшлі фронт і каб 11 магчыма было распачаць перамовы. У гэты дзень ангельскі ўрад заявіў савецкай дэлегацыі ў Лёндоне, каб з 10 жніўня была спынена ваенная чыннасьць паміж савецкім і польскім войскам, з забаронай падвозу зброі і перагрупаваньня войска. Савецкая дэлегацыя растлумачыла, што спыніць ваенную чыннасьць магчыма толькі загадам. Калі ён будзе адданы 10 жніўня, дык фактычна па ўсім фронце ваенная чыннасьць спыніцца 13 жніўня. Савецкі ўрад паведамляў ангельскі ўрад, што перамовы з Польшчай яшчэ не пачаліся выключна па віне польскага ўраду і што зараз дасягнута згода распачаць перамовы 11 жніўня. Аднак, 9 жніўня прадстаўнікі Польшчы ня прыехалі ў вызначаны пункт для паездкі ў Менск на мірныя перамовы [1]).

Хістаньні польскага ўраду былі зусім зразумелыя, бо Варшава рыхтавалася да абароны, і польскі ўрад спадзяваўся спыніць наступленьне Чырвонай арміі. Аднак, становішча на фронце пакуль што не мянялася, і гэта змусіла польскі ўрад распачаць мірныя перамовы. Ён паслаў у Менск дэлегацыю ў складзе старшыні Яна Домскага—намесьніка міністра замежных спраў і членаў: Уладыслава Врублеўскага, Антонія Лістоўскага—генэрала, Станіслава Грабскага, Норбарта Барліцкага, Адама Мячкоўскага, Уладыслава Керніка і Людовіка Вашкевіча. Апрача таго, у склад дэлегацыі ўваходзіў тэхнічны пэрсонал, экспэрты, сакратарыят. У складзе ўсёй польскай дэлегацыіі, разам са слугамі, было 84 чал. Старшынёй савецкай дэлегацыі быў назначан тав. Данішэўскі [2]).

Першае пасяджэньне мірнай конфэрэнцыі адчынілася 17 жніўня а 8 гадзіне ўвечары. Старшыня расійскай дэлегацыі адчыніў пасяджэньне мірнай конфэрэнцыі дэклярацыяй, у якой вітаў прадстаўнікоў польскага ўраду, упоўнаважаных, весьці перамовы аб замірэньні і аб папярэдніх умовах міру. Тав. Данішэўскі закрануў у сваёй прамове гісторыю

[1]) „Звезда", 1920 г. № 6.

[2]) „Звезда", 1920 г. № 9.

ўзьнікненьня расійска-польскай вайны і шматразовых спроб Савецкай Расіі спыніць навязаную ёй вайну. Політыка Савецкай Расіі і Украіны заўсёды была мірнай у адносінах як да Польшчы, так і да іншых народаў; і зараз Савецкай Расіі і Украіне прышлося ўзяцца за зброю, каб адбараніць інтарэсы працоўных мас ад імкненьняў накласьці на іх ланцугі польскіх імпэрыялістых. Расійскі ўрад адхіліў пасярэдніцтва ангельскага ўраду, бо лічыць яго зацікаўленым бокам, як члена таго саюзу імпэрыялістычных дзяржаў, у склад якога ўваходзіць польская рэспубліка, а таксама і таму, што ўрад Англіі як мага рыхтаваў і падтрымліваў ваяўнічую політыку польскага абшарніцкага ўраду. Старшыня савецкай дэлегацыі „з глыбокім здаволеньнем і радасьцю“ вітаў гатоўнасьць польскага ўраду спыніць праліцьцё крыві і распачаць перамовы аб міры. Расійскі ўрад „ідзе насустрач цяпер, як і заўсёды, нават дапускаючы і зараз вырашэньне спрэчных этнографічна-тэрыторыяльных пытаньняў на карысьць польскай дзяржавы. Політыка Савецкай Расіі і Украіны,— кажа старшыня дэлегацыі,—нязьменна ёсьць політыка міру. Мы не заваявальнікі, мы баронімся ад напаўшага на нас ворага і адразу-ж пакінем межы Польшчы, як толькі нам будуць даны сапраўдныя гарантыі, што Польская Рэспубліка адмовілася ад свае ваяўнічай політыкі і рашыла перайсьці да мірнага працоўнага будаўніцтва“. „Калі польскі ўрад,—гаварылася ў дэклярацыі старшыні,—назаўсёды адмовіўся ад замаху на вобласьці Украіны і Расіі і цьвёрда адмовіўся ад імпэрыялістычнай захопніцкай політыкі і адвярнуўся ад урадаў тых дзяржаў, якія піхаюць польскі народ на праліцьцё крыві, дык польскі ўрад бяз хістаньняў пойдзе насустрач нашым умовам замірэньня і ўмовам папярэдняга міру, ажыцьцяўленьне якіх павінна экономічна і політычна ўзмацніць якраз тыя пласты польскага жыхарства, якія настроены проці вайны з працоўнымі рэспублікамі Расіі і Украіны... Спадзяючыся, што прадстаўнікі польскага ўраду прыехалі сюды з поўнай гатоўнасьцю адмовіцца ад ранейшай захопніцкай політыкі, што польскі ўрад гатоў даць польскаму народу і народам Расіі і Украіны магчымасьць перайсьці, урэшце, да мірнага працоўнага будаўніцтва, спыніць бяссэнсоўнае праліцьцё крыві і наладзіць мір паміж РСФСР і УССР—з аднаго боку, і польскай рэспублікай—з другога, мы, прадстаўнікі РСФСР і УССР, распачынаем сваю працу расійска-украінска-польскай конфэрэнцыі па апрацоўцы ўмоў замірэньня і ўмоў папярэдняга міру“[1]). Далей т. Данішэўскі запрапанаваў абмеркаваць пытаньні рэгляманту аб мове, пратаколах, стэнограмах, а таксама аб прысутнасьці на пасяджэньнях прадстаўнікоў друку. Са свайго боку расійская дэлегацыя прапанавала весьці пратаколы на расійскай і польскай мовах, а ў спрэчках карыстацца мовамі польскай, расійскай і украінскай, а таксама дапусьціць на пасяджэньне прадстаўнікоў друку[2]).

[1]) „Звезда“, 1920 г. № 9 і 10.
[2]) „Звезда“, 1920 г. № 9.

Па просьбе старшыні польскай дэлегацыі, дэкларацыя і прапановы былі перакладзены на польскую мову. Па прапанове старшыні польскай дэлегацыі, была складзена камісія для апрацоўкі рэгляманту і, пасьля ўзаемнай праверкі паўнамоцтваў, пасяджэньне было адкладзена да другога дня.

Пасьля аднаўленьня пасяджэньня старшыня расійскай дэлегацыі зьвярнуў увагу на тое, што ў польскіх поўнамоцтвах не адзначана аб праве польскай дэлегацыі весьці перамовы ня толькі з прадстаўнікамі Расійскай, але і Украінскай Савецкай Рэспублікі. Старшыня лічыў патрэбным, каб польская дэлегацыя атрымала ад свайго ўраду, хоць-бы па радыё, права на вядзеньне перамоў і з Украінскай Рэспублікай, але гэта, аднак, не павінна перапыняць або затрымліваць працу мірнай конфэрэнцыі. Член польскай дэлегацыі Врублеўскі прасіў дакладна растлумачыць яму ўзаемаадносіны паміж Расійскай і Украінскай Савецкімі Рэспублікамі. Атрымаўшы патрэбныя тлумачэньні, польская дэлегацыя згадзілася зьвярнуцца да свайго ўраду для атрыманьня дадатковых паўнамоцтваў. У выніку ўзаемнага азнаямленьня польская дэлегацыя прызнала паўнамоцтвы расійскай дэлегацыі зусім здавальняючымі. Са свайго боку і расійская дэлегацыя з вышэйпамянёнай агаворкай прызнала здавальняючымі паўнамоцтвы польскай дэлегацыі [1]).

Другое пасяджэньне конфэрэнцыі адбылося 19 жніўня а другой гадзіне дня. Старшынёй другога пасяджэньня быў Я. Домскі. У пачатку пасяджэньня была агалошана дэкларацыя польскай дэлегацыі. Польская дэкларацыя зьяўлялася адказам на расійскую дэкларацыю і закранала гісторыю расійска-украінска-польскага конфлікту, тлумачачы апошні са спэцыфічнага пункту гледжаньня буржуазна-абшарніцкага польскага ўраду. Потым конфэрэнцыя перайшла да пытаньня аб Украіне. Старшыня савецкай дэлегацыі т. Данішэўскі агаласіў тэлеграму Камісара Замежных Спраў Чычэрына, якая сьцьвярджала правільнасьць позыцыі расійскай дэлегацыі ва украінскім пытаньні аб неабходнасьці атрымаць ад польскага ўраду дадатковыя мандаты на перамовы з Украінскай Савецкай Рэспублікай. У адказ на гэта польская дэлегацыя заявіла, што зьмест тэлеграмы Чычэрына яна перадасьць свайму ўраду і папросіць дадатковыя мандаты. Потым старшыня расійскай дэлегацыі агаласіў дэкларацыю аб умовах міру. Тав. Данішэўскі агаласіў тэзісы, якія былі ўжо апублікаваны ў Лёндоне і якімі былі вызначаны ў агульных рысах расійскія ўмовы міру.

Сутнасьць асноўных палажэньняў дагавору аб замірэньні і прэлімінарным міры была ў наступным: 1) РСФСР і УССР безагаворачна прызнавалі незалежнасьць Польскай Рэспублікі і права польскага народу ўпарадкаваць сваё жыцьцё і ўстанаўляць па свайму жаданьню форму

[1]) „Звезда“, 1920 г. № 7.

дзяржаўнай улады. 2) РСФСР і УССР адмаўляюцца ад контрыбуцыі. 3) Граніца Польскай Рэспублікі ў асноўным супадае з лініяй, вызначанай у ноце лёрда Керзона ад 11 ліпня, з адхіленьнем на карысьць Польскай Рэспублікі на ўсход у раёне Беластоку і Холму. 4) Войска Польскай Рэспублікі абмяжоўваецца колькасьцю ня больш 50 тысяч чалавек, маючы ў страявым складзе толькі прызыўны ўзрост, і каманднага вайскова-адміністрацыйнага складу ня больш 10 тысяч чалавек. Гэта колькасьць узброенай сілы дапаўняецца організацыяй з рабочых грамадзянскай міліцыі, прызначанай дзеля падтрыманьня парадку і аховы бясьпекі жыхарства. 5) Урад Польскай Рэспублікі адразу-ж пасьля падпісаньня міру абавязан у працягу аднаго месяца правесьці дэмобілізацыю. 6) Польская Рэспубліка пакідае ў сябе тую зброю, якая патрэбна ёй для сваёй арміі. Рэшта зброі, да таго часу, пакуль яна будзе перададзена РСФСР і УССР у працягу месяца пасьля падпісаньня дагавору аб папярэднім міры, пераходзіць у поўнае распараджэньне контрольнай камісіі РСФСР і УССР. 7) Польская Рэспубліка спыняе выраб ваеннага рыштунку і дэмобілізуе ваенную прамысловасьць. 8) Польская Рэспубліка абавязваецца не прапускаць праз сваю тэрыторыю і не атрымліваць ад замежных дзяржаў дапамогі людзьмі, коньмі і зброяй і не дапускаць на сваёй тэрыторыі варожых РСФСР, УССР і саюзных з імі дзяржаў організацый, якія прэтэндуюць на ролю ўраду РСФСР і УССР. 9) Ваенная чыннасьць спыняецца праз 72 гадзіны пасьля падпісаньня замірэньня, пры гэтым войска РСФСР і УССР спыняецца на дасягнутай імі к таму часу лініі, але не далей на ўсход ад лініі, вызначанай у ноце Керзона ад 11 ліпня. 10) Па меры дэмобілізацыі арміі Польскай Рэспублікі і выкананьня Польшчай абавязацельства наконт ваеннага рыштунку, войска РСФСР і УССР адводзіцца ў тыл, прычым к моманту фактычнага канчатку дэмобілізацыі польскай арміі і перадачы зброі ў паласе, што прылягае да нэўтральнай зоны, пакідаецца армія ня больш 200 тысяч чалавек. 11) Польская Рэспубліка абавязваецца вярнуць усю маемасьць, якая раней належала окупаваным краём, і адбудаваць разбураныя яе войскам масты і г. д. 12) Польская Рэспубліка абавязваецца ў законадаўчым парадку дарэмна надзяліць зямлёй у першую чаргу сем'і грамадзян Польскай Рэспублікі, забітых, параненых і страціўшых працаздольнасьць на вайне і ў сувязі з вайной. 13) Урэшце, Польская Рэспубліка дае права РСФСР і УССР свабоднага транзіту людзей і розных тавараў праз сваю тэрыторыю, а вучастак чыгункі Ваўкавыск—Беласток—Граева, які праходзіць па тэрыторыі Польскай Рэспублікі, застаецца ў поўным карыстаньні і распараджэньні РСФСР.

Потым старшыня расійскай дэлегацыі агаласіў дэкларацыю, у якой выказваў жаль з тэй прычыны, што польская дэлегацыя зацягвае перамовы, і выказаў пэўнасьць, што зацяжкі тлумачацца зусім пабочнымі меркаваньнямі. Дэкларацыя заканчвалася протэстам расійска-украінскай

дэлегацыі проці політыкі сыстэматычных адцяжак і ўскладала ўсю адказнасьць за крывавыя вынікі такой політыкі на прадстаўнікоў Польскай Рэспублікі. У канцы пасяджэньня польская дэлегацыя заявіла, што свой адказ на заяву старшыні расійскай дэлегацыі наконт умоў міру яна дасьць на наступным пасяджэньні [1]).

Сыстэматычная політыка зацяжкі з боку польскай дэлегацыі была зусім зразумелай. У гэты час наступленьне Чырвонай арміі на Варшаву было крыху затрымана. З другога боку, Урангель, які асталяваўся ў Крыме, атрымаўшы падтрыманьне ад Францыі, стараўся перанесьці свой опэрацыйны базіс на ўзьбярэжжа Азоўскага мора і ўварвацца ў Данскую і Кубанскую вобласьці. Савецкі ўрад змушан быў змагацца на два фронты і, разумеецца, гэта брала пад увагу польская дэлегацыя. З гэтым лічылася і Францыя, якая прызнала Ўрангеля і яго ўрад, як законны ўрад Расіі.

Трэцяе пасяджэньне конфэрэнцыі адбылося толькі 23 жніўня. Пасяджэньне адчынілася па-зачарговай заявай польскай дэлегацыі па пытаньні, якое ня мела ніякага дачыненьня да перамоў. Па-зачарговая заява польскай дэлегацыі была выклікана загадам па Менскаму гарнізону ў сувязі з выступленьнем Урангеля. Польская дэлегацыя ў гэтым чыста вайсковым загадзе ўбачыла зьнявагу мірнай дэлегацыі, у той час, як гэты загад быў выдадзен для Менскага гарнізону і выдадзен з мэтаю, якая ня мела ніякага дачыненьня да працы мірнай конфэрэнцыі. Дэлегацыя, заяўляючы свой протэст, патрабавала зьняцьця загаду, публічнага абвяржэньня яго і прыцягненьня да адказнасьці віноўных у выданьні гэтага загаду, прычым заяўляла, што яна ўстрымліваецца ад удзелу ў працы конфэрэнцыі да атрыманьня офіцыйнага тлумачэньня наконт гэтага загаду. Старшыня савецкай дэлегацыі, каб супакоіць польскую дэлегацыю, заявіў, што для савецкай дэлегацыі зьяўленьне гэтага загаду было зусім нечаканым і што дэлегацыя заявіла Рэвваенсавету аб недапушчальнай бестактоўнасьці, выказанай у гэтым дакуманце; і Народны Камісар Чычэрын са свайго боку прызнаў загад недапушчальным і бестактоўным. Рэвваенсавет Рэспублікі зрабіў заўвагу Рэвваенсавету Заходняга фронту аб недапушчальнасьці падобнага загаду. Загад быў апротэставаны, і аўтары яго былі прыцягнуты да адказнасьці. Са свайго боку расійская дэлегацыя зазначала, што ваеннае камандваньне ня раз заяўляла ёй аб прысутнасьці сярод тэхнічнага пэрсоналу польскай дэлегацыі асоб, якія маюць дачыненьне да контрвыведкі, што пярэчыць нормам народнага права. Пасьля часовага перапынку старшыня польскай дэлегацыі заявіў, што польская дэлегацыя прызнае добрую волю расійска-украінскай дэлегацыі ліквідаваць інцыдэнт, але нездаволена тым, што савецкая дэлегацыя ня выказала жалю з прычыны інцыдэнту і не распарадзілася аб публіч-

[1]) „Звезда", 1920 г., № 11.

ным абвяржэньні праз друк і праз расклейку належнага загаду. Апрача гэтага, у заяве дапушчана крытыка па сутнасьці складу польскай дэлегацыі. Тав. Данішэўскі ў адказ на гэта заявіў, што расійская дэлегацыя зрабіла ўсё, каб ліквідаваць інцыдэнт, і не дапусьціць падобнага выпадку ў будучым з боку савецкай улады і ваеннага камандаваньня. У самай ацэнцы данага факту сам сабой маецца на ўвазе жаль з прычыны гэтага здарэньня. Домскі заявіў, што польская дэлегацыя здаволена і мае шчырае жаданьне перайсьці да перамоў [1]).

Затым старшыня савецкай дэлегацыі зрабіў некалькі тлумачэньняў наконт прамовы старшыні польскай дэлегацыі Домскага на другім пасяджэньні конфэрэнцыі. Тав. Данішэўскі зазначыў, што РСФСР нікому не навязвае савецкага ладу і што ў Літве і Беларусі савецкі лад увялі самі працоўныя. Незалежнасьць Літвы і Беларусі РСФСР прызнала ў канцы 1918 году. Нашы вайсковыя часьці дапамагалі Беларусі па яе ўласнай просьбе, прычым яна ня раз протэставала перад усім сьветам проці нападаў польскага войска. Окупацыя Беларусі палякамі зьяўляецца актам гвалту. Тав. Данішэўскі даводзіў, што ніякай спрадвечнай барацьбы паміж расійскім і польскім народам няма. Сучасная вайна выклікана прагнасьцю польскіх абшарнікаў зьнішчыць волю сялянства Літвы, Беларусі і Украіны.

Надзеі на мір не ажыцьцёвіліся таму, што польскі ўрад адмовіўся ад мірных перамаўленьняў і, распачаўшы наступленьне на Украіну, навязаў ёй ярмо няпрызнанага народам Пятлюры. Тав. Данішэўскі заяўляў, што Чырвоная армія не навязвае Польшчы савецкага ладу, але расійская і украінская ўлада ня могуць забараняць працоўным утвараць свае ўстановы новага тыпу, ня могуць абмяжоўваць свабоду комуністых, або забараняць ім выдаваць сваю літаратуру. Тав. Данішэўскі заявіў, што ўрад РСФСР і УССР ня мае замераў на этнографічныя межы Польшчы і нават згодзен на больш шырокія граніцы, чым тыя, што ўстаноўлены Антантай. Польскі-ж урад мае выразна імпэрыялістычныя пляны. У сваёй дэклярацыі ён нават і ня ўспомніў пра этнографічныя межы. Такія заявы ня зусім пэўна набліжаюць нас да міру, якога жадае наш урад і прынцыпе якога зараз залежыць ад польскага ўраду [2]).

На гэтым-жа пасяджэньні старшыня польскай дэлегацыі паведаміў адказ палякаў на асноўныя палажэньні замірэньні і папярэдняга міру. У сваім адказе Домскі адзначыў, што ўмовы савецкага ўраду навеяны духам імпэрыялізму, і ў іх ня відаць, што РСФСР прызнае незалежнасьць Польшчы. Падобныя ўмовы можа прапанаваць пераможца народу, які змушан капітуляваць. Такія ўмовы міру Польшча прыняць ня можа, і далейшы абмен думкамі ня дасьць карысных вынікаў. Польшча імкнецца да такога міру, які раз назаўсёды спыніў-бы спрэчкі паміж абедзьвюма

[1]) „Звезда", 1920 г., № 15.

[2]) „Звезда", 1920 г., № 15.

рэспублікамі. Далей Домскі заявіў, што Польшча, як незалежная дзяржава, ужо існуе і што РСФСР толькі далучаецца да прызнаньня гэтага факту. Гэты пункт не падлягае абмеркаваньню на мірных перамовах. Другі пункт Домскі прапануе ў такой рэдакцыі, каб з яго відаць было, што абодва бакі ня будуць дамагацца звароту страт. Далей Домскі адзначыў, што лінія Керзона сходзіцца з лініяй трэцяга падзелу Польшчы, а з боку РСФСР відаць імкненьне ўтрымаць за сабой землі, якія цягнуцца далёка за межы, вызначаныя ў гэтым пункце. Скарачэньне ўзброеных сіл Домскі лічыць зьнявагай і лічыць недапушчальнай замену ўзброеньня арміі ўзброеньнем пролетарыяту. Домскі адхіляе дэмобілізацыю і выдачу зброі толькі з боку Польшчы, бо гэта паслужыць на карысьць узмацненьня мілітарызму РСФСР. Далей Домскі заяўляе, што РСФСР дапускае існаваньне на сваёй тэрыторыі варожага Польшчы Рэволюцыйнага Камітэту. Этнографічную лінію нельга вызначыць, пакуль ня выяўлена фактычнае ваенна-стратэгічнае становішча абодвух бакоў. Роўным чынам адхіляецца дзесяты пункт на тых самых падставах, на якіх адхіляецца і пункт аб дэмобілізацыі польскай арміі. Адзінаццаты пункт таксама нельга прыняць, бо ён тоіць у сабе адзнакі контрыбуцыі. Спробы РСФСР узяць пад сваю апеку польскіх грамадзян таксама павінны быць адхілены, бо сойм прыняў меры да іх забесьпячэньня. Пытаньне наконт транзіту Домскі прапануе адкласьці да канца конфэрэнцыі. Што датычыць пытаньня аб політычнай амністыі, дык яна павінна быць абаюднай і пытаньне гэта павінна быць разгледжана пасьля заключэньня міру [1]).

Прамова старшыні польскай дэлегацыі выклікала з боку старшыні савецкай дэлегацыі неадкладны адказ. Тав. Данішэўскі спачатку абмежаваўся кароткім адказам, абяцаючы падрабязна адказаць на польскую дэкларацыю на наступным пасяджэньні. Тав. Данішэўскі, падтрымліваючы ўсе вымаганьні савецкага ўраду, адзначыў, што выстаўленыя тут умовы не адрозьніваюцца ад апублікаваных у Лёндоне і вядомых Лейд Джорджу і польскаму ўраду. Ужо самы прыезд польскай дэлегацыі дазваляў спадзявацца на тое, што рэзкіх рознамоўяў уцалку ня будзе, бо прапановы савецкай дэлегацыі адрозьніваюцца ад лёндонскіх толькі ў драбніцах, а ня ў прынцыпе. Данішэўскі протэстуе супроць параўнаньня політыкі РСФСР з царскай політыкай, і заявы польскай дэлегацыі зьяўляюцца, па яго думцы, нічым іншым, як інсінуіраваньнем. Зазначаючы на тое, што польская дэлегацыя выстаўляе вымаганьні ультыматыўнага характару, як непадлеглыя абмеркаваньню, тав. Данішэўскі лічыць, што калі Домскі пацьвердзіць ультыматыўнасьць гэтых пытаньняў, дык „адказ савецкай дэлегацыі будзе вельмі хуткі і кароткі“. У канцы пасяджэньня тав. Данішэўскі выказаў протэст проці зацягваньня мірных

[1]) „Звезда“, 1920 г. № 15.

перамоў, а таксама выказаў сумненьне ў шчырасьці палякаў наконт жаданьня заключыць мір. Тав. Данішэўскі зазначыў, што зацягваньне мірных перамоў зьяўляецца прычынай далейшага праліцьця крыві на фронце і што ў гэтым віноўна, бязумоўна, польская дэлегацыя [1]).

Чацьвертае пасяджэньне мірнай конфэрэнцыі адбылося 25 жніўня. Пасяджэньне адчынілася кароткім адказам польскай дэлегацыі на заўвагі тав. Данішэўскага. Домскі падкрэсьліваў праўдзівасьць заявы польскай дэлегацыі наконт таго, што на Беларусі і ў Літве савецкі лад быў заснаваны прымусова. Але пасьля кароткага адказу тав. Данішэўскага гэта пытаньне лічылася вычарпаным і непадлеглым далейшаму абмеркаваньню. Потым тав. Данішэўскі агалашае падрабязную заяву савецкай дэлегацыі ў адказ на ультыматыўныя заявы польскай дэлегацыі. Тав. Данішэўскі адзначыў, што расійска-украінская дэлегацыя шчыра жадала ў адказе польскай дэлегацыі знайсьці прапановы, якія яна магла-б параўнаць з савецкімі прапановамі і апрацаваць рэдакцыю, на якой згадзіліся-б абодва бакі. Па словах тав. Данішэўскага, у польскім адказе няма сталага пункту для супольнага абмеркаваньня, ня відаць цьвёрдага жаданьня заключыць мір. „Увесь польскі адказ,—кажа тав. Данішэўскі,—насычан духам адмоўнасьці і няпрыязьні, жаданьнем зацягнуць перамовы аднэй толькі крытыкай і адсутнасьцю свае програмы або зусім спыніць іх. Польскіх асноў міру няма, а ёсьць толькі адмаўленьне нашых і высоўваньне асноў далейшай вайны. „Мы спадзяемся,—казаў далей тав. Данішэўскі,—што польская дэлегацыя прыехала не для высуваньня асноў далейшай вайны, і мы таксама не для гэтага сюды прыехалі. Наша задача—адшукаць грунт для міру. А тымчасам старшыня польскай дэлегацыі ў сваім адказе і ў дыскусіі ня раз падкрэсьліваў, што далей працягваць нашу працу няма сэнсу, ставіў ультыматыўна пытаньне аб зьняцьці з абмеркаваньня цэлага шэрагу нашых прапаноў. Нашы прапановы не ультыматыўны, бо мы ідзем на мір. Ультыматум з польскага боку ёсьць выразны зрыў мірных перамоў, бо ён выключае абмен думкамі, адхіляе апрацоўку ўмоў міру. Польская дэлегацыя, як і яе ўрад, жадае вайны, бо словы аб гістарычным праве яшчэ не адышлі ў даўнасьць, мары аб ім яшчэ не разьбіты на полі бойкі. Яны жадаюць зноў вярнуць іх да жыцьця“.

Зьвяртаючы ўвагу польскай дэлегацыі на тое, што праіграная опэрацыя ня ёсьць праіграная кампанія і нават праіграная кампанія ня ёсьць праіграная вайна, тав. Данішэўскі заяўляе аб шчырым жаданьні з боку РСФСР заключыць мір незалежна ад становішча на фронце. Разьбіраючы адказ на ўсе пункты асноўных мірных палажэньняў, тав. Данішэўскі адзначыў, што польская дэлегацыя лічыць ультыматыўна немагчымым прыняць адзінаццаць пунктаў нават для абмеркаваньня. Толькі

[1]) „Звезда“, 1920 г. № 15.

па двух пунктах польская дэлегацыя знайшла магчымым даць іншую формулёўку. „Так весьці перамовы нельга,—кажа тав. Данішэўскі.—Мы жадаем міру; польская дэлегацыя ня чула ад нас ультыматуму. Мы прапануем польскай дэлегацыі адмовіцца ад ультыматыўнай прапановы, зьняць з абмеркаваньня адзінаццаць пунктаў і даць становучую праграму, якую польская дэлегацыя хацела-б параўнаць з нашай праграмай для супольнай апрацоўкі ўмоў міру і папярэдніх перамоў“ [1]). Старшыня польскай дэлегацыі ў сваім адказе паведаміў, што ўсе заявы старшыні савецкай дэлегацыі ён прымае да ведама і што польская дэлегацыя ня лічыць пунктаў міру ультыматыўнымі. Калі польская дэлегацыя і глядзела адмоўна на цэлы шэраг пунктаў, дык „гэта было вынікам першага пункту расійскай дэкларацыі, якім прызнаваўся суверэнітэт Польшчы“. Домскі дадаў, што ён пакідае за сабой права пасьля перамоў са сваім урадам на наступным пасяджэньні даць конкрэтны становучы адказ [2]).

Палітыка старшыні польскай дэлегацыі выклікала належны адказ з боку расійска-украінскай дэлегацыі. Тав. Данішэўскі адзначыў няправільнасьць пастаноўкі пытаньня наконт суверэнітэту Польшчы. Дарэмна польская дэлегацыя лічыць гэта ўмешваньнем. Гэта ня мае пад сабой падстаў, бо на конфэрэнцыях міжнароднага характару ставіцца пытаньне соцыяльнага законадаўства, вайсковыя і г. д. і такую пастаноўку ніхто ня лічыць умешваньнем у суверэнныя правы бакоў. Адзначаючы, што польская дэлегацыя адхіляе адзінаццаць пунктаў, як пярэчныя суверэннасьці, тав. Данішэўскі пытае польскую дэлегацыю,—што-ж яна ставіць замест гэтых пунктаў? Для давядзеньня працы да становучых вынікаў, па думцы тав. Данішэўскага, палякі павінны выказаць выразныя палажэньні побач з расійска-украінскімі, каб магчыма было адшукаць такую рэдакцыю, на якой згадзіліся-б абодва бакі. У адказ на гэта Домскі абяцае падаць конкрэтны адказ „на расійскія заўвагі ў пісьмовай форме“. Данішэўскі ў заключным слове выказаў пэўнасьць і надзею, што прапановы польскай дэлегацыі ня будуць толькі крытыкай і адхіленьнем высунутых намі асноў працы конфэрэнцыі і што іх магчыма будзе параўнаць з нашымі прапановамі [3]).

Адказ польскай дэлегацыі, у якім прынцыпова адхіляліся ўмовы міру, запрапанованыя савецкай дэлегацыяй, хоць гэтыя ўмовы былі фактычна ўхвалены ангельскім урадам, які гэтым самым жадаў спыніць наступленьне савецкага войску на Варшаву і выратаваць Польшчу, супаў з пагоршаньнем становішча на подступах да Варшавы. Гэта дало магчымасьць палякам заняць іншую позыцыю на мірнай конфэрэнцыі і адмоўна аднесьціся да ўсіх прапаноў савецкай дэлегацыі. Ноччу з 26 на 27 жніўня а 2 гадзіне адбылася экстраная нарада прэзыдыумаў мірных

[1]) „Звезда“, 1920 г., № 17.
[2]) „Звезда“, 1920 г., № 17.
[3]) „Звезда“, 1920 г., № 17.

дэлегацый, на якой старшыня польскай дэлегацыі заявіў, што па вымаганьню польскага ўраду ён з некалькімі членамі польскай дэлегацыі павінен выехаць у Бярэсьце для нарады з прыехаўшым туды міністрам замежных спраў Сапегам і Дашынскім. Старшыня польскай дэлегацыі выказаў пэўнасьць у тым, што спатканьне з прадстаўнікамі польскага ўраду дасьць яму магчымасьць хутчэй павесьці працу ў пажаданым для абодвух бакоў кірунку—да хутчэйшага заключэньня міру [1]).

Наступленьне Урангеля на Савецкую Расію і пагоршаньне становішча на подступах да Варшавы, бязумоўна, былі фактам аграмаднай важнасьці ў гісторыі мірных перамоў у Менску. Было зусім ясна, што гэтыя перамовы ня могуць даць пажаданых вынікаў і што палякі не жадаюць згадзіцца з прапановамі савецкай дэлегацыі.

Пасьля звароту Домскага з Бярэсьця абодва бакі дамовіліся прыпыніць мірныя перамовы ў Менску і перанесьці іх у які-небудзь нэўтральны горад, паводаль ад фронту, у якім атмосфэра для мірных перамоў была-б больш спрыяльнай.

Мірныя перамовы спыніліся. Урангель у гэтай справе вельмі дапамог Польшчы.

Месцам для мірных перамоў, са згоды латвійскага ўраду, была выбрана Рыга.

*(Працяг будзе)*

[1]) „Звезда", 1920 г., № 18.

# ПЭРСПЭКЦЫЙНАЕ ПЛЯНАВАНЬНЕ НАРОДНАЕ ГАСПАДАРКІ СССР і БССР [1])

**М. Карклін**

## I

XV партзьезд УсеКП(б) падагульніў першы пэрыод нашай працы ў галіне пэрспэкцыйнага плянаваньня народнае гаспадаркі і даў пры гэтым дырэктывы, што першы падрыхтоўчы плянавы пэрыод павінен быць зьменены ў шырока разьвінутую конкрэтную програму соцыялістычнага будаўніцтва на бліжэйшыя пяць год.

Плян соцыялістычнага будаўніцтва настолькі-ж патрэбная рэч для народнай гаспадаркі Савецкага Саюзу, як вольная конкурэнцыя для гаспадаркі капіталістычнай, і ён асабліва будзе ясны, калі мы падумаем, як увязаць вялізную колькасьць распыленых сялянскіх двароў (а яны выраслі з 16 міл. двароў у 1913 г. да 25 міл. у 1928 г., а ў БССР такіх двароў было ў 1924 г. 758.000, а ў 19 7 г.—796 00) двароў), гэтую вялізную масу гаспадарчых адзінак з усімі яе асаблівасьцямі (уласьніцкімі інстынктамі) у клясавых адносінах і блізкія (бедната, парабкі) і далёкія ад рабочай клясы (кулакі) і ў соцыялістычных адносінах розныя (бедната, серадня́кі ды кулакі). Але мы павінны плянава ўвязаць іх з адзіна цэлым соцыялістычным плянам, накіраваць па адзінаму шляху і па шляху соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта зусім неабходныя патрабаваньні нашай палітычнай і практычнай програмнай працы.

Ажыцьцяўленьне нашых плянаў і атрыманьне вынікаў ад пэрспэкцыйнага плянаваньня будуць адбывацца ва ўмовах барацьбы з соцыяльна-клясавым супярэчаньнем як у самой краіне, так і па-за краінай, і будзе таксама яшчэ затрымлівацца шэрагам іншых конкрэтных перашкод.

Возьмем *апошні выпадак* з „шахцінскай контр-рэволюцыяй“.

Тут мы маем выпадак умешваньня з боку пры дапамозе заразумелай групы спэцыялістых, г. зн. „шкоднікаў“, якія нарабілі шмат шкоды разьвіцьцю прамысловасьці і ажыцьцяўленьню соцыялістычнага пляну.

*Другі выпадак.* Першае „выступленьне“ ў гэтым годзе кулацкай верхавінкі пры нэпе проці нашых крокаў у справе рэгуляваньня ды плянаваньня народнае гаспадаркі (загатоўка збожжа і сыравіны).

---

[1]) Лекцыя прачытана на выпускным курсе Комвузу, на курсах раённых агітатараў і пропагандыстых і на курсах настаўнікаў і краязнаўчых працаўнікоў (чэрвень—1928 г.) і перадана ў рэдакцыю „Полымя“ згодна просьбы слухачоў гэтых курсаў. *М. К.*

Прычым ўмешваньне гэта было даволі значным, асабліва, калі прыняць пад увагу, што дзяржава на 80 проц. забесьпячае промтаварамі вёску і сельска-гаспадарчую сыравіну загатаўляе на 90 проц., гэта знача мелася велікая магчымасьць рэгуляваньня.

*Трэці прыклад.* Гэта ўсё яшчэ нездавальняючае разьвіцьцё індустрыялізацыі краіны, слабае ўкараненьне колектыўных форм у сельскую гаспадарку, а таксама ўсё яшчэ значная някультурнасьць, тэхнічная адсталасьць і агульная беднасьць краіны, як спадчына мінулага.

Адгэтуль і *пралікі, памылкі, няхваткі, нядбаласьць, злачынствы* і розныя „балячкі“ ды „гнойнікі“ і пэсымізм і *залішні* оптымізм.

Таму і неабходна пры складаньні пэрспэкцыйнага пляну мець на ўвазе стан соцыяльна-клясавых сіл ды іх суадносіны, і цьвёрда захоўваць пролетарскую дысцыпліну пры ажыцьцяўленьні нашых гаспадарчых плянаў.

Кастрычнікавая рэволюцыя вызначыла на сваіх чырвоных сьцягох пэўную агульна-палітычную і гаспадарчую ўстаноўку на пролетарскае соцыялістычнае будаўніцтва. І каб гэтага дасягнуць, патрэбны ня толькі вялікія гаспадарчыя зьмены ў краіне, але і культурныя зьмены (культурная рэволюцыя), асабліва ў масавай кваліфікацыі ўсёй працоўнай арміі, трэба навучыць яе культурна працаваць. Бяз гэтага немагчыма дабіцца шпаркага посьпеху ды эфэкту ў справе перабудовы і тэхнічнага пераабсталяваньня ўсяе народнае гаспадаркі.

Мы ажыцьцяўляем цяпер хуткім тэмпам задачу соцыялістычнай рэконструкцыі. Але пакуль што практыка апошніх двух гадоў гэтай рэконструкцыі ўвогуле надта мала дае нам належных вынікаў.

А мы ведаем, што бяз досыць яснага агульна-экономічнага фону цяжка плянаваць ня толькі народную гаспадарку ў цэлым, але і асобныя элемэнты народнае гаспадаркі.

Возьмем для прыкладу:

1) наша экономічнае раёнаваньне пакуль ня скончана і яшчэ шмат давядзецца працаваць вакол яго (як па СССР, так і ў БССР);

2) па прыродных багацьцях СССР стаіць на першым месцы сярод эўропэйскіх краін, а сярод усіх краін сьвету—на чацьвертым месцы.

Што-ж тычыцца дасьледаваньня і выкарыстаньня прыроднай энэргіі, то мы стаім на 8 або 9 месцы.

Мы гаворым пра малазямельле, пра аграрную перанаселенасьць ды г. д., але ёсьць і „такія людзі“, якія кажуць, што ў нас не *малазямельле, а малаўмельства.*

Можна было-б падаць шмат такіх прыкладаў, якія сьведчаць, як мала мы зрабілі ў справе выкарыстаньня ўсіх магчымасьцяў. Усё гэта павінна ўзяць пад увагу наша пэрспэкцыйнае плянаваньне і паставіць яго выразна перад усёй савецкай грамадзкасьцю.

*Індустрыялізацыя* Савецкага Саюзу зьяўляецца касьцяком новага соцыялістычнага грамадзтва, а таму яна стаіць на першым месцы сярод усіх проблем пэрспэкцыйнага пляну.

Мы ўжо бачылі, што пры слабым тэмпе разьвіцьця індустрыялізацыі краіны нам цяжка ўплываць на 25 мільенаў сельска-гаспадарчых двароў (на іх-жа карысьць і на карысьць усяго соцыялістычнага пляну).

Таму і XV зьезд УсеКП даў дырэктыву *„працягваць неаслабным тэмпам політыку соцыялістычнай індустрыялізацыі, якая ўжо дае свае першыя станоўчыя вынікі“*. Вось чаму, зразумела, нам неабходна павялічваць тэмп працы ў справе індустрыялізацыі Савецкага Саюзу.

Проблема індустрыялізацыі вельмі цесна зьвязана з двума самымі вялікімі задачамі: гэта электрыфікацыя краіны і коопэрацыя насельніцтва.

*Электрыфікацыя*—гэта танны энэргетычны грунт для індустрыялізацыі краіны.

Рэконструкцыю народнай гаспадаркі немагчыма ажыцьцявіць бяз гэтай энэргетычнай базы. Электрыфікацыя ў нашай краіне зьяўляецца найважнейшым рэволюцыянізуючым фактарам для экономікі нашай краіны. Таму так заўзята і абараняе рабочая кляса ажыцьцяўленьне пляну Гоэро. („Волхаўбуд“, „Шатурна“, „Балахна“, „Тыфліская“, „Днепрабуд“, „Асінабуд“ ды інш.).

Коопэрацыя прызначана для мобілізацыі грамадзка-організацыйных рэсурсаў краіны. Мы часта неяк забываемся на тое, што дае і што можа даць энэргія 100 мільёнаў насельніцтва Савецкага Саюзу (адкідаючы дзяцей і старых),—гэтая вялікая сіла пры правільнай організацыі і лепшым скарыстаньні можа даць цудоўна вялікія вынікі ў нашай народнай гаспадарцы.

Такім чынам, коопэрацыя, організуючы матэрыяльныя сілы ды людзей, і ажыцьцяўляе вялізную грамадзкую працу.

Апрача таго, электрыфікацыя, організуючы стыхійныя сілы прыроды,ператварае ня толькі экономічна і тэхнічна адсталую дробную індывідуальную гаспадарку, *але стварае і экономічныя ўмовы для таго, каб зьнішчыць тыя супярэчнасьці паміж горадам і вёскай, што скаліся гістарычна.*

Яшчэ 45 год таму назад (у 1883 г.) наконт гэтага *Фрыдрых Энгельс* пісаў *Эдуарду Бэрнштэйну* наступнае:

„Найноўшая вынаходка *Дэпрэ,* што электрычнасьць можа перадавацца па звычайным тэлеграфным дроце на нячуваную дагэтуль адлегласьць і прымацца на канцовым пункце, канчаткова зьнішчае бадай усе мясцовыя граніцы і для прамысловасьці робіць магчымым ужываньне нават самых аддаленых вадзяных сіл; калі нават спачатку скарыстаюць гэта толькі гарады, дык урэшце яна павінна стаць самым магутным падважнікам для зьнішчэньня антагонізму паміж горадам і вёскай“.

Вось чаму асабліва значэньне і асабліва месца даецца ў пяцігадовым пляне электрыфікацыі, як арганізатару стыхійных сіл, і коопэрацыі, як арганізатару грамадзкіх сіл ды сродкаў. І дзякуючы гэтаму, наша і арганізацыйная і экономічная ўвага ня слабне, але ўсё павялічаецца.

З усіх, што існуюць у БССР, экономічных формацый пераважнымі зьяўляюцца дзьве:

Соцыялістычная і простая таварная (сялянскія гаспадаркі, за выключэньнем кулацкай часткі вёскі).

Хоць колькасна, па масе продукцыі, у краіне і *пераважае не аграмаджаная сялянская гаспадарка, усё-ткі кіруючая роля належыць соцыялістычнаму сэктару,* на чале якога стаіць рабочая кляса. Соцыялістычны сэктар, займаючы першае і бадай монопольнае месца ў прамысловай продукцыі, маючы чыгуначны транспорт, аграмаджанае разьмеркаваньне тавараў і грашовых сродкаў, зьяўляецца пры гэтым сапраўды экономічным ды соцыяльна-палітычным „правадыром“ ва ўсёй экономіцы краіны. Але гэта ані ня значыць, што ня трэба быць увесь час на „чеку“ супраць свайго актыўнага ворага,—ворага рабочай клясы і сялянства—прыватнага капіталу.

Прыватны капітал галоўным чынам знаходзіцца ў сялянскай гаспадарцы, дзякуючы чаму і задачай пэрспэкцыйнага пляну зьяўляецца ўзмоцніць, разьвінуць шырэй аграмаджаны сэктар у сельскай гаспадарцы, выціскаючы ўсё больш і больш прыватны сэктар.

Мы бачылі, як варожа пры няспрыяльных кон'юнктурных абставінах выяўляе сябе прыватны капітал; у гандлі—прыватны гандаль, на вёсцы — кулак. Мы ведаем, што там, куды не даходзіць дзяржаўны плян, туды можа запаўзьці, снуючы сваю павуціну, капіталістычны павук, раздатчык, арандатар, ліхвяр, спэкулянт, скупшчык збожжа ды сыравіны.

І калі мы яшчэ дапушчаем прыватніка, дык гэта зьяўляецца толькі часовай мерай, дзякуючы яшчэ слабасьці нашых матэрыяльных сродкаў, але гэтае дапушчэньне мы павінны паставіць так, каб *ён,* прыватнік, служыў справе соцыялістычнага будаўніцтва, даваў карысьць. Інакш ён непатрэбны для нашых гаспадарчых плянаў.

Такім чынам, мы бачым, што асноўнымі ўстаноўкамі нашага народна-гаспадарчага пэрспэкцыйнага плянаваньня зьяўляецца:

1) ад гадовых опэрацыйных плянаў перайсьці на больш доўгія, г. зн. пэрспэкцыйныя пяцігадовыя і генэральныя пляны. Бяз гэтага ня можа быць ніякай пэрспэктывы ў нашым будаўніцтве—соцыялістычным будаўніцтве;

2) без пэрспэкцыйнага пляну савецкая дзяржава ня можа ажыцьцявіць і дасягнуць сапраўднага рэгуляваньня ды ўвязкі інтарэсаў дробных вытворцаў (сялянства) з дзяржаўным прамысловым разьвіцьцём;

3) пляны даводзіцца складаць і ажыцьцяўляць ва ўмовах барацьбы з соцыяльна-клясавымі супярэчнасьцямі як у самой краіне, так і па-за межамі яе, што патрабуе вялікай удумлівасьці і вытрыманасьці ў нашай працы;

4) наша беднасьць, наша някультурнасьць не дала яшчэ пакуль магчымасьці выўчыць усё тое, што мы маем, і выкарыстаць яго,—але гэтага трэба дасягнуць у бліжэйшы пэрспэкцыйны пэрыод працы;

5) асновай у нашым пяцігадовым пляне была і ёсьць індустрыялізацыя краіны, і ўсе магчымасьці павінны быць уцягнуты ў яе ўмацаваньне: і культура, і навука, і ўсе магчымасьці краіны павінны быць мобілізаваны на гэта, бо трэ' ведаць, што гэта дасьць магчымасьць паднясьць і культурнасьць, і сельскую гаспадарку, і дабрабыт насельніцтва;

6) электрыфікацыя ды коопэрацыя зьяўляюцца вялікімі організуючымі фактарамі ў народнай гаспадарцы і павінны заняць найважнейшае месца ў пяцігадовым пляне, але трэба памятаць, што гэта зьяўляецца непадзельнай часткай пляну індустрыялізацыі краіны;

7) варожы сэктар толькі тады будзе няшкодны і зьліквідаваны, калі соцыялістычны сэктар будзе расьці з дня ў дзень, прычым выкарыстаньне прыватніка магчыма толькі тады, калі яго існаваньне ня шкодзіць ажыцьцяўленьню соцыялістычнага пляну;

8) вакол усіх гэтых пытаньняў групуецца і організуецца ўся савецкая грамадзкасьць і, у першую чаргу, рабочыя ды сяляне, як і наша чырвоная новая пролетарская навуковая ды тэхнічная сіла пролетарскае дзяржавы, якая ўжо ў гэтым конкрэтным пляне (5 год) зойме вялікае месца.

II

Мы маем *тэмп росту народнай гаспадаркі СССР, які штораз, то больш узмацняецца.* У шэрагу галін адзначаем нябачаны ў сусьветнай практыцы тэмп разьвіцьця (маючы на ўвазе пры гэтым усе тыя цяжкасьці, што перажыла савецкая ўлада за гэтыя дзесяць год).

*Прыкладам:* 1) Саюзная горная прамысловасьць павялічыла здабычу вугалю ў параўнаньні з 1913 годам на 22 проц. (вугалю і антрацыту +130 проц. дае 1927-28 г.).

Нафты на 25—27 проц.

Здабыча торпу ў параўнаньні за даваенай у чатыры разы большая.

2) Або ва ўсёй цэнзавай прамысловасьці СССР рост процантаў агуловай продукцыі к даваеннаму часу выяўляецца так:

1913 г.—100 проц.; 1919 г.—16 проц.; 1920 г.—13 проц.; 1921 г.—22 проц.; 1922 г.—30 проц.; 1923 г.—38 проц.; 1924 г.—61 проц.; 1925 г.—89 проц.; 1926 г.—105 проц. і 1927-28 г.—123 проц.

А паводле першага варыянту ВСНГ Саюзу ў 1931-32 г. г. рост вызначаецца ў+213 проц.

3) *Электрыфікацыя СССР:* У 1913 г. было 780 тысяч кіловат.

У 1928 г. мы маем ужо 2.130 тысяч кілёват.

У 1931-32 г. спадзяемся на 3.611 тысяч кілёват.

Гэта ўсё сьведчыць аб вініках вялікай ды напружанай працы і вялікай мэтавай устаноўкі ўсяе рабочае клясы.

Пры гэтым тэмп росту электрыфікацыі дае магчымасьць хутка пераводзіць нашу народную гаспадарку на новую і выгодную энэргетычную базу разьвіцьця, і тым ажыцьцяўляецца адно з самых галоўных патрабаваньняў соцыялістычнага пляну.

*Па сельскай гаспадарцы* (якая вырасла з 16 мільёнаў індывідуальных сялянскіх двароў да 25 мільёнаў) *маем таксама шпаркі як колькасны, так і якасны ўздым.*

Рост агульнай таварнай продукцыі сельскай гаспадаркі па СССР. (Паводле даных Дзяржпляну Саюзу ў мільёнах рублёў па старой цане):

| Гады | Агульная продукцыя сельскай і лясной гаспадаркі. | У %% | Таварная частка бяз унутры-сялянскага звароту | У %% | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| 1923-24 г. . . . | 8.821, 4 м. р. | 100 | 1. 494. 7 м. р. | 100 | У 1926-27 г. агуловая продукцыя с. гаспадаркі па даваенным цэнам складала 95,6% 1913 г. |
| 1926-27 г. . . . | 11.901, 3 м. р. | 134,9 | 2. 341, 6 м. р. | 156,7 | |

У прыватнасьці пасяўны клін тэхнічных культур, паводле падліку мінулага году, павялічыўся *на 30 проц.* у параўнаньні з 1913 г.

Гэта сьведчыць, што наша адсталае сялянства пераходзіць ад апошніх рэштак натуральнай гаспадаркі да таварнай, ад экстэнсыўных форм да інтэнсыўнага гаспадараньня.

Асноўныя фонды Савецкага Саюзу к пачатку 1924-25 г. складалі . . . . . . . . . 48.576 м. р.
Новыя ўкладаньні за 3 гады складалі . . . 10.854 „ „
Папсаваньне за 3 гады склала . . . . . . 6.632 „ „
Чысты прырост, значыць, складае . . . . 4.502 „ „

А на 1/X-1927 г. асноўныя фонды СССР складалі . . . . . . . . . . 53.078 м. р.

(Падлік Дзяржпляну Саюзу).

*Гэты рост* народнай гаспадаркі Саюзу зьяўляецца не выпадковым, але дасягнуты дзяржаўным рэгуляваньнем і пляднаваньнем пры капітальных укладаньнях і стратах на народную гаспадарку ды тэй вялікай політыка-культурнай працай, якая праводзіцца ня толькі дзяржаўнымі організацыямі, але і рабочымі і грамадзкімі організацыямі вакол народна-гаспадарчых накапленьняў.

*Але важна яшчэ тое, куды ішлі гэтыя сродкі.* І дзе гэтае накапленьне скарыстоўвалася па сэктарах, бо савецкая ўлада не дамагаецца толькі агульнага росту народнай гаспадаркі, але імкнецца да ўзмоцненага росту соцыялістычнага сэктару нашай народнай гаспадаркі. На гэтае пытаньне дае адказ наступная табліца:

Разьмеркаваньне асноўных фондаў паміж дзяржаўным, коопэрацыйным і прыватным сэктарамі (паводле цаны 1925-26 г.):

| Сэктар | На 1-га кастрычніка | | |
|---|---|---|---|
| | 1924 г. | 1927 г. | 1928 г. (плян) |
| Дзяржаўны . . . . . . | 27.105 | 29.488 | 31.578 м. р. |
| Коопэрацыйны . . . . | 481 | 680 | 1.051 „ „ |
| Прыватны . . . . . . | 20.990 | 22.734 | 23.478 „ „ |
| Разам . . . | 48.576 | 53.078 | 56.107 м. р. |

Такім чынам крок за крокам прыватны капітал аддае месца соцыялістычнаму сэктару, інакш кажучы, „соцыялізм ідзе пераможна наперад, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці".

У прыватнасьці: 1) па лініі сельскай гаспадаркі даныя сьведчаць, што, побач з агульным ростам сельскай гаспадаркі, сельска-гаспадарчыя групы, найменш забясьпечаныя пасевам, скарачаюцца з 6,9 проц. у 1922 г. да 4,2 проц. у 1926 г.; сярэдняя група сялян (ад 2—6 дзес.) з 40,3 проц. у 1923 г. паднялася да 49,3 проц. у 1926 г. Такі самы, прыблізна, малюнак мы маем і ў стасунку да жывёл або кароўнасьці.

Вынік: лінія савецкай улады ў стасунку да сялянства была ня толькі паднімаць агульны дабрабыт сялянства, але асабліва падняць бядняцкую ды серадняцкую часткі яго.

Значна пайшло наперад коопэраваньне сельскай гаспадаркі. Так, у 1913 г. было 2 мільёны пайшчыкаў, а ў 1927 г.—24 мільёны, г. зн. у 12 раз больш. Такім чынам, процэсы аграмаджаньня сельскай гаспадаркі ўсё павялічаюцца ды павялічаюцца (колектыўныя гаспадаркі, комуны, таварыствы, сябрыні).

2) Па лініі прамысловасьці лічбы сьведчаць, што бурны *тэмп росту прамысловасьці ствараў і тэмп росту рабочай клясы:*

У 1923-24 г.—1.552—100%
„ 1924-25 „—1.852—119%
„ 1925-26 „—1.926—150%
„ 1926-27 „—2.510—162%

(Гэта толькі ў дзяржаўнай прамысловасьці).

У параўнаньні з 1913 годам рост рабочай клясы ў 1928 г. павінен дасягнуць каля 105—110 проц., а ў канцы 1932 году—каля 125—130 проц.

Заработная плата ва ўсіх галінах прамысловасьці, апрача вугальнай і часткова мэталюргічнай, перавысіла даваенны ўзровень, напрыклад: у 1923-24 г.--137 проц.; у 1924-25 г.—119 проц.; 1925-26 г.—114,2 проц.; у 1926-27 г.—каля 112 проц. (тэмп у процантах паказаны да папярэдняга году); паводле пяцігадовага пляну, новы проект росту рэальнага ўзроўню мяркуецца каля 70—75 проц.

Апрача таго, ужо пераведзена на сямігадзінны працоўны дзень з васьмігадзіннага больш як 100 тысяч рабочых, ды апрача таго, крыху паляпшаюцца і жыльлёвыя ўмовы (у гэтыя дні пераводзіцца яшчэ каля 60 тысяч чалавек на сямігадзінны працоўны дзень).

Ня гледзячы на тое, што хоць соцыялістычны сэктар усё расьце, а *доля варожага прыватнага сэктару ў народнай гаспадарцы ўсё зьмяншаецца* (у гандлі: ва ўсім звароце ў 1923-24 г. прыватны сэктар складаў 40,8 проц., а ў 1926-27 г. ён складаў 21,5 проц.; адносна капітальных укладаньняў: у асноўныя фонды прыватны капітал у 1923-24 г. укладаў 23,6 проц., а ў 1926-27 г.—толькі 31,2 проц.), усё-ткі трэба ва ўсіх мерапрыемствах яго стрымліваць і гэтым у гаспадарчай галіне соцыялістычныя суадносіны год ад году выцісьнуць капіталістычныя і дакапіталістычныя адносіны.

Такім чынам, гэты здаровы рост агульна-саюзнай народнай гаспадаркі стварае здаровы і цьвёрды пачатак для росту соцыялістычных элемэнтаў і ў БССР.

Але адначасна гэта не пазбаўляе ад самай дакладнай дапасаванасьці ў разьвіцьці ўсіх элемэнтаў у народнай гаспадарцы паміж саюзнымі рэспублікамі. Ён патрабуе правільнай раённай (рэспубліканскай) увязкі работ з агульна-саюзнымі практычнымі задачамі ды забесьпячэньня бязупыннага ажыцьцяўленьня гаспадарчых культурных плянаў.

III

У БССС мы маем ня менш посьпехаў, а ў некаторых галінах маем нават і большы тэмп, чым у Саюзе; як, напрыклад, у сельскай гаспадарцы пасеўны клін у Саюзе блізкі да 100 проц. у параўнаньні з даваенным, а ў БССР большы на 20 проц.—таксама значна павялічыўся засеў тэхнічных культур.

У капітальным будаўніцтве прамысловасьці тэмп у гэтым годзе і ў мінулым куды большы, чым сярэдня-саюзны. Гэта зразумела, калі прыняць пад увагу адсталую прамысловасьць БССР, разбуранасьць гарадзкіх жыльлёвых фондаў, а таксама нізкі ўзровень сельскай гаспадаркі ды вялікую аграрную перанаселенасьць, якая ўвесь час выкідае новыя кадры нескарыстанай вясковай рабочай сілы.

Таму ў далейшым *асноўная лінія разьвіцьця* народнай гаспадаркі формулюецца так:

а) Узмоцненае прамысловае разьвіцьцё ня толькі на базе перапрацоўкі мясцовай сыравіны, але і прывознай, прычым вельмі-ж патрэбна разьвіваць пабудову працаёмістых прадпрыемстваў, і асабліва апрацоўчай ды перапрацоўчай прамысловасьці для забесьпячэньня промтаварамі ўнутранога рынку, а таксама і вакольных раёнаў.

б) Прамысловае разьвіцьцё павінна быць забясьпечана ўсімі момантамі рацыяналізацыі ды тэхнічных палепшаньняў для таго, каб атрымаць большую продукцыйнасьць і зьменшыць сабекошт.

в) Уздым сельскай гаспадаркі шляхам узмацненьня інтэнсыўных яе форм—павялічэньне долі тэхнічнай сыравіны ў сельска-гаспадарчым балянсе ды ўзмацньньне разьвіцьця інтэнсыўнай жывёлагадоўлі з пераходам на колектыўнае гаспадараньне.

г) Лясная гаспадарка, якая займае вялікае месца ў народна-гаспадарчым балянсе, ад экстэнсыўных форм эксплёатацыі павінна перайсьці да інтэнсыўных, прычым гэта павінна быць ня толькі ў лясным гаспадараньні, але і ў перапрацоўцы лясной сыравіны (лясная прамысловасьць, хэмічная і г. д.).

д) Усё-ж разьвіцьцё народнай гаспадаркі павінна перайсьці ня толькі на новую палепшаную машыновую тэхніку, але і на новую энэргетычную базу—электроэнэргіі, асабліва ў прамысловасьці з паступовым, але сталым укараненьнем у сельскую гаспадарку, пачынаючы з прадпрыемстваў, якія перапрацоўваюць на месцы сельска-гаспадарчую сыравіну.

е) Транспортная сувязь—тыя чыгункі і вадзяныя шляхі, што мы маем,—ня можа цалкам задаволіць тэмп разьвіцьця народнай гаспадаркі БССР. Сельскія і акруговыя дарогі з прычыны сваёй разбуранасьці могуць стаць папярок дарогі ў справе нормальнай сувязі гораду з вёскай—прамысловасьці ды сельскай гаспадаркі. Гэта патрабуе організацыйных і значных матэрыяльных крокаў.

Інакш кажучы, БССР павінна з аграрнай краіны шпарчэй перайсьці да *аграрна-прамысловай* краіны і потым прамыслова-аграрнай.

У лічбах (па дынаміцы) гэтая лінія партыі савецкай улады ў БССР азначаецца так:

1) *Агульная продукцыя цэнзавай прамысловасьці*

(у даваенных рублёх складае):

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1924-25 г.—35.100 тыс. руб. | 100 | проц. | Процант росту да папярэдняга году. |
| 1925-26 г.—53.795 „ „ | 153,2 | „ | |
| 1926-27 г.—62.061 „ „ | 115,4 | „ | |
| 1927-28 г.—72.535 „ „ | 116,9 | „ | (Контрольныя лічбы). |

Да вайны ў 1913 г. яна складала 47.395 тыс. руб.

2. *Колькасьць рабочых* буйнай цэнзавай прамысловасьці паднялася з 24 тысяч у 1924-25 г. да 47 тысяч у 1926-27 г., ці, паводле контроль-

ных лічбаў, да 51 тысячы чалавек у 1927-28 г. У 1913 г. рабочых у Беларусі было каля 23 тысяч чалавек.

3) *Таварная маса па прамысловосьці (буйной цэнзавай)* (процант росту папярэдняга году):

| | | | |
|---|---|---|---|
| 100 проц. | 1924-25 г. | 69.700 тыс. руб. | паводле даваеннай цаны. |
| 166,7 „ | 1925-26 г. | 116.100 „ | „ „ „ „ |
| 109,8 „ | 1926-27 г. | 127.500 „ | „ „ „ „ |
| 111,5 „ | 1927-28 г. | 142.200 „ | „ (паводле проекту контрольных лічбаў). |

4) *Агульная продукцыя сельскай гаспадаркі (у тым ліку і лясная)* (у даваенным вылічэньні):

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1924-25 г. | 399.416 тыс. т. руб. | 100 проц. | Процант росту да папярэдняга году. |
| 1925-26 г. | 418.895 „ „ „ | 104,9 „ | |
| 1926-27 г. | 414.585 „ „ „ | 99 „ | |
| 1927-28 г. | 442.153 „ „ „ | 106,7 „ | |

У канцы 1931-32 г. рост у параўнаньні з 1926-27 г. павінен быць на 25 проц.

5) *Унутраная сельска-гаспадарчая таварная маса (бяз унутрысялянскага звароту)*:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1924-25 г. | (лічб. акругл.) | 67.000 т. р. | 100 проц. | Процант росту да папярэдняга году. |
| 1925-26 г. | „ | 96.000 „ | 143,8 „ | |
| 1926-27 г. | „ | 87.700 „ | 91 „ | |
| 1927-28 г. | „ | 90.000 „ | 102,7 „ | |

Паводле пяцігадовага пляну таварная маса павінна падняцца за чатыры гады на 50 проц. (1931-32 г.).

6) *Па тэхнічных культурах* таварная маса павялічылася так (акруглёна):

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1924-25 г. | 3.900 т. р. | 100 проц. | Процант росту да папярэдняга году. |
| 1925 26 г. | 7.200 „ | 181 „ | |
| 1926-27 г. | 5.200 „ | 72,5 „ | |
| 1927-28 г. | 7.500 „ | 145 „ | |

Паводле пяцігадовага пляну агульная продукцыя тэхнічных культур павінна вырасьці на 32 проц. (1931-32 г.).

7) *Новае жыльлёвае будаўніцтва* ў дзесяці акруговых гарадох дало наступны прырост:

| | У акругах. | У раёнах. |
|---|---|---|
| 1925-26 г. | 52.000 кв. м. | 31.000 кв. м. |
| 1926-27 г. | 86.000 „ | 37.000 „ |
| 1927-28 г. | 102.000 „ | 42.000 „ |
| 1931-32 г. | 201.000 „ | 50.000 „ |

Усе пяць год павінны даць прырост у акруговых гарадох больш чым на 750 тыс. кв. м.

Такім чынам, з усяго паданага мы бачым і колькасны і якасны рост народнай гаспадаркі з адначасным ростам рабочае клясы і адноснае вагі прамысловасьці ў народнай гаспадарцы (таварная маса прамысловасьці ў агульнай таварнай масе па даваеннай цане паднялася з 45,8 проц. у 1924-25 г. да 61,8 проц. у 1927-28 г. паводле пляну).

Да агуловай продукцыі прамысловасьць у канцы 1931-32 г. (паводле матэрыялаў пяцігадовага пляну) у народнай гаспадарцы паднімецца з 18,8 проц. (1926-27 г.) да 26,3 проц.

Гэтага магчыма было дасягнуць праз політыку капітальных укладаньняў з боку дзяржавы ў народную гаспадарку.

Капітальныя ўкладаньні ў аграмаджаную гаспадарку (лічбы круглыя) (у сучасных рублёх):

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1924-25 г. | —16.500 т. р. | —100 проц. | Процант да папярэдняга году. |
| 1925-26 г. | —36.800 „ | —223 „ | |
| 1926-27 г. | —50.800 „ | —137 „ | |
| 1927-28 г. | —70.900 „ | —137 „ | (проект) |

Паасобку ў прамысловасьць:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1924-25 г. | — 3.700 т. р. | —100 проц. | Процант ад папярэдняга году. |
| 1925-26 г. | — 8.600 „ | —230 „ | |
| 1926-27 г. | —15.170 „ | —176 „ | |
| 1927-28 г. | —21.570 „ | —140 „ | (проект) |

У сельскую гаспадарку:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1924-25 г. | — 3.600 т. р. | —100 проц. | Процант да папярэдняга году |
| 1925-26 г. | — 7.000 „ | —193 „ | |
| 1926-27 г. | — 9.600 „ | —137 „ | |
| 1927-28 г. | —13.090 „ | —127 „ | (проект) |

На электрыфікацыю:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1924-25 г. | — 106 т. р. | —100 проц. | Процант да папярэдняга году. |
| 1925-26 г. | — 622 „ | —586 „ | |
| 1926-27 г. | — 1.456 „ | —234 „ | |
| 1927-28 г. | — 5.100 „ | —326 „ | (проект) |

Гэта дало магчымасьць падняць магутнасьць электрастанцый да 9.730 кілёват, г. зн. у чатыры разы больш як у 1913 годзе, а ў пэрспэктыве гэтая магутнасьць можа вырасьці да канца 1931-32 г. да 64.630 кілёват.

Такім чынам, год ад году расьце капітальнае ўкладаньне як у прамысловасьць, так і ў сельскую гаспадарку і ад правільнага скарыстаньня яго можна чакаць і большага і хутчэйшага эфэкту, а гэта могуць даць толькі тыя гаспадарчыя апараты, якія прызначаны для плянаваньня, рэгуляваньня ды ажыцьцяўленьня опэрацыйным парадкам, дзе сабрана належна-навуковая, тэхнічна-інжынэрная, агрономічная ды організацыйна, сіла.

У гэтай вялізнай працы павінны прымаць удзел мы ўсе як асабіста, так і колектыўна.

Гэта магчыма дасягнуць з асаблівым посьпехам пры наліччы *плянавасьці, якая ўсё ўзмацняецца*, ва ўсёй народнай гаспадарцы, у прыватнасьці, у капітальным будаўніцтве ды энэргічным ажыцьцяўленьні, *канкрэтна*, агульных дырэктыў комуністычнай партыі, асабліва ў пытаньні індустрыялізацыі краіны, пашырэньні колектыўных форм у сельскай гаспадарцы, разьвіваньні культурнай працы і культурных прывычак у насельніцтва. Мобілізацыя ўсіх сіл і сродкаў пролетарскай дзяржавы дасьць яшчэ большыя магчымасьці і соцыялістычны эфэкт, асабліва, калі мы кожны дзень будзем памятаць і ажыцьцяўляць наступную дырэктыву красавіковага пленуму ЦК УсеКП(б), якая кажа так:

„Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК прапануе ўсім парторганізацыям зьвярнуць найбольшую ўвагу на *ўстанаўленьне бязумоўнай рэволюцыйнай дысцыпліны* пры выкананьні агульна-гаспадарчых плянаў, бо пры шпаркім тэмпе соцыялістычнага будаўніцтва і разьвінаньні поруч з гэтым капітальных работ, пры найвялікшым напружаньні ўсіх сіл ды рэсурсаў пролетарскай дзяржавы, толькі пры ажыцьцяўленьні *суровай, пролетарскай дысцыпліны ва ўсім гаспадарчым апараце* можна бяз больш-менш значных перапынкаў ісьці наперад па шляху да соцыялізму".

(З рэзолюцыі красавіковага Аб'яднанага Пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) „Известия" 12 красавіка).

## IV

*Асноўныя падагульняючыя даныя* ды пэрспэктывы па найважнейшых момантах разьвіцьця народнае гаспадаркі БССР вызначаюцца так:

Эфэктыўнасьць укладаньняў па *электрыфікацыі БССР* выяўляецца ў наступных паказальніках:

| | 1924-25 г. | 1926-27 г. | |
|---|---|---|---|
| 1) Сабекошт клв. гадзіны . . . . | 16,3 кап. | 12,8 кап. | —21,5% |
| 2) Адпусковы кошт клв. гадз. . . | 26,6 „ | 20 „ | —25% |
| 3) Спажываньне на 1 гар. жыхара | 6,9 клв. гадз. | 10,9 клв. гадз. | +58% |
| 4) Спажываньне на 1 гар. жыхара (разам з прам. спажыв). . | 7,15 „ „ | 18,7 „ „ | +161,5% |
| 5) Асноўны капітал электрастанцыі . . . . . . . . | 3,01 млн. руб. | 5,2 млн. руб. | +73,2% |

Асабліва кідаецца ў вочы ня толькі павялічэньне тэй, што адпускаецца, энэргіі, якое ў параўнаньні з даваенным часам узрасло больш як у чатыры разы, але ўсё яшчэ высокі сабекошт і адпусковая цана.

У пэрспэктыве мы маем ужо распачатую вялікую работу *па пабудове раённай электрастанцыі* ў Асінаўцы, якая павінна даць у першую чаргу энэргію ў 22 тыс. кілёват у 1929-30 годзе і ў другую чаргу 33 тыс. кілёват.

Гэта станцыя адразу павінна даць моцны штуршок па лініі зьніжэньня сабекошту энэргіі—у 3-х акругах: Ворша, Віцебск і Магілеў.

Далейшае будаўніцтва другое раённае электрастанцыі павінна, прыблізна, прыпасьці (у канцы пяцігодкі) у раёне Менску і Гомелю.

*Па сельскай электрыфікацыі* пераломным трэба лічыць гэты год, калі ўпяршыню плянам вызначана выдаткаваць 462 тыс. руб. (у гэтым годзе 300 тыс. руб.), на 14 станцый сельскага значэньня.

*Задачы:* 1) Яшчэ больш узмоцніць разьвіцьцё электрастанцый.

2) Зьнізіць існуючы вялікі сабекошт.

3) Паскорыць пабудову Асінабуду і назначыць новае будаўніцтва ў другім раёне.

4) Сваячасова падрыхтавацца да скарыстаньня электраэнэргіі ад Асінабуду.

5) Сельскую электрыфікацыю больш укараніць у быт вёскі, саўхозаў ды комун.—Тут вялікая задача стаіць і перад савецкім агрономам і сельскімі колектывамі, каб стварыць належную грамадзкую думку.

*Буйныя капітальныя ўкладаньні* ў падрахунку далі магчымасьць распачаць, скончыць і назначыць шэраг буйных мерапрыемстваў, прыкладам:

1) Скураны завод „Бальшавік“ (скончылі)
2) Мэталюргічны завод „Энэргія“ „
3) Запалкавая ф-ка „Днепр“ „
4) „ „ „Чыроная Бярэзіна“ (будуем)
5) 2 цагельні Менск—Барысаў „
6) Дрэваапрацоўчы комбінат—Бабруйск „
7) Крухмальня—Талочына „
8) Фанэрная ф-ка—Віцебск (гатова)
9) Хлебны завод—Менск „
10) 2 Швейні (намячаем)
11) 1 жэлятынны завод „
12) 1 фосфорытны „ „
13) 3 галянтэрэйных ф-кі—Орша—Менск (намячаем)
14) Завод будаўн. дэталяў (будуем)
15) „ сел.-гасп. машын—Гомель „
16) „ штучнага шоўку—Магілеў (проект)
17) Беконная фабрыка (будуем)
18) Маслабойны завод—Віцебск „
19) Ільнапрадз. комбінат (проект)
20) Цэлюлёзны завод—Бабруйск „
21) Ф-ка абутку—Менск „
22) Завод мастоўя—Магілеў „
23) і г. д... ідзе цэлы шэраг дробных заводзікаў мясцовага значэньня ў сувязі з разьвіцьцём сельскае гаспадаркі ды гарадзкога будаўніцтва.

Адным словам, увесь пяцігадовы плян капітальнага будаўніцтва ахапляе больш за шэсьць дзесяткаў новых прадпрыемстваў (толькі рэспубліканскай прамысловасьці). Гэта, бясспрэчна, сьведчыць аб вялікай ініцыятыве ў прамысловым будаўніцтве.

*Аналіз выдаткаў мінулых гадоў,* хоць-бы толькі ў справе капітальнага будаўніцтва, ВСНГБ сьведчыць, што ня ўсё ішло так, як трэ' было-б, і гэта трэба зараз мець на ўвазе.

Прыкладам:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| У Паператрэсьце быў | *ня выканаены плян* | на | | 47 | проц. |
| „ фабрыцы акуляраў | „ | „ | „ | 41 | „ |
| „ „Труду“ | „ | „ | „ | 75 | „ |
| „ шчацінавым комбінаце | „ | „ | „ | 78 | „ |
| „ Лесбеле наадварот—*перавыдатак сродкаў* (паводле пляну) | „ | „ | „ | 14 | „ |
| „ Тэкстыльтрэсьце | „ | „ | „ | 15 | „ |
| „ Шклотрэсьце | „ | „ | „ | 38 | „ |
| „ Бельспірытусе | „ | „ | „ | 46 | „ |
| „ Скуртрэсьце | „ | „ | „ | 52,5 | „ |
| „ Мэталтрэсьце | „ | „ | „ | 56 | „ |

Па сельскай гаспадарцы будаўніцтва, калі ўзяць агропункты, вэтпункты, школы, пляны выконваліся толькі ў разьмеры 50 проц., г. зн., прыкладам, у 1925—1926 г. г. трэ' было пабудаваць паводле пляну 150 школ, а пачалі будаваць толькі 76 і скончылі 30.

Усё гэта вельмі адбілася на фінансава-каштарысных разрахунках, амортызацыйных фондах і зваротных сродках прамысловасьці, бо каля 54 проц. сродкаў узята было адтуль.

Чаму так здараецца?

На гэта адказ можна даць наступны:

1) Часта ідэю высоўвалі на-сьпех і давалі малы тэрмін на тое, каб абгрунтаваць заяўку.

2) Найбольшая колькасьць дэфэктаў залежыць ад падрыхтоўчай стадыі—праектаваньня ды плянаваньня.

Возьмем паказальны прыклад: Бабруйскі комбінат.

У 1926 г. спачатку каштарыс быў складзены на суму 1.192.500 руб.

У студзені 1927 г., як зьезьдзілі ў Швэдзію і даведаліся аб кошце машын, складаецца новы каштарыс на суму 3.606.815 рублёў (новыя разрахункі).

У момант дасьледваньня РСІ—ужо на суму 4.400.000 руб. (электрастанцыя).

Ад такога хуткага „эфэкту“ павялічэньня кошту зьмяняецца, зразумела, і эфэкт пакрыцьця выдаткаў дзяржавы, чаго *можна чакаць ня ў 5 год, як гэта трэба было,* а ў значна даўжэйшы тэрмін.

У чым зьмяшчаюцца конкрэтна памылкі ў даным выпадку?

1) Калі фундамант быў закладзены ўжо на 91 проц., пададзена была прапанова аб зьмене праекту—пляну будовы.

2) Таўшчыня сьцен была зроблена большай, як трэ' было.

3) Няўвязка цэхаў і разьмяшчэньня іх.

4) Наўвязка электростанцыі з горадам Бабруйскам.

5) Няплянавае атрыманьне абсталяваньня.

6) Праліку кошту адзінак будаўніцтва.

7) Высокія накладныя будаўнічыя выдаткі.

8) Няўважлівыя адносіны спэцыялістых да плянаў.

9) Несваячасовае фінансаваньне.

10) Невыстарчальны нагляд за будаўніцтвам.

Гэтыя недахопы, адзначаныя ў Бабруйскім камбінаце, зьяўляюцца паказальнікам і для іншых работ; і таму пры выкананьні пяцігадовага пляну трэба як мага паўней прыняць пад увагу ўсё і з гэтых недахопаў зрабіць адпаведныя вывады, каб іх ухіліць. Прычым, галоўнае—гэта каб абавязкова зьнізіць будаўнічы індэкс (вызначаем на 25—30 проц. у канцы пяцігодкі).

*Узрост сельскае гаспадаркі* пойдзе па лініі стварэньня такіх умоў, каб прамысловасьць была поўнасьцю забясьпечана сыравінай, горад—хлебам і зьменшылася роля кулацтва ў вёсцы, каб палепшыўся дабрабыт як бедняка, так і серадняка шляхам пашырэньня колектыўных форм у вёсцы.

Гэта пяцігодка павінна конкрэтна палажыць пачатак для таго, каб пазбавіцца тых труднасьцяй, якія мы маем з хлебам.

*Прыкладам:* Па Ўсесаюзных даных к 1 красавіка мы маем на 100 міл. пуд. хлеба больш, чым летась, і на 230 міл. пуд. больш, як пазалетась.

Пасеўная плошча даведзена ўжо да даваенных памераў, а агуловая продукцыя хлеба ўжо ў мінулым годзе была роўна даваеннай норме.

*Але хлеба ўсё-ткі не хапае,* ня гледзячы на тое, што заграніцу мы *вывозім хлеба ў 20 раз менш.*

А гэта здараецца таму, што сельская гаспадарка дае таварнага хлеба менш у два разы, чым у 1913 годзе. Савецкія гаспадаркі даюць нам таварнага хлеба толькі каля 47,2 проц., а дробная сялянская гаспадарка—толькі 11,2 проц.

Такім чынам, усе труднасьці з хлебам залежаць ад тых зьмен, якія маюцца ў пабудове нашае сельскае гаспадаркі.

*Выхад* з такога становішча:

1) *У пераходзе ад індывідуальнае сялянскае гаспадаркі да колектыўнае, да аграмаджанае гаспадаркі ў зямляробстве.*

(Паводле даных ЦСУ, у 1927 г. агуловая продукцыя колектыўных гаспадарак складала ня менш як 55 міл. пудоў з агульнай сярэдняй таварнасьцю ў 30 проц.).

„Трэба дабіцца, каб цераз тры-чатыры гады колектыўныя гаспадаркі далі таварнага хлеба 40—50 міл. пудоў“ *(Сталін)*.

2) Сыстэматычна паднімаць ураджайнасьць *дробных і сярэдніх* індывідуальных сялянскіх гаспадарак.

(У БССР ураджайнасьць ў цэнтнэрах з 1-го гэктара).

| | 1924 г. | 1927 г. |
|---|---|---|
| Жыта . . . . . | 6,9 | 7,1 |
| Пшаніца . . . . . | 7,6 | 8,3 |
| Авёс . . . . . | 8,2 | 6,3 |
| Ячмень . . . . . | 7,3 | 6,6 |
| Крупяная . . . . . | 5,1 | 4,8 |

Гэтыя паказальнікі сьведчаць аб тым, якая нязначная ўраджайнасьць; тут хэмічная прамысловасьць павінна актыўна дапамагчы штучнымі ўгнаеньнямі.

3) Пашырыць і ўзмоцніць старыя сав. гаспадаркі, організаваць ды разьвіць новыя (у БССР вызначана організаваць 30 буйных сав. гаспадарак з 150 міл. пудоў агуловай продукцыі хлеба).

Прычым уся работа на вёсцы павінна весьціся пад лёзунгам Леніна: „*Абапрыся на беднату, наладжвай моцны саюз з серадняком, ні на мінуту ня спыняй змаганьня з кулаком*“.

Інтэнсыфікацыя ды індустрыялізацыя сельскае гаспадаркі ў БССР цесна зьвязана з нашымі прыроднымі магчымасьцямі, у прыватнасьці, лён, бульба і жывёлагадоўля павінны атрымаць моцны штуршок.

Жывёлагадоўля павінна пры гэтым разьвівацца і выклікаць пабудову цэлай сэрыі спэцыяльных заводаў па пераробцы жывёлаводчае сыравіны і г. д. (бэконныя заводы, консэрвавыя, скураныя і г. д.).

Ва ўсёй гэтай рабоце *контрактацыя* і правільная дастава вёсцы промтавараў павінны адыграць вялікую ролю.

*Гандлёвы сэктар* у канцы пяцігодкі амаль пераходзіць у рукі дзяржавы і коопэрацыі. Роля прыватніка зьмяншаецца да 10 проц. (у таваразвароце).

Коопэраваньне павінна будзе значна пасоўвацца наперад і мець вялікія зваротныя сродкі. У канцы пяцігодкі магчыма будзе падняць процант коопэраваньня звыш 70 проц.

Асабліва *павінны будуць разьвівацца спэцыяльныя віды коопэрацыі,* а менавіта: малочныя, жывёлаводчыя, машыновыя таварыствы, а таксама і пасёлкава-вытворчыя коопэрацыйныя таварыствы.

Задача коопэраваньня мас і асабліва па вытворчай лініі павінна будзе мець надта вялікае значэньне ў нашых агульна-народна-гаспадарчых разьліках (уласныя ўкладаньні ў коопэрацыйнае будаўніцтва).

*У справе фінансаў* можа быць толькі адна асноўная проблема, гэта—падвышэньне пакупнай вартасьці рубля.

Пры энэргічнай рабоце ў галіне экспорту гэтага магчыма дасягнуць,—мы экспорт павінны падняць на 200—300 проц. (адсюль разгарнуць нашу работу ў справе капітальных укладаньняў у экспортную прамысловасьць і сельскую гаспадарку).

Прычым у фінансавай політыцы бясспрэчна ўсё больш ды больш будзе расьці ападаткаваньне кулацкай часткі, вёскі (і часткова гораду) з адначаснай дапамогай бядняцкай частцы вёскі, націск-жа на кулака будзе ня толькі грашовы, але і зямельны (абрэзкі), накіраваны для ўздыму намінальнай нормы і нормы для колектыўных гаспадарак.

Гэта пяцігодка *па культурным сэктары* патрабуе ажыцьцяўленьня цэлай рэволюцыі, г. зн. культурнай рэволюцыі.

*Мы стаімо перад масавай кваліфікацыяй усёй працоўнай арміі і пераходзім на больш культурныя спосабы ў рабоце.*

Мы ня можам быць здаволены тым, што ў нас так паволі ліквідуецца няпісьменнасьць.

...Што спэцыяльныя школы пакуль што не даюць яшчэ нам належнай колькасьці патрэбных спэцыялістых.

...Што спэцыялістых—тэхнікаў, інжынэраў—на колькасьць рабочых маем у СССР каля 2 проц., а ў БССР 1,3 проц., калі заграніцай маецца каля 10—15 проц., а на турбінах у Швайцарыі—каля 50 проц. у стасунку да рабочых.

Трэба цьвёрда сказаць, што да цяперашняга моманту работа ішла ў нас бадай *па лініі колькасьці, а ня якасьці*,—гэта трэба зараз прыняць пад увагу і ўхіліць. Сыстэматычнае будаўніцтва патрабуе ня толькі колькасьці, але, *галоўным чынам, якасьці.*

*Над усімі нашымі гаспадарчымі плянамі* павінна *высока стаяць плянавасьць* ва ўсёй нашай рабоце, прычым плян павінен быць ня толькі гадавы, але і пэрспэкцыйны (пяцігадовы, генплян), які адбівае ня толькі ўзмацненьне накапленьня ў народнай гаспадарцы, але і ажыцьцяўляе пэрспэктывы соцыялістычнага будаўніцтва (так у асноўным формулюе XV Зьезд УсеКП(б).

Мы мелі ад нашай „плянавай“ будаўнічай хапаніны (у мінулым) і шэраг недахопаў, гэта было няўхільна, дзеля таго што ня мелі-б рацыі тыя:

...Гаспадарнікі, індустрыялістыя, што не баранілі-б павялічэньня здабычы мэталяў і вырабу машын—прылад вытворчасьці.

...Сельска-гаспадарнікі, якія не націскалі-б на ліквідацыю адсталай сельска-гаспадарчай тэхнікі і не патрабавалі-б таго, каб ужыць тэрміновыя меры ў справе ўздыму дабрабыту вясковай беднаты.

...Хэмікі, калі-б яны не папулярызавалі сучасных магчымасьцяй хэміі і дапасаваньня яе ў прамысловасьці ды сельскай гаспадарцы.

...Транспартнік быў-бы недабачлівым, калі-б ён не патрабаваў больш увагі ня толькі да асноўных чыгунак, але і да другарадных шляхоў, уключна да сельскіх.

...Асьветнік, які павінен дамагацца павялічэньня тэмпу адукацыі насельніцтва, тое-ж самае і працаўнік аховы здароўя—лячыць насельніцтва.

...Профсаюзьнік—у стасунку кватэрнага пытаньня, дэфэктаў аховы працы, беспрацоўя і г. д.

Іначай кажучы, усе маюць права патрабаваць і гэта трэ' было зрабіць.

А выхад з гэтага становішча, калі ўсе маюць рацыю, можа быць толькі ў наступным:

*„Ва ўсталеньні правільнай пропорцыі сіл, што дзейнічаюць на гаспадарчым пляне.*

*„Захаваньне строгай чаргі ў задаваленьні грамадзкіх гаспадарчых заявак.*

*„У напружанай абароне правільных пэрспэктыў* усяго савецкага будаўніцтва ў яго грандыёзным цэлым“.

Тут можа паўстаць яшчэ адзін момант,—ці ня варта перагледзець лінію ў стасунку ўкладаньняў у народную гаспадарку асабліва з узмоцненьнем работ на культурным фронце і патрэбы павялічэньня хлебных фондаў і *ці нельга зьменшыць тэмп разьвіцьця цяжкое індустрыялізацыі краіны?*

На гэта пытаньне вось які адказ дае тав. *Сталін:*

„Ні ў якім разе. Гэта было-б самагубствам, падрывам усёй прамысловасьці, у тым ліку і дробнай прамысловасьці“.

„Гэта абазначала-б адыход ад лёзунгу індустрыялізацыі нашай краіны, зрабіла-б нашу краіну прыдаткам да капіталістычнай сыстэмы“.

Такім чынам, мы бачым, што мэтавая лінія ў пэрспэкцыйным пляваньні народнае гаспадаркі ў БССР вызначаецца так:

1) У павышэньні экономічнага і культурнага ўзроўню насельніцтва.

2) У зьмяншэньні аграрнай перанаселенасьці і зьвязанага з ім беспрацоўя.

3) Ва ўзмоцненьні соцыялістычных элемэнтаў народнае гаспадаркі.

Разьвязаць гэтыя задачы магчыма толькі шляхам:

1) Узмоцненьня індустрыялізацыі БССР.

2) Інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі і павялічэньня яе працаёмкасьці.

3) І ўзмоцненьня аграмаджанага сэктару народнае гаспадаркі Беларусі.

---

**Якімі матэрыяламі карыстацца пры выўчэньні закранутага ў гэтым артыкуле пытаньня:**

1. Матэрыялы да пяцігадовага пэрспэкцыйнага пляну народнае гаспадаркі БССР на 1927-28—1931-32 г.
(Выданы Дзяржплянам БССР).

2. Контрольныя лічбы народнае гаспадаркі СССР на 1927-28 г.
(Выданы Дзяржплянам СССР).

3. Пэрспэкцыйная орыентыроўка СССР на 1927-28—1931-32 г. (Выданьне Дзяржпляну Саюзу).

4. Контрольныя лічбы народнае гаспадаркі БССР на 1927-28 г. (Выданы Дзяржплянам БССР).

5. Рэзолюцыі (дырэктывы) па складаньні пяцігадовага пэрспэкцыйнага пляну—XV-га Зьезду ЎсеКП(б) і XI Зьезду КПБ(б).

Даклады на гэту тэму т. т. Рыкава, Кржыжаноўскага („Правда"), Галадзеда („Зьвязда" ды „Савецкая Беларусь") і Карклiна („Савецкая Беларусь").

6. Шэраг артыкулаў за апошняе паўгодзьдзе ў „Бальшавик УсеКП(б)", „Экономической жизни", „Промышленной газете", „Плановом хозяйстве" і „Савецкім будаўніцтве БССР".

7. Народная Гаспадарка БССР (даклад аб пяцігодцы і прамовы). (Выданьне Дзяржпляну БССР).

8. Матэрыялы да пяцігадовага пляну разьвіцьця прамысловасьці СССР (1927-28—1931-32 г.).
(Выданьне ВСНГ СССР).

# ХВЕДАР ЕЎЛАШЭЎСКІ, БЕЛАРУСКІ ПРАКТЫК-ЮРЫСТЫ XVI ВЕКУ

**С. Барысёнак**

Хведар Еўлашэўскі, наўгародзкі шляхціч, які жыў у другой палове XVI і пачатку XVII в. в., пакінуў пасьля сябе мэмуары [1]). Аўтэнтык рукапісу мэмуараў захаваўся і, стала быць, у гэтых адносінах сумненьняў быць ня можа. Зьмест мэмуараў дае магчымасьць прыпісаць іх іменна Еўлашэўскаму. Мэмуары зьяўляюцца не свабоднай літаратурнай творчасьцю, а ўяўляюць апрацоўку Еўлашэўскім сваіх уласных запісаў на працягу ўсяго жыцьця. Так, напрыклад, пад 1603 годам ён гаворыць, што атрымаў тры лісты ад свайго сына Якіма в Нэаполю, дзе той быў са сваім сынам.—„А ямъ ту дома того жъ 23 вресня, але сны о ним виделъ и написалемъ былъ въ минуцыяхъ тогорочныхъ... Далей въ томъ року 1603 не было въ моей ведомости, штобы писаня годно было"... Вось чаму яго апавяданьне ідзе ў строга хронолёгічным парадку.

Еўлашэўскі быў чалавек бывалы, літоўскае княства зьезьдзіў удоўж і ўпоперак, пражываў пры каралеўскім двары ў Варшаве і, зразумела, быў у курсе грамадзка-політычнага жыцьця Літвы, самай цікавай яе гістарычнай паласы, а іменна другой паловы XVI веку; ён ведаў віднейшых сучасных яму політычных дзеячоў,—і тым ня менш ён амаль не закранае ў сваіх запісах гэтага боку. Аб бурных падзеях пасьля сьмерці караля Жыгімонда-Аўгуста Еўлашэўскі кажа толькі некалькі слоў: „опускаю то, яко ведаючи достаточне то отъ іншыхъ выписано", аб найвялікшай політычнай падзеі яго часу—Вуніі 1569 году ён гаворыць вельмі каротка і бяз зьместу. Затое ён надзвычайна падрабязна апісвае своеасабістыя пэражываньні ў часе эпідэміі 1566 году, расказвае аб пакражы шапкі, аб зьяўленьні зданяў і г. п.

Вузка-асабісты характар запісак Еўлашэўскага дае падставу меркаваць, што яны прызначаліся для яго дзяцей, быць можа з зусім натуральнага жаданьня паказаць, як ён, дзякуючы толькі сваім асабістым высілкам, матэрыяльна сябе забясьпечыў і заваяваў ганаровае месца ў навакольным грамадзтве. Так, успамянуўшы аб тым, што сваю службу кн. Радзівілу ён пачаў у 1572 годзе і служыць і цяпер, ён раіць тое самае рабіць і дзецям сваім: „і деткомъ своим раду мою зоставую, абы се

---

[1]) Мемуары, относящиеся к истории Южной Руси. Вып. П. К. 1896.

при мне и по мне его княжеской милости *прикладом* моим служить се не вымовлялі“. Наўрад ці маглі запісы Еўлашэўскага цікавіць каго-небудзь, апрача яго сям'і і прыяцеляў, усе гэтыя драбязьлівыя дакладныя весткі аб нараджэньньі дзяцей, аб снох і прадчуваньнях, аб асабістых сяброх-„приятелях“ і ворагах-„неприятелях“, аб хваробах, службовых посьпехах і г. п.

Сам Еўлашэўскі зьяўляецца цалкам гістарычнай асобай. Аб гэтым сьведчыць, напр., выпіс з кніг Наўгародзкага земскага суда за 1606 г., у якой гаворыцца, што Еўлашэўскі, які напісаў свае мэмуары ў 1604 годзе, быў яшчэ жывы і служыць падсудкам у 1606 годзе, а старэйшы яго сын Ярош, аб якім ён ня раз успамінае, займае пасаду пісара ў тым-жа судзе [1]).

Такім чынам, мэмуары Еўлашэўскага, маючы характар унутранае і знадворнае пэўнасьці, прадстаўляюць усебаковую гістарычную цікавасьць. Аднак, вывучэньне Еўлашэўскага, як гістарычнай асобы, азначаецца перш за ўсё і галоўным чынам яго клясавым становішчам і асноўнаю профэсіяй. Ён быў дробным шляхцічам, які дасяг, дзякуючы адвакацкай профэсіі, забясьпечанага матэрыяльнага становішча і ганаровае ў павятовым шляхецкім грамадзтве пасады падсудка земскага суда. Характарыстыцы асобы Еўлашэўскага з такога іменна пункту гледжаньня і прысьвячаецца наш нарыс.

## I

Аб часе і месцы свайго нараджэньня Еўлашэўскі паведамляе дакладна: „уродилемсе отъ выше помененыхъ родичовъ моих въ Ляховичохъ, въ року отъ нароженя Сына Божого 1546, мѣсяца февраля 7 дня, въ неделю ночи пришлое, около полуночи, а дано ми име ведля свята руского, которое было на онъ часъ понедзѣлокъ мѣсеца февраля 8 дня, а у римляновъ положоно есть мѣсеца марца 2 дня,—Теодора, гетмана от Лициниуша замучоного“. Такім чынам пахаджэньнем сваім Еўлашэўскі быў беларус і пры тым з Наўгародзкае зямлі, тае Русі, якая раней другіх здаўна-рускіх зямель увайшла ў склад Літвы і заўсёды лічылася яе неадрыўнаю часткаю. І таксама дакладна Еўлашэўскі, расказваючы аб сойме 1578 году, заўважае: „маршалковалъ межи послами *наш литвин*—князь Лукаш Болько Свирский“.

Аб бацьку сваім у пару свайго дзяцінства Еўлашэўскі нічога ня кажа. Мяркуючы па тым, што яму амаль усё жыццё давялося служыць у вяльможных паноў і што свайго становішча ён дабіўся сваімі асабістымі

---

[1]) „Лѣта отъ нароженя Сына Божого тысеча шесть сот шостого м-ца февраля девятого дня... Передъ нами Василем Зеновичем Тихинскимъ, маршалкомъ его королевское милости судьею *а Федоромъ Евлошевскимъ подсудкомъ и Ярошомъ Евлашевскимъ писаромъ*, врадниками судовыми земскими земли Новгородское постановившеся очевисто у суду вельможный панъ его милость панъ Станиславъ Станиславовичъ Кошка“. Археогр. Сборн. докум., относ. к ист. Сев.-Зап. Рос.

высілкамі, можна думаць, што бацька яго быў з беднае шляхты. Быць можа, Еўлашэўскі сьвядома нічога ня кажа аб сваім бацьку, каб ня зьнізіць свайго гонару. Але затое ён з пачуцьцём задаволенасьці расказвае аб тым, як яму на 26 годзе яго жыцьця ўдалося адшукаць пасаду для свайго бацькі. Бачачы свайго бацьку асірацелым, які сумуе пасьля сьмерці маці—Еўлашэўскага, ён надумаўся стварыць для бацькі пакойнае існаваньне і парашыў дамагчыся для яго месца пінскага і тураўскага эпіскапа. Ня лёгка яму было ў тую пору гэта зрабіць—„чинилем всяке старане не жалуючи працъ, накладовъ и розныхъ практикъ", дзеля бацькі свайго мілага. Не хапіла грошай на выдаткі і ня мог ён дастаць іх ні ў кога ў Ляхавічах, нават у тых, каму ён зрабіў паслугі. Зусім нечакана яму дапамог п. Андрэй Дароўскі. У 1573 годзе бацька яго быў пасьвечаны на пінскае эпіскапства. Але гэта яшчэ ня быў канец. Трэба было дамагчыся пасады эпіскапа ў Тураве, якая залежала ад усемагутнага князя Кастуся Астроўскага,—„для чого знову переездовъ, накладовъ не мало быти мусело". Князь доўга адцягваў справу і толькі ўмельства Еўлашэўскага, як адваката, канчаткова дапамагло яму: „ажъ въ Кракове на коронацией короля Генриковой року 1574, *кгдымъ му послужилъ до отысканя именей Острога и иншихъ*, предъ пана Лаского, восводу сирацкого, королеви Августови заведеныхъ, тожъ былъ въ Туровъ пану отцу моему поступити казалъ". Паміж іншым, бацька яго служыў ня доўга і ў 1575 годзе памёр, пакінуўшы яму „ховане детокъ и плачене не мало долговъ его" [1]).

Такім чынам, Еўлашэўскі адносіўся паводле свайго соцыяльнага становішча да сярэдняга, калі не да ніжэйшага, пласту шляхецтва. У маемасных адносінах акты называюць такіх шляхцічаў, як Еўлашэўскі-бацька, „убогаю шляхтою". Паміж іншым, экономічнае становішча і большасьці павятовай шляхты было наогул мала забясьпечана. Яно было такое, кажа проф. Лаппо,—„что лишь под условием весьма небольшого развития потребностей владельца давало ему возможность существовать на свои средства" [2]).

Еўлашэўскі стаў досыць рана навучацца грамаце. Паводле расказаў яго бацькоў ён цешыў іх тым, што на першым годзе свайго жыцьця вымавіў слова „абба", аднак пачаў гаварыць параўнаўча позна—у тры з паловаю гады, а вучыцца пачаў на пятым годзе.

Больш ці менш шырокая адукацыя была недаступна Еўлашэўскаму. Ён не паведамляе, хто яго вучыў, быць можа і бацька, бо месца эпіскапа,

---

[1]) У судовых актах спатыкаюцца паказаньні на эпіскапа Макара Еўлашэўскага. Так, у судовым процэсе 1672 году паміж членамі прычту Пагосцкае царкві адзін бок прад'явіў ліст: „Четвертый листъ маючи тамъ въ датѣ по Божом Нароженью 1574, мѣсеца мая 24 дня—епископа Пинского и туровского святобливое памяти *Макария Евлашевского*"... Арх. Сбор. док. относ. к ист. С.-З. Рос., т. VI, стр. 227. Гл. таксама т. IX, стар. 48, 414, 415, 456.

[2]) И. Лаппо. Великое княж. Литовское, т. I, СПБ. 1901, стар. 498.

нават пры парадку прадажлівасьці, вымагае мінімальнай пісьменнасьці. Звычайнымі-ж настаўнікамі ў той час былі панамары, дзякі ці інначай „бакаляры". У першай палове XVI веку нават вяльможныя паны навучаліся ў такіх пэдагогаў [1]). Іншы раз хатнімі настаўнікамі паноў былі іх служэбнікі [2]). „Въ пятомъ року,—апавядае Еўлашэўскі,—почато мне бавити наукою рускою, кгдыжъ въ тыхъ часехъ въ той нашей стороне не было еще иншихъ наукъ, и для того пришло ми зостати зъ рускою наукою". Цяжка паясьніць, як ён навучыўся і яўрэйскай мове: „и по жидовскый написати умелемъ, але тое письмо ихъ потребуе умеетности языка ебрайского, або хоць немецкого, кгдыжъ вже теперъ библия жидовская немецкимъ езыкомъ, а ліцерамі іхъ выдана, чогобы полскімъ езыкомъ учинити бы се не могло для ортокграфеи, якей въ иншихъ языкахъ не маш". Польскую мову ён вывучыў, відаць, ужо сталым, прычым служба на каралеўскім двары ў Варшаве і ў паноў спрыяла значнай палёнізацыі яго гутаркі, аб чым сьведчаць яго запіскі [3]). Такая адукацыя для вяльможнага пана магла здавацца назначнаю, але для такога нязначнага шляхціча, як Еўлашэўскі, яна значыла ня мала. Няпісьменнасьць шляхты—зьява досыць звычайная паводле дакумантальных даных літоўскіх актаў. Кнігі судовыя досыць часта адзначаюць, што шляхта ня ўмее пісаць. Сам статут прадпалагае існаваньне няпісьменнай шляхты [4]). „Вообще необходимо признать, что школ католических и протестантских, взятых вместе, далеко не было числом столько, чтобы они могли быть достоянием шляхты и мещан всего княжества... Православная школа предназначалась главным образом для детей самого духовенства и размеры ее деятельности не были таковы, чтобы она могла считаться действительным фактором большого значения" [5]).

Ці ведаў Еўлашэўскі латынскую мову? Ставім гэта пытаньне спэцыяльна таму, што латынь была тады канечна патрэбнаю моваю адукаванага юрыстага. Еўлашэўскі нясумненна ведаў-бы латынь, калі-б навучаўся ў якой-небудзь каталіцкай альбо кальвінскай школе.

Старажытнія мовы ў гэтых школах ўваходзілі ў склад асноўных дысцыплін выкладаньня, прычым штодзенныя дыспуты на латынскай мове павінны былі паглыбляць свабоднае ўладаньне ёю [6]). Латынь можна было

---

[1]) Харлампович. Зап.-Рус. православные школы XVI и нач. XVII в. в. Казань, 1898, стар. 201.

[2]) Рус. Ист. Биб. т. XX, Лит. Метр. I, стар. 832.

[3]) Праўда, у XVI в. заўважаецца цікавая зьява—польская мова перадаецца на пісьме расійскімі літарамі, як гэта відаць з лісту ад 1589 году пані Ваяводзінай Хрыстыны Хаткевічавай да пляменьніка свайго Аляксандра Хаткевіча. Арх. сбор. IV, № 33. Можна думаць, што і наогул распаўсюджваньне польскае мовы ня было яшчэ тады значным.

[4]) И. Лаппо. Великое княж. Литовское, стар. 503.

[5]) И. Лаппо. Великое княж. Литовское, стар. 502.

[6]) Харлампович. Зап.-Рус. православныя школы XXI в. и нач. XXII в. Казань. 1898, стар. 174.

пачуць усюды: на сьвятах і ўрачыстасьцях, на грамадзкіх і палітычных сходах, пры каралеўскім двары, іншы раз і на прыватным банкеце. Выступаючы на судзе спачатку ў якасьці адваката, а потым як член судовае колегіі, Еўлашэўскі ня мог не спатыкаць адвакатаў, якія добра былі знаёмы з рымскім правам. Такія адвакаты ня былі рэдкасьцю. Так, напрыклад, у аднэй грамадзянскай справе 1591 году, якая разьбіралася ў Віленскім земскім судзе, паверааны п. Ян. Вялічка спасылаўся на кодэкс Юстыніяна і вядомага комэнтатара Бартольда, прыводзячы поўнасьцю тэксты цытуемых месц [1]). У сваіх мэмуарах Еўлашэўскі, аднак, выяўляе знаёмства з хадзячымі латынскімі слоўкамі і выразамі. Так, паведамляючы аб сьмерці П. Валента Чаркоўскага, ён кажа: „умеръ суседъ и приятель мой, человекъ бардзо добрый“, і паясьняе далей ня зусім дакладна палатынску, але рускімі літарамі—*„беатус вир“*.

У другім месцы Еўлашэўскі прыводзіць палатынску прыказку. Успамінаючы аб адным „бардзо добромъ“ чалавеку з Наўгародзкага павету—Альбрэхце Кавячынскім, які, наперакор ўсякім забабонам, адсьвяткаваў у адзін дзень вясельле трох сваіх дочак, Еўлашэўскі кажа: „а гды му се так трофило отдати замужъ разомъ тры цорки, люди посполитые практыковали не долго быть малженству такъ одного дня отданных; якожъ потомъ врыхле умеръ му старший зять Москалницкий, а въ року 1603 померли два: Вировский и Высоцкий“.

З гэтай прычыны Еўлашэўскі выказвае і сваю ўласную думку: „О-во не легце потреба важити и голосу людского, ведля оне прыповястки: *„вокс попули—вокс Деи“*, *бовем о вере оного человека жаден вонтпити не може*. Былъ и в том *пробатусъ*, и того се онъ противъ той людской практыце, ему певне ведомой, важилъ се зъ зупелности веры свей, же се ведля практыки той не могло стати ничого такого“.

З прыведзенага рызыкоўна было-б рабіць вывад, што Еўлашэўскі ведаў латынь,—надта папулярныя гэтыя выразы,—ва ўсякім выпадку, калі ён і падвучыў латынь, то наўрад ці ён мог гаварыць палатынску. Ён апавядае, што ў 1572 годзе паны-рады прымалі турэцкага „чауша“, слуга якога зрабіў прамову палатынску; аднак, асабістыя свае ацэнкі яе Еўлашэўскі не дае, а прыводзіць агульную думку: „мовилъ турчинъ, слуга чаушовъ, за его указованем турецким по латине, *которому прызнавана, же добре мовилъ*“.

---

[1]) „Я привожу и показую на подобенство прикладъ и науку о томъ въ праве цесарскомъ описанную“—и показалъ намъ двои книги цесарские, въ которыхъ около справованья тестаментовъ, меновите, въ книгахъ вторыхъ такъ названныхъ, где пишетъ тыми словы въ тыхъ книгахъ вторыхъ артыкулъ десятый на книги Юстиниана цесара у выкладе о тестаменте въ поветре чиненым“ (далей прыводзіцца поўны пераклад тэксту) „...а ў другихъ книгахъ, которыхъ называеть Барътулюсъ, въ праве цесарскомъ въ книгахъ двадцать семыхъ, когды естъ тытулъ трынадцатый о посеганью добръ и тестаментох рыцерских, выкладае тыми словы“... (далей ідзе тэкст). Акт. Вил. Арх. Ком., т. XX стар. 67.

Знаёмства з самымі рознастайнымі людзьмі не маглі не пераканаць Еўлашэўскага ў невыстарчальнасьці яго хатняе адукацыі. Ён марыць аб пашырэньні свайго разумовага кругагляду модным у яго пару спосабам—падарожаю заграніцу. Яшчэ ў 1447 годзе Казімер прызнаў за каталіцкаю і праваслаўнаю шляхтамі права вольнага выезду з Літвы ў чужыя краіны для адукацыі і лекаў. Статуты ўстанаўляюць для ўсёй шляхты права бесьперашкоднага выезду ў Заходнюю Эўропу „для наукѣ у пісмѣ, цвіченя, учынков рыцерских и лѣпшого счастья своего, и тежъ будучи неспособного здоровья своего для лекарств“ [1]). Карысьць паездак заграніцу была агульнапрызнана; але замежная адукацыя была цалкам даступна толькі магнатам. Аднак Еўлашэўскі кажа катэгорычна аб сваіх плянах паездкі заграніцу, вачавідна ў яго мелася якаясьці конкрэтная магчымасьць: „За смертю пани матки моей розерване мыслей моих стало *втрое*: былі ехать до Угор и до Турции, зведати инше краины далеке, научить се ремеслъ розныхъ,—кгдыжемъ былъ жалосный. За смертю пана отца моего детокъ хoване и опатроване, албо опека детокъ их, братей і сестеръ моихъ, на мя припадши, въ тыхъ кутехъ света мне затримали“. Ёўлашэўскі, як і ўся маса радавога літоўскага шляхецтва, ня мог падарожнічаць па чужых краінах на свае ўласныя сродкі. На 25-ым годзе свайго жыцьця, будучы толькі бедным каралеўскім дваранінам, Еўлашэўскі мог паехаць толькі ў якасьці панскага служэбніка. Камандыроўкі заграніцу за кошт дзяржавы, хоць і бывалі, але рэдка [2]).

Але калі сам Еўлашэўскі і не пабываў заграніцай, то затое сын яго Якім жыў некалькі гадоў у Італіі разам з панам Янам Каралем Хаткевічам, аб чым ён з задаволенасьцю паведамляе: „тот на сесь часъ вже тому три роки, ве Влошехъ у княжати Мантуанского. Пане Боже му благословь!“

Ня гледзячы на сваё параўнаўча добрае матэрыяльнае становішча, Еўлашэўскі выправіў свайго сына заграніцу не на свае сродкі: „Въ томъ року 1603 меломъ трое писане отъ милого сына моего Иоахима, яко того лета з паномъ своимъ, княжатемъ Мантуанскимъ, было въ Неаполи, моремъ тамъ ездилъ, яку тамъ веліку учтивость неаполчицы указовали княжати, не мней яко великому монарше. Былъ тамъ княже для лекарствъ“.

Сам Еўлашэўскі ў марах ды ў сьне бачыў замежныя краі: „року 1587 стычня 9 снило мни се о чимъ не мыслилъ, жемъ-былъ въ месте влоскимъ Мантуи, виделъ кнежей Мантуи положене замку, места, водъ, мостовъ мурованыхъ. А кгдымъ то оповедалъ пану Андрееви Скорулскому, который тамъ бывалъ, поведилъ, же есть положене влосне таке, яко ми снило“.

Але калі Еўлашэўскаму не ўдалося пабываць заграніцаю, то княства Літоўскае ён зьезьдзіў удоўж і ўпоперак. Ня рэдкія былі яго паездкі на Украіну. Увесь час яму прыходзілася езьдзіць у Польшчу. Вось,

[1]) Лит. Стат. 1529 г., III, 8; 1566 III; 13; 1588 г., III, 16.

[2]) Лаппо. Великое княж. Литовское, стар. 510.

напрыклад, яго паездкі, у параўнаўча маладым узросьце, калі яму было 30—31 год. Так, у пачатку 1574 году ён быў у Тураве па справе аб зацьверджаньні бацькі яго эпіскапам тураўскім. Быў у Кракаве на коронацыі караля Генрыха, у Сьценжыцах на выбарах новага караля. Адтуль паехаў у Остраў—мястэчка паблізу Любліна, па судовай справе, якую вёў. Быў у Берасьці. Увосень быў на Валыні, у Олыку. У канцы зімы 1574-75 г.г. быў дома, у Ляхавічах. У верасьні 1575 году быў на камісарскім судзе ў Менску па справе паміж кн. Саламарэцкім і горадам Менскам і вярнуўся дамоў. Потым выехаў у Тарунь, адтуль у Белую, дзе выступаў па судовай справе кн. Радзівіла. Адтуль паехаў у Варшаву на сойм, потым зноў вярнуўся ў Тарунь.

Такія пераезды Еўлашэўскага ў межах польска-літоўскай Рэчы Посполітай былі далёка нязвычайнымі для масы шляхецтва. „Поездка в корону,—кажа проф. Лаппо,—это действительно должно было быть явлением нередким, но и по отношению к таким поездкам можно с уверенностью сказать, что было достаточное число шляхтичей, не бывавших в Польше ни разу в течение всей своей жизни, хотя и должны были бы все viritum собираться на избирательном поле в часы бескоролевья“ [1]).

II

Дзякуючы сваёй службе пры двары, а галоўным чынам, з прычыны сваёй асноўнай профэсіі адваката, Еўлашэўскі сустракаўся з людзьмі самага рознастайнага соцыяльнага становішча. Нават зусім выпадковыя запісы яго ўражаньняў даюць поўнае ўяўленьне аб шырокім коле асоб, з якімі ён стыкаўся пры самых рознастайных акалічнасьцях. Пры яго несумненнай цікавасьці і ўдумлівых адносінах да жыцьця гэтыя знаёмствы павінны былі пашыраць яго разумовы кругагляд і паставіць яго на галаву вышэй усякага радавога шляхціча. Дзевятнаццацігадовым юнаком ён паддаецца ўплыву кальвінізму: „мел великую втеху, слухаючы слова Божого въ зборе хрестианскомъ за министровъ вчоныхъ: Вендрогорского и Костеницкого“. Розьніца ў рэлігійных пераконаньнях у той „золотой век“—паводле яго слоў, не перашкаджала яму тады-ж набыць „великую ласку мужа годного“, князя Яна Маковецкага, архідыякана варшаўскага, кустоша і канонікa віленскага, які яго „веля людямъ въ знаемость подалъ и залецилъ“. Гутаркі і апавяданьні выпадковых і пастаянных знаёмых, парады спрактыкаваных людзей формавалі яго сьветапогляд. У 1566 годзе (яму тады было 20 гадоў) ён жыў у Вільні, у часе пошасьці,— „мешкалемъ подъ нимъ не мало, *бачечи тамъ доктора Сапреза и иншихъ канониковъ и людзей разныхъ,* которе тежъ въ тымъ поветрю живо зостали были“. Па дарозе дадому з ім здарыўся прыпадак хваробы, у часе якога ён змагаўся нажом з зданьню, бо доктар яго папярэдзіў,

[1]) И. Лаппо. Великое княж. Литовское, стар. 509.

каб ён у часе хваробы не палохаўся зданяў,—„жебымъ шедлъ противъ тому безпечно и во броне се мелъ; то мело згинути“. Гэта доктарская парада, якая так ярка характарызуе тагачасную мэдыцыну, урэзалася ў яго душу на ўсё жыцьцё; паводле слоў Еўлашэўскага—„презъ увесь животъ мой почувалемъ я въ собе той припадокъ“. Тады-ж у дарозе ў яго прапала „ручница зъ олстремъ“, якую ён адшукаў копным судом,—а гэта была складаная процэдура. Там-жа ён сустрэўся з аднэю старою шляхцянкаю, якая пераконвала яго, што сама бачыла „лятовца“,—лётаючага духа.

Пры двары Еўлашэўскаму здаралася знаёміцца з чужаземцамі. Так, напрыклад, у 1575 годзе ён пазнаёміўся з венграмі, якія прыехалі разам з каралём Сьцяпанам, „которыхъ найчастей панове до себе на обеды прошивали; и я помню: Занчунъ Янушъ, Барити Юригай, Нодохъ Петеръ“ і інш. Другі раз Еўлашэўскі расказвае аб знаёмстве з італьлянцамі: „Помню бовемъ и недавно прешлыхъ часовъ, кгды дисейший папежъ Клеменс еще кардиналомъ былъ у короля его милости Стефана у Вилне, *седилемъ у столу* князя Бартломея Недызвицкого, каноника виленского, *з преднейшими слугами (влохами) его*, тые же се кгды доведели, жемъ евангеликъ, дивовались бардзо, яко ме смелъ князь каноник на обѣдъ свой взывати, а кгды имъ онъ преложилъ, же въ насъ зъ того жадна ненависть не была и милуемосе яко з добрыми приятели, хвалили то влохи, мовечи, же ту Богъ живе, а ганили свои домовы правы а родини неснаски“.

У ліку „правдивых“ прыяцеляў Еўлашэўскага былі шляхцічы вышэй звычайнага ўзроўню, як, напрыклад, пан Ян Адзіхоўскі, „человекъ въ чужыхъ краинахъ долго бывалый и велце человекъ добрый“. Еўлашэўскі быў блізкім да некаторых вяльможных паноў, як Хадкевічы, Радзівілы і інш. „Мелемъ на тотъ часъ у себе,—піша Еўлашэўскі пад 1583 г.,—великимъ приятелемъ старосту ляховицкого пана Симона Шлятковскаго“. Аб пане Ўладзімеру Заблоцкім, знатным маскоўскім выхадцу, забітым у 1580 годзе з помсты Крыштофам Радзівілам, ён кажа: „Ямъ былъ добре ведомъ Володымира“... Спэцыфічныя знаёмствы павінны былі быць у Еўлашэўскага, дзякуючы асабістай службе каралю Жыгімонду-Аўгусту“. „Втечение нескольких лет догорал еще больной и истощенный последний потомок Ягеллонов, давая в последние минуты пример бешеной распущенности. Королем, оттолкнувшим от себя все более высокие умы, овладели люди, угождавшие его страстям, извлекавшие из него громадные выгоды, наконец даже грабившие его в последние минуты жизни... Народ с сожалением и отвращением отворачивался от этого грустного зрелища“ [1]). Еўлашэўскаму даводзілася рабіць каралю падобныя паслугі: дваццацічатырохгадоваму нязнатнаму шляхцічу, каралеўскаму двараніну, наўрад ці можна было адмаўляцца ад выкананьня маральна-сумніцельных даручэньняў караля. „Списковалемъ въ потребахъ короля его милости,—піша Еўлашэўскі,—хоть ми послуга мерзила“,—дадае ён.

---

[1]) Бобржинский. Очерк ист. Польши. Рус. пер. 1891 г., т. II, стар. 101.

Еўлашэўскі выступіў на жыцьцёвую арэну ў шасьцідзесятых гадох,—у эпоху грамадзкага і палітычнага ажыўленьня і дзяржаўных рэформ у Літоўска-рускай дзяржаве. Уздым экономічнага жыцьця ў першай палове XVI веку справодзіцца ростам палітычнага ўсамасьвядомленьня шляхты, якая сконцэнтравала ў сваіх руках правы на зямлю і на рабочую сілу сялянства. Але панаваньне ў экономічных адносінах не магло існаваць без забясьпечаньня праў свабоднай асобы шляхціча. Павятовая „судова-адміністратыўная“ рэформа павінна была забясьпечыць праўнае панаваньне шляхецкае клясы, організаваць шляхту ў павятовыя корпорацыі, адкрыць радавой шляхце шырокі доступ да ўдзелу ў кіраваньні дзяржаваю [1]). „Самый уклад жизни, в которой была вдвинута литовская поветовая шляхта реформами шестидесятых годов XVI столетия,—кажа проф. Лаппо,—являлся громадным развивающим средством и давал все более и более толчков к умственному развитию, сознательно искомому или бессознательно усвояемому литовскими шляхетскими обывателями“ [2]).

Нясумненна, што Еўлашэўскі падлягаў уплыву гэтага фактару. Скупы на паведамленьні аб фактах грамадзка-палітычнага характару, ён усё такі адзначае ўвядзеньне ў жыцьцё судовай рэформы: „тогожъ року 1565 на перше роки земске были во всемъ панстве Литовскомъ о светомъ Михаиле; а Новгородски, за заповетренемъ места Новкгородского, въ Ляховичахъ сужоны были; а старостою на онъ часъ былъ ляховицкимъ панъ Володимиръ Семеновичъ Заболоцкий, зацного дому человекъ зъ Москвы“.

## III

Каб ахарактарызаваць Еўлашэўскага ня як чалавека наогул, а як адваката і судзьдзі, трэба адзначыць яго веру ў вядзьмарства, загаворы, здані, прадракальныя сны. Ня гледзячы на немалое разьвіцьцё навуковае мысьлі ў Заходняй Эўропе ў XVI сталецьці (трактаты польскага аббата Капэрніка, працы Кеплера, радыкальныя вынаходкі італьянскага вучонага Галілея, стварэньне навукі фізыкі і хэміі і г. п.), у шырокіх грамадзкіх масах Заходняй Эўропы, а тым больш Літвы, панавалі анімістычныя прадстаўленьні і вера ў цудоўнае, якія стварыліся яшчэ ў застойных рамках фэўдальнага грамадзкага жыцьця. Веды ўяўлялі з сябе мешаніну сапраўдных эмпірычных вывадаў і назіраньняў і фантастычных перавялічэньняў і магічных прымет. Крупінкі досьледных ведаў, ва ўмовах верхавенства ў тадышнім жыцьці рэлігіі, не маглі захавацца ў чыстым відзе, а скажаліся. Змаганьне за веды і досьлед, за зьнішчэньне фэўдальнага ладу, за зьвяржэньне царквы, за поўнае задавальненьне патрэб чалавека,—г. зн. тое, што характарызуе XVI век, як эпоху гандлёвага

---

[1]) Рожков. Русск. ист. в сравн.-ист. освещ., т. III, 1923 г., стар. 76—156; И. Лаппо. Литовско-Русский повет, 10 1911, стар. 220 і далей.

[2]) И. Лаппо. Великое княж. Литовское, стар. 540.

капіталізму, які нарадзіўся і рос, не змагло, аднак, адразу зьнішчыць у грамадзкіх масах веры ў знахарства.

Калі ў цяперашні час вера ў знахарства юрыдычна зьяўляецца проста-на-праста выяўленьнем малакультурнасьці, то ў разглядаsuccinctly эпоху яно было зьяваю вялізарнага соцыяльна-юрыдычнага значэньня. Пры панаваньні дуалістычнага сьветапогляду крыніцаю зла лічылі д'ябла, які дзейнічае цераз сваіх хаўрусьнікаў. Найбольш жахлівым зьяўляецца нябачнае і таму няўхілёнае ўзьдзеяньне ведзьмара на чалавека пры дапамозе д'ябла. І дзеля таго што ў д'ябла верыла перш за ўсё ўсемагутная царква, а крытычны ўплыў досьледных ведаў быў яшчэ надта слабы, то містычныя зносіны з д'яблам уяўляліся фактам непахільным.

Законадаўства Заходняй Эўропы лічыла вядзьмарства злачынствам больш цяжкім, як забойства і нават герась. „Явилась целая специальная юриспруденция о волшебниках, которые были подведены под строгую классификацию; установлены были признаки каждого вида, способы открытия и доказательств“ [1]). Лік замучаных за вядзьмарства ва ўсёй Заходняй Эўропе вялізарны. Так, напрыклад, у Францыі пры Гэнрыху IV, недаўгавечным каралі польскім, яго камісары Эспанье і Дэлянкр, пасланыя ў Бордо для зьнішчэньня вядзьмарства, на працягу чатырох месяцаў спалілі 80 чалавек. У зьнішчэньні вядзьмарства больш за ўсіх выславілася Германія. Так, напрыклад, з 1590 по 1600 год у Браўншвэйгу кожны дзень спальвалі ад дзесяці да дванаццаці вядзьмарак і на месцы пакараньня так многа стаяла абгарэлых слупоў, што іх можна было палічыць за невялікі лес [2]).

Зразумела, Літоўскае княства ня было выключэньнем у гэтых адносінах. Хоць Літоўскі Статут і не азначае дакладна склад злачынства вядзьмарства, аднак судовыя процэсы супроць ведзьмароў і вядзьмарак былі ня рэдкія [3]). Адсутнасьць дакладнай законадаўчай кваліфікацыі гэтага злачынства ня спыняла ні судзьдзяў, якія выносілі прыгавары аб пакараньні сьмерцю цераз спальваньне, ні адвакатаў, што выступалі абвінаваўцамі, дзеля таго што судовая практыка кіравалася ў такіх выпадках Каралінаю, у тым відзе, у якім яе папулярызаваў Гроіцкі ў сваім „Porządek sądowy“. Абараняць пры абвінавачаньні ў вядзьмарстве, як відаць з судовых процэсаў, было вельмі цяжка, дзякуючы ўсеагульнай веры ў вядзьмарства. Так, напрыклад, калі ў адным падобным процэсе XVII веку адвакат абвінавачанай спрабаваў даводзіць абсурднасьць абвінавачаньня

[1]) Кистяковский. Исследование о смертной казни. СПБ. 1896, стар. 186.

[2]) Там-жа, прыклады, гл. стар. 169.

[3]) Гл. артыкул (які, паміж іншым, ня мае юрыдычнага значэньня) проф. Доўнар-Запольскага—„Чародейство Сев.-Зап. края в XVII—XVIII в .в.“ Исследования и статьи, т. I. К. 1909.

з пункту гледжаньня досьледу і ведаў, то адвакат-абвінаваўца кінуў яму западозраньне, што ён сам такі самы знахар [1]).

Такім чынам пераконаньні Еўлашэўскага ў сфэры вядзьмарства зьяўляюцца вельмі характарнымі ў яго дзейнасьці адваката, і асабліва судзьдзі. Заметкі аб містычных зьявах займаюць у яго мэмуарах вельмі значнае месца.

Вельмі моцнае ўражаньне зрабіла на яго здань, якая зьявілася яму яшчэ ў юнацкія гады. Папярэджаны доктарам аб тым, што больш за ўсё трэба не паддавацца ў часе хваробы перад зданямі, Еўлашэўскі ў дарозе, начуючы ў стадоле ў Дарогаве, убачыў на досьвітку ў хаце „огнистого человека“. Калі ён рынуўся проці здані, тая таксама выступіла ўперад. Еўлашэўскі схапіў нож і ўдарыў гэту здань-чалавека, якая, зьнікнуўшы, зноў зьявілася ў тым самым куце і накіравалася да яго; тады Еўлашэўскі кінуў у яе шапку, адчыніў вакно—і здань зьнікла. А гаспадар з жонкаю і парабкам спалі і нічога ня чулі. Аб сваёй здані Еўлашэўскі расказаў трохі пагадзя нейкай старой шляхцянцы Жолнеравай, якая, „указавши недалеко свой домекъ, зъ вокна, поведила, виделамъ завше, яко *лятaвець* приходитъ до той ту невесты господарской“.

У другі раз, апісваючы выпадак самазабойства п. Васіля Рагачэўскага, Еўлашэўскі кажа: „я, жемъ се былъ барзей престрашилъ, бовемъ першого жъ дня, звлаща въ ночи, былемъ тамъ у паней Рогачевской, и знову въ Ляховичахъ, мелемъ се недобре ве спаню, а *летавцамъ што начастей виделъ, не толко въ ночи, але и ве дне, же и иншие люди, при мне будучи, видели; мне тежъ не диво было:* надавнейший припадокъ, о которомъ в року 1566 писалем“.

Еўлашэўскі кажа аб *лятавцах*, лётаючых духох, як аб чымсьці зусім рэальным, аб чым сьведчаць іншыя вачавідцы. Як паказваюць судовыя працэсы аб вядзьмарстве ў Беларусі, лічылася агульнапрызнанаю здольнасьць ведзьмароў і знахароў лётаць. Суд ніколі не сумняваўся ў гэтым, і калі падсудныя адмаўлялі гэта, то іх звычайна катавалі і вымушалі прызнацца. Але цікавей за ўсё тое, што вельмі часта абвінавачаныя сьвядома і дабраахвотна расказвалі аб сваіх лётах. Еўлашэўскі таксама глыбока верыў у знахарства і, паводле яго слоў, яму давялося быць пад узьдзеяньнем чужога вядзьмарства. Ён, відаць, шчасьліва жаніўся; аб сваёй жонцы ён гаворыць вельмі цёпла, з закаханасьцю, расказвае аб яе дабраце, літасьцівасьці, вернасьці ва ўсіх надзенных турботах, аб добрых пастаянна адносінах, ня гледзячы на розьніцу веравызнаньняў: „а хоть у вере рускoй трывала, але такъ бачне и не упорне, же то на-

[1]) Арх. Сборн. док., стар. 126.—Проф. Антановіч думае, што строгія палажэньні Майдэборскага права амаль не знаходзілі ўжываньня ў судовай практыцы гарадоў праваберэжнай Украіны XVIII в.—Антонович. Колдовство. СПБ. 1877, стар. 6. Гэта, можа быць, справядліва для Украіны XVIII веку, але ў Беларусі XVI в. суды засуджвалі і спальвалі абвінавачаных у вядзьмарстве.

мнейшей незгоды не указовало". Людзі зайздросьцілі іх спакойнаму жыцьцю і „мовами своими фальшивыми насъ щипали и розными способы иншими; а наконецъ и *чарами прешкодити то усиловали*", ад чаго іх ратавала толькі божая дапамога.

Еўлашэўскі цьвёрда верыў у прадраканьні. Папярэдніка яго па пасадзе—мастаўнічага П. Сьцяпана забіў у полі гром пад хваінаю, пад якою той схаваўся ад дажджу. Аказваецца, што мастаўнічаму „еще молодому въ Кракове отъ якогась переежучого кгваздара практыковано, же мелъ меть смерть отъ грому живота шестдесятымъ". Мастаўнічы не зьвярнуў увагі на гэта прадраканьне:—„реклъ ми на то: же не дбает, ежели где потреба была з душнымъ збавенемъ". Аднак праз дзесяць дзён пасьля іх спатканьня ракавое прадраканьне збылося.

Еўлашэўскі верыў у прадчуваньні. У 1582 годзе памёр у Вільні яго родны брат Ян. Дзякуючы веснавой раздарожы, вестка аб гэтым дайшла да яго толькі праз тыдзень. У той-жа самы час Еўлашэўскі сумаваў, нудзіўся і гаварыў жонцы, што напэўна памёр брат: „такъ то серца людзкія чуюць зъ далека припадки детокъ и милыхъ приятелей своихъ". У другі раз ён паведамляе, што сын Якім, які знаходзіўся ў 1603 годзе ў Італіі, цяжка захварэў 23 верасьня: „а ямъ ту дома, тогожъ 23 вресня, зле сны о нимъ виделъ и написалемъ былъ въ минуцияхъ тогорочныхъ, утешивши се, же было то въ первши кварталъ месеца; ажъ зъ писаня его тотъ же день 23 вресня обачивши, дивовалемъ се чудомъ и справомъ Божимъ, хвалечи светое име его".

Ведаючы містычную перакананасьць Еўлашэўскага ў існаваньне духоў, у рэальнасьць узьдзеяньня знахарства і г. п., лёгка ўявіць сабе яго адносіны да судовых процэсаў аб вядзьмарстве. Калі яму даводзілася прымаць удзел у такіх процэсах, то ён, вачавідна, мог сумленна дамагацца, каб абвінавачаны ў вядзьмарстве быў спалены, як практыкавалася ў той час у судовай практыцы.

## IV

Па сваіх мэмуарах Еўлашэўскі абмалёўваецца як глыбока веруючы чалавек. Як судзьдзя—ён ня мог ня быць хрысьціянінам, хоць-бы толькі формальна, бо адным з істотных патрабаваньняў, якія вымагаліся законам да кандыдата на судовую пасаду, было „не иное веры (быть) только хрестиянское" [1]). Грамадзкая ідэолёгія тады ня выходзіла надта з рамак хрысьціянскай рэлігіі, незалежна ад яго адценьняў. Таму крыніцаю ўсяго справядлівага і моральнага лічылася воля божая. Парушэньне закону ёсьць ня толькі парушэньне волі чалавечай, але і волі божай. Літоўскі Статут лічыць злачынствам забыць „боязни божое и повинности своее християньское", злачынствам „панъ Богъ бываетъ ображонъ" [2]).

---

[1]) Лит. Стат. 1566, IV, 1.

[2]) Лит. Стат. 1588. XIV, 29, 30.

Свае мэмуары Еўлашэўскі пачынае хвалою богу: „Самому пану Богу мому зо всякихъ добродѣйствъ его насветшое милости нехъ застава честь и хвала, за которого презренемъ и я, Федоръ Евлашевский, уродилемсе“... „Дзякую я тобе, Боже мой отче пана нашего Исуса Христа, же межъ иншими дары твоими далесь ми то былъ, жемъ задросты устеречи могъ“...

Еўлашэўскі быў пераконаны, што ўсімі падзеямі чалавечага жыцьця кіруе рука божая. У 1570 годзе ён захварэў на гарачку, аднак—„то была дивна справа Божа, же ми въ дорозе уфолкговать рачилъ“. Яго бацька пакінуў пасьля сваёй сьмерці ня мала даўгоў і ўвесь цяжар апякунства над братамі і сёстрамі: „але панъ Богъ мой не опускалъ ме и въ тыхъ речахъ розумови моему трудныхъ, але ме значне ратовалъ и зе въ техъ выбавити ихъ рачилъ; нехай будзе зе втехъ добродействъ своихъ панъ Богъ похвален на веки. Аминь“.

Многа няпрыемнасьцяй рабілі Еўлашэўскаму яго ворагі, ад якіх яго „толко Панъ Богъ хвалы вечное къ годный вызволилъ“. „Панъ Богъ“ дапамагаў яму ў сямейным жыцьці, з яго блаславеньня ў яго родзяцца дзеці, дзівоснае цуда божае выратоўвае яго, калі ён тапіўся, бог бароніць яго ад нападу разбойнікаў. Па яго словах, рэлігійнае пачуцьцё ратавала яго ад пачуцьця помствы ў такім цяжкім няшчасьці, як забойства сына. У яго выпрацаваліся фаталістычныя адносіны да ўсяго таго, што пасылаў яму лёс. Ён глыбока верыць, што бог асабіста яму „скутечну справедливость и екзекуцыю учинити рачитъ“. Цьвёрда перакананы ў тым, што бог дапамагае яму, ён сам, паводле яго слоў, ніколі ня імкнуўся адпомсьціцца ворагам сваім, а чакаў помсты ад бога, „котра тежъ никгды не омешкивала“, а іншы раз зьдзіўляла яго нават сваёю законамернасьцю, „уважаючи такъ вшехмоцного и великого Бога незапамятане мне, межи незличонымъ людом, яко робачка малого, и непожаловане трапити можнейшихъ над мене ку обороне моей“. Калі ён даведаўся аб раптоўнай і дзіўнай сьмерці аднаго з сваіх каварных сяброў, ён запісаў, што адбылася прыказка: „зрадливе серце само се поразитъ“. Але гэта ня столькі ўзрадавала, колькі пераканала яго яшчэ раз ў тым, што мае „Бога правдивого и всемогучого, боронячого мене отъ всихъ неприятелей моих“.

Гэта глыбокае пераконаньне Еўлашэўскага, што бог умешваецца ў людзкія адносіны з мэтаю пакараць парушыцеля справядлівасьці, магло быць яму прышчэплена асноўнымі прынцыпамі крымінальнага права 2-га і 3-га Статутаў. У другой палове XVI сталецьця, асабліва пад канец яго, у крымінальным законадаўстве Літоўскага княства досыць яскрава выяўляецца ўсьведамленьне аб пакараньні, як публічнай заплаце і запалохваньні. Аднэй з галоўных мэт каральнай палітыкі высоўваецца прынцып „око за око“ [1]). Маючы ўсё жыцьцё справу са Статутам, Еўла-

[1]) Демченко. Наказание по Лит. Стат. К. 1894, стар. 173.

шэўскі мог успрыняць некаторыя яго прынцыпы і для свайго асабістага сьветапогляду. Як кажа Лаппо,—„Литовский Статут был фактором умственного развития, ибо он вводил в шляхетские головы литовских обывателей высшие идеи и понятия по сравнению с теми, которые имелись там прежде“ [1]).

## V

З маладых гадоў Еўлашэўскі пачынае служыць, відаць, з прычыны дрэннага матэрыяльнага становішча. Яго невялічкая хатняя адукацыя ўсё-ж такі дала яму магчымасьць выявіць свае здольнасьці: „удавши се на службу трафляли ми се таки паны, *которые ме оборочали до браня поборовъ и чиненя личбъ, порозумевши на то зъ натуры способного*“. Вайна з Масквою перарвала ў 1564 годзе яго прыватную службу і прымусіла яго несьці, зьвязаныя з вайною, звычайныя турботы, пакінуўшы ў ім на ўсё жыцьцё няпрыемны асадак: „паметне зостали для утерпеня великихъ пригодъ, трудностей, шкодъ и невыповеденыхъ невчасовъ“.

У 1565 годзе Еўлашэўскі зноў варочаецца да грамадзянскай службы, зьбірае пабор-пагалоўшчыну. К гэтаму часу адносіцца яго першае пашырэньне знаёмства з уплывовымі людзьмі. Ён карыстаецца пашанаю і протэктаратам кустоша і кананіка віленскага Яна Макавецкага, які ўласна і прызначыў яго на гэту службу—зьбіраць пагалоўшчыну, пазнаёміўшы і рэкамэндаваўшы шмат якім асобам і „доброго пожитку набавилъ“. Тады-ж пачалася яго служба пры двары, як відаць, па той-жа рахункаводзкай спэцыяльнасьці. Аб гэтым сьведчыць, напрыклад, дакладны яго запіс ліку людзей і коняй у паслоў маскоўскіх, якія былі ў Літве ў 1565 годзе. Такую дакладнасьць можна тлумачыць толькі тым, што ён быў прыкамандыраваны для абслугоўваньня ці, можа быць, загадваў выдачаю харчаваньня ім. Яго запісы за час 1570—1571 г. г. проста сьведчаць аб яго службе пры двары.

У 1571 годзе, 25-ці гадоў ад роду, Еўлашэўскі першы раз выступае як адвакат: „потребы короля его милости правные ку отправованю злецоны были“. З гэтага часу вядзеньне чужых спраў становіцца для яго на ўсё жыцьцё асноўнаю профэсіяй.

У сярэдзіне XVI сталецьця ў Літоўскім княстве ўжо цалкам сформаваўся інстытут адвакатуры, які набыў законадаўчую рэглямэнтацыю ў Статутах 1566 і 1588 гадоў. Складанасьць законадаўства, натуральна выкліканая разьвіцьцём грашовае гаспадаркі ў XVI в., ужо з часу выданьня першага Статуту зрабіла цяжкім асабістае вядзеньне стараною свае справы на судзе. Зьяўляецца кляса профэсыянальных юрыстых, знаўцаў закону, у руках якіх сконцэнтроўваецца юрыдычная дапамога насельніцтву. Статут не арганізаваў з такіх паверанных асобную замкнё-

[1]) И. Лаппо. Великое княж. Литовское, стар. 511.

ную корпорацыю, падобна францускай адвакатуры, і вядзеньне ў судзе чужых спраў было, паводле агульнага правіла, даступным усім.

Судовыя акты выяўляюць надзвычайнае суцяжніцтва літоўскае шляхты. Цяжка сабе ўявіць шляхціча, які ня судзіўся-б з кім-небудзь. Экономічнае становішча агульнай масы шляхецтва было такое, што прычын для сутычак маемасных і галоўным чынам зямельных было вельмі многа. Пры слабасьці дзяржаўнае ўлады і пры занадта вялікім наданьні шляхце вольнасьці ўмацоўвалася пачуцьцё лёгкае абуджальнасьці да самапраўства і гвалту. Слабейшая старана мела толькі адзін шлях— зьвярнуцца ў суд, хоць той, хто пацярпеў, з большым задаваленьнем, абы толькі сіла, сам-бы ўжыў гвалт для аднаўленьня парушаных прававаых адносін. Затоеная крыўда пацярпеўшага заўсёды магла прачнуцца і пры зручным выпадку выяўлялася злачынным спосабам. Калі справа даходзіла да суду, то і тут не заўсёды правая старана магла разьлічаць на посьпех, бо большасьць шляхецкіх абываталяў была бездапаможна ў складаным законадаўстве Літоўскага Статуту. Сам суд пры разборы процэсу не выяўляў ніякай актыўнасьці, каб адшукаць ісьціну. Такім чынам, хочаш-ня-хочаш прыходзілася зварачацца да дапамогі знаўцаў закону—профэсыянальных павераных, якія звычайна групаваліся навакол кожнага павятовага суду.

Закон не вымагаў спэцыяльнае юрыдычнае асьветы для дапушчэньня весьці чужыя судовыя справы. Гэта ня значыць, аднак, што юрыдычнае адукацыі ў Літоўскім княстве зусім ня было. Тут, як і ў Польшчы, юрыспрудэнцыя карысталася з боку шляхецтва вялікімі сымпатыямі. „Из всех гуманитарных наук,—кажа проф. Бобржынскі,—польской шляхте больше всего нравилось право, которое могло подготовлять ее к судопроизводству, к исправлению должностей и к политической жизни... Шляхетские умы приобрели ту юридическую окраску, какая осталась характерной чертой уже до канца Речи Посполитой“ [1])

Для літоўскага магнацтва вывучэньне права лічылася канечна патрэбным элемэнтам адукацыі. Так, напрыклад, князь Мікалай Хрыст. Радзівіл адносна адукацыі, якая прыпадносілася езуітамі яго сынам, казаў: „В то время, как людям такого положения, как мои дети, нужно бы читать право и политику, им предлагают какую то смешанную с политикой теологию“ [2]). У абмежаваным аб‘ёме права вывучалася і ў кальвініцкіх школах. У 1566 годзе ў Вільні пры касьцёле св. Яна была заснавана вышэйшая юрыдычная школа (яна існавала 13 год), у якой выкладалася права рымскае, майдэборскае і літоўскае. Такім чынам пашыраліся веды ў Літоўскім княстве, якія стварылі ня толькі вузкіх „начет-

---

[1]) Бобржинский. Оч. ист. Польши, II, стар. 52.

[2]) Харлампович. Зап-Рус. православные школы XIV и нач. XVII в. Казань 1798, стар. 116.

чиков“ закону, але больш ці менш адукаваных юрыстых, якія ўмелі на грунце аналёгіі даваць тонкі аналіз літоўскіх законаў.

Еўлашэўскі такое тэорэтычнае юрыдычнае падрыхтоўкі ня меў і юрыдычныя веды набыў чыста практычным шляхам. Да гэтае справы ён прызвычаіўся, відаць, яшчэ, калі быў на каралеўскай службе ў якасьці каралеўскага дваранінa. Паслугі многіх дваран мелі чыста юрыдычны характар. Іх пасылалі „увязывать“ у маёнткі, рабіць паасобныя сьледчыя дзеяньні, выконваць судовыя прыгаворы і г. п., для чаго, зразумела, патрабавалася хоць-бы мінімальнае знаёмства з процэсуальным і матэрыяльным правам. Толькі шляхам такое практычнае вывучкі і мог Еўлашэўскі набыць веды законаў, тым больш, што, як кажа Крашэўскі, і ў тадышніх юрыдычных школах „ученики учились тоже практически, как ремесленники у мастеров;—такова была отчасти наука права или скорей традиций правовых и судебных даже в более просвещенных странах“ [1]).

Такіх вучняў меў потым сам Еўлашэўскі. Ён расказвае аб адным сваім „непрыяцелі“ Іване Крэчатоўскім, які забыў аб тым добрым, што зроблена Еўлашэўскім яму і яго родным: „и его отъ продаваня дровъ въ Ляховичахъ голца вземши до пани виленское залетилъ и при себе до права способилъ и приучати се праву казалъ“. Потым Крэчатоўскі, навучыўшыся весьці судовыя справы, адплаціў Еўлашэўскаму чорнаю няўдзячнасьцю. Ня трудна сабе ўявіць, як адбывалася такое навучаньне „праву“. У судовым процэсе было ня мала момантаў, калі можна было выступіць „съ моветьем“, у вельмі абмежаваным аб'ёме, асабліва калі патрабавалася зрабіць толькі якую-небудзь заяву ад імя даручыцеля, не ўдаючыся ў абгаварэньні справы па існасьці. Такім спосабам прывучаліся гаварыць на судзе прамовы. Апрача гэтага, навучаньне складалася з складаньняў позваў, протэстацый і масы іншых юрыдычных актаў.

Абраўшы адвакацкую профэсію, Еўлашэўскі на 27-м годзе свайго жыцьця падаўся па сваёй спэцыяльнасьці на службу да князя Мікалая Хрыст. Радзівіла. Уладаючы вялізарнымі латыфундыямі, раскіданымі ў розных мясцох дзяржавы, і будучы занятым справамі дзяржаўнымі, такія вяльможныя паны, як Хадкевічы, Радзівілы і інш., ня мелі магчымасьці асабіста весьці ўсе дробныя справы, што вынікалі з зямельных адносін, і мелі асобных служэбнікаў-адвакатаў, выступаючы асабіста ў судзе ў найбольш важных справах. У 1572 г. кн. Радзівіл першы раз даручыў Еўлашэўскаму судовыя справы: „которыхъ потрэбъ, яко у пана великого, досыть было“. Асабліва шмат клапот тады меў князь ад справы з земянінам княскім Шахна, які „задарши се зъ паномъ Миколаемъ Служкою... давне штуки выржалъ и паны затруднилъ“. Еўлашэўскі расказвае аб

[1]) Харлямповіч. Зап.-Рус. православные школы XVI и начала XVII в. в. Казань, 1896 г., стар 37.

вялікіх клопатах, якія прышлося мець ад п. Матвея Воўка, які распачаў судовы процэс у 1584 годзе супроць пані віленскай з-за фальшывага дакуманту: „для чого ажъ сама ездить до права мусила и очевисто перве у земства, а потомъ и у гроду фалшь задавала“. Вяльможныя паны калі і зьяўляліся на суд, то ня толькі з адвакатамі, але і са слугамі, паказваючы гэтым сваю магутнасьць і ўплыў, а іншы раз і магчымасьць пусьціць у ход і гвалт [1]).

Наогул прыметаю арыстократызму лічылася патрэба выступаць на судзе не асабіста, а цераз адваката:„ Ludziom zacnym a wysokiego stanu, przstoyna rzecz jest mieć Procuratora swego dla uczciwości: iże też oni pospolitą rzeczą są zabawieni, y dla innych przyczyn w Prawie opisanych [2]).

Пачаўшы службу ў 1572 годзе, Еўлашэўскі ня спыняе служыць „въ потребахъ его княжеской милости пана воеводы нынешнего троцкого, хоть потымъ не завше притомне, однакже правдиве и пилне ажъ до той старости моей, въ которой то а меновите въ року панскомъ 1603“...

Вельмі скора Еўлашэўскі напрактыкаваўся ў юрыдычных справах. К 30-м гадом ён лічыць, што ён „уклопотаный вже... працами и волокитами уставичными“. Я о спрактыкаванасьць вельмі скора была адзначана каралём—у 1517 годзе ён быў прызначаны на мастаўніцтва пінскае і сэрвецкае.

Трэба думаць, што яго адвакацкая профэсія спрыяла абраньню яго ў 1779 годзе паслом ад Наўгародзкага павету на Варшаўскі сойм. Апошні выдатны, паміж іншым, тым, што на ім быў складзены проект Статуту Галоўнага Літоўскага Трыбуналу, які меў у юрыдычным жыцьці Літоўскага княства вялізарнае значэньне ў якасьці вышэйшага суду. Еўлашэўскі прымаў удзел у складаньні проекту; ён і п. Андрэц Трызна, паслы Наўгародзкага павету, „процовалисмы, пишучи трибуналъ; якожъ увесь написаный и король его милость подписалъ его нам, але выдати не могъ безъ констытуцыей, который зъ того сейму не было, толко универсалъ поборовый“.

Асноўнаю работаю Еўлашэўскага ў гэты час зьяўляецца вядзеньне судовых спраў. Практыка ў яго была не малая, ня раз ён кажа, што меў „вяликия справы“, пераважна ў вялікіх паноў. Гэтыя гады праходзяць у бязупынных разьездах і выступленьнях у судох у розных гарадох. Напрыклад: „въ томъ року 1583 пани валенская въ повете новгородскомъ мешкала, *а я з роковъ на другие роки уставичне и въ розные поветы:* до Новгорода, Минска, Слонима и Волковыйска *ездити мусилемъ*; а въ после мусилемъ у Вилни и знову о сьвяткахъ тамже быти для справъ задворныхъ, которыхъ се намножило было *мандатовъ* (г. зн. судовых даручэньняў) *всихъ было* 17“.

---

1) Параўн. Лит. Стат. 1585, IV, 52, 53.

2) Porządek sądow, выд. 1760 г., стар. 21.

Цяжка меркаваць аб здольнасьцях прамоўцы і чыста юрыдычных ведах Еўлашэўскага, ня маючы пад рукамі судовых актаў па справах, дзе ён выступаў. Да пэўнай ступені аб яго мове сьведчаць яго запіскі. Пры нясумненнай профэсыянальнай дакладнасьці, нават пратакольнасьці ў выкладаньні, можна адзначыць ня мала ўрыўкаў, якія выяўляюць і вядомыя літаратурныя здольнасьці. Аб адным удалым выступленьні ён сам выпадкова паведамляе: „Потомъ была его милости справа, 31 стычня (1589), о аренде мытъ старыхъ литовскіхъ, также о аренде зъ маетности Бирштанское и иншихъ; меновано того на 50 тысячей копъ литовскихъ. И указовано на то истоты пана небожчика, а въ насъ наинейшей квитанцией не было. *Ямъ въ той справе мовилъ якъ налепей,—панъ Богъ здарить рачилъ,—большей се спускаючи на ласку его королевское милости, а указуючи веле заслуги пана его милости и иншие правные причины*".

## VI

Нясумненная вядомасьць Еўлашэўскага, як здольнага практыка-юрыстага, спрыяла вылучэньню яго ня толькі на грамадзка-політычную работу, як, напрыклад, дэпутатства ў сойм, але і на ўрадавыя пасады. „В марцумъ (1584 г.),—піша ён,—мелъ справъ панскихъ сила у Вилни пред королемъ, и въ речахъ королевскихъ пилновалемъ, и взывано ме на инстыгаторства".

Яго здольнасьці былі адзначаны пры двары і яму была прапанована пасада інстыгатара. Ці прыняў Еўлашэўскі гэту прапанову, а калі не—то якія прычыны адмаўленьня,—ён нічога не гаворыць. Трэба толькі сказаць, што гэта быў значны па сваёй адноснай вазе судовы ўрад. „Инстикгаторъ его королевское милости великого князства Литовского" зьяўляўся ня толькі прадстаўніком на судзе інтарэсаў гаспадарскіх „подданныхъ", але наогул на яго абавязку была „защита мирных и исполняющих закон бога и государа обывателей от дурных і преступных. Это был своего рода *прокурор*, обязанный бороться и с преступностью и с беззаконностью гражданской жизни великого княжества Литовского [1]).

Сваю юрыдычную кар'еру Еўлашэўскі закончыў судзейскім месцам земскага падсудка. 1-га верасьня 1592 году на сойміку ў Цырыне былі абраны, як вымагалася законам, чатыры кандыдаты, з прычыны сьмерці п. Керсноўскага, на пасаду падсудка Наўгародзкага павятовага земскага суда. Гэта былі: Ян Маскевіч, Анікей Уніхоўскі, Мікалай Падароўскі і Хведар Еўлашэўскі. У члены земскага суда паводле закону трэба было абраць „людзей добрыхъ, цнотливыхъ, роду шляхецкого, въ томъ повѣтѣ добрѣ оселыхъ, не иное вѣры, только христіанское". Канчатковы выбар належаў каралю. З чатырох кандыдатаў падсудкам быў зацьверджан Еўлашэўскі, вачавідна з прычыны свае вялікае вядомасьці ўраду. „Отдано

[1]) И. Лаппо. Великое княж. Литовское, стар. 394—398.

то подсудковство мне,—кажа Еўлашэўскі,—и привилей мне на то принесено до дому *безъ великого стараня моего*, 28 дня тогожъ месяца вресня".

Для сярэдняга служылага шляхціча, якім быў Еўлашэўскі, дабіцца пажыцьцёвага, ганаровага і выгоднага месца члена земскага суда значыла зрабіць вялікую кар'еру. „Вряды судовые имели особенное значение в повете. И взгляд общества и правительства на „справедливость", как на „фундамент покою посполитого" вместе с „обороною" государства, и действительное, реальное значение судовых приговоров, решений и книг судов в жизни шляхты ставили суды поветовые и их врядников на значительную высоту в ряду учреждений и дигнитарей великого княжества Литовского" [1]).

Самым блізкім шляхам прасунуцца ў магістратуру Літоўскага княства была адвакатура. Хто не адзін раз выяўляе сваю юрыдычную спрактыкаванасьць выступленьнямі на судзе, той натуральна вылучаўся, як прыгодная асоба, і для ўдзелу ў законадаўчых работах, і на судова-адміністратыўныя пасады. Нават па сухіх актах судовых кніг можна лёгка прасачыць, як блізка стаялі літоўскія адвакаты да судовых устаноў. Прывядзем адзін з шматлікіх прыкладаў. У кнігах Упицкага гродзкага суда за 1586 год часта сустракаецца прозьвішча Станіслава Волгкевіча. Як-жа абмалёўваецца яго дзейнасьць?

У сакавіку 1586 году Волгкевіч быў абран Упіцкаю шляхтаю замест адсутнічаўшага старосты Упіцкага п. Валменскага. Ён выконвае абавязкі гродзкага судзьдзі на працягу сакавіка, красавіка і мая. А далей ён выступае паверанным на судзе, прымае ўдзел пры заключэньні юрыдычных зьдзелак, едзе з судзьдзёю на „увязание" маёнтку, зноў выступае ў вялікай крымінальнай справе аб падробцы дакумантаў [2]).

З другога боку, закон забараняў судовым урадніках гродзкім і земскім быць „прокураторами" толькі „въ тыхъ поветехъ и пры тыхъ судех, где суть сами врядниками". Па сваіх справах яны могуць выступаць і ў гэтых судох. Больш таго, яны могуць весьці чужыя справы ў судох другіх паветаў, альбо ў другім судзе таго павету, хоць такія выступленьні закон ня лічыць профэсыянальнаю адвакацкаю дзейнасьцю, а „приятельскою" паслугаю [3]). І сапраўды, акты паказваюць, што часьцей за ўсё зварачваліся за юрыдычнай дапамогаю іменна да судовыхураднікаў. Так-жа сама і Еўлашэўскі, будучы і земскім падсудкам, прадаўжаў выступаць у судох па справах Хадкевічаў і іншых паноў.

Такое становішча літоўскае адвакатуры нагадвае адвакатуру ў Францыі, „где право на занятие судебных должностей было лучшей

[1]) И. Лаппо. Великое княж. Литовское стар. 352.

[2]) Акты Вил. Ком., т. XXVI, №№ 29, 48, 133, 289, 298, 308. 309, 314, 310, 312, 313, 315, 316, 338, 447, 553.

[3]) Лит. Стат. 1588, IV, 58.

привилегией французской адвокатуры в средние века, а перспектива достигнуть высших мест в адвокатуре—самым побудительным стимулом к ревностному исполнению профессиональных обязанностей... Канцлеры, президенты, члены парламента и других судов, прокуроры назначались преимущественно из числа адвокатов“ [1]).

## VII

Адвакацкая дзейнасьць адкрыла Еўлашэўскаму шлях набыць багацьце. У Літве, як і ў заходня-эўропэйскіх дзяржавах, за адвакацкую працу плацілі, як за ўсякі наём асабістых паслуг. Лічылася зусім натуральным, што адвакат павінен быць узнагароджаны за асаблівую працу, якую ён укладае, вядучы чужую судовую справу. Такі погляд выражаны популярным у Польшчы і Літве вучаным-юрыстым XVI в. Гроіцкім у яго працы: „Porządek cądow y spraw mieyskich“, якая набыла звычайнае права шляхам агульнага прызнаньня, як існуючага заканадаўства. Гроіцкі кажа: „...prokurator zá pracą swoię, którę podeymuie w sprawowaniu rzeczy od kogo, słusznie ma miec zapłatę: jako u nauczeni w prawie, Rady swey użyczać mogą zà zapłatę: albowien niż się tego nauczyli pracą też około tego niemałą podięli z niemałym nakładem. A tak słuszna rzecz jest aby też z tąd pożytek mieli“[2]).

Ня гледзячы на прагавітасьць да нажывы, якая разьвілася ў асяродзьдзі профэсыянальных адвакатаў, што выклікала патрабаваньне шляхты на Берасьцейскім сойме 1547 г. поўнае забароны профэсыянальнай адвакатуры, Літоўскі Статут ня ўвёў таксацыі адвакацкага гонорару і апошні цалкам вызначаўся дабравольнаю згодаю паміж кліентамі і адвакатамі [3]). Таму цяжка азначыць сярэдні разьмер гонорару, тым больш, што судовыя процэсы вельмі часта не канчаліся ў першай інстанцыі, а цягнуліся доўгія гады. Звычайна адваката наймалі для якога-небудзь паасобнага выступленьня, і часта здаралася так, што розныя адвакаты вялі адну справу ў адным і тым-жа судзе, а яшчэ часьцей — адну справу ў розных інстанцыях.

У найбольш выгодным становішчы былі такія паверaныя, якія служылі пастаянна ў якога-небудзь магната, дзеля таго што аплата іх працы хоць і не азначалася ў кожным паасобным выпадку, але затое выражалася ў вядомыя прамежкі часу ў форме жалаваньня зямлёю, у каштоўных падарунках і г. п.

Еўлашэўскі не паведамляе ў якой ступені павялічваўся яго маемасны дабрабыт і дае толькі ўрыўкавыя весткі аб сваіх набытках. Так, яму

---

[1]) Васьковский. Организация адвокатуры, ч. I, СПБ, 1893, стар. 100, 116.

[2]) Porządek, выд. 1760 г., стар. 22.

[3]) Рус. Ист. Библ. Отд. I—II, ч. 3, т. I. Ю. 1914 г., стар. 159. Гл. маю працу „Утворення проф. адвокатури в Лит.-руській державі“. Праці Ком. для виучув. зах.-рус. та укр. права при Укр. Акад. Наук. Київ, 1297 г., вип. III, стар. 144.

ня зусім пашанцавала спачатку на каралеўскай службе, бо з прычыны сьмерці караля Жыгімонда-Аўгуста і яго ўласнай хваробы ў той час засталіся не падпісанымі лісты, якія яму король „на маетности дание написати казати рачилъ, што се великому нещастю моему причитати мусить“. У той час ён яшчэ ня быў настолькі багатым, каб адразу купіць эпіскапскае месца для свайго бацькі, ён нават не карыстаўся ў Ляхавічах крэдытаздольнасьцю і яму цяжка было пазычыць грошы. Аднак не малыя даўгі, пакінутыя яго бацькам, ён мог ужо выплаціць. Іншы раз ён паведамляе і аб сваіх посьпехах; так, пад 1575 годам ён піша: „не мало справъ судовыхъ мелъ передъ королемъ его милостю *и щастило ми се* за ласкою Божою“. Калі ў маладыя гады ён пазычаў грошы, то пазьней ён сам пазычае другім. Так, у 1586 годзе „до Вилне зворотивши се далемъ былъ пенезей Кгославскому на имене Скубятовское; первъ заставою, а потомъ и на вѣчность купилемъ“.

Аб разьмерах набыткаў Еўлашэўскага можна меркаваць па тых мясцовасьцях, якіх яму не ўдалося атрымаць дзякуючы перашкодам ворагаў. Так, п. Іван Крэчатоўскі і п. Мікалай Тлухоўскі, служэбнікі пана Хадкевіча, усялякімі няпраўдамі перахапілі тыя маёнткі, на якія зайздрыў Еўлашэўскі: „Тлуховский *маетность кошторну* на Руси, названую Селцо, забралъ, а Кречетовский Малковичи, Конюхи, Мазурковщизну; *што все мне было отъ пана не только обецано, але и листы подавано,* которыхъ потомъ панъ Янъ Кароль Ходкевичъ зъ ихъ направы подписовать и скончить не хотелъ“. Іншы раз ён выпадкова ўспамінае і аб меншых набытках. Так, расказваючы аб п. Падароўскім і характарызуючы двух яго жонак, Еўлашэўскі кажа: „за небожчицу першую и мне былъ *кони зе три далъ*, а за той ни козлятка, а ще ме и великой шкоды набавилъ“.

З абраньнем Еўлашэўскага членам земскага суда яго матэрыяльнае становішча павінна было яшчэ больш палепшыцца, асабліва пры той умове, што ён адвакацкай практыкі ня кідаў. Судзьдзі па закону мелі таксаваны прыбытак як за судовую, так і за нотарыяльную працу. Так, у карысьць земскага судзьдзі і падсудка з выйграўшай стараны спаганялася „отъ копы литовское по два грошы литовскихъ“, а з гэтае сумы падсудак атрымліваў трэцюю частку. Пры значнасьці грамадзянскага звароту ў канцы XVI в. і пры не малых ісковых сумах падсудку павінна было даставацца ня мала. У такой-жа пропорцыі азначаўся прыбытак у справах па сысканьню даўгоў. „Памятного“ вызначалася 4 грошы, от „печатования вечностей“ падсудак атрымліваў 2 грошы, „за печатование выпису зъ книгъ“—таксама 2 грошы [1]).

Маючы кнігі Наўгародзкага земскага суда, дзе працаваў Еўлашэўскі, можна было-б, бадай, азначыць яго штогодны прыбытак. У якасьці

[1]) Літ. Стат. 1588, IV, 5.

прыкладу таго, як расла маемасьць судзьдзяў, можна прывесьці весткі (зразумела, далёка ня поўныя) аб набытках сучасьніка Еўлашэўскага, вількамірскага гродзкага судзьдзі Андрэя Ўнікоўскага, можа быць, крэўнага таго п. Анікея Ўнікоўскага, які быў конкурэнтам Еўлашэўскага пры абраньні ў падсудкі. Вось сухі пералік судовых запісаў: 6-га красавіка 1598 году А. Унікоўскі купіў у земяніна Гедройця восем азёр; у ліпні ўведзены ва ўладаньне маёнткам п. Багушэвіча; 1-га жніўня купіў пустоўшчыну ў зямян Міхайловічаў; 28-га жніўня заставіў $2^1/_3$ службы кн. В. Друцкаму-Азярэцкаму. 1-га мая 1603 году купіў у земяніна Я. Усовіча палац Антажавенскі. 3-га студзеня 1604 году ўзяў у заставу маёнтак зямянскі Вавалічовай. 2-га сакавіка 1906 году купіў у земяніна Балтромея Станіслававіча отчыча Бобрунца да 30 коп грошай [1]).

Такім чынам, ёсьць поўная падстава меркаваць, што работай іменна ў адвакацкай і судовай галіне Еўлашэўскі набыў сабе зусім забясьпечанае матэрыяльнае становішча.

## VIII

Кар'ера Еўлашэўскага не зьяўляецца адзінкавай і выпадковай зьявай у соцыяльным жыцьці Літоўскага княства. Ён жыў у эпоху ажыўленага разьвіцьця грашовае гаспадаркі. Зямляробства, якое было галоўнаю галіною народнае гаспадаркі, выходзіць з замкнутага стану і ўцягваецца ў жвавы памен з Захадам, які быў зацікаўлен на ўсходняй Эўропе, як месцы вытворчасьці сырцу і, галоўным чынам, хлеба. Першапачатковы тэмп разьвіцьця знадворнага таварапамену стварыў спрыяльныя ўмовы для гаспадарак сярэдняга разьмеру. Адсюль упартае імкненьне шляхты да замацаваньня за сабою поўнага скарыстоўваньня сялянскае працы і да неабмежаванай мобілізацыі зямлі. У грамадзтве на першы плян высоўваецца іменна шляхта, якая імкнецца консолідаваць арыстократычны лад зямляўласьніцкае клясы. „Но развитие денежного хозяйства,—кажа проф. Ражкоў,—было немыслимо без элементарного по крайней мере обеспечения прав свободной личности шляхтича: для того, чтобы эти права не превратились в пустую юридическую фикцию, лишенную юридического содержания и практического смысла, необходимо было создать такую организацию средств управления, которая в главных чертах обеспечивала бы защиту правового положения господствующего сословия; ответом на эту хозяйственную потребность и было развитие судебно-административной техники в Литовско-русском государстве XVI и XVII веков“ [2]).

З шасьцідзесятых гадоў XVI ст. літоўская шляхта непасрэдна далучаецца да ўдзелу ў кіраваньні палітычным і дзяржаўным жыцьцём. Сой-

---

[1]) Опись докум. Виленск. Центр. Арх. др. акт. книг. Вып. VI, стар. 95, 106, 136, 174, 185, 236.

[2]) Н. Рожков. Русс. Ист. в сравнит. истор. освещ., т. III, 1923, стар. 98, 121.

мікі, якія скліkаліся для выбараў паслоў соймавых, для выслухоўваньня справаздач, для выбараў судзьдзяў панятовых і трыбунальскіх, разьвівалі ў шляхецтве адчуваньне корпоратыўнай солідарнасьці і выхоўвалі яго ў політычных адносінах. Але з павятовых устаноў бліжэй усяго шляхецтву быў выбарны суд. Земскі суд, які зьбіраўся штогодна тры разы, і гродзкі суд, які засядаў раз у месяц, пастаянна і рэгулярна прыцягваў шляхецтва па прычынах надзенных, але затое самых жыцьцёвых, самых палкіх інтарэсаў. Тут іменна, на глебе рознастайных экономічных адносін, раней за ўсё выяўляліся ўзаемныя сымпатыі і антыпатыі, ствараўся грунт для невялікіх груповак, выяўлялася фактычная няроўнасьць юрыдычна раўнапраўных—вяльможнага панства і звычайнага шляхецтва. Многіх абываталяў вабіла сэсія суда:—і тых, што шукалі судовай абароны ад самапраўства, якое было самай звычайнай і характэрнай зьявай у тадышнім жыцьці; і тых, што жадалі вырашыць юрыдычную спрэчку; урэшце, тых, хто хацеў зрабіць юрыдычны акт, каб агарадзіць сябе законнымі формальнасьцямі ад небясьпекі страціць свае правы. А хто-ж з абываталяў Літоўскага княства ня судзіўся з суседзямі, не цягаўся па судовых сэсіях, не хаваў у сваёй „скрыньке“ позваў, лістоў і інш. „твердостей“?

Павятовы суд і быў самай зручнай арэнай, на якой выслаўляўся ўсякі, хто намагаўся прабіцца ў людзі. Пабудаваны на пачатках шырокага выпярэдніцтва, які выконваў сваю дзейнасьць адкрыта перад усімі, шляхецкі суд быў найлепшаю школаю для падрыхтоўкі і вылучэньня грамадзкіх дзеячоў сярэдняга тыпу. Заваяваць павятовага абываталя сваімі талентамі зручней усяго было тут, на судзе, удалаю абараняльнай альбо абвінавальнаю прамоваю, альбо тонкім аналізам закону. Тут можна было выявіць веды законаў, што зьяўлялася канечнаю ўмоваю для заняцьця па выбарах судовай пасады ў павеце, дэпутацкага месца ў Галоўным Літоўскім Трыбунале, пасольскага крэсла ў Сойме. Вось чаму акты судовых кніг выяўляюць існаваньне ў кожным павеце пэўнай пастаяннай групы юрыстых, пры дзейным удзеле якіх цякло ўсё юрыдычнае жыцьцё павятовага шляхецтва. Гэты пласт шляхецкай корпорацыі займаў прамежнае становішча паміж усёю звычайнаю масаю павятовых абываталяў і вяльможным панствам. Стаючы вышэй сваёй шляхецкай братвы, гэтыя асобы нясумненна былі павадырамі, але яны, як агульнае правіла, ня гледзячы на свае асабістыя здольнасьці, ня гледзячы на юрыдычнае раўнапраўства, не маглі прасунуцца ў шэрагі параўнаўча нямногіх арыстократычных фамілій, якія фактычна кіравалі дзяржаўным жыцьцём Літвы. Наадварот, уваходзячы ў кліентуру вяльможнага панства, гэты пласт шляхецтва служыў толькі праваднікам уплыву літоўскай арыстократыі на ўвесь шляхецкі народ. Да гэтага кола шляхецтва і належаў земскі падсудак і адвакат Хведар Еўлашэўскі.

# НАРОДНАЕ МАСТАЦТВА Ў САВЕЦКІМ САЮЗЕ

## М. Шчакаціхін

Па ўсіх рэспубліках Савецкага Саюзу раней прыгнечаныя і прыдушаныя ўрадова-адміністрацыйным уціскам рознастайныя народы былое Расійскае імпэрыі, пачынаючы з вялікіх народаў з багатай культурнай спадчынай мінулага і канчаючы самымі малымі, учора, можа, амаль што яшчэ невядомымі нават з назвы, плямёнамі атрымалі ў цяперашні час самыя шырокія магчымасьці свабоднага і сваеадменнага культурнага разьвіцьця ў формах, якія ўласьцівы кожнай паасобнай нацыянальнасьці. Магчымасьці гэтыя побач з іншым асабліва поўна былі скарыстаны ў розных галінах мастацтва: адны народы шпаркім тэмпам аднавілі і адрадзілі сваю нацыянальную артыстычную творчасьць, падняўшы яе з нядаўняга вымушанага прымітыву да болей высокіх і дасканалых фармальных дасягненьняў; іншыя наогул толькі пасьля Кастрычніка абудзіліся да нацыянальнае сьвядомасьці і разам з тым распачалі справу стварэньня свайго ўласнага новага мастацтва на грунце народнае творчасьці.

Натуральна, што гэтая апошняя набыла асаблівае значэньне. Яна сапраўды зьявілася ў гэтым працэсе першай асновай, тымі падвалінамі нацыянальнага мастацтва, з якіх у цяперашні час вырастаюць магутныя муры новае артыстычнае творчасьці вольных народаў шляхам удасканаленае інтэрпрэтацыі народных стылістычных форм у індывідуальнай дзейнасьці паасобных майстроў. Адсюль зразумела бясспрэчна падвышаная цікавасьць сучаснасьці ласьне да гэтага народнага мастацтва, а таксама і тое, што апошнія гады ў шмат якіх рэспубліках Саюзу зьявіліся гадамі новага яго ўздыму, пасьля часовага заняпаду, які наглядаўся асабліва ў цягу вайны 1914—1918 г. г. Спрыяла гэтаму ўздыму і належная арганізацыя саматужнае прамысловасьці, найлепей, здаецца, наладжная на Украіне і ў Узбэкістане.

У гэтым нарысе мы хацелі-б падаць кароткую агульную характарыстыку сучаснага становішча народнага мастацтва, з тым несканчоным багацьцем, якое мае ўсабе сапраўдная народная творчасьць розных нацыянальнасьцяй, спалучаных у цяперашні час у вольны братэрскі Саюз. Характарыстыка гэтая можа быць цяпер намі зроблена, можа, і ня зусім поўная, на падставе абмежаванага вядомага нам матэрыялу [1]),—але

---

[1]) Мы карысталіся тут, галоўным чынам, матэрыяламі, экспанаванымі ў мінулым годзе ў Маскве ў аддзеле народнага мастацтва і мастацкае прамысловасьці на юбілейнай выстаўцы „Мастацтва народаў СССР“, улаштаванай Дзяржаўнай Акадэміяй Мастацкіх Навук.

ў кожным разе яна ўсё-ж здолее даць вядомую агульную карціну і быць, на нашую думку, карыснай хаця-б у інформацыйных мэтах, бяручы на ўвагу тую глыбокую зацікаўленасьць, якая наглядаецца ў цяперашні час да ўсіх краёў культурнага жыцьця нашых саюзных рэспублік і да нацыянальных асаблівасьцяй іншых, як блізкіх да нас, так і далёкіх народаў Саюзу.

Усё народнае мастацтва ў Саюзе можна разьбіць на дзьве асноўныя выразна розныя паміж сабой групы: славянскую і ўсходнюю. У першую ўваходзяць народныя артыстычныя вырабы Расіі, Украіны і Беларусі, у другую—народная творчасць рознастайных усходніх народаў, дзе цэнтральныя месцы займаюць вырабы каўкаскіх народаў і Узбэкістану. З гэтай другой групы, як найменей вядомай у нас і ў той самы час, можа, найболей цікавай, лепей за ўсё і распачаць наш кароткі агляд.

Сучасны Каўказ у сваім народным мастацтве далёка неаднастайны. Арменія сярод усіх іншых рэспублік Саюзу найболей увабрала ў сваю народную саматужную творчасьць новыя элемэнты савецкае сучаснасьці, удала злучаючы іх у дэкарацыйным сэнсе з сваімі старымі традыцыйнымі мотывамі. Мы тут знаходзім, напрыклад, вялікія дываны з портрэтамі Леніна і Маркса, а таксама з дзяржаўным гэрбам Арменіі, абкружанымі старадаўняй дывановай орнамэнтыкай. Таксама сярэбраныя вырабы эрыванскіх саматужнікаў, надзвычайна тонкія і артыстычныя, з дробным, завілістым орнамэнтам, нярэдка ў цяперашні час спалучаюцца з савецкімі эмблемамі. Побач з тым, аднак, жывуць яшчэ і старыя вельмі даўнія формы народнага артыстычнага вырабніцтва: звычайныя дываны тканіны, асабліва найменей кранутыя новымі ўплывамі золаташвейныя вырабы, якія нязьменна выяўляюць вялікую, традыцыйна ўзгадаваную артыстычнасьць. У параўнаньні да Арменіі, народнае мастацтва Абхазіі адразу ўражае як самы непасрэдны прымітыў, тут мы знаходзім, галоўным чынам, толькі тканіну—ручнікі, абрусы ды іншыя вельмі простыя вырабы, пераважна ў белыя, чорныя і памеранцавыя палосы, якія ствараюць вельмі характэрнае і досыць эфэктоўнае спалучэньне фарб. Нязначныя лікам вырабы Дагестана складаюцца з дробных ювэлірных прадметаў: паясоў і пражак да іх, кінжалаў, портсігараў і г. д., вельмі дасканалае работы, з эмалёвымі аздобамі. Нарэшце найболей цікавы Азэрбайджан, які вырабляе, галоўным чынам, дываны і тканіны. Розныя тыпы дываноў—кубінскія, карабахскія, ленкоранскія, шамахінскія, гянджынскія і г. д.,—а таксама нухінскія і гянджынскія шаўковыя тканіны, маюць у большасьці рысы строгага стылю, часта набліжанага да пэрскіх узораў, і пераважна цёмны, строгі колёрыт з перавагай чырвонага і сіняга тонаў у глыбокіх адценьнях. Здаецца, што гэтая орнамэнтыка сялянскіх вырабаў падлягае ў апошнія часы спробам болей удасканаленай артыстычнай апрацоўкі; у кожным разе ў некаторых навучальных інстытуцыях робяцца проекты дываноў, якія выяўляюць тонкае дэкарацыйнае

пачуцьцё і добрае веданьне прынцыпаў тканіннае орнамэнтыкі, што робіць іх вельмі цікавай спробай далейшага ўскладненьня і ўдасканаленьня народнае мастацкае асновы,—праўда, у дапасаваньні да таго самага матэрыялу і сродкаў і да тых самых агульных мэт.

У процілегласьць Каўказу, Узбэкістан у сваім народным мастацтве выяўляе пэўную суцэльнасьць і разам з тым яшчэ большы размах і большую глыбіню народнае творчасьці. Сапраўды, Узбэкістан—гэта краіна з надзвычайна даўняй і моцнай традыцыяй самага шырокага і рознастайнага дэкорацыйнага вырабу, дзе разам з тым увесь побыт нават сярэдняга селяніна наскрозь прасякнуты жывым ужыткоўным мастацтвам у самых рознастайных рэчах звычайнага хатняга ўжытку, пачынаючы з вопраткі і хатняга ўбраньня і канчаючы начыньнем, прыладамі для паленьня і г. д. Здалёку здаецца, што з усіх месцаў Саюзу—гэта краіна нейкіх цудоўных казачных форм, дзе пад нязьменным сонечным бляскам, у дзіўных оазісах Бухары, Самарканду ды іншых мясцоў, раскіданых па спаленым гарачынёю стэпе, расквітаюць самыя пышныя і барвістыя кветкі бясконца багатай і нявычарпальнай народнай творчасьці, якая амаль-што з кожнага матэрыялу, да якога яна кранаецца, робіць нешта выключнае і артыстычнае. Мы тут знаходзім чароўныя дываны і тканіны, а таксама безьліч рознастайных рэчаў—з дрэва, з гліны, з мэталю—самага markednага характару і прызначэньня, але заўсёды з самай складанай, непараўнальна прыгожай і дасканала выкананай орнамэнтыкай.

Трэба зазначыць, што народнае мастацтва Узбэкістану ўжо зусім ня мае характару хатняга вырабу, у тым сэнсе, як гэта вядома, напрыклад, у нас у Беларусі,—але наадварот: яно складае сапраўдную саматужную прамысловасьць надзвычайна шырокага абхвату, якая разьлічана ня толькі на нутраны продаж у краіне, але таксама і на зарубежны экспорт, дзе занята вялізная колькасьць народу і дзе намячаецца ўжо выразная дыфэрэнцыяцыя па розных галінах артыстычнае вытворчасьці ня толькі паасобных груп саматужнікаў, але і цэлых раёнаў рэспублікі. Лік саматужнікаў спэцыялістых, якія заняты выключна тым ці іншым відам саматужнай вытворчасьці, дасягае ў Узбэкістане да 100.000 чалавек, а наагул так ці інакш заняты ў саматужнай прамысловасьці каля мільёну асоб. Важнейшыя асяродкі вырабу—Андыжан (дываны), Бухара (золаташвіўныя вырабы), Ташкент і Самарканд (гафты і галаўныя ўбраньні), Кітаб, Гісар, Маргелан, Самарканд, Бухара і Наманган (шаўковыя тканіны), Ходжэнт, Рыштан, Шахрызяб (паліванае начыньне); апроч таго, усюды ў Узбэкістане надзвычайна пашыраны выраб орнамэнтаванага мядзянага начыньня, драўлянае мэблі з аплікацыяй і інкрустацыяй, і нарэшце розных расьпісаных драўляных рэчаў ужытку. Пры гэткіх умовах зразумела, што Узбэкістанскія вырабы могуць быць найлепшымі сваёй тэхнікай, сваім артыстычным майстэрствам,—бо сярод саматужнікаў тут

ствараюцца цэлыя „школы“, пэўныя навыкі і традыцыі перадаюцца з пакаленьня ў пакаленьне, спрыяючы сталаму захаваньню высокай мясцовай артыстычнай культуры і ня меней высокай вытворчай дасканаласьці. Калі далучыць да гэтага яшчэ і глыбокую арыгінальнасьць дэкарацыйнага мастацтва Узбэкістану—здаецца, што характарыстыка яго будзе больш-менш поўнай. Бязумоўна, апошнія гады ўнесьлі ў яго крыху новага; некаторыя галіны яго (як, напрыклад, выраб расшытых золатам аксамітных халатоў, кошт якіх дасягае некалькіх сот рублёў)—пастунова цяпер адміраюць; іншыя, наадварот, разьвіваюцца мацней; але наогул Узбэкістанскае народнае мастацтва стаіць на моцным грунце—і лепшым довадам гэтага зьяўляецца нядаўняе ўзьнікненьне спэцыяльнае прамысловае коопэрацыі, якая ўжо згуртавала ў сабе значны лік саматужнікаў і разьвівае шырокую дзейнасьць у справе організацыі прамысловых арцеляй і ў галіне зарубежнага экспорту вырабаў, пераважна за межы Савецкага Саюзу.

Як мы ўжо казалі, народныя артыстычныя вырабы Узбэкістану надзвычайна рознастайныя. Але на наш пагляд, на першае месца сярод іх трэба, бясспрэчна, вылучыць вырабы ткацкага і гартавальнага мастацтва. Дасканалыя, барвістыя андыжанскія дываны, побач з пэрскімі, ужо даўно набылі заслужаную слыннасьць. Побач з імі, аднак, можна вызначыць і яшчэ цэлы шэраг выдатных вырабаў: раскошныя, расшытыя золатам халаты, г. зв. „чапан“, прыгожага і строгага стылю з буйным залатым орнамэнтам расьліннага характару на цёмна-чорным або глыбока-зялёным тле, выраб якіх, як мы ўжо зазначалі, у апошнія часы памяншаецца, перадаючы сваю тэхніку болей дробнай, але аналёгічнай вытворчасьці—вырабу такіх самых расшытых золатам галаўных убраньняў—„тупэ“; далей—вялізныя шаўковыя гафты „сузанэ“, сваяадменнага тыпу, з тонкімі пераплётамі, даўгімі сьцяблямі, розэткамі і кветкамі, пераважна цаглянa-чырвонага колеру на жоўтым тле; нарэшце—іншыя тыпы гартаў, так званыя „ірокі“ з Бухары, Кітабу і Гісару, і яшчэ шэраг markdownзнабарвных стракатых тканін, шаўковых і поўшаўковых. Усё гэта зіхаціць пералівамі мяккіх, гармонічных, але яскравых фарб, зьліваецца ў адну суцэльную, згодную гаму колераў надзвычайна напружанага і сакавітага тону.

Пасьля тканіны найболей віднае месца ў Узбэкістане займаюць вырабы з дрэва і з мэталю. Столікі, зэдлікі, скрыні, шырмы (так зв. „панджара“) надзвычайна дасканала расьпісаны, інкруставана, або зроблены з паасобных кавалачкаў рознакаляровага дрэва. Мядзяныя жбаны, талеркі, вазы ды іншае начыньне пакрыты тонкай, складанай гравіроўкай. Апроч таго, шмат робіцца чыста ювэлірных бліскучых і пышных рэчаў з серабра з бірузой, сэрдолікам і да таго падобнымі поўкаштоўнымі каменчыкамі. На апошнім месцы, нарэшце, трэба адзначыць керамічныя вырабы—пераважна зялёныя і сінія з палівай талеркі, жбаны, „чылімы“ і г.д. з Ходжанту, Кітабу, Лягану і Рыштану,—якія таксама надзвычайна прыгожыя і тэх-

нічна высока дасканалыя, але найменей самастойны ў параўнаньні да іншых вырабаў, і найболей набліжаны да пэрскае керамічнае орнамэнтыкі расьліннага характару.

Калі Каўказ і Узбэкістан можна лічыць за найболей выдатныя асяродкі ўсходняга народнага мастацтва ў Саюзе, дык і некаторыя іншыя месцы, аднак, ня меней варты нашай увагі. З іх ліку асабліва цікавы шмат болей бедныя, але характэрныя татарскія вырабы з двох галоўных татарскіх асяродкаў: Татарскае рэспублікі і Крыму. Асноўныя віды мастацкіх вырабаў у Татарскай рэспубліцы—гэта рознакаляровы скураны абутак, вышываныя золатам галаўныя ўбраньні і пантоплі, ювэлірныя вырабы і нарэшце тканіна. Найболей пашыраным зьяўляецца выраб нацыянальнага абутку, г.-зв. „ічэгаў" (ботаў), зробленых з дзесяці рознабарвных скур, адкуль выразаюцца адпаведных форм кавалкі, нашываюцца адзін на адзін, і абшываюцца каляровымі ніткамі, так што ў выніку атрымліваюцца характэрныя стракатыя боты, орнамэнтаваныя геомэтрэцаваным рысункам. З дапамогаю такой самай тэхнікі робяцца часам і іншыя рэчы, а ласьне падгалоўнікі і спэцыяльныя рытуальныя дываны—„намаздыкі",—гэта, аднак, сустракаецца болей рэдка і паступова ўжо выходзіць з ужытку. Але выраб такога абутку мае яшчэ вельмі важнае значэньне, ня толькі абслугоўваючы сваю рэспубліку, але і ствараючы крам для болей шырокага гандлю па ўсёй тэрыторыі Саюзу, і пераважна ў Крыме і Азэрбайджане. На другім месцы стаіць выраб галаўных убраньняў і аздоб, якія разам з вышэйпамянёным абуткам яшчэ і цяпер шырока ўжываюцца ў нацыянальнай вопратцы татар. У большай частцы ўбраньні гэтыя робяцца з чорнага аксаміту і расшываюцца прыгожым орнамэнтам з серабра або золата. Значнае пашырэньне мае таксама ткацтва; тут пераважна робяцца абрусы і ручнікі з строга геомэтрычным орнамэнтам двох гатункаў: адзін з іх, вытрыманы ў чырвоным і белым колерах, дзіўным чынам блізка нагадвае характар некаторых беларускіх тканін і гафтаў, што сьведчыць аб нейкіх глыбейшых крыніцах народнае творчасьці, якія могуць быць аднолькавыя нават у самых розных народаў; другі—мае больш своеадменныя рысы, далучаючы да двох памянёных тонаў яшчэ зялёны і сіні колеры. Блізка да ткацтва падыходзіць гафтаваньне шоўкам, але яно паступова ўжо зьнікае і застаецца цяпер ледзь ня выключна ў рэчах рытуальнага прызначэньня, а ласьне ў „намаздыках" ды яшчэ ў гэтак званых „аякчу"—вясельных ручніках, якія нявеста згодна звычаю дарые нарачонаму,—вышываных тонкім залатым орнамэнтам па белым тле. Таксама паступова вымірае ў Татарстане і саматужная ювэлірная вытворчасьць, якая калісьці стаяла тут досыць высока; але яшчэ і цяпер усё-ж робяцца вельмі цікавыя сярэбраныя рэчы з аздобамі з ажуру і чэрні вельмі характэрнага, своеадменнага стылю.

Памянёнае зьнікненьне шаўковых гафтаў і ювэлірнага вырабніцтва ў чыста народнай татарскай вытворчасьці выклікала спробы іх захаваньня

і паступовага адраджэньня нанова штучным парадкам. Спробы гэтыя мы сустракаем у другой татарскай рэспубліцы—Крымскай, дзе Бахчысарайскі мастацкі тэхнікум, які аснаваўся ўжо пасьля рэволюцыі, у цяперашні час зьяўляецца мастацка-прамысловым асяродкам Крыму, культывуючы выраб рэчаў нацыянальнага татарскага характару. Сярод гэтых рэчаў у першую чаргу варты ўвагі ласьне ювэлірныя вырабы—бранзалеты, падвескі, завушніцы і г. д., дзе робяцца спробы злучэньня старога татарскага орнамэнту з новай савецкай эмблематыкай, аналёгічна таму, як мы гэта бачылі ў ювэлірных вырабах Арменіі; але таксама досыць удалы і гафты ў рознастайных рэчах практычнага прызначэньня, як, напрыклад, у жаночых сукенках, абрусах, ручнікох, торбачках і г. д., зробленыя па белым тле спакойнымі бледнакаляровымі рысункамі ў тыпе татарскага народнага орнамэнту. Здаецца толькі, што Бахчысарайскі тэхнікум занадта ўжо вузка абмежаваў сябе выключна ў галіне традыцыйнага народнага вырабу і гэтым самым неяк набыў занадта прамысловы характар, нібыта нейкае майстэрні, дзе дасягаецца высокая дакладнасьць вытворчасьці, але не адчуваецца творчага руху наперад, так што народная орнамэнтыка не зьяўляецца тут выходным пунктам для далейшага разьвіцьця маладога татарскага мастацтва ў новым кірунку.

Каб скончыць з Усходам, нельга абмінуць бяз увагі, нарэшце, вырабы дальня-ўсходніх краін, а таксама народаў крайняе поўначы. Учора амаль зусім невядомыя гольды, арочы, ульчы, нэгідальцы, самагіры, чукчы, каракі, камчадалы ды іншыя народы, якія пры старым ладзе займалі самае апошняе месца ў „імпэрыі“ і лічыліся за самых першабытных дзікуноў,—у цяперашні час зрабіліся нам вядомы ў зусім новым аспэкце, які сьведчыць аб глыбака закладзенай у іх творчай здольнасьці і артыстычным гусьце, што прасякае мастацкім адценьнем нават самыя звычайныя вырабы іх, прызначаныя для штодзеннага ўжытку. Мы бачым тут тонкую артыстычную апрацоўку самых простых матэрыялаў—косьці, скуры, футраў,—у нечаканых дэкорацыйных комбінацыях, або ў стылізавана-рэалістычных формах. Асабліва цікава аздоба вопраткі, зробленая з аплікацыі рознакаляровых футраў у рознастайных стракатых рысунках; у такі спосаб апрацаваны кашулі, рукавіцы, нагавіцы, боты—„камасы“ і г. д. Другое месца займаюць багата орнамэнтаваныя вырабы з бяросты—рознае хатняе начыньне, скрыначкі і да т. п. Нарэшце, найболей зьдзіўляе і захапляе асобная галіна амаль што „чыстага мастацтва“—гэта вырабы з мамантавай і маржовай косьці—двух тыпаў: гравіраваныя па паверхні рэалістычна-трактаванымі пабытовымі сюжэтамі з жыцьця чукчаў, і скульптурныя—шэраг надзвычайна тонка выразаных фігур і груп розных паўночных жывёл, маленькія чалавечыя фігуркі і г. д. Высокая дакладнасьць, цярпеньне і дбайнасьць у апрацоўцы нявыгоднага, цяжкога для працы матэрыялу, нязьменная артыстычнасьць форм, багацьце фантазіі—усё гэта робіць вырабы невядомых далёкіх майстроў глыбока

каштоўнымі і ў той самы час орыгінальнымі і дазваляе спадзявацца, што ў цяперашні час агульны культурны ўздым гэтых прыгнечаных раней народаў зможа дапамагчы ім і ў галіне артыстычнае творчасьці шпарка пасунуцца наперад з тым, каб разьвіць і ўдасканаліць свае натуральныя здольнасьці і тым падняць сваё прымітыўнае пакуль што мастацтва на болей высокую ступень.

У групе славянскай асаблівае месца займае народнае мастацтва Расіі. Чыста народнае мастацтва фактычна тут захавалася мала, хаця ў формальных адносінах яно асабліва каштоўна, найболей на поўначы, дзе яшчэ жывы старыя, узгадаваныя шэрагам пакаленьняў, дэкорацыйныя традыцыі. Але гэтых народных вырабаў можна знайсьці ў цяперашні час ужо зусім нязначны лік, і першае месца займаюць амаль выключна вырабы організаванай саматужнай прамысловасьці, якая досыць шырака разгорнута ў Расіі і разьвіваецца пад інтэнсыўным надворным уплывам з боку індывідуальнага мастацтва пэўнага кірунку. Організацыя расійскай мастацка-саматужнай прамысловасьці — гэта справа ня толькі апошняга часу, але і распачатая ўжо досыць даўно. Яшчэ да вайны ў Расіі быў цэлы шэраг саматужных арцеляй, майстэрань, паказальных школ і г. д., дзе разьвіваліся розныя галіны артыстычнае вытворчасьці. Усе гэтыя інстытуцыі групаваліся ў розных раёнах, але пераважна ў Маскоўскай, Цьвярской, Уладзімерскай і Разанскай губэрнях, і існавалі спачатку зусім адасобнена, абслугоўваючы параўнальна вузкі рынак. Болей шырокая організацыя саматужнае справы распачалася з утварэньнем у Маскве Саматужнага Музэю („Кустарный Музей") і з абуджэньнем асаблівага інтарэсу да народнае творчасьці з боку некаторых артыстычных колаў. У сваёй першапачатковай структуры Музэй гэты сабраў у сабе належны лік экспонатаў з вырабаў вышэйпамянёных арцеляй і майстэрань, завязаў з імі сьціслую і сталую сувязь, організаваў шырокі продаж вырабаў на нутраным і замежным рынку і наогул павёў досыць шырокую прапаганду расійскай мастацка-саматужнай прамысловасьці. Адсюль распачаўся сыстэматычны ўплыў Музэю ў асобах яго кіраўнікоў і некаторых зьвязаных з ім мастакоў на самую вытворчасьць. Пэўныя заданьні, якія ставіў Музэй перад тымі ці іншымі саматужнікамі, індывідуальна складзеныя ўзоры вырабаў, якія апрацоўваліся пэўнымі мастакамі і перадаваліся саматужнікам для выкананьня і пашырэньня, шырокая організацыя гандлю і ў сувязі з тым задавальненьне густаў рынку, — усё гэта, на наш пагляд, не пайшло тады на карысьць саматужнага вырабніцтва, падмяніўшы ранейшую народную творчасьць на масавую вытворчасьць, з адзнакамі пэўнага шаблёну. Шаблён гэты, праўда, ня быў цалкам пазбаўлены артыстычнае вартасьці, і нават здолеў стварыць нешта накшталт сваяадменнага стылю, добра вядомага ўсім, хто жыў у Маскве ў даваенны час, як стыль „Кустарного Музея". Стыль гэты шмат каму падабаўся, і ў кожным разе вырабы яго карысталіся на рынку значным

посьпехам, не зважаючы на іх досыць высокі кошт. Што да нас, аднак дык мы ніколі не маглі пазбавіцца зусім адмоўных да яго адносін, я да чагосьці штучнага, надуманага, сьціслa зьвязанага з г. зв. „сусальным" нібытарасійскім стылем, які ў свой час наагул быў вельмі моцна пашыраны ў расійскім мастацтве, задавальняючы прымітыўныя патрыотычныя патрэбы пераважна неспакушоных у артыстычных тонкасьцях купцоў. Ніколі, гледзячы на гэтыя вырабы, мы не маглі пазбавіцца жалю аб сапраўдным народным мастацтве, якое было прынесена ў афяру рынку і яго ўсемагутным густам... З таго часу прайшло больш як дзесяць год, і шмат якія ўмовы зьмяніліся; але, на дзіва, і ў цяперашні час яшчэ можна ўбачыць шмат што з гэтых вырабаў, амаль нязьмененых, зноў адноўленых у тым самым стылі і характары: усе гэтыя разьбярчыя скрыначкі, прылады для пісьма, рамкі, палічкі, выпальваныя з расфарбоўкай карцінкі (толькі новы сюжэт: замест „білібінскіх" казак—політычныя тэмы), вышываныя бювары, падушкі і г. д.,—адным словам, увесь гэты ранейшы асортымэнт мала патрэбных прадметаў, дзе прызначэньне органічна супярэчыць орнамэнтыцы, дзе адчуваеш усю безнадзейную штучнасьць злучэньня нібыта народных мотываў з прадметамі, якія з сапраўднай народнай культурай і побытам ня маюць нічога супольнага. Пасьля часовага зацішша ў цягу вайны і першых гадоў рэволюцыі, „Кустарный Музей" аднавіў, відаць, сваю ранейшую дзейнасьць, не зважаючы на тое, што ён ужо організаваны цяпер як Музэй Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі і зусім зьменены ў складзе сваіх аддзелаў, наколькі нам ўдалося даведацца.

Праўда, аднача сна з гэтым старым, і на наш пагляд зусім непатрэбным, асабліва ў цяперашні час, кірункам у некаторых майстэрнях, зьвязаных, здаецца, з Музэем і з ВСНГ, наглядаецца і нешта іншае, болей, на нашую думку, каштоўнае. Папершае, тут зварачае на сябе ўвагу Палехаўская Арцель Старадаўняга Малярства ў сяле Палехах Шуйскага павету Іванава-Вазьнясенскай губэрні. Мінулае гэтае арцелі досыць добра вядома ў гісторыі мастацтва, каб трэба было на ім доўга спыняцца: працуючы з даўніх часоў у галіне іконапісу, палехаўскія майстры стварылі ў свой час своеадменны стыль так званага „палехаўскага пісьма", які зусім незаслужана лічыўся некаторымі аўтарамі за найболей упадачны кірунак расійскага іконапіснага мастацтва; фактычна, палехаўскае пісьмо, хоць і пагрунтаванае на позьнім маскоўскім іконапісе, было зьявай высокага малярскага майстэрства, а часам і запраўды натхненнае творчасьці, формальныя дасягненьні якой, ня меншыя, як і і ў іншых расійскіх іконапісных школах, стала захоўваліся неперарыўнай традыцыяй аж да нашых часоў у гэтым маленькім кавалку старой Масковіі. З надыходам рэволюцыі гэтае майстэрства было-б, зразумела, прызначана на паступовае зьнішчэньне і адміраньне,—але ў даным выпадку адыграў важную ролю ўжо бязумоўна дадатны ўплыў з боку Музэю ВСНГ, які ўлічыў высокую

формальную якасьць палехаўскай тэхнікі і здолеў яе захаваць, пераводзячы палехаўскіх майстроў з ранейшага іконапісу на распрацоўку новых сюжэтаў у дапасаваньні да тых ці іншых рэчаў практычнага ўжытку. Вынікі атрымаліся надзвычайна цікавыя: формальнае майстэрства палехаўцаў было настолькі высокім і настолькі моцна ўсталяваным, што ў гэтых адносінах ніякаму ўплыву яны не падлеглі, і цалкам захавалі ўсю сваю характэрную манеру дасканалага дробнага пісьма, надзвычайна тонкага і барвістага, з зусім асаблівымі прыёмамі кампозыцыі і трактоўкі; але яны з ахвотаю ўзяліся за новы сюжэт, нацыянальна-пабытовага і, часткова, рэволюцыйнага характару, і першыя спробы іх у даным кірунку, бясспрэчна, варты ўсялякае ўвагі: зьвязваючы старую традыцыю з сучаснай тэмай шляхам органічнага ўспрыйманьня гэтае тэмы і ператварэньня яе ў прыёмах традыцыйнае формальнае мовы, яны здаюцца майстэрствам высокага маштабу, дзе адчуваецца моц сапраўды народнай артыстычнай культуры. Сярод сучасных палехаўскіх майстроў ужо выдзяляюцца пэўныя імёны найболей таленавітых і арыгінальных: Голікава, Катухіна, Маркічова, Баканава і інш.,—але яны ня ўхіляюцца ў бок індывідуалізацыі творчасьці і не адыходзяць ад цьвёрдых, супольных усёй арцелі прынцыпаў, што стварае адну суцэльную, выразна афармленую „школу“ і толькі падкрэсьлівае яе жыцьцёвасьць.

Аналёгічная зьява, хоць і без асабліва рэзкага пераходу ад аднаго сюжэту да іншага, адбылася ў другім, таксама досыць старадаўнім асяродку артыстычнага вырабу, а ласьне ў вёсцы Фядоскіна Маскоўскае губэрні, у арцелі маляраў з ліку майстроў вядомае старое фабрыкі Лукуціна, дзе рабіліся ў свой час пераважна табакеркі і іншыя аналёгічныя дробныя рэчы з пап‘е-машэ, аздобленыя характэрнымі малюнкамі пабытовага зьместу. Гэтае вырабніцтва, найбольшы росквіт якога прыпадае на першую палову XIX сталецьця, таксама вызначалася сваяадменным стылем росьпісу, хоць і значна грубейшым за палехаўскі, але цікавым і характэрным. Захаваць традыцыю тут было, зразумела, лягчэй, як у Палехах, бо часткова сюжэт тут і цалком мог застацца, часткова-ж унясеньне сучаснае тэмы магло быць прасьцей пры агульна-пабытовым кірунку гэтага малярства. У кожным разе, аднак, і тут трэба адзначыць бясспрэчную заслугу Музэю ВСНГ у падтрыманьні гэтага цікавага вырабніцтва, якое ў апошнія гады перад вайной ужо пачало прыкметна занепадаць, тады як цяпер наглядаецца жвавае яго аднаўленьне, разам з падыходам да новага сюжэту, а часткова, нават, і да новых тыпаў саміх прадметаў вырабу. Наогул, музэй у апошнія часы ўсё-ж зрабіў вялікую справу захаваньня некаторых відаў народнае творчасьці, якія раней былі прыстасаваны да пэўных мэт, і няўхільна павінны былі-б зусім зьнікнуць у ўмовах новага рэволюцыйнага побыту, ня гледзячы на тое, што шмат якія з іх мелі сапраўды высокія формальныя і тэхнічныя вартасьці. Умелае кіраўніцтва ў даным выпадку, захоўваючы старыя формальныя асновы,

выводзіць з іх зусім новыя фактычна кірункі народнага мастацтва, дзе есьць шмат цікавага і каштоўнага. У гэтых адносінах варты ўвагі таксама і некаторыя іншыя, толькі нядаўна распачатыя спробы,—напрыклад, стварэньне Растоўскай (у Растове Яраслаўскім) Ювэлірна-фініфцянай Вучэбна-Паказальнай майстэрні ВСНГ, тэхнічныя прыёмы вырабніцтва якой пагрунтаваны на тых фініфцяных абразкох, якія рабілі раней растоўскія саматужнікі, пры пераходзе, зразумела, на выраб іншых прадметаў і на зусім іншы сюжэт.

З ліку іншых расійскіх вырабаў, ужо ня зьвязаных з Саматужным Музэем і яго спэцыфічным кірункам, найболей зьвяртае на сябе ўвагу шырака разгорнутая ў Расіі анталяжная вытворчасьць, якая да цяперашняга часу захавала сваю ўласную тонкую тэхніку і орыгінальны стыль вядомых „расійскіх карунак“, заўсёды забясьпечаных рынкам збыту, ня гледзячы на конкурэнцыю з боку аналёгічных фабрычных вырабаў. Пасьля рэволюцыі вытворчасьць гэтая была падтрымана і належным чынам арганізавана ў Прамысловай Коопэрацыі і часткова ў ВСНГ, галоўным чынам у Валагодзкай, Вяцкай і Разанскай губэрнях, дзе ёсьць шэраг спэцыяльных асяродкаў, выключна занятых вырабам карунак, а таксама заснаваны адпаведныя школы і майстэрні, напрыклад, Анталяжная Вучэбна-Паказальная майстэрня Разанскае губэрні, або Кадомская (таксама ў Разанскай губ.) Анталяжная школа ВСНГ. Гэтыя майстэрні і школы, здаецца, ня ўносяць нічога новага ў традыцыйныя мотывы расійскіх карунак, і толькі захоўваюць старадаўнюю вырабнічую традыцыю, усталяваную ў саматужнай прамысловасьці памянёных раёнаў, можа толькі крыху ўскладняючы і ўдасканальваючы самую тэхніку вырабу. На наш пагляд, такая сьціслая сувязь з чыстай народнай асновай дае вельмі дадатныя вынікі і значна лепей вырашае проблему сучаснага існаваньня мастацкай саматужнай вытворчасьці, ніж тыя спробы формальнага ёй кіраўніцтва, якія мы бачым у некаторых іншых яе галінах. Амаль тое самае можна сказаць яшчэ і аб гафтах, напрыклад, у працах Гарускай Арцелі Гафтавальніц (Калускае губ.) або Багародзіцкае Коопэрацыйнае арцелі „Женское Дело“ (Тульскае губ.), дзе выяўляецца тая самая строгая залежнасьць ад чыстых народных узораў і, разам з дакладнай тэхнікай выкананьня, нязьменная чыстата мясцовых народных традыцый.

Нарэшце, трэба адзначыць яшчэ адну вельмі цікавую спробу падтрыманьня і аднаўленьня амаль што зусім ужо зьніклае і закінутае мастацкае вытворчасьці, якая здавалася цалкам ужо забітай фабрычным вырабам: мы маем на ўвазе калісьці значна пашыраную ў Расіі выбайку („набойку“), захаваную ў сваіх найлепшых формах у працах Е. Паўсьцянога (у Маскве) які ўвесь час працуе над удасканаленьнем выбойнае тэхнікі, складае новыя рысункі, уводзячы ў іх сучасныя элемэнты, і сапраўды стварае надзвычайна артыстычныя ўзоры з рознастайнай орнамэнтыкай і вельмі ўдалым даборам фарбавых спалучэньняў. Аднаўленьне гэтага вырабу не

засталося бяз вынікаў, і выбайна сапраўды знайшла сабе досыць шырокае прыстасаваньне ў сучасным ужытковым мастацтве, асабліва ў мэблі, дзе яна значна лепей за фабрычную тканіну можа быць узгоднена з тым ці іншым артыстычным замыслам.

У процілегласьць Расіі, на Украіне і ў Беларусі на першае месца высоўваюцца ласьне народныя формы мастацка-саматужнае вытворчасьці з рысамі цалкам чыстага народнага стылю. Апошняе асабліва каштоўна ў вырабах Украіны, якія пераважна складаюцца з продукцыі шэрагу прамысловых і прамыслова-вучэбных організацый, не адарваных, аднак, ад народных асноў і сьцісла зьлітых у сваёй дзейнасьці з сапраўдным народным мастацтвам, крыніцы якога на Украіне яшчэ надзвычайна моцныя. У апошнім трэба адзначыць вялікую заслугу Усеукраінскага Коопэрацыйнага Прамыслова-Крэдытнага Саюзу, які ў цяперашні час зьяўляецца галоўным кіраўніком і організатарам саматужнага вырабніцтва, забясьпечваючы яму шырокі рынак збыту і ў межах рэспублікі і за яе рубяжамі аж да Амэрыкі і ў той самы час накіроўваючы яго на шлях органічнага разьвіцьця сваіх уласных артыстычных форм, бяз жаднае „дыктатуры“ з боку індывідуальнага мастацтва, якая парушала-б яго суцэльную стылістычную тыповасьць. Адсюль—найболей строгае захаваньне чыстых народных прыёмаў і традыцый, умелае выкарыстаньне ўсяго таго багацьця, якое мае украінскі сялянскі побыт, глыбака прасякнуты сапраўднымі артыстычнымі элемэнтамі. Належнае вырашэньне гэтых задач яшчэ палягчаецца тым, што аналёгічнага кірунку трымаецца на Украіне таксама і профэсыянальна-тэхнічная асьвета ў адпаведных навучальных інстытуцыях.

Асновай сучаснае мастацкае прамысловасьці Украіны зьяўляюцца яе вядомыя народныя вырабы ў галіне кілімарства, тканіны, гафтаваньня, керамікі і часткова—дэкорацыйнага сялянскага малярства. Усе гэтыя галіны, здаўна пашыраныя і разьвітыя на Украіне, а ў нядаўнія часы часткова ўжо заняпалыя, як, напрыклад, вырабніцтва цікавых, своеасаблівых у сваёй орнамэнтацы і афарбоўцы кілімаў,—адраджаюцца цяпер нанова з буйным размахам і бляскам. Іх артыстычная вартасьць даўно ўжо мае заслужаную слыннасьць ня толькі на Украіне, але таксама і далёка па-за яе межамі. Тыя самыя кілімы з посьпехам конкуравалі ў свой час нават у Заходняй Эўропе з аналёгічнымі ўсходнімі вырабамі; шырака вядомы прыгожыя украінскія „плахты“—дэкорацыйныя тканіны характэрнага геомэтрычнага рысунку ў гармонічна дапасаваных колерах; украінскія гафты з іх тонкай, пераважна стылізаванай расьліннай орнамэнтыкай наогул займаюць адно з першых месц сярод аналёгічных вырабаў Эўропы; нарэшце — эфэктоўная украінская кераміка з Палтаўшчыны, Мяжыгор'я ды іншых мясцовасьцяй таксама даўно ўжо знаходзіла сваіх прыхільнікаў і аматараў, якія па заслугах ацэньвалі яе прыгожы і орыгінальны стыль. Усё гэта мы і бачым цяпер на Украіне,—адноўленым,

з замілаваньнем падтрыманым, паднятым да організаванае мастацкае прамысловасьці,—але бяз шкоды для сапраўднае артыстычнасьці, часам, нават, яшчэ болей удасканаленага вырабу і з асаблівым выяўленьнем усяе свае характэрнае стылістыкі ў чыстых нацыянальных формах.

Першае месца тут, бязумоўна, займае тканіна як напалову прамысловага, гэтак і чыста прамысловага вырабу. Тут асабліва зварачаюць на сябе ўвагу цікавыя Кралявецкія і Багуслаўскія тканіны—першыя ў чырвоных і белых колерах, і ў пазьнейшых вырабах сінія з рознастайнымі рысункамі, а другія—цёмныя ў сіняватых і зеленаватых тонах. Далей трэба адзначыць вытворчасьць ткацкай арцелі „Червона Квітка“ з Рашацілаўкі Палтаўскага раёну. Вырабы яе, дасканалыя па тэхніцы, вызначаюцца вялікім густам і хараством; мы тут знаходзім значных памераў кілімы з буйной расьліннай орнамэнтыкай, таксама вялікія плахтавыя абрусы, нарэшце, звычайнага тыпу плахты і паяскі з высока дасканалым даборам фарб, асабліва ў лілёвых і залацістых адценьнях. Да гэтае масы далучаюцца яшчэ шматлічныя гафты, пераважна—гафтаваныя жаночыя сукенкі і мужчынскія кашулі, якія ў цяперашні час маюць значнае пашырэньне на Украіне, а таксама зьяўляюцца прадметамі досыць шырокага экспортнага вывазу.

Вырабы іншага тыпу мы бачым у Камянец-Падольскай Профэсыянальна-Тэхнічнай школе. Тканіны яе і гафты не перавышаюць звычайнага сярэдняга ўзроўню. Але вельмі цікавую і каштоўную працу школа гэтая робіць, папершае, у справе зьбіраньня і выданьня праз уласную літографію альбомаў народнага мастацтва, сярод якіх зварачаюць на сябе ўвагу ўзоры народных гафтаў, а таксама цікавай галіны украінскага сялянскага мастацтва—насьценнага малярства, з дапамогай якога аздабляюцца нутраныя і надворныя сьцены хат. Падругое—школа гэтая дае шэраг добрых керамічных вырабаў з мясцовае гліны, якія ў формах сваіх выходзяць беспасрэдна з народных узораў і толькі маюць нахіл да крыху болей цёмных адценьняў палівы і да некаторае стылізацыі орнамэнту. Наогул, другое месца ў вырабах Украіны, бясспрэчна, займае кераміка.

Для заканчэньня нашага кароткага нарысу нам застаецца яшчэ разгледзець народнае мастацтва сучаснае Беларусі. У параўнаньні да большасьці іншых краін, яно асабліва вызначаецца сваім выключна народным, пераважна сялянскім характарам, з зусім нязначнай дамешкай прымітыўных спроб скарыстаньня народных мотываў у працах Мастацкага Тэхнікуму ў Віцебску. Народнае мастацтва ў Беларусі, апроч вельмі нязначных выняткаў накшталт Барысаўскага ганчарства, цалкам яшчэ знаходзіцца ў стадыі хатняга вырабу, не пераходзячы ў саматужную прамысловасьць, разьлічаную на больш-менш шырокі рынак, як мы гэта бачым у іншых краінах. Некаторыя яго галіны, як, напрыклад, разьбярства, ствараюць рэчы, прызначаныя выключна для сваіх уласных патрэб,

у іншых галінах, галоўным чынам у тканіне,—самыя лепшыя вырабы таксама выключна ідуць для ўласнага ўжытку, і толькі болей простая, грубая тканіна часткова пашыраецца шляхам продажу, прычым, аднак, і ў гэтым выпадку выраб яе застаецца ўсё-ж досыць выпадковым і не набывае прамысловага характару. Саматужнікаў у сьцiслым сэнсе гэтага слова, г. зн. асоб, спэцыяльна занятых у галіне мастацкага вырабніцтва, у Беларусі амаль што зусім няма, і нават у апошнія гады яшчэ нічога ня зроблена ў даным кірунку. Усё гэта мае вынікам тое, што беларускае народнае мастацтва ў найболей чыстым відзе захоўвае ўсю непасрэднасьць чыста народнае творчасьці, галоўным чынам беларускае вёскі, і толькі часткова мястэчка і места амаль што не падлягаюць ніякім надворным уплывам. Ранейшыя ўмовы беларускага сялянскага жыцьця асабліва гэтаму спрыялі: слабое разьвіцьцё індустрыі і вельмі нязначнае пашырэньне ў вёсцы фабрычных вырабаў дапамагала сталаму захаваньню ўласнае хатняе вытворчасьці, якой сяляне займаліся ў вольныя ад іншае працы часы. Адносіны гэтыя толькі зусім нядаўна пачалі часткова відазьмяняцца: так, вайна, бязумоўна, спрычынілася да часовага пасьлабленьня народнае артыстычнае творчасьці, а ў апошнія гады наглядаецца паступовае яе аднаўленьне і часткова зьяўленьне некаторых новых мотываў пад уплывам зьмененых форм сучаснага побыту. Апошняе адбываецца, аднак, надзвычайна павольна і ў асноўным яшчэ не зьмяняе характэрных рыс беларускага народнага мастацтва. Асновы яго застаюцца і да цяперашняга часу глыбака традыцыйнымі і надзвычайна сталымі. У некаторых сваіх галінах яно захоўвае свае найболей старадаўнія тэхнічныя прыёмы і орнамэнтальныя схэмы самага чыстага стылю. Адсюль мы бачым пераважную геомэтрычнасьць беларускае народнае орнамэнтыкі, асабліва ў тканінах і гафтах, якія зьяўляюцца продуктам творчасьці сялянкі, найболей адданай старым артыстычным традыцыям.

Важнейшае месца сярод беларускіх народных мастацкіх вырабаў займае тканіна і гафтаваньне. Найболей характэрныя ўзоры маюць традыцыйную геомэтрычную орнамэнтыку, прычым выяўляюць багацьце і рознастайнасьць паасобных рысункаў, дзе зьмена дэкорацыйных мотываў дасягаецца ня толькі шляхам зьмены самага рысунку, але і з дапамогай рознае яго афарбоўкі ў характэрных каляровых спалучэньнях, нярэдка пабудаваных на прынцыпе дадатковых тонаў. Сярод гэтых спалучэньняў можна адзначыць некалькі найболей эфэктоўных, напрыклад, лілёвага з жоўтым і цёмна-сіняга з цёмна-зялёным, што нам ня раз даводзілася бачыць у надзвычайна прыгожых прыкладах. Характэрныя беларускія гафты ўжо ня маюць тае рознастайнасьці колераў, як тканіны, і збудаваны амаль выключна на спалучэньні чырвонага рысунку розных адценьняў з белым або шэрым тлом палатна.

Але колькасьць паасобных рысункаў тут надзвычайна вялікая, прычым асабліва цікавы ўсе тыя мотывы, якія выходзяць з рознастайнае трак-

тоўкі г. званых „кругоў“, г. зн. квадратаў або ромбаў, а таксама старыя тыпы гафтаў, дзе тло ў прамежках паміж рысункамі стварае аналёгічныя яму, ня меней правільныя фігуры. У пазьнейшых тыпах ўжо зьнікае гэтая строгая залежнасьць між тлом і рысункам, а часткова зьяўляюцца ўжо і некаторыя новыя колеры, а таксама новыя, напрыклад, расьлінныя мотывы орнамэнтыкі, значна меней строгія і меней тыповыя.

У іншых галінах беларускае народнае творчасьці зьяўляецца высока характэрным драўлянае разьбярства, якое мела калісьці сваю багатую гісторыю ў Беларусі, а ў цяперашні час захавалася ў розна-стайных, часта вельмі складаных дэкорацыйных аздобах пераважна ў паасобных надворных частках сялянскіх хат і часткова невялічкіх драў-ляных будынкаў у местах. Гэтыя разьбярныя аздобы цікавыя і з тэх-нічнага боку, бо яны амаль што выключна робяцца спосабам „прарэзу“ і толькі часам, як плоскі рэльеф,—маюць апроч таго таксама і ясныя рысы цалкам сваяадменнага дэкорацыйнага стылю, пры большым, нават, як у тканіне, багацьці орнамэнтальных мотываў, не абмежаваных аднэй толькі геомэтрычнай орнамэнтыкай,—якая, праўда, пераважае,—але дапоў-неных у асобных выпадках яшчэ і шэрагам расьлінных і часткова жывёлавых элемэнтаў.

Далей трэба адзначыць кераміку. Гэтая галіна, у процілегласьць памянёным вышэй, папершае—мае ў Беларусі характар саматужнага пра-мысловага вырабніцтва, а падругое—пашырана не па ўсёй тэрыторыі Беларусі, але толькі ў некаторых пэўных мясцовасьцях, першае месца сярод якіх займае места Барысаў, і наагул Барысаўшчына.

Беларуская кераміка, хоць і ня мае такой эфэктоўнасьці і дэкора-цыйнай пышнасьці, як украінская,—але ўсё-ж досыць цікава і не павінна абмінацца бяз увагі сярод іншых галін беларускага народнага мастацтва, тым болей, што, маючы ўжо цяпер характар саматужнага вырабніцтва, яна адна з першых можа разлічваць на далейшы рост і разьвіцьцё. Да таго-ж яна мае ў некаторых сваіх узорах таксама і бясспрэчную арты-стычную вартасьць: тут можна адзначыць досыць характэрную, пераважна расьлінную орнамэнтыку, трактаваную рэльефам у аднакаляровай, цёмна-зялёнай або цынамонавай паліве, а таксама вельмі цікавыя ўзоры зусім орхаічных тыпаў стылізаваных зьвярыных і чалавечых фігурак, часткова ў дзіцячых забаўках, а часткова і ў некаторых рэчах практыч-нага прызначэньня, напрыклад, у бутэльках, або іншым падобным начыньні ў выглядзе розных жывёл. Керамічныя вырабы Віцебскага Мастацкага Тэхнікуму значна меней цікавы: гэта толькі першыя спробы яго ў галіне керамічнае вытворчасьці, дзе ўжо наглядаецца досыць доб-рая тэхніка вырабу, прыгожыя фарбы палівы і ўдалы апал, — але дзе зусім яшчэ ня відаць цікавых форм і вартай увагі орнамэнтыкі і дзе нават самы стыль вырабаў яшчэ надзвычайна спрэчны, маючы вельмі мала супольнага з сапраўднай народнай традыцыяй.

Каб скончыць з беларускім народным мастацтвам, трэба, нарэшце, яшчэ памянуць шэраг болей дробных і меней пашыраных у Беларусі галін вырабніцтва. Так, напрыклад, цікавае ўражаньне робяць рознакаляровыя вырабы з стружак, у асноўных рысах сваіх блізкія да тканіны; далей бываюць часам досыць арыгінальны фігурныя рыначныя пернікі рознастайных форм і афарбоўкі; нарэшце, існуе, зусім мала вядомая галіна беларускага народнага мастацтва,—а ласьне сваяадменны від сялянскага малярства на паасобных кавалках звычайнае, часам нават газэтнае паперы, якія служаць у некаторых мясцовасьцях Беларусі замест шпалер для абклейкі вясковых хат; характэрныя мотывы гэтага малярства складаюцца з вялікіх, намаляваных яскравымі фарбамі, сымэтрычна стылізаваных букетаў кветак, якія ў сваёй композыцыі блізка нагадваюць орнамэнтыку слуцкіх паясоў пазьнейшага пэрыоду, калі асноўныя пэрскія мотывы апошніх былі ўжо пераапрацаваны пад уплывам народнага густу,—і ў гэтым сэнсе зьяўляюцца вельмі каштоўным матэрыялам для высьвятленьня некаторых узаемных стасункаў паміж мотывамі чыстае народнае творчасьці і болей складаным дэкорацыйным мастацтвам, якое было ў свой час продуктам высокага разьвіцьця старой беларускай мастацкай прамысловасьці канца XVIII і пачатку XIX сталецьця.

# АГЛЯД ЧЭХАСЛАВАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**Ф. Вейскопф**

I

У Чэхаславакії, таксама як у Нямеччыне і ў іншых краінах, на долю якіх выпала благаславенства капіталістычнай стабілізацыі, гэта эканомічная і палітычная консолідацыя, якая праводзіцца за кошт пролетарскіх мас, зрабіла значны ўплыў на разьвіцьцё літаратуры.

На руінах разьбітых забастовак, на сьпінах ізноў прыдушаных мас, якія паўстаюць, на дзесяты год існаваньня „іх“ рэспублікі ўсталявалася пануючая кляса, якая пасьля ўсіх узрушэньняў і крызісаў першых пасьля вайны год, дэмонструе хоць-бы для самаасалоды моц і непарушнасьць існуючага ладу і перш за ўсё і ва ўсім шукае „спакою і парадку“. Спакою і парадку на вуліцах і ў парляманце, спакою і парадку ў вуглёвых капальнях і ў тэатры.

З гэтай прычыны гусыцкая традыцыя пануючай клясе ўжо не да твару, і яна падмяняе яе больш „сваячасовай“ традыцыяй сьвятога Вацлава і замест састарэлага бунтарскага лёзунгу Масарыка—„Табор—наша програма, Рым падлягае суду і засуджэньню“—яна сьвядома высоўвае новы, рэакцыйны лёзунг правадыра буржуазнай коаліцыі Годжы—„Сьвяты Вацлаў—сымболь нашай тысячалетняй традыцыі дзяржаўнага народу“.

З гэтай прычыны супроць дзіцячай хваробы прогрэсызму, пакінутай у спадчыну ад часоў нацыянальнай вызваленчай барацьбы, вядзецца ўпартая няўхільная барацьба, і на розныя манеры прапаведуецца „здаровы“ ангельскі консэрватызм (Пенклюб, Стэндард, Лібрэры, сьвецкі клюб, пачкі фэльетонаў і артыкулаў клікі Караля Чапэка).

З гэтай прычыны і да літаратуры прад'яўлена вымаганьне: далоў усякі драматызм, хоць-бы колькі-небудзь выбуховы, далоў трактоўку хвалюючых пытаньняў дня—нават пад маскай гісторыі ці утопіі, а яшчэ гады два таму назад гэта было ўлюбёным фабрыкатам „левых“ інтэлігентаў (напрыклад, драма аб Спартаку—О. Фішэра).

Далоў фэйервэрк вершаў, калі ён хоць здалёку пагражае небясьпекаю пажару, далоў нават выключна формальную рэволюцыю „поэтызму“. Давай акуратную, добранадзейную, няздольную хвалявац, літаратуру! Консолідацыя, і тут консолідацыя!

## II

Моцна заселі і адчуваюць сябе ўпэўнена. Ізноў ёсьць вольны час, час чытаць і пісаць тоўстыя кнігі, час мусіраваць проблемы і дэбатаваць аб пытаньнях, займацца якімі ня было ні часу, ні магчымасьці ў дні мітусяніны і сусьветнай завірухі.

Роман таўсты, вельмі часта многатомны роман цяпер у росквіце.

Такія зьявы, як А. Ц. Нор, які амаль што з дакладнасьцю машыны выпушчае адзін за другім романы з жыцьця вёскі, ці троха больш дарослы М. Б. Бэнэль, які за адзін толькі апошні год пасьпеў выпусьціць два грамадзскіх романы больш як на тысячу старонак, гэта таксама тыпова, як, напрыклад, І. Копта, які ўсьлед за сваім романам з жыцьця Чэхаславацкіх легіянэраў у Сібіры пад загалоўкам „Трэцяя рота“, напісаным два гады таму назад і за гэты час вытрымаўшым сем выданьняў (зусім нязвычайны посьпех у чэхаславацкіх умовах), выпускае таўсты (400 старонак) працяг—„Трэцяя рота на магістралі“ і адначасна паведамляе аб наступным романе тэй-жа сэрыі.

Калі вясковыя романы Нора „Развал сям'і Кір“ і „Раймунд Халупнік“ зьвязаны са старымі традыцыямі (бо романы з жыцьця вёскі складаюць даволі вялікі процант усёй чэскай бэлетрыстычнай продукцыі), дык Бэнэль робіць спробу пашырыць новую традыцыю, прапаведваючы ў сваіх кніжках мужнасьць і абмалоджаны здаравенны амэрыканізм.

Але і ўцёкі ад мяшчанства, прага ўхілу ад добранадзейнай абывальшчыны знаходзяць сабе задаваленьне ў цікаўным романе, прычым грамадзкая бясьпечнасьць гэтых „разрываў з абывательшчынай“ даволі забясьпечана ўжо тэй акалічнасьцю, што аўтары, якія абслугоўваюць гатую функцыю авантурных і басяцкіх романаў... соцыял-демократы, рэдактары Цэнтральнага органу соцыял-дэмократычнай партыі ЧСР (Ф. В. Крэйчы—„V антыподаў“, і Э. Вахэк—„Бідылко“).

Вахэк і Крэйчы, Копта і Нор—журналістыя, і гэта адбіваецца, не заўсёды добра, і на іх літаратурных творах.

Роман Вахэка з жыцьця „дна“, ня гледзячы на ўсе недахваты, на неахайнасьць мовы і композыцыі, на частую расьцягласьць і на прарывы, усё-ж—твор, варты ўвагі. Герой яго кнігі Фэрдынанд Ставіног—парыскі апаш, правадыр „херувімскай банды“, прадмет барацьбы проституткі і вулічнай гандляркі, гэты парыскі „пепік“ (хлышч), які ўрэшце робіцца чэсным уласьнікам тытунёвай крамкі (права продажу тытуну, з прычыны монополіі тытунёвага гандлю, даецца „людзям, якія заслугоўваюць давер'е“)—гэта такая дасканалая жывая фігура, што застаецца толькі пажадаць, каб аўтар зноў (у трэці раз) пераапрацаваў сваю кнігу.

Наадварот, Нор ломіць старую форму роману, ён сам дае сваім кнігам падзагалоўкі накшталт такіх: „зусім не роман“ ці „ўсё яшчэ не роман“, але і новай формы, напрыклад, формы рэпортажнага роману, замест старой, ня дана.

Вольнага часу шмат: ёсьць і вольны час, каб пакапацца ў далёкім мінулым. Яраслаў Дурых, малавядомы нават у межах сваёй краіны, скончыў вялікі роман „Валенштэйн“. Калі меркаваць аб гэтым романе па адным разьдзеле. выданым у выглядзе самастойнай новэлі (Кур'ер), і яшчэ па некалькіх надрукаваных урыўках, напісаных надзіва дасканалаю адшліфаванаю моваю,—дык можна чакаць твору вялікай значнасьці.

Дурых—містык, веруючы католік. Да нядаўнага часу ён быў адзінай фігурай, якой магла пахваліцца каталіцкая чэская літаратура. І зноў аж занадта характэрны факт для сучаснай эпохі рэакцыйнай стабілізацыі: сярод маладога літаратурнага пакаленьня зьявіўся прадстаўнік каталіцкага містыцызму—І. Чэп, і яго першая кніга (Новэлі „Успаміны дзяцінства“) гаворыць аб вялікім таленце стылістага. Калі мы дададзім да гэтага яшчэ цэлы шэраг пісьменьнікаў і поэтаў, якія пачынаюць выдаваць свае зборы твораў (Ольбрахт, Цільшова, Махар, Дык, Шрамэк, Нэйман і інш.), дык „стабілізацыйныя тэндэнцыі“ сучаснага літаратурнага пэрыоду выступаюць асабліва выразна.

### III

Але і на лягеры той літаратуры, якая варожа ці, па меншай меры, адмоўна адносіцца да пануючай клясы і яе консолідаванага „парадку і спакою“, няўхільна адчуваецца консолідацыя гэтага пануючага рэжыму. Адступленьне скончылася, заняты абарончыя позыцыі. Ізноў зьбіраюцца з сіламі, рыхтуюцца, пачынаецца і новая творчасьць—упяршыню пасьля закату пролетарскай поэзіі, але на гэты раз з іншага, больш моцнага матэрыялу, адпаведна абставінам, якія зьмяніліся, адным словам—ізноў нешта на манер пачатку новай, большага маштабу пролетарскай літаратуры.

Мы стаім толькі каля самых вытокаў новай плыні, але тэндэнцыя гэтага процэсу і яго кірунак пачынаюць ужо выяўляцца. Пачынаюць з таго, што скрозь дасьлядоўнае павялічальнае шкелца разглядваюць нядаўнае мінулае—вайна, барацьба за нацыянальнае вызваленьне, утварэньне рэспублікі,—і ўзьнікае пытаньне: хто прыносіў ахвяры і хто карыстаецца здабытым? Як ланцэтам, ускрываюць гісторыю барацьбы за нацыянальную незалежнасьць, і вось адпадае шалупіньне надзей і ілюзій, і адна толькі голая костка застаецца—жорсткае расчараваньне пролетарыяту, спрытна і мэтодычна абдуранага сваёю-ж уласнай буржуазіяй. Літаратура пачынае перажываць тое, што ў політыцы зьяўляецца ўжо амаль што скончаным процэсам.

Так, Ганна Марыя Цільшова піша двохтомны роман „Гальды“. Месца дзеяньня—Востраўскі вуглёвы раён, зьмест—жыцьцё рабочых, вайна, суровае нацыянальнае прыгнечаньне, бессаромная эксплёатацыя, мілітарызм і нацыянальная вызваленчая барацьба. З прычыны надзвычайнай расьцягласьці і расплыўлівасьці, часта траціцца выразная адзіная нітка сюжэту, але ўсё-ж такі гэты твор варты вялікай увагі.

Так лірык Язэп Гора, які зусім адышоў у сваёй апошняй кнізе вершаў ад соцыяльнага жыцьця, піша пасьля першай няўдалай спробы роману, роман-хроніку „Галодны год“. Гэта гісторыя провінцыяльнага чэскага гораду ў час вайны і ў першыя гады пасьля вайны. Уплыў вайны на жыхароў гэтага гораду, паступовае разбурэньне сталёвага апарату ўлады, нарастаньне адпору прыгнечаных мас,—усё гэта так жыва выяўлена, як і вялікі зьвярынец аўстрыйскіх чыноўнікаў, багатых кулакоў, прагавітых вайсковых дастаўшчыкаў, жандараў, фэльдфэбэляў, падлізнастаўнікаў і г. д.

З новымі романамі выступаюць таксама Веньямін Клічка і Кароль Новы. Першы піша гісторыю легіянэра, які вярнуўся на сваю вызваленую бацькаўшчыну і які перажывае ня мала расчараваньняў („Брады“); другі роман—з вясковага жыцьця („Хутар Кржэшын“).

Кніга Клічкі, ня гледзячы на яўныя намаганьні, не перавышае каштоўнасьці сярэдняга роману, затое роман Новага зусім такі не благі. Гэта ня звычайны сялянскі роман, а роман вясковых пролетараў—гісторыя колёніі рабочых-каменяломнікаў, апальнікаў вапны, цагельнікаў,—гісторыя бязрадаснага, сумнага жыцьця, „Жыцьцё—акрайчык хлеба“. У гэтай кнізе відаць пасьпешная работа над моваю і ўпэўненае панаваньне аўтара над матэрыялам.

Клічка і Новы, як ізноў паказалі іх апошнія творы, знаходзяцца пад моцным уплывам Ванчуры, самага лепшага майстра формы сярод маладога пакаленьня. Ванчура ў сучасны момант працуе над вялікім романам з жыцьця старога праскага кварталу, населенага бурлакамі—„Страшны суд“. Яго апошняя кніга—„Капрызнае Лета“, простая гісторыя прыгод маленькай кампаніі ў маленькім гарадку, паказала гэтага аўтара з новага боку. Той самы Ванчура, які звычайна варочае масыўнымі брыламі, ці як аб ім удала абазвалася крытыка, „працуе над матэрыялам цяжэй за паветра“, у гэтай кнізе выступіў у ролі гумарыстага. У гэтай маленькай кніжачцы вялічавасьць і лютая сур'ёзнасьць амэрыканскіх гротэскных танцораў ці фільмовых пэрсонажаў Чапліна, а ў мове, як заўсёды, у Ванчуры апокаліптычная палкасьць прарочага патосу.

## IV

. . . . . . .

Уласна кажучы, замест гэтых шасьці кропак павінен стаяць агляд драматычных твораў. Але няма аб чым гаварыць. Толькі хіба можна адзначыць, што Кароль Чапэк напісаў п'есу „Адам творца“, мабыць, з тэй мэтаю, каб пацьвердзіць усім абываталям, што ў сучасны момант зусім не патрэбны якія-б там ні было протэсты і абурэньні, паколькі ўсё-ж жывём у найлепшым за ўсе іншыя сьвеце.

П'еса Ванчуры „Настаўнік і вучань“ не тэатральны твор, а тэма.

Нават вельмі добрая пастаноўка ня здолела давесьці, што гэта ня так. Дый сама проблема параўнаньня абмяшчаненага старога юнацтва са старасьцю, якая мяшчанству не паддалася і таму зьяўляецца юнацкай, ня так цікава і ня так нова пастаўлена, каб апраўдаць надмерны лірызм і недахват дынамічнасьці.

V

І ў лірыцы ўсюды адчуваюцца сьляды стабілізацыі і на выніку яе мацней за ўсё рэагуе, зразумела, самы малады і жыцьцёвы адростак лірычнай поэзіі, так званы поэтызм.

Поэтызм—гэта дыялектычная рэакцыя на „ідэолёгічную“ (перш на нацыянальную, потым соцыяльную) поэзію. Гэтая група, якая выступіла з пропаведзьдзю „мастацтва жыцьця і асалоды“ і якая імкнулася абярнуць поэзію ў прадмет асалоды („продукт духоўнай акробатыкі“, „новая форма вобразнай творчасьці“) цяпер, так сказаць, пазнае на ўласнай скуры, што ў консолідаваным буржуазным грамадзтве нават рэволюцыйнасьць у пытаньнях мастацкіх форм няпэўная і нядобранадзейная.

Памылка концэпцыі поэтызму ў тым,—гаворыць Д. Ваплавэк, адзін з лепшых маладых крытыкаў,—што час для гэтай поэзіі, як прадмету асалоды, яшчэ ня прышоў. Такой напэўна будзе поэзія ў соцыялістычным грамадзтве, поэзія новага чалавецтва, аб якім К. Лібкнэхт у сваіх артыкулах аб культуры будучыны казаў, што яно будзе „сур‘ёзна працаваць і мець вясёлую асалоду“.

І далей: „Быў крызіс поэтызму і ў той-жа час крызісу ня было. Ня было крызісу поэтызму, як чыстага мастацтва, але быў крызіс поэтызму, як оптымістычнага стылю жыцьця. Бо вельмі круты быў паварот эпохі, калі прышла часовая стабілізацыя, і гэта не магло не адбіцца калі не програмна, дык, прынамсі, на творчасьці поэтыстых. Яны рэагавалі на рэакцыю сваёй эпохі смуткам, які прасякнуў іх творы, тады як поэты старога тыпу адкрыта вярнуліся да романтычнай суб‘ектыўнай поэзіі.

Але пасьля гэтай першай, у большасьці, сапраўды не ўсьвядомленай рэакцыі надышла другая—сьвядомая і ўжо дыфэрынцаваная.

Сусьветная туга мела яшчэ няпэўна агульны характар: В. Незвал напісаў цэлую кнігу „надмагільных надпісаў“, В. Завада назваў сваю першую многаабяцаўшую кнігу „Паніхіда“, Ф. Галас—другі таленавіты дэбютант (два вершы з яго кнігі „Сепія“, „Невядомы салдат“ і „Мазурскія балоты“, лепш за ўсё, што было за апошні час зроблена ў лірыцы) абхоплены хмураю тугою, якая „як перыскоп тырчыць над зямлёю“, а Яраслаў Сэйфэрт канчае свой апошні збор вершаў радкамі:

„Для тугі сьвету,
Мой мілы поэт,
Дрэнна пяюць салаўі“.

Туга была агульнай, але тое, што пасьля надышло, ужо дыфэрынцавана: Незвал—гэты дзіўны акробат слова, невычарпальны вынаходца новых вобразаў і форм, робіць спробу заместа поэтызму, які памірае, даць нешта новае: сынтэз чыстай лірыкі поэтызму і больш старой традыцыі і абхрышчвае гэтае злучэньне „Сюрымпрэсыонізмам“. Сэйфэрт зрабіў вандроўку наўкол сьвету: зрабіў некалькі вылазак ў экзотыку, аддаўшы даніну парыскаму захаду,—ён ізноў вярнуўся да таго, адкуль вышаў у сваёй першай кнізе „Горад у сьлязах“, да рэволюцыі ў Маскве, да прыгнечаных і няшчасных. Вельмі добра ахарактарызаваў гэты процэс І. Фучык, тэмпэрамэнтны рэдактар лепшай левай літаратурна-крытычнай часопісі ў Чэхаславакіі „Кмен“. У сваім пасьляслоўі да кнігі Сэйфэрта „Дрэнна пяе салавей“ Фучык піша: „Горад у сьлёзах створаны з веры, слоў і парываньняў. Дрэнна пяе салавей таму, што ён зразумеў. Перш цягнула і несла яго хваля рэволюцыі. Ад гэтага часу ім кіруе пазнаньне. Перш салодкая дзіцячая самаўпэўненасьць. У апошніх вершах трывалая мужная стрыманасьць. Такая розьніца паміж марай і пераконаньнем...“

Прыходзіцца абмежавацца ўстанаўленьнем асноўных ліній разьвіцьця і таму шмат што з галіны новай лірыкі прышлося пакінуць у баку. Але адзначу дасканалую кніжку І. Горы „Струны на ветры“. У формальных адносінах яна напісана пад моцным уплывам тэндэнцыі поэтызму, і гэта асабліва варта ўвагі ў творчасьці аўтара, які належыць да іншага старэйшага пакаленьня.

Аднак Гора зрабіў сваясаблівы падзел паміж „ідэолёгічнай“ і „чыстай“ поэзіяй, выдаўшы адначасна са „Струнамі на ветры“ томік сатырычных тэндэнцыйных вершаў „З палітычнай бажніцы“.

# КНІГАПІС

**Янка Купала ў літаратурнай крытыцы.** Пад рэдакцыяй З. Жылуновіча і М. Байкова. *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск. 1928. Цана 2 руб.*

Заглаўі артыкулаў, зьмешчаных у гэтай кнізе, і самае іх разьмяшчэньне абяцаюць чытачу нешта стройнае і закончанае. У пачатку даецца вельмі важны для вывучэньня творчасьці нашага славутага поэты крытычна-біографічны нарыс З. Жылуновіча. Далей—артыкул М. Байкова, прысьвечаны некалькім паралелям паміж Я. Купалай і Шэўчэнка. Потым—артыкул Ул. Дзяржынскага „Янка Купала ў крытыцы нашаніўскіх сучасьнікаў". За ім—тры артыкулы, прысьвечаныя тром відам творчасьці—лірыцы, эпосу і драме: проф. М. Піотуховіча „Асноўныя этапы ў разьвіцьці лірыкі Янкі Купалы", профэсара Ів. Замоціна „Драматычныя творы Я. Купалы" і проф. А. Вазьнясенскага „Поэмы Я. Купалы (сюжэтная пабудова і стыль)". Кніга заканчваецца артыкуламі Ю. Дрэйзіна „Музыка ў творах Я. Купалы" і Л. Цьвяткова „Я. Купала, як перакладчык".

Усе артыкулы кнігі робяць добрае ўражаньне. І ўсё-ж такі кніга не зьяўляецца нечымсь стройным і закончаным, як гэта абяцае больш-менш старонка, на якой надрукован зьмест кнігі. Артыкул Ул. Дзяржынскага дае вельмі важны матэрыял для гісторыка-матэрыялістага вывучэньня літаратуры нашаніўскае эпохі, але недахопам кнігі зьяўляецца адсутнасьць артыкулу, прысьвечанага крытыцы пасьлякастрычнікавага пэрыоду. Артыкул проф. М. Піотуховіча трапна і яскрава адзначае этапы разьвіцьця лірыкі Я. Купалы па зборнікам вершаў, але мы не знаходзім ні ў адным артыкуле характарыстыкі лірычнага стылю Я. Купалы і яго версыфікацыі. Што датычыцца артыкулу проф. Ів. Замоціна, то яго трэба асабліва рэкомэндаваць нашым маладым драматургам.

Тое, што многія важныя ў творчасьці нашага поэты пытаньні засталіся неразгледжанымі, тлумачыцца тым, што большасьць артыкулаў кнігі напісаны не для гэтага зборніку, а ў ім толькі перадрукованы.

Кніга зьяўляецца, ня гледзячы на адзначанае, вельмі каштоўным падарункам для ўсіх, хто любіць нашую літаратуру, асабліва для настаўнікаў. Нельга аднак-жа ня выказаць двух жаданьняў:

1) каб пры далейшым выданьні гэткіх зборнікаў рэдактары прасілі-бы аўтараў пераапрацоўваць свае артыкулы, дапасоўваючы іх да мэт гэткіх выданьняў;

2) каб рэдакцыя знаходзіла месца для надрукаваньня таго вельмі каштоўнага бібліографічнага матэрыялу, які собран і прыведзен у парадак беларускім аддзяленьнем нашае Дзяржаўнае Бібліотэкі і якім пакуль што карыстаюцца толькі нямногія менскія навуковыя працаўнікі.

**А. Барычэўскі.**

**С. М. Некрашэвіч і М. Я. Байкоў**— члены слоўнікавай камісіі Інстытуту Беларускае Культуры. **Расійска-беларускі слоўнік. Русско-белорусский словарь.** *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск.—1928, стар. VIII+728.* in quarto.

Слоўнікарская работа на Беларусі вядзецца ў двох кірунках: а) зьбіраецца лексычны матэрыял, прычым выдаюцца краёвыя слоўнікі і б) выдаюцца практычныя лексыконы. Апошні слоўнік Некрашэвіча і Байкова зьяўляецца найбольш поўнаю сярод падобных практычных дапамог. Значна ніжэй стаяць у гэтым сэнсе ня толькі слоўнік Байкова і Гарэцкага, але і Расійска-Крыўскі слоўнік В. Ластоўскага.

У Некрашэвіча і Байкова такіх важных пропускаў, як слова „весы“-„вáгі“, мы знойдзем ня шмат. Часам сустракаюцца непатрэбныя словы— архаізмы і провінцыялізмы, мала ўжываныя самімі расійцамі. Відавочна, аўтары імкнуліся ахапіць поўнасьцю ўсё багацьце расійскае мовы.

У слоўніку праведзена áканьне (у адносінах да *о* бязнаціскнага). Бязнаціскнае *э* застаецца звычайна ў неславянскіх, а з мэтаю лёгічнае дыфэрэнцыяцыі—нават і ў некаторых славянскіх словах: упэўняць, запэўняць, і да г. п. Наўрад ці пажадана ўводзіць гэты прынцып у наш правапіс. Гэта якраз даўнейшае расійскае *мір* ды *мир*. Трэба, каб самы кантэкст не даваў поваду для непаразуменьняў— і больш нічога.

Больш востра мы павінны выказацца супроць такіх форм, як упрашваць (побач з упрошваць). Расійская і польская мовы маюць гэтую зьяву просить, выпрашивать, упрашивать, prosić, przepraszać. У нас гэта бывае пад расійска-польскім уплывам, але гэта неўласьціва нашай мове. Трэба пісаць *гімн, гіена*, а ня *гымн, г‘ена*.

У слоўнік увайшлі і амаль усе новыя словы з савецкае сучаснасьці, за выключэньнем хіба самых апошніх навінак, як „вылучэнец“ і да г. п. Апошнімі часамі, як рэакцыя супраць непатрэбных і нязграбных нэолёгізмаў (гіпотэнуза—проціпростакутная і да г. п.), зьявілася імкненьне да міжнароднае тэрмінолёгіі. Усё добра ў меру. Гэтае здаровае імкненьне дайшло ўжо цяпер да сваіх нормальных памераў і пагражае пераксьці іх і зрабіцца небясьпечным, зьнішчаючы нават і трапныя, удалыя пераклады. Таму мы шчыра вітаем вышгарад (акрополь), прысады (алея).

Чаму-ж, аднак, стаіць „кальцы“, а ня „вáпень“?

Але ня трэба даваць зусім няправільных перакладаў, як, напрыклад: „гермафродит“—„мяшанец“ (мяшанец=метис, гибрид, а гермафродит= =двохродавец).

Часам славянскае слова перакладаецца неславянскім і незаўсёды ўдала,—напрыклад, „иноверие“—„чужая вера, схізма“. Схізма ёсьць „раскол“ у межах хрысьціянства. На яўрэя, татарына—ніхто ня скажа „схізматык“. Пры зáмок ёсьць пераклады зáмак і палáц. Палац ёсьць „двореЦ“,—ён можа ня мець умацаваньняў, фортыфікацыяў, што зьвязана з паняцьцем аб замку.

„Земляніка“ перакладаць трэба ня „суніца“, „пазёмка“, а „суніцы“, „пазёмкі“=суніца ж і пазёмка=расійскаму *земляничина*, г. зн. адна, паасобная ягадка. Паміж перакладамі слова желудок—мы не знаходзім такога важнага, як страўнік. Деревня перакладзена ня толькі „вёска“, але і „сяло“. Сяло тут не падыходзіць, але „дзярэўня“ ня выклікала-б, здаецца непаразуменьняў, стоячы, зразумела, на другім месцы. Гэтае слова сустракаецца ў Фр. Багушэвіча і таму не зьяўляецца ўсходня-беларускім провінцыялізмам, або расіізмам.

Але, бясспрэчна, і „вёска“ ніякім чынам ня зьвязана з польскім уплывам. Якраз, наадварот: „*ё*“ у слове „вёска“—з агульнаславянскага „*ѣ*“, што даўшы перш за ўсё *е*, потым у

беларусаў і расійцаў часам пераходзіла і ў гук *ё*, а ў палякаў заўсёды таксама давала перш *е* памякчальнае, якое, аднак, у такіх выпадках і заставалася нязьменным. Таму польскае w i o s k a сваім *io* бясспрэчна даводзіць, што гэтае слова было запазычана ў беларусаў.

„Заправский“, зразумела, ня толькі „вядомы“, ды „запраўдны“, але і „належна кваліфікаваны“. „Напичкивать“ найчасьцей=карміць занадта сытна, ззыш усякае меры, а гэтае значэньне якраз і прапушчана.

Слова опричник перакладзена шляхам простае транскрыпцыі апрычнік; гэта і добра, бо слова апрычнік і для нас ня чужое. ( У Насовіча—апрычнік=асаблівы фаворыт, улюбенец). Пантэізм—ня тое, што многабожжа. Гэта „усябожжа“—саўсім асобая філёзофская і тэалёгічная сыстэма.

„Пах“—ня „похва“, а „пахвіна“. Позвонок ня толькі „вужлак“, але і „хрыбетка“.

Пры „поэце“ дармо не паставілі ўжо прывычнага для ўсіх „песьняра“. Слова правёж—перакладзена „кіраваньня“, а больш частага значэньня — прымусовае з біцьцём спагananяньне доўгу—чамусьці не паказана.

Прэзыдыя замест прэзыдыум (praesidium) зусім ня дрэнна. Гэта тое самае, што расійскія літаратурныя гимназия, семинария і польскія простанародныя gimnazýja, seminarýja (пры лацінскіх gymnasium, seminarium).

Причт—гэта царкоўнікі наагул, а ня толькі духавенста. Пробст гэта якраз „пробашч“ — апошняе слова ёсьць у слоўніку, але пад расійскім—„протоиерей“. Ставячы „пробст“ і „пробошч“ у сувязь з грэцкім protopresbyteros,—ня прыходзіцца спрачацца і з яго сэнсаваю блізкасьцю да „протоиерея“,

„Сярод некалькіх перакладаў слова, „русская“ (женщина) ёсьць „расійка“, а ў мужчынскім родзе—слова „расіец“ няма.

Рюмка ня „келіх“, бо „келіх“==„бокал“ і „церковная чаша“.

Пры слове „рясофорный“ няма „габітнік“, якое паказана ў Насовіча і падмацована прыкладам. „Самоучитель“ найлепш было-б перадаць словам „саманавучальнік“, а не „самавучыцель“.

„Скальп“—гэта ня сьцяты „чэрап“, а садраныя валасы са скураю. „Старое пакаленьне, што захаплялася калісьці Майн-Рыдам і Купэрам, яшчэ і дагэтуль дакладна ўяўляе сабе гэтую жудасную рэч.

„Скорняк“—кушнер, а рымар=расійскаму шорнік.

Санкюлот — перакладзена санкюлёт, бясштаньнік і галаштаньнік. „Бясштаньнік“ у форме „безштоник“ ёсьць і ў Насовіча і *дасло́ўна* перадае ня толькі сэнс, але і самае вытварэньне французкага sans-culotte.

Пры слове „троглодит“ няма трапнага перакладу „пячорнік“ (н. т. 11).

Чаму центавр даў у беларусаў слова „цэнтаўра“ ў жаночым родзе, я зразумець не магу.

Добра зроблена, што пры слове „чемодан“ ёсьць ня толькі „клунак“, але і „валіза“, бо „клунак“ слова з даволі шырокім значэньнем. Пры „эмалёвы“ лепш было паставіць і „паліўны“. Честовать— частаваць—супалі выпадкова і калі будзем пакладацца на польскае częstować.

„Ясмин“ замест „жасмин“ расійцы цяпер ужо зусім ня ўжываюць у звычайнай гутарцы.

Знайсьці на 700 страніцах слоўніка гэткую і нават значна большую колькасьць уваг, зразумела, ня вельмі цяжка. Але гаворачы sine ira et studio—слоўнік, як практычная дапамога, бясспрэчна, добры. Яшчэ лепшым быў бы ён, калі-б рады назоўнікаў іменных ставіліся заўсёды, а ня толькі ў няпэўных выпадках.

Яшчэ лепш сыстэма, прынятая ў некаторых нямецкіх слоўніках. У прадмове сказана некалькі слоў аб тыпах скланеньня, і яны ўмоўна

абазначаны лічбамі, якія потым і ўжываюцца ў тэксьце слоўніка.

Слоўнік Некрашэвіча і Байкова—першая сапраўды ўжо значная спроба практычнага слоўніка—не беззаганная, але ў нашых умовах вельмі карысная. Цана 4 р. 50 к. у аправе—не занадта вялікая. Можна пажадаць, каб гэтая цікавая кніжка пашыралася сярод сьвядомага нашага грамадзтва.

**Л. Цьвяткоў.**

Centralna Komisja CKW BSSR ku odznaczeniu 10-ej rocznicy rewolucji pazdziernikowej. Komisja Historyczna KC KP[b]B **Stefan Heltman** robotnik polski w rewolucji pazdzernikowej na Białorusi: Minsk.—1927. 136 st.

Удзел польскіх працоўных мас у рэволюцыі 1917 г., а таксама ў далейшым змаганьні з контр-рэволюцыяй аж да гэтага часу не знайшоў сыстэматычнага асьвятленьня. Ня было нават выданьня больш-менш поўнага збору датычных да гэтага матэрыялаў і дакумантаў. Раскіданыя па розных часопісах і зборніках дробныя артыкулы і ўспаміны не даюць магчымасьці колькі-небудзь поўна ўявіць удзел польскага пролетарыяту ў рэволюцыйнай барацьбе і савецкім будаўніцтве; ды прытым для большасьці яны недаступны.

„Аднак, кожнаму, хто браў больш-менш чынны ўдзел у выпадках памятнага 1917 году і ў пазьнейшых баёх ды змаганьні, ані няма сумненьня, што ўдзел польскіх працоўных мас у рэволюцыі быў значным, што польскі пролетарыят упісаў прыгонную старонку ў гісторыю Вялікай Пролетарскай Рэволюцыі“.

Гэтак піша ў сваёй прадмове да кнігі-брошуры „Robotnik polski w rewolucji pazdzernikowej na Białorusi“ аўтар яе, вядомы політычны дзеяч С. Гэльтман.

Паводле яго думкі, найлепшы спосаб для таго, каб абмаляваць удзел польскага работніка ў вялікім рэволюцыйным змаганьні, гэта—спосаб монографічнага дасьледваньня. Даць такую монографію, узгрунтаваную на фактычных даных, і спрабуе аўтар у сваёй працы.

Для выкананьня гэтай задачы мае вельмі важнае значэньне непасрэдны ўдзел аўтара брошуры, былога камісара па справах польскіх Заходняе акругі і фронту, у рэволюцыйным змаганьні польскага пролетарыяту. Шмат што з эпізодаў гэтага змаганьня прышлося аднаўляць па памяці. Толькі ад 3 лістапада ст. стылю 1917 г. пачаў выходзіць у Менску штодзенны часопіс соцыялістычнай партыі „Prawda“, а ад 25 нумару „Polska Prawda“, які існаваў аж да нямецкай окупацыі ў лютым 1918 году. Комплект гэтага выданьня, які знаходзіцца ў Польскім Комуністычным Архіве ў Маскве, дае некаторую колькасьць пэўнага, але ня вычэрпнага матар'ялу. Разьдзел другі брошуры: „Zarys wypadków w 1917 roku“ напісаны пераважна на падставе брошуры В. Кнорына „1917 год в Белоруссии и на Западном фронте“ (Мінск, 1925).

Праца С. Гэльтмана складаецца з наступных разьдзелаў:

Пасьля некалькіх „wstępnych uwag“ даецца: „Zarys wypadków w 1917 roku“ далей; кароткі агляд першых кракаў („Pierwsze kroki“) рэволюцыйнай дзейнасьці польскага пролетарыяту, успаміны аб выбарах у мястовую Менскую раду, старонка з дзейнасьці Польскага Камісарыяту і Польскіх Рэволюцыйных батальёнаў. З цікавасьцю чытаюцца даныя аб дзейнасьці генэрала Dowbór-Musnick'ага. Брошура канчаецца разьдз.: „Kontr-rewolucja czasowa zwycięża“ Далей, як дадаткі, ідуць „załączniki“, якія зьмяняюць у сабе тэксты тэлеграм, загады, адозвы да польскага насельніцтва Беларусі ды інш. дакуманты.

Вельмі дадатны бок працы С. Гэльтмана адпаведнасьць яе прынцыпам *строга-навуковай* апрацоўкі.

Ува ўсіх выпадках, дзе аўтар ня меў магчымасьці знайсьці пэўных крыніц і прымушаны быў грунтавацца на сваёй памяці, ён карыстаецца пытальным знакам, паказваючы гэтым, што ён ня можа адказваць засьцiслую дакладнасьць сваіх паказаньняў.

Гэтая рыса робіць вялікі гонар як аўтару, так і Гістарычнай Камісіі ЦК КП(б)Б.

Магчыма пажадаць, каб быў дасьледваны з такою самаю мэтодолёгічнаю дакладнасьцю і об'ектыўнасьцю і ўдзел польскага пролетарыяту ў рэволюцыйнай барацьбе, пачынаючы ад 1920 г., калі ва Ўсходняй Беларусі канчаткова ўстанавілася ўлада Саветаў.

**Mikoła Bajkow.**

**R. Z. Pisanki.** Warszawa. 1927. Стар. 31.

Гэтая невялічкая монографія прысьвечана вывучэньню народнага фарбаваньня яек перад вялікаднем, звычаю, які пачатак свой вядзе ад старадаўных да хрысьціянскіх веснавых сьвяткаваньняў. Кніга разглядае Польшчу і тую частку Беларусі, якая зараз уваходзіць у склад польскае дзяржавы. Для свэёй працы аўтарам выкарыстана багатая па гэтаму пытаньню польская этнографічная літаратура, бібліографія якой прыводзіцца.

Праца мае наступныя разьдзелы: 1) яйка ў народных забабонах польскіх і іншых народаў; 2) звычай афарбаваньня яек; 3) мэтоды афарбаваньня яек; 4) тэхніка афарбаваньня яек (прылады, фарба і г. д.) і 5) малюнкі на яйках.

Да тэксту даецца 72 здымкі рознных узораў фарбаваньня яек. На жаль, у гэтых здымках няма вызначэньня—якія з іх зьяўляюцца польскімі, а якія беларускімі, што бясспрэчна ў этнографічных адносінах зьяўляецца вельмі буйным недахопам у разгледжанай цікавай працы.

Паміж іншым цікавым зьяўляецца адзначэньне фарбаваньня яек на Беларусі ў XVIII ст. ў б. Слонімскім павеце.

Вывучэньню „пісанак" у беларускай этнографічнай літаратуры ня прысьвечана ні аднэй працы, паміж тым, як нашымі пісанкамі цікавіцца польская этнографічная літаратура, як гэта бачым я разгледжанага выданьня, і расійская—гл., напр., расійскую монографію аб пісанках Кулжынскага. Пісанкам прысьвечана шмат месца і ва украінскай этнографіі.

Усё гэта кажа за тое, што вывучэньні пісанак—мае значнасьць пры досьледах над народным мастацтвам, на што, бясспрэчна, трэба зьвярнуць увагу ў першую чаргу нашым краязнаўчым дасьледчыкам.

**Ал. Шлюбскі.**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

**Сярод пісьменьнікаў, поэтаў і літаратараў**

* *Міхайла Грамыка* канчае дзьве п'есы: „Віно бушуе“ ў 4-х дзеях, і „Дзядзька Дам'ян“ у 3-х дзеях.

* *Н. Бываеўскі* пераклаў на беларускую мову драматычны абразок латвійскага пісьменьніка Райнеса: „Гірт з воўчага логу“. І напісаў кіно сцэнары „З-пад ярма“.

Гэты-ж аўтар піша п'есу „Первуша Шэршань“.

* *Якуб Колас* рыхтуе да друку другі том збор твораў, у які увойдуць невялічкія тэмы.

* *Ул. Галубок* напісаў новую драму пад назвай „Рвачы“, у 5 актах, з сучаснага жыцьця.

* Заслужаны актор БССР *А. Міровіч* заканчвае п'есу, якая напісана ім спэцыяльна для першага Белдзяржтэатру на тэму аб разгортваньні будаўніцтва ў БССР. У падставу гэтай п'есы т. Міровіч узяў „Асінстрой“. П'еса пойдзе ў пачатку тэатральнага сэзону ў Менску.

* *Міцкевіч М.* канчае для Белдзяржтэатру новую п'есу „Жалезны Воўк“ у 4-х дзеях.

* *Ляжневіч А.* падрыхтаваў для друку пераклад: „Каралеўскі цырульнік“. „Улада цемры“—Талстога. „На вясельлі“—Чэхова. „Фіэскова змова ў Гэнуі“—Шылера.

* *Гарбацэвіч В.* у скорым часе закончыць новую п'есу „Полька какетка“ ў 3-х дзеях.

* Беларускае аб'яднаньне пісьменьнікаў „Маладняк“ зрабіла ў чэрвені месяцы падарожжа - экскурсію па Украіне.

У падарожжы прымалі ўдзел т. т. В. Коваль, А. Салагуб, Іл. Барашка, А. Звонак, А. Моркаўка, М. Нікановіч, Я. Мазуркевіч, М. Лынькоў і В. Маракоў.

У часе падарожжа быў наладжаны шэраг сумесных вечароў маладой украінскай і беларускай літаратуры.

**Тэатр, мастацтва, музыка**

* Другі Беларускі Дзярж. Тэатр у сучасны момант вядзе перагаворы з аўтарам вядомай п'есы „Рэйкі Гудуць“, пісьменьнікам Кіршонам, аб пастаноўцы яго п'есы ў БДТ-2.

Тэатр мяркуе паставіць гэтую п'есу к пачатку новага сэзону.

* Беларускі Дзяржаўны Музэй заказаў беларускім мастакам карціны з жыцьця працоўных БССР на тэмы: Індустрыялізацыя краіны, сялянская праца, грамадзянская вайна, новае яўрэйскае сялянства і інш.

Карціны заказаны мастакам: Воўкаву і Эндэ (Віцебск), Грубэ, Бразэру, Кастэлянскаму, Кругеру, Кудрэвічу і Станюце (Менск), Галубкінай (Гомель) і Філіповічу (Масква).

Для выканаьня гэтых тэм мастакі накіроўваюцца ў вёскі і мястэчкі БССР.

Карціны павінны быць прадстаўлены ў кастрычніку гэтага году.

* Вандроўны беларускі тэатр „Полымя“ быў організаваны ў кастрычніку 1927 г. ЦП саюзу працаўнікоў зямлі і лесу дзеля абслугоўваньня батракоў і сяброў саюзу на вёсцы, а разам з тым і сялянства. Колектыў артыстых тэатру, праўда, невялікі—ён зараз налічвае ўжо 11 асоб, але затое гэты колектыў моцна спаяны адзінай ідэяй прасоўваньня беларускага мастацтва ў самыя глухія

куточкі БССР. У складзе колектыву ёсьць 2 профэсыяналы, а рэшта—аматары; ёсьць сярод іх адзін цымбалісты і адзін скрыпач.

Умовы працы тэатру вельмі цяжкія: папершае—увесь час у разьездах, а падругое — вечны недахоп сродкаў, бо спэктаклі ставяцца пераважна бясплатныя. У рэпэртуары тэатру налічваецца 10 п'ес, сярод якіх: „Чортава кузьня", „Госьць з катаргі", „Наймітка" і інш.

З часу організацыі да 1 чэрвеня г. г. тэатр ужо зрабіў вялікае падарожжа па Менскай і часткова па Бабруйскай акругах (праехалі каля 1000 кілёмэтраў). Тэатр за гэты час пасьпеў наведаць 59 саўхозаў, 17 мястэчак, 10 вёсак і 2 гарады. У гэтых пунктах пастаўлена 158 спэктакляў, якімі абслужана 20141 ч., з іх 1200 батракоў, 9760 членаў саюзу працаўнікоў зямлі і лесу, а рэшта, галоўным чынам,—сялянства.

Пасьля спэктаклю кожны раз наладжвалася канцэртнае аддзяленьне, у програму якога ўваходзілі: беларуская нацыянальная музыка, дэклямацыя, сьпевы і скокі.

Ня толькі ў вёсцы і саўхозах, але і ў мястэчках тэатр „Полымя" карыстаўся надзвычайным посьпехам.

Тэатр не абмяжоўваўся толькі пастаноўкамі спэктакляў і канцэртаў: адначасова ён вёў вялікую працу сярод мясцовых драмгурткоў, сябры якіх заўсёды прысутнічалі пры падрыхтоўцы да спэктаклю і вучыліся працаваць. Тэатр па ўсім сваім падарожжы інструктаваў і даваў указаньні ў працы мясцовым драмгурткам.

У сучасны момант вандроўны тэатр „Полымя" саюзу сельгаслесрабочых абслугоўвае батрацтва і сельгаслесрабочых Гомельшчыны.

Да гэтага часу тэатр наведаў Менскую і частку Бабруйскай акругі.

Усюды тэатр карыстаўся вялікім посьпехам сярод батрацкай масы.

* Пасьля 17 пастановак у г. Полацку Дзяржаўны Беларускі Вандроўны Тэатр пад кіраўніцтвам Ул. Галубка аб'ехаў 14 месц Полаччыны. За 73 дні было дано 69 спэктакляў, якія пабачылі каля 45000 гледачоў. Цяпер тэатр, скончыўшы сваё падарожжа на Полаччыне, вярнуўся 10 ліпеня ў Менск, а пасьля адпачынку зробіць новае падарожжа ў Сьмілавічы і Чэрвень.

* БДТ-2 запрасіў на сталую працу ў якасьці мастацкага кіраўніка і галоўнага рэжысэра тэатру маскоўскага рэжысэра Сяргея Разанава.

* Першым БДТ, які ў чэрвені закончыў свой гастрольны сэзон па гарадох Віцебску, Магілеве, Воршы і г. д., было дано 168 спэктакляў. Найбольшым посьпехам карысталіся п'есы А. Міровіча: „Каваль Ваявода", „Кастусь Каліноўскі", „Кар'ера Брызгаліна", п'еса М. Грамыкі „Над Нёмнам" і новая пастаноўка сэзону „Мяцеж"—Фурманава-Паліванава.

Падрыхтоўчую працу да наступнага сэзону тэатр пачне з першага жніўня.

Да пачатку сэзону будуць падрыхтаваны дзьве п'есы: новая п'еса А. Міровіча, якую ён будзе ставіць сам і „Броня-Цягнік" Усевалада Іванова. Апошні пераапрацоўвае сваю п'есу для беларускіх умоў.

У пляне будучага сэзону маюцца акрамя названых новыя пастаноўкі: комэдыя М. Грамыкі з жыцьця беларускіх студэнтаў, п'еса Дзяржавіна „Шлак", п'еса пісьменьніка Кузьмы Чорнага і музычная сатыра артыстага Ільлінскага. Піша п'есу таксама артысты Рабіновіч.

У мастацкім складзе мяркуецца зрабіць некаторае перагрупаваньне як драматычнага складу, так і балету.

На пастаноўку „Броня - Цягнік" мяркуецца запрасіць рэжысэра і мастакоў з Масквы. Зараз вядуцца перамовы з Пятроўскім, Смышляевым, Бэртальсам, мастаком Нікіціным і інш.

* Другі Беларускі Дзяржаўны Тэатр у апошніх лічбах чэрвеня скон-

чыў свой другі сэзон. За год ён даў 4 наступных новых пастаноўкі: „Вечар беларускае комэдыі“, „Каля тэрасы“—М. Грамыкі, „Разлом“—Лаўрэнева і „Калі сьпяваюць пеўні“—Ю. Юр'іна. Апошнія тры пастаноўкі ўжо былі сугучнымі эпосе і працоўным гледачом прымаліся надта добра.

За год тэатр даў 92 паказы, з іх 78 паказаў у будынку тэатру, рэшту—у рабочых клюбах, дзе пераважна ставіліся мініатуры („Гавань“, „Цырульнік з Бэрыягу“, „Чорт і Баба“, „Пінская Шляхта“ і інш.).

У тэатры за сэзон былі паказаны: „Апраметная“—3 разы, „Астап“—6 раз, „Сон у летнюю ноч“—11 раз, „У мінулы час“—8 раз, „Цар Максімільян“—14 раз, „Каля тэрасы“—14 раз, „Бакханкі“—5 раз, „Разлом“—13 раз, „Вечар Бел. Кам.“—3 разы, „Вечар мініатур“—2 разы і „Калі сьпяваюць пеўні“ — 2 разы перад самым зачыненьнем сэзону.

* Белдзяржкіно распачало здымкі новых кіно-фільмаў: „Песьня вясны“, па апав. Якуба Коласа „На прасторах жыцьця“, „Атаман Муха“ па сцэнарыю Анатоля Вольнага.

* Гэтымі днямі пачынае працу над статуяй (з гліны) у натуральны рост Францішка Скарыны студэнт Ленінградзкай Акадэміі мастацтва тав. Азгур.

Статуя робіцца па заказу Беларускага Дзяржаўнага Музэю.

### Хроніка беларускага друку

* Беларускае т-ва культурнае сувязі з замежамі выдала першую кнігу на нямецкой мове пад назвай. „Weissruthenische Kultür“ (беларуская культура). Кніга прадстаўляе сабой зборнік артыкулаў аб беларускім культурным будаўніцтве за 10 гадоў, агляд гісторыі беларускай літаратуры, мастацтва, тэатру і г. д. Гэта кніга вышла з друку ў ліку 1000 экзэмпляраў і будзе распаўсюджана паміж усімі культурнымі ўстановамі Нямеччыны, Аўстрыі і скандынаўскіх краін.

* Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва здала ў друк нарысы Л. Клейнборта аб беларускай літаратуры на рускай мове пад назвай „Молодая Белорусь“.

* Перавыдаецца Белдзяржвыдавецтвам другім выданьнем зборнік вершаў А. Александровіча „Па беларускім друку“.

Зборнік значна зьменен і папоўнены новымі вершамі.

* Перавыдаюцца Бел. Дзярж. Выдавецтвам другім выданьнем творы Цішкі Гартнага: „Прысады“, „На перагібе“ і трэцім выданьнем“ „Трэскі на хвалях“ і Якуба Коласа—„У Палескай Глушы“.

* Зданы для друку Б. Д. В. проф. М. Піотуховічам „Нарысы па гісторыі новай беларускай літаратуры“, частка другая, разьмерам 10 аракушоў.

* Колегія НК Асьветы разглядзела выдавецкі плян Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва на 1928-29 г. Колегіяй вызначана 2115 аркушоў да выданьня на 1928-29 г., з іх: на беларускай мове —1615, яўрэйскай—260, польскай — 100, латыскай—20, літоўскай — 40 і расійскай — 80. З вызначаных на беларускай мове аркушоў большасьць разьмеркавана на падручнікі, мастацкую літаратуру, масавую популярную літаратуру, ленінскія творы і г. д. Колегіяй таксама зацьверджаны сьпіс падручнікаў на беларускай мове. Колегія прынцыпова прызнала патрэбным концэнтраваць выданьні на яўрэйскай, польскай, літоўскай і латыскай мовах ва ўсесаюзным маштабе. Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву даручана ўзгадніць плян выданьня яўрэйскай, польскай і латыскай літаратуры з іншымі выдавецтвамі і дагаварыцца аб тым, каб падручнікі БДВ на мовах нацыянальных меншасьцяй распаўсюджваліся ў іншых рэспубліках.

* Белдзяржвыдавецтва друкуе „Выбраныя вершы“ беларускага пісьменьніка Багушэвіча.

* П. Панкевіч напісаў і здаў для друку Барускаму Дзяржаўнаму Вы-

давецтву „Гісторыю Пэдагогікі“ на беларускай мове.

* Бел. Дз. Выдавецтва падпісала ўмову з Л. М. Кляйнбортам на напісаньне ім монографіі аб Янку Купалу. Монографія займацьме да 14 друкаваных аркушоў.

* Віленская выдавецтва Клецкіна выпусьціла на беларускай мове вядомы твор амэрыканскага пісьменьніка Марка Твэна „Прынц і жабрак“ у перакладзе Макара Краўцэва. Тымжа выдавецтвам выпушчаны „Байкі, гумар, сатыра“ Б. Друцкага Падбярэскага.

* Белдзяржвыдавецтвам перавыдаюцца другім выданьнем кніжкі пісьменьнікаў: М. Чарота „Веснаход“, апавяданьні, „Завіруха“—вершы; Янкі Купалы „Безназоўнае“—вершы; Т. Гушчы—„На рубяжы“ і „Крок за крокам“—апавяданьні; Крапівы „Байкі“, „Крапіва“; А. Александровіча „Угрунь“—вершы.

* У БДВ друкуецца асобным зборнікам шэсьць поэм М. Чарота.

**Хроніка беларускай навукі**

* Інбелкульт адпусьціў 10000 р. катэдры глебазнаўства для правяданьня дасьледчай экспэдыцыі ў Магілеўскую і Бабруйскую акругі. Гэтымі экспэдыцыямі будзе кіраваць профэсар Афанасьеў.

* Нядаўна пад старшынством т. Ігнатоўскага адбыўся організацыйны сход навуковых працоўнікоў-марксыстых.

На сходзе прысутнічалі 23 навуковых працаўнікі Бел. Дзяржаўнага Унівэрсытэту, Комвузу і інш. устаноў.

Організацыйны сход пастанавіў організаваць вобчаства марксыстых БССР з наступнымі сэкцыямі: філёзофскай, экономічнай, гістарычнай і літаратурнай.

На гэтым-жа сходзе абрана праўленьне вобчаства ў складзе 9 т. т.: Ігнатоўскага (старшыня), Панкевіча (нам. старшыні), Кнорына, Абрамчука, Сянькевіча, Гэльтмана, Вольфсона і Рыўліна.

А ў чэрвені адбылося пасяджэньне новаабранага праўленьня вобчаства, на якім былі разгледжаны пытаньні аб пэрсональным складзе сэкцыі і плянах іх работ, статуце вобчаства, часопісу вобчаства і аб адзначэньні гадавіны 2-га зьезду партыі, 10-цігодзьдзя абвяшчэньня незалежнасьці БССР, гадавіна Чарнышэўскага, Плеханава і Талстога.

Кіраўніком філёзофскай сэкцыі абран профэсар Вольфсон, гістарычнай—доцэнт БДУ Рыўлін, экономічнай—рэктар комвузу Гэльтман і літаратурнай сэкцыі—доцэнт БДУ Сянкевіч.

У працы сэкцыі пастаноўлена зварочваць асаблівую ўвагу на высьвятленьне нацыянальнай проблемы.

На гэтым-жа пасяджэньні пастаноўлена ўстанавіць сувязь з навуковымі сэкцыямі Інбелкульту і навуковымі вобчаствамі Унівэрсытэту. Таксама пастаноўлена завязаць сувязь з навуковымі ўстановамі СССР і ў прыватнасьці з Усесаюзнай Комуністычнай Акадэміяй. Сталую працу вобчаства разгорне ўвосені з новага акадэм. году.

* Гэтымі днямі вярнулася ў Менск этнографічная экспэдыцыя Інбелкульту і Беларускага Дзяржаўнага Музэю на чале з неадменным сакратаром ІБК т. Ластоўскім. Экспэдыцыя наведала шмат паселішчаў Случчыны і Мазыршчыны і сабрала шмат рэчаў матэрыяльнай культуры і народнага мастацтва. БДМ закупіў да 1000 розных мастацкіх тканін, рознай вопраткі, разьбы па дрэву і шмат інш. Апроч гэтага, экспэдыцыя знаёмілася на мясцох з рознымі прадметамі, якія маюць археолёгічнае і гістарычнае значэньне.

Мастак-фотограф т. Гальмачан зрабіў да 300 фотографічных здымкаў тыпаў, орнамэнтаў і інш.

Паміж рэчамі вопраткі экспэдыцыя здабыла вельмі цікавую мужчынскую кашулю асобага крою, накшталт грэцкага „Сакоса“, праславянскага тыпу, якую даўней апраналі муж-

чыны ў вялікія ўрачыстасьці або захоўвалі на сьмерць.

У наступную восень у памяшканьні БДМ будзе наладжана выстаўка ўсіх гэтых рэчаў.

* З першага кастрычніка 1928 г. пры Інбелкульте будзе організавана катэдра беларускага права. Гэтай катэдрай будзе кіраваць профэсар Грэдзінгер.

* Аддзел гуманітарных навук ІБК мае правесьці сёлета некалькі навуковых экспэдыцый. Па маршруту: Слуцак—Глуск— Азаровічы — Дамановічы (Мазырская акр.) накіроўваецца этнографічная экспэдыцыя. Археолёгічныя раскопкі будуць праводзіцца ў ваколіцах Менску, сярэдняга Сожу, Бэрдыжа (палеолітная стаянка). Па Дняпру каля Воршы і Рагачову будуць рабіцца досьледы старажытных стаянак, гарадзішчаў, селішчаў і курганаў. Такія-ж досьледы будуць праводзіцца па заходняй Дзьвіне каля Віцебску і Полацку і на Прыпяці.

У Бешанковічах, Віцебскай акругі, Паўтухах, Горацкага р. і ў Мазыршчыне спэцыяльная экспэдыцыя будзе праводзіць вывучэньне месц знаходжаньня касьцей мамонта.

Дзеля вывучэньня народнага мастацтва—народнай музыкі і народнага тэатру—накіроўваецца экспэдыцыя ў Полаччыну і Віцебшчыну ў складзе т. т. Грыневіча і М. М. Ігнатоўскага (Ленінград), з гэтай-жа мэтай у Бялінкавічы, Касьцюковічы, Хоцімскі Амсьціслаў накіроўваецца т. Шашалевіч, а ў Гомельшчыну—т. Ягораў.

Апроч таго, т. т. Шчакаціхін і Хазараў выяжджаюць у Полацк і ў некаторыя пункты Случчыны і Бабруйшчыны дзеля вывучэньня выяўленчага мастацтва, драўлянай архітэктуры і малярства.

* Пры Інбелкульце ўтворана камісія па падрыхтоўцы да першага ўсесаюзнага археолёгічнага зьезду. Гэты зьезд адбудзецца ў Маскве ў 1929 годзе.

## Рознае

* У Бэрліне адчынілася міжнародная гістарычная выстаўка. На выстаўцы асабліва багаты аддзелы савецкіх рэспублік: Беларусі, Украіны, Грузіі. На днях Наркамасьветы БССР адправіў у Бэрлін на гэтую выстаўку новыя матэрыялы па гісторыі Беларусі, што вышлі ў сьвет у часе рэволюцыі, а таксама розныя дыяграмы аб новых досьледах у БССР і г. д.

* Бел. Навуковае Т-ва ў Вільні прыступіла да падрыхтоўчай работы па пабудове „Дому Беларускае Культуры ў Вільні“. У гэтым доме будзе этнографічны музэй, музэй народнай прамысловасьці, цэнтральная беларуская бібліотэка і г. д.

* Інбелкульт узьняў пытаньне перад Саўнаркомам БССР аб прызначэньні пэрсональнай пэнсіі сапраўдным членам Інбелкульту і народным поэтам Беларусі Якубу Коласу і Янку Купалу.

* У канцы чэрвеня, у памяшканьні ЦК Чырвонага Крыжу адбыўся справаздачны сход Беларускага Таварыства Культурнай сувязі з замежамі. Разам з гэтым на сходзе быў заслуханы даклад Беларускай Дзяржаўнай бібліотэкі аб кнігаабмене БССР з замежамі. Сход прызнаў чыннасьць таварыства вельмі плённай і каштоўнай і абмеркаваў плян яе на будучы час.

* Польская армія, окупаваўшы частку Беларусі ў 1919 г., організавала зьбіраньне ўсялякіх старажытных рэчаў. Ініцыятыву ў гэтай справе ўзяло на сябе „Товажыство Крэсовэ“, якое організавала ва ўсіх гарадох гурткі з аматараў старасьвеччыны. Гэтыя гурткі далі магчымасьць выявіць найбольш цікавыя, рэдкія і каштоўныя рэчы і экспонаты.

Калі польская армія пачала адступаць, пачаўся масавы вываз з Беларусі цэлых музэяў. Так, быў вывезен цэлы музэй Ельскага з Менску, у якім было некалькі сот бязьмерна

каштоўных абразоў (карцін), музэй Эмануэля Булгака, з-пад Быхава, у якім зьмяшчалася да 16 тысяч высокакаштоўных экспонатаў, музэй Ельскага з Замосьця, колекцыя старажытнай краёвай зброі Чапскага з Прылукаў, розныя рэдкія рэчы Радзівілаў, Тышкевічаў і інш. З Менскага Краёвага Музэю было вывезена палякамі больш 1000 вельмі каштоўных экспонатаў, як розная мэбля, дываны, абразы, бронза, гравюры, мармуравыя і бронзавыя барэльефы і статуі, серабро, тканіна, акварэлі і інш.

Толькі ў адзін адрас станцыі Варшава прыбыло ў 1920 г. з Беларусі 2100 пакункаў (па офіцыйных справаздачах „Товажыство Крэсовэго") старажытняй бронзы, тканін, дываноў, парцэляну, гравюр і інш. Адных абразоў было адрасавана з Менску ў Варшаву 255 пакункаў. Апроч гэтага, пакункі з рэдкімі рэчамі накіроўваліся ў Кракаў, Пазнань і інш. польскія гарады.

* Дырэктар БДМ т. Ластоўскі набыў у Слуцку вельмі каштоўную гістарычную рэч—парцэляную парфумэрніцу, зробленую ў Сэўры (Францыя) па заказу жонкі Наполеона Жозэфіны.

Трэба меркаваць, што парфумэрніца завезена ў Слуцак у часе паходу Наполеона ў 1812 г.

* Навуковы супрацоўнік Беларускага Дзяржаўнага Музэю набыў у м. Глуску кавалак каменя, на якім вельмі выразна выбіты розныя малюнкі, накшталт эгіпэцкіх гіерогліфаў. Па думцы спэцыялістых, гэта ёсьць сапраўдныя эгіпэцкія гіерогліфы, завезеныя на Беларусь у пазьнейшыя часы.

Камень з гіерогліфамі быў знойдзен у падвале касьцёлу.

### Замежныя краіны аб Беларусі

* У баўгарскай літаратурнай тыднёвай газэце „Накавальня" надрукаваны два вялікія артыкулы пад назвай „Культура Савецкай Беларусі" і „Літаратура Савецкай Беларусі".

*„Міжнародная мэдычная часопісь", якая выдаецца ў Францыі, зьмясьціла на сваіх старонках артыкул „Ахова здароўя ў БССР".

* За апошні час, дзякуючы заснаванай сувязі паміж культурнымі працаўнікамі Украіны і Беларусі,—як вынік падарожжа да нас на Беларусь украінскіх пісьменьнікаў, украінская прэса аддае багата месца іхнім уражаньням, якія вынесены імі з гоняў „сінявокай сястры Украіны" нашай Савецкай Беларусі.

Орган ЦВК Украіны „Вісти" друкуе ў літаратурным дадатку „Культура і Побут" нарысы А. Паніва „*7 днів у Білорусі*", орган ЦК КПУ „Комуніст" выдрукаваў дарожныя нататкі з падарожжа пісьменьніка Арк. Любчэнкі „*Сіньока сестра України*", часопісь „Чырвоны Шлях" друкуе яго-ж успаміны з падарожжа, кіеўская газэта „Пролетарсьна Правда" друкуе нарыс Вал. Палешчука „*Майбутний Рур*", у часопісі „Молодняк" выдрукаваны нарыс Т. Масенкі „*Радзяньска Білорусь*", часопісь „Всесвіт" выдрукавала дарожныя нататкі А. Паніва „В гостях у білорусів", у часопісі „Робітничий журнал" выдрукаваны нарыс. П. Панча, газэта „Радзянське сіло" зьмясьціла нататкі поэты-маладнякоўца П. Усэнкі, багата матэрыялу выдрукавана аб сёнешняй Беларусі і ў іншых газэтах і часопісях, як „Комсомолець України".

* У цэлым шэрагу замежных газэт зьмешчаны артыкулы аб выданьні, на эспэранто Беларускай радыё газэты.

* У украінскай часопісі „Чырвоны Шлях" 5—6 нумары надрукаваны літаратурна-крытычны артыкул Л. Вороніча пра роман беларускага пісьменьніка М. Зарэцкага „Сьцежкі-дарожкі".

# ХРОНІКА УКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ.

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны пачынае друкаваць поўны збор твораў вядомага украінскага поэты Паўла Тычыны. У хуткім часе выйдзе з друку першы том.

* У Адэсе і Кіеве рэжысэр ВУФКУ М. Тэрэшчанка робіць здымкі комэдыі „Мітрошка—салдат рэволюцыі“. Фільм малюе быт сялянскай моладзі і прыгоды парабка ў часы грамадзянскай вайны.

* Пры Галоўнавуцы НКА УССР організована камісія па справе вывучэньня Кастрычнікавай Рэволюцыі на Украіне. У камісію ўвайшлі: ад Кіева—М. Грушэўскі і А. Крымскі, ад Адэсы—Гардзіеўскі і Слабчэнка, ад Днепрапятроўску—Д. Яворніцкі і інш.

* Рэжысэр Долына на Адэскай кінс-фабрыцы распачаў работу над новым мастацкім кінофільмам „Буря“, Сюжэт яе—гэроічна-рэволюцыйны, барацьба чырвоных з белымі. У карціне прымае ўдзел заслужаны артысты рэспублікі Замічкоўскі.

* Кнігасьпілка пачала выдаваць „літаратурную бібліотэку“, у якой будуць надрукаваны выбраныя творы выдатных украінскіх пісьменьнікаў. Усе выданьні кнігасьпілкі разьлічаны на 75 томаў. Да кожнага тому будзе давацца адпаведны артыкул, які характарызавацьме этапы і асаблівасьці творчасьці кожнага пісьменьніка.

* Украінскія пісьменьнікі Рыжук і Паўлюк прыступілі да перакладу з чэскае мовы вядомага романа Ташэка „Добры ваяк Швэйк“. Гэты роман зараз перакладзен амаль на ўсе эўропэйскія мовы.

* Рэжысэр О. Даўжэнка, які паставіў „Звенигору“, зараз працуе над новай кіно-карцінай „Арсенал“ з часоў грамадзянскай вайны.

* ДВУ рыхтуе да друку III, IV і XX томы поўнага збору твораў У. Леніна. У гэтым годзе выйдуць з друку I і II томы Леніна.

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны выдае вялікую хрэстоматыю заходніх літаратур пад рэдакцыяй проф. Біленкага ў 5 томах. У томе першым будзе зьмешчана антычная літаратура—грэцкая і рымская, у томе другім—літаратура сярэдніх вякоў, у томе трэцім — літаратура XVII і XVIII сталецьця, у томе чацьвертым—літаратура XIX стал. і ў томе пятым—літаратура канца XIX і XX сталецьця.

*Рэдакцыйная колегія:* **М. Жылуновіч, Я. Купала, А. Баліцкі, І. Васілевіч, М. Чарот.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

# ЗЬМЕСТ

Цана 1 руб. 50 кап.




## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 19

НА БЕЛАРУСКУЮ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ „ПОЛЫ

(СЁМЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ)

пад рэдакцыяй: З. Жылуновіча, М. Зарэцкага і Я. Ліманоўскага.

**У ЧАСОПІСІ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ САМЫЯ ВЫДАТНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ І НАВУКОВЫЯ СІЛЫ**

У 1928 ГОДЗЕ

У СКЛАД СУПРАЦОЎНІКАЎ „ПОЛЫМЯ“ ЎВАХОДЗЯЦЬ:

**Александровіч А., Байкоў М., Баліцкі А., Бандарына З.** (Сібір), **Білецкі А. проф.** (Харкаў), **Бываеўскі Н., Быхаўскі Б., Бузук П. проф., Бонч-Асмалоўскі А.** (Масква), **Барычэўскі Е., Барысёнак С.** (Кіеў), **Бехэр І.** (Бэрлін), **Васілеўскі Д., Вельны А., Вольфсон С. проф., Вейскопф Ф.** (Чэха-Славакія), **В. Ванчура** (Чэха-Славакія), **Гартны Ц. (Жылуновіч З.), Гарабурда К., Гарэцкі Г. Грамыка М., Гурло А., Грэдынгер М. проф., Герчыкаў І., Глыбоцкі Т., Гора Я.** (Чэха-Славакія), **Даркевіч П., Дзяржынскі Ў., Дружчыц В. проф., Дудар А., Жарынаў З. проф., Замоцін. І. проф., Зарэцкі М., Зімёнка А., Івашын Я., Ігнатоўскі Ўс. проф., Імшэньнік Ф., Карклін М., Каліноўскі Ў., Каган Л., Кіпель Я., Колас Я. (Тарас Гушча), Купала Янка, Кнорын В., Касьпяровіч М., Каваль Г., Кіш П.** (Бэрлін), **Лёсік Яз., Ліманоўскі Я., Лявонны Ю., Ластоўскі В., Ляск Б.** (Бэрлін), **Лэйцен Л.** (Латвія), **Марук Я., Моркаўка А., Мялешка М., Некрашэвіч С., Нёманскі Я. (Пятровіч), Нікановіч М., Окіншэвіч Л.** (Кіеў), **Пічэта Ў. проф., Пфляумбаум Е., Піотуховіч М. проф., Прышчэпаў З., Панкевіч П., Поль Г.** (Бэрлін), **Расін Л., Руткоўскі Е., Самусь М., Сянькевіч А., Трус П., Фучык Ю.** (Чэха-Славакія), **Харэвіч А., Хэрсонскі Х., Цьвіткоў Л., Цьвікевіч А., Цьвікевіч Ів., Чарот М., Шатэрнік М., Шыпіла Ів., Шлюбскі А., Шчакаціхін М. і інш.**

З ПЕРШАГА ЛІПНЯ г. г. ЧАСОПІСЬ „ПОЛЫМЯ“ БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ ШТОМЕСЯЧНА (12 КНІЖАК НА ГОД), РАЗЬМЕРАМ КОЖНЫ НУМАР 12—14 ДРУКАВАНЫХ АРКУШОЎ.

**ГАДАВЫЯ ПАДПІШЧЫКІ НА „ПОЛЫМЯ“ НА 1928 г., АТРЫМОЎВАЮЦЬ ПА ВЫБАРЫ БЯСПЛАТНА ЛІТАРАТУРНЫ ДАДАТАК: АДЗІН КОМПЛЕКТ „ПОЛЫМЯ“ АБО „МАЛАДНЯКА“ ЗА 1926 ГОД ЦІ 1927 ГОД, АБО ЗАМЕСТ КОМПЛЕКТАЎ „ПОЛЫМЯ“ ЦІ „МАЛАДНЯКА“ ПЯЦЬ КНІЖАК НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ:**

**Ем. Яраслаўскага**—Жыцьцё і праца Леніна. **Л. Каган**—Нацыянальна-вызваленчы рух на Ўсходзе. **Кержанцава**—З гісторыі РКП(б). Зборнік „Заходняя Беларусь“ і „Інтэрпэляцыі беларускіх паслоў у польскі сойм“.

**Поўгадавыя падпішчыкі атрымоўваюць у дадатак дзьве з памянёных вышэй кніжак.**

ПАДПІШЧЫКІ, ПРЫСЛАЎШЫЯ ПОЎНАСЬЦЮ ПЛАТУ, АТРЫМОЎВАЮЦЬ ДАДАТАК З ПЕРШЫМ ЗАПАТРАБАВАНЬНЕМ.

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**

| | |
|---|---|
| На год | 10 руб. — кап. |
| „ 6 месяцаў | 5 руб. — кап. |
| „ 3 месяцы | 2 руб. 50 кап. |

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у рэдакцыі часоп. „Полымя“ (Менск, Савецкая, 63), у цэнтральнай кнігарні Бел. Дзярж. Выдавецтва (Менск, вул. Ленінскай і Савецкай), ва ўсіх акруговых аддзяленьнях Бел. Дзярж. Выдавецтва, ва ўсіх паштовых аддзяленьнях і ў канторы падпіскі на газэты „Правда“ і „Известия“ (Менск, Савецкая, 61), у канторы газэты „Бел. Вёска“ (Менск, Савецкая, 63) і яе ўпаўнаважанымі і селькорамі ва ўсіх раёнах БССР.